## «ЗАСТАНЕЦЦА НА РОДНАЙ МОВЕ РАДОК…»

Аднойчы на пісьмовым стале аўтара гэтай кнігі ўбачыў я стосік лістоў ад старэйшага ягонага сябра, народнага паэта Пімена Панчанкі і папрасіў дазволу іх прачытаць, калі, канешне, няма там нічога надта асабістага. «Тут усё надта асабістае, — падаў мне лісты аўтар. — Але прачытай…»

Першай у стосіку ляжала навагодняя — з дзедам Марозам і Снягуркай — паштоўка. Звычайная віншавальная паштоўка, у якой адразу пасля слоў вітання Панчанка жартаўліва прызнаваўся: «Хацеў напісаць табе пісьмо вершам: «А нам, Генадзь, яшчэ згінаць…» А што згінаць — так і не дадумаўся. А таму проста жадаю добрага здароўя, шчасця і радасці».

Трэба было ведаць Пімена Емяльянавіча Панчанку (ці ведаць ягоныя вершы, што адно і тое ж), каб зразумець, наколькі гэты жартаўлівы допіс шчыры.

Вось і я на пачатку сваёй прадмовы хацеў нешта такое «загнуць», а што «загнуць» — так і не дадумаўся. Не «загінаецца» ані ў які бок паэт Генадзь Бураўкін: ён ёсць такі, які ёсць. Для некага занадта просты, нават часам просталінейны, а для мяне — шчыры. Гэткі самы, як Пімен Панчанка («Калі за лета не ўбачу жыта, душой хварэю…») ці Аляксей Пысін («Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта»), якія папярэднічалі яму ў найсветлай плыні беларускай паэзіі — паэзіі шчырасці. Як ім абодвум папярэднічаў Якуб Колас («Жыццё і смерць — усё мінае»), а Коласу — Францішак Багушэвіч («Каб сваю мне зямельку араць і ўмёрці на ёй хоць калі»).

У гэтай жа плыні і паэзія Генадзя Бураўкіна:

І багацця мне не трэба,
Без прысмакаў пацярплю —
Толькі б хлеба,
Толькі б неба
Ды бацькоўскую зямлю.

Янка Купала, які папярэднічаў Аркадзю Куляшову і Рыгору Барадуліну, — плынь зусім іншая. У нейкіх праявах сваіх яна, можа быць, і пераважае коласаўскую, але толькі не ў шчырасці. (Да слова, Максіму Багдановічу, у якім шчырай была ягоная маладосць, ніхто не папярэднічаў, як і ён не папярэднічаў нікому. Гэта як бы самой паэзіяй прыдуманая плынь. Зрэшты, ці прыдуманае, ці існае — яно адно і тое, калі яно ёсць.)

Сёння шчырасць — не найпершая адзнака паэзіі. Бо яна — не найпершая адзнака часу. Нават зусім не адзнака. Але гэта міне. «Жыццё і смерць — усё мінае».

Шчырасць — рэч наіўная. Менавіта такая, якой і павінна быць (калі не блытаць яе з філасофіяй ды іншымі гуманітарнымі навукамі) паэзія. «Паэзія павінна быць наіўнай» (А. Пушкін).

«Дарагі дружа Генадзь, — піша Пімен Панчанка. — З радасцю прачытаў вершы з кнігі «Узмах крыла». Усё тут лягло на сэрца, пачынаючы ад светлых радкоў: «Якое шчасце — жыць на белым свеце…» Гэта вельмі добра (менавіта цяпер), калі строй думак у большасці паэтаў разбэрсаны, тужлівы (што за жыццё? Далоў!..) Суцэльная неўладкаванасць, азлабленне, прымітыўная грызня)».

Каб убачыць паэзію ў радку «Якое шчасце — жыць на белым свеце…» — трэба доўга на белым свеце пажыць. І шмат чаго перажыць, і пра перажытае напісаць, і многае — калі не ўсё — зразумець.

Не хаваю дні ў прыполе,
Рассяваю поўнай жменяй.
Што ні дзень — жыцця ўсё болей,
Што ні дзень — жыцця ўсё меней.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Калі адчуў ты, як мінае час,
Як менее ў душы вясны запас,
Як многа значыць кожны дзень і міг —
Не думай, што цану жыцця спасціг.
Галоўны сэнс і мудрасці глыток
Яшчэ ў цябе наперадзе, браток.

З перажытага:

«Мы стаім на ўзгорку трыма радамі: першы рэдзенькі — мужчыны, дзяды; другі, заплаканы, няроўны — жанчыны з малымі на руках і трэці — мы, каму шэсць — дзесяць — дванаццаць гадоў. На нас нацэлены кулямёт, за ім — як сёння помню — ляжыць здаравенны немец у доўгім шынялі. Стаяць на ўзгорку і паліцаі — там, за кулямётам, па той бок. Мы чакаем, чакаем стрэлаў…

Пад вечар нас сагналі ў лазню на ўскрайку вёскі. Я тады не ведаў… што лазня абкладзена саломай і паліцаі пайшлі шукаць газы ці бензіну» (з аўтабіяграфіі Генадзя Бураўкіна «Першая старонка», 1964 год).

Вось адкуль паэма «Хатынскі снег». Яна ўратавалася, выбегшы з вогненнай лазні, а не выйшаўшы з кабінета ЦК КПБ, у якім (як зусім сур'ёзна, папікаючы Бураўкіна ягоным савецкім мінулым, даводзіў мне адзін з маладых нашых — і не самых горшых — паэтаў) даручылі Бураўкіну тую паэму напісаць.

Ад немага крыку абвалілася пуня.
Грымнулі вобзем дзверы.

І ўпала,
          як чырвоны куль,
Халоднага снегу шукала сляпая бабуля,
А знайшла толькі жменю гарачых куль.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Там,
       на залітай крывёю зямлі,
Маці — прыгаршчамі,
А сын — жменькаю попелу
Побач ляглі.

Мне не надта падабалася, як за савецкім часам з попелу спаленай вёскі ляпілі вобраз Беларусі, але што ж… Час ёсць час. Па вобразнасці, экспрэсіўнасці (а спаборнічалі паэты ў хатынскай тэме толькі ў вобразах і экспрэсіі, усё астатняе ва ўсіх было аднолькавым) гэта ці не найлепшае з усяго, што напісана пра Хатынь. Кан'юнктурна такое не напішаш. «Якая дакладнасць, жудасная дакладнасць малюнка, якая сялянскасць вобраза: пуня ўпала, як чырвоны куль. Куль звычайна асацыіруецца з паняццем хлеба, ураджаю, а тут чырвоны куль — вобраз знішчэння, смерці. Рыфма пуня-бабуля набліжае пуню да вобраза бабулі. І сляпая бабуля шукае халодны снег, як і тая ж полымем ахопленая пуня. І гарачыя кулі завяршаюць жуду, завяршаюць жыццё дзвюх сялянак, дзвюх спрадвечных працаўніц, дзвюх захавальніц дабра і дабрыні — пуні і бабулі. Усе вобразы ў паэме з сялянскага побыту, з побыту хлебадараў» (Барадулін Р. Цвёрдая цана слова // Парастак радка, галінка верша. Мінск, 1987).

Адкуль жа яшчэ могуць усплыць тыя вобразы, калі «паэтаў нараджаюць вёскі…»?

Зрэшты, у кабінетах ЦК КПБ (што азначае, калі нехта не ведае ці ўжо забыўся: Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі) Генадзю Бураўкіну таксама здаралася бываць.

З пражытага:

«А тым часам трэба было ажыццявіць яшчэ адну насамрэч грандыёзную задуму — стварыць незалежную ад ЦТ (цэнтральнага тэлебачання) самастойную беларускую праграму і выдаваць яе на тэрыторыі рэспублікі замест другой маскоўскай. Нашых запалоханых, зацюканых прававерных інтэрнацыяналістаў панічна, як чорта ладан, палохалі самі тэрміны «незалежная», «самастойная», ды яшчэ ў спалучэнні з «беларуская», а замахвацца на адну з праграмаў ЦТ падавалася нечуваным святатацтвам…

Над тэлепраграмай павіс вялікі пытальнік.

Навагоднія святы і яшчэ дні два-тры пасля іх прайшлі адносна спакойна… На чацвёрты-пяты дзень на ЦК абрынуўся літаральна вал пісьмовых пратэстаў, ад іх жа і аж распаляліся тэлефоны. І амаль

усе — на закрыццё перадачы «Спокойной ночи, малыши». Прасілі, патрабавалі вярнуць дзецям любімых Хрушу і Сцяпашу (пазней Генадзь Бураўкін напіша на музыку Васіля Раінчыка знакамітую «Калыханку», і на Хрушу са Сцяпашам дзеці разам з бацькамі забудуцца, як іх і не было. — *У. Н.*).

Мяне і Бураўкіна тэрмінова выклікаў АТК (Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін, сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі. — *У. Н.*).

АТК пачаў без усялякіх уступаў: напярэдадні з’езда кампартыі ўся рэспубліка пастаўленая на вушы, ведаеш, якія страсці-мардасці могуць разгарэцца? Таму трэба неадкладна адступіць, да сваёй праграмы рухацца паступова, паэтапна… І працягнуў яму (Бураўкіну) кароценькі, на чвэрць старонкі праект пастановы Бюро: з заўтрашняга дня вярнуцца да былога фармату вяшчання. На паперчыне ўжо было некалькі подпісаў, у тым ліку Паўлава (загадчыка аддзела прапаганды ЦК КПБ. — *У. Н.)* і ягоная, Кузьміна.

— Пазнаёмся, завізіруй і хуценька давай каманду неадкладна адкручваць усё назад…

Генадзь прачытаў уважліва і рашуча, зацята сказаў:

— Візіраваць гэтага я не буду… І даваць каманду паварочваць назад — таксама. Хай адмяняе праграму іншы старшыня.

…Што мяне не запрасілі на Бюро — зразумела, а вось чаму праігнаравалі, палічылі непатрэбнай Генадзеву прысутнасць — гэта ўжо пытанне… Я ад Конанава даведаўся, як усё адбывалася… Стала абмяркоўвацца нечая радыкальна-рэвалюцыйная прапанова: адхіліць Бураўкіна ад пасады за стварэнне ідэалагічнай правакацыі, заадно — выключыць з партыі. Але страсці-мардасці астудзіў Кісялёў (першы сакратар ЦК КПБ, які заняў гэтую пасаду пасля трагічнай гібелі Машэрава. — *У. Н.*), разважыўшы: вызваліць, тым больш выключыць з партыі Бураўкіна мы заўсёды паспеем. І нечакана звярнуўся да прысутных: хто з вас дзеля прынцыпу здольны паставіць на кон сваю пасаду, кар’еру, членства ў партыі, устаньце ці падыміце руку?..

Ніхто не варухнуўся» (Блакіт В. Уваскрасенне ўчарашняга дня // Дзеяслоў. № 34).

Я нават не перапрашаюся за доўгую цытату, бо яна, па-першае, цікавая, а па-другое, патрэбная мне, каб спытацца ў таго маладога паэта (і не ў яго аднаго), які папікае Генадзя Бураўкіна савецкім мінулым: «Ты хоць прыблізна ўяўляеш, што такое быць у савецкім часе міністрам? Табе такое снілася?.. Быць на самым версе, пры ўладзе, мець усё, што з яе вынікае, і дзеля прынцыпу ўсё гэта паставіць на кон? Рызыкнуць застацца без нічога…

У той час змагацца за беларускае — не тое, што сёння, калі нават ты некалькі сутак прасядзіш у пастарунку на Акрэсціна. Канешне, не стралялі, не трыццаць сёмы год. Але і не проста здымалі з пасады і выключалі з партыі — выкідвалі з жыцця.

Між іншым, у 1970 годзе, у самы, можна сказаць, савецкі (які цяпер называюць застойным) час, калі савецкі паэт Генадзь Бураўкін быў галоўным рэдактарам савецкага часопіса «Маладосць», ён напісаў верш «Мяшок з медалямі». Бясхітрасную, можна сказаць, казку-быль пра нейкага чалавека, які меў мех з узнагародамі і сам на сябе іх чапляў:

І вось ужо,
З галавы да ног
Абвешаны ўсімі рэгаліямі,
Ён на нагах устаяць не змог —
І грымнуўся
На прагаліне.

Ваўкі завылі непадалёк.
На асінах залопала лісце…
Але адшпіліць
Хоць адзін медалёк
Рукі не падняліся.

Паклікаць людзей,
Ад бяды ўцячы
Не далі чалавеку
Рэгаліі.
І моўчкі ваўкі маладыя ўначы
Ягоны шкілет абглыдалі…

Калі нейкі малады паэт не адразу ўцяміць, пра каго напісана «казка», няхай зірне на парадны партрэт Генеральнага сакратара ЦК КПСС таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева, самаўзнагароджанага ці не ўсімі, якія толькі меліся, ордэнамі ды медалямі — у тым ліку чатырма зоркамі Героя Савецкага Саюза. Ад 1970 года да смерці героя-генсека заставалася яшчэ 12 гадоў, але ўвесь ягоны далейшы шлях ужо прапісаны ў гэтай «казцы».

Верш — па відавочных прычынах — не друкаваўся, копіі ягоныя хадзілі па руках. Не ведаю, ці былі на аўтара верша (павінны былі быць) даносы, але там, куды яны пісаліся, самвыдатаўскую «казку» палічылі за лепшае не заўважыць, бо нідзе ў Савецкім Саюзе гэтак, як у Беларусі, самай савецкай рэспубліцы з усіх савецкіх рэспублік, не любілі (дый цяпер яшчэ мала дзе гэтак любяць) герояў-генсекаў ды розных іншых правадыроў.

А вось паэтаў —

Справядліва ці не,
Толькі ўсюды сягоння

Бізнесмены ў цане,
А паэты ў загоне, —

любіць перасталі. Нават не ўзнагароджваюць. Ну ды нічога: мы самі сябе ўзнагародзім.

У 1982 годзе Бураўкін, прадоўжыўшы тэму «казкі», напісаў верш (надрукаваны ў 1995-м) «Сучасны свет бязлітасна старэе…», у якім крамлёўскія дзеячы рыпелі, «як перасмяглыя драчы», бо ім «памочнікі перастаўлялі ногі». Гэтым вершам ён як бы праводзіў эпоху савецкага застою, але, на жаль, не назаўсёды: яна — мадэрнізаваная — вярнулася да нас, як ні дзіўна, у вобразах даволі рухавых, хоць і з «мякінаю ў галаве».

Што з усяго вышэй напісанага вынікае?..

З усяго вышэй напісанага вынікае адно: калі б Генадзь Бураўкін не быў паэтам, ён застаўся б у гісторыі Беларусі як дзяржаўны і грамадскі дзеяч, які і за савецкім часам, і ў першыя гады нашай незалежнасці поруч з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным ды іншымі найлепшымі сынамі Беларусі змагаўся за тое, каб жыла, не сышла ў нябыт беларуская мова, літаратура, культура — сама Беларусь.

Да ўсяго, на шчасце, ён яшчэ і паэт, для якога ўсё, звязанае з паэзіяй, з магіяй слова (як і з Беларуссю), святое.

І не проста ўжо рыпнуў запознены крок,
І дымком пацягнула ад фабрык, —
Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок,
Гэта пахне друкарскаю фарбай.

Ёсць вершы, строфы, радкі, якія прачытаеш і пашкадуеш, што не ты іх напісаў. Дык вось працытаваная страфа — з такіх.

Як паэт Генадзь Бураўкін пачаўся для мяне ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя, калі я, навучэнец Мінскага электратэхнікума сувязі, прачытаў ягоны верш «Беларусі»:

У любві да цябе я не раз буду клясціся.
Не таму,
каб ты помніла клятву маю.
Проста, дзе ні пабуду, —
у Смаргоні ці ў Клясціцах,—
Я ўсё болей цябе пазнаю.

Мяне ўразіў нават не столькі сам верш, колькі тое, што ў ім — у вершы! — напісана пра Смаргонь. Пра мой родны горад, пра які дасюль у Мінску нагадвалі мне толькі надпісы на чыгунных накрыўках люкаў, выробленых на Смаргонскім прамкамбінаце. Я падумаў, што аўтар — мой зямляк. Не мог жа ён (паэт!) быць з нейкіх там Клясціцаў,

пра якія дасюль я (няхай літасціва прабачаць мне ўсе клясцінцы) амаль нічога не ведаю, апроч таго, што непадалёку ад іх далі некалі ў карак Напалеону. Аказалася, што не з Клясціцаў аўтар верша, але і не са Смаргоні. І ўсё ж не пакінула мяне (і дасюль не пакідае — вось што такое першае ўражанне!) адчуванне зямляцтва з Генадзем Бураўкіным. Нават пасля таго, як я дазнаўся, хто ён і адкуль.

«Нарадзіўся Генадзь Мікалаевіч Бураўкін 28 жніўня 1936 года на самай поўначы Беларусі — на Полаччыне (Расонскі раён). Даведнікі называюць то Шуляціна, то Тродавічы. Сутыкнуўшыся пры падрыхтоўцы артыкула з гэтым разнабоем, я звярнуўся па тлумачэнне да паэта. Ён зазначыў, што бацькі пусцілі яго на свет белы ў Шуляціне. Там Генадзеў бацька працаваў тады служачым ільнозавода. Але ў вайну Шуляціна згарэла, а тыя жыхары, якім пашанцавала ўцалець, перасяліліся ў Тродавічы. Шуляціна ж ужо не аднавілася. Сама яе назва знікла з геаграфічнай карты.

(Падобная ж блытаніна, між іншым, узнікла і з месцам народзінаў Васіля Быкава. Вось што кажа пра гэта Бураўкін: «Афіцыйна месцам нараджэння Быкава лічацца Бычкі. Я думаю, гэта і таму, што Бычкі і Быкаў вельмі стасуюцца між сабой. Хоць сам Васіль мне гаварыў, што не ў Бычках ён нарадзіўся, а ў Чарапоўшчыне» (Радыё Свабода, 29.08.2006. — *У. Н.*).

Пасляваеннае дзяцінства Генадзя Мікалаевіча праходзіла ў Тродавічах, а потым у Полацку (бацьку паэта даводзілася часта мяняць месца працы і перавозіць сям'ю). У 1954 годзе Генадзь скончыў Полацкую сярэднюю школу № 1 і падаўся ў БДУ на факультэт журналістыкі.

Пяць гадоў бурлівага, хаця і нялёгкага студэнцкага жыцця праляцелі хутка. І малады журналіст пайшоў на працу. Ён атрымаў яе ў часопісе «Камуніст Беларусі» (прыводзіў у боскі выгляд стыль гэтага афіцыёзнага выдання), потым перайшоў на Беларускае радыё, быў загадчыкам аддзела і намеснікам галоўнага рэдактара ў газеце «Літаратура і мастацтва». У 1968–1972 гадах працаваў карэспандэнтам па Беларусі галоўнай бальшавіцкай газеты «Правда», з 1972 па 1978 год узначальваў рэдакцыю часопіса «Маладосць», які тады быў друкаваным органам ЦК камсамола і Саюза беларускіх пісьменнікаў. З «Маладосці» разваротлівы Бураўкін, жыццёвая энергія ў якога папраўдзе біла ключом, трапіў на міністэрскую пасаду старшыні Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыё (1978–1990). Гэтая пасада забрала шмат сіл і здароўя, але забяспечыла паэту высокі грамадскі і партыйны статус — Генадзь Мікалаевіч урэшце атрымаў дэпутацкае крэсла ў Вярхоўным Савеце БССР (1980–1990) і членства ў ЦК КПБ (1981–1990). (У бальшавіцкую партыю ён уступіў у 1964 годзе.) З 1990 па 1994 год быў прадстаўніком Беларусі ў ААН. Натуральна, што ён жыў тады ў ЗША.

Потым службовая кар'ера паэта рэзка пайшла на спад. Вярнуўшыся на радзіму, ён зноў заняўся журналістыкай» (Бугаёў Дз. Матчына слова дапамагала мне // Служэнне Беларусі. Мінск, 2003).

Я наўмысна падаю звесткі з біяграфіі Генадзя Бураўкіна не з афіцыйных даведнікаў, а з артыкула прафесара Дзмітрыя Бугаёва, бо тут, як ні стараецца прафесар быць суха-аб'ектыўным, міжволі пракідваюцца эмоцыі: «*…разваротлівы* Бураўкін… *урэшце* атрымаў дэпутацкае крэсла… у *бальшавіцкую* партыю ён уступіў… *натуральна,* што жыў тады ў ЗША…» І гэта пры тым, што, па-першае, прафесар Бугаёў *хораша* (інакш не ўзяўся б пісаць артыкул) адносіцца да паэта Бураўкіна, а па-другое, калі яно ўсё было… Дык уявіце, колькі ўсяго вакол Бураўкіна віравала, калі ён займаў тыя дэпутацкія, міністэрскія ды іншыя крэслы.

У той час я наўпрост спытаў яго аднойчы: «Табе мала быць толькі паэтам?» — і ён наўпрост адказаў: «Мала».

Апошнім часам я ў яго пра гэта не пытаўся… Але калі б спытаў, дык мяркую (нават перакананы ў тым), што адказ быў бы інакшы. Змяняецца час, змяняемся мы ў часе — і гэта нармальна. Горш было б, калі б ні ў нас, ні ў часе нічога не змянялася.

Але вернемся да біяграфіі.

«Уласна творчая, пісьменніцкая лінія ў Бураўкіна выглядае больш роўнай, яна нязменна ішла ўверх… Першыя свае вершы паэт надрукаваў у полацкай абласной газеце з гучнай назвай «Бальшавіцкі сцяг». Потым пайшлі кнігі: «Майская просінь» (1960), «З любоўю і нянавісцю зямною» (1963), «Дыханне» (1966), «Жніво» (1971), «Выток» (1974), «Варта вернасці» (1978, у 1980 годзе адзначана Дзяржаўнай прэміяй Беларусі імя Янкі Купалы), «Гняздо для птушкі радасці» (1986), «Узмах крыла» (1995), «Паміж зоркай і свечкай» (2000), «Жураўліная пара» (2004). Больш-менш рэгулярна выдаваліся і кнігі выбраных твораў: зборнік вершаў у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» (1969), «Вершы пяці кніг» (1976), кніга вершаў пра каханне «Пяшчота» (1985), двухтомнік «Выбраныя творы» (1986), дзе змешчаны і пераклады з рускай, украінскай, літоўскай, малдаўскай, грузінскай, калмыцкай, балгарскай, французскай, іспанскай паэзіі, важкі аднатомнік «Выбранае» (1998), у якім прадстаўлены вершы, паэмы, казкі, песні, створаныя Бураўкіным у 1955–1995 гадах, кніга «Чытаю тайнапіс вачэй» (2001) — зноў зборнік твораў пра каханне, у які ўключана 110 вершаў інтымнага плана, напісаных у розныя гады. А былі яшчэ і кнігі паэзіі для дзяцей — «Тры казкі пра Зая» (1974), «Сінія арэлі» (1987), зборнік песенных тэкстаў «Табе, Беларусь» (1984), празаічная аповесць «Тры старонкі з легенды» (1971), сцэнарыі дакументальных фільмаў «Апаленая памяць» (1975), «Падарожжа па Беларусі» (1976), сааўтарскі сцэнарый (разам з У. Халіпам і Ф. Коневым) двухсерыйнага фільма

«Полымя» (1974), праца па складанні некалькіх альбомаў, выступленні ў друку з нарысамі, публіцыстычнымі і крытычнымі артыкуламі.

Таму цалкам меў рацыю дасціпны Рыгор Барадулін, калі ў сваёй сяброўскай эпіграме сцвярджаў:

На клопатаў маштабны вір,
І на палёт за небасхілы,
І на экран, і на эфір —
На ўсё стае ў паэта сілы.
І ёсць у класіцы папраўкі на
Неўтаймаванага Бураўкіна.

Сяброўская эпіграма — рэч увогуле някепская (пастскрыптумам у ёй яшчэ дададзена: «Недарэмна ж гэны гены геніяльнай пробы ў Гены»), але ўсё ж важней тое, што Барадулін, бадай, дакладна, як ніхто іншы, называе дамінанту паэзіі Генадзя Бураўкіна, вызначаючы яе як «дрыготку дотыку босай нагой да родных сцежак»:

І ўбачыць зноў,
як каля хаты
Хаваецца ў дрымотны цень,
Як бацька, ціхі і вусаты,
Крыху ссутулены ячмень.
А потым выбегчы знянацку
Да хаты з засені бяроз
І на двары аклікнуць бацьку
І маці,
светлую ад слёз.

Гэта і праўда, як дрыготкі дотык да родных сцежак, да зямлі… А вось гэта — дотык да роднага неба: узор пейзажнай (як яе некалі называлі і якую пісаць перасталі, бо яна патрабуе гранічнай, «самай наіўнай» шчырасці) лірыкі:

Ідуць дажджы.
Асенняя пара.
Заплаканыя вокны спахмурнелі.
Аўторка не адрозніць ад нядзелі,
Ад быльнягу — шпачынага пяра.

Мяркую, той малады паэт, які папікаў Бураўкіна савецкім мінулым, не ўдакладняў бы ў працытаванай страфе (калі б ён напісаў яе), што пяро менавіта *шпачынае.* Напісаў бы, хутчэй за ўсё, *птушынага пяра,* бо якая розніца: шпак тое пяро з неба кінуў ці сойка. Але для

*наіўнай шчырасці,* якая ўбачыла, што пяро менавіта *шпачынае,* розніца ёсць…

Дарэчы, гэта яшчэ і ўбачыць трэба. Сёння ўжо не тое што шпачынае пяро ад сойчынага, а ўсяго шпака ад усёй сойкі мала хто адрозніць.

За тыдзень свет, здаецца, пастарэў.
За вёскай — непралазнае балота.
Апошняя цяжкая пазалота
Злятае з абсвістаных ветрам дрэў, —

якая акварэльнасць малюнка і які гукапіс, і як сканчаецца верш (!):

У чыстым небе,
маладым і сінім,
Перапляліся промні з павуціннем, —

хоць бяры акварэльку гэтую ў рамку, на сцяну вешай і глядзі ў яе, як у акно, зірнуўшы ў якое — толькі ўжо з другога боку, з надворку — можна яшчэ ўбачыць:

Як ломкае святло маланкі
На момант выхапіць з начы
Твае закрытыя фіранкі,
Каля паркана касачы…

Калі жывапіс у вершах некаму не надта даспадобы, дык вось, калі ласка, музыка — і не абы-якая, салаўіная:

Сок, сок, сок
Цёк,
Цёк,
Цёк —
Цур-р-р,
Цур-р-р,
Цур-р-р.
Ці-мох, Ці-мох
Піў, пі-іў, піў.
У цянь-ку,
у цяньку-у-у
Аўдоц-цю, Аўдоц-цю
Цмок,
Цмок,
Цмок.
І ўцёк.

Такое ўбачыць і пачуць такое не ўсім, не кожнаму дадзена. Гэта вам не старажытнакітайскіх ды нованямецкіх філосафаў перапісваць — у рыфму ці без. Выдаючы гэты перапіс за паэзію і надурваючы тым самым процьму народу — найперш маладога, — які думае, што, калі ён нечага ў тым перапісе не разумее, дык ён не сучасны, адсталы, а хто ў гэтым шчыра прызнаецца?..

А Бураўкін!

Божа мой, я адстаю ад часу,
Ад навейшай моды адстаю…

Некалі я прывёз з Гомеля і паказаў яму вершы Анатоля Сыса. Ён прачытаў і сказаў трохі разгублена: «Па-мойму, тут нешта падобнае на геніяльнае…» А да філасофскіх перапісаў заўсёды адносіўся роўна, без аніякай разгубленасці: калі ёсць яны, дык што ж — няхай будуць. Каб нехта не лічыў сябе дурнем, які салаўіным спевам захапляецца.

«Што нас падкупляе, заварожвае ў паэзіі Бураўкіна, змушае суперажываць — гэта <u>чалавечае</u> (падкрэслена мной. — *У.Н.)* у гэтай паэзіі. Не хачу карыстацца тут тэрмінам «гуманістычная паэзія»: паняцце гэтае аклёпанае і часта хавае ў сабе палітычны падтэкст. Палоніць чытача ў паэзіі Бураўкіна, паўтараю, — менавіта <u>чалавечае.</u> І гэта не абавязкова <u>чалавечае ідэальнае.</u> Чалавек у Бураўкіна, як чалавек: з усімі ягонымі свомасцямі — дадатнымі і адмоўнымі. Але перш за ўсё чалавек у Бураўкіна — гэта носьбіт нечага ўзвышанага, прыгожага, чыстага, людскага. У сваёй сутнасці паэзія Бураўкіна — у сваёй лепшай часці — узыходзіць да паэзіі духу, духоўнасці, бо ж яна — <u>чалавечая паэзія</u> (Масей Сяднёў, эсэ «Чалавечае ў паэзіі Генадзя Бураўкіна»).

Падобна, пад словам <u>чалавечае</u> ў паэзіі Бураўкіна Масей Сяднёў мае на ўвазе тое самае, што я пад словам *шчырае.*

Гэткая ацэнка творчасці «савецкага» паэта Генадзя Бураўкіна «антысавецкім» паэтам Масеем Сяднёвым трохі разгубіла (як некалі Бураўкіна вершы Сыса) таго маладога паэта, які папікаў яго савецкім мінулым, але разгубіла не надоўга. «Ды Бураўкін зрыфмаваў паэму «Ленін думае пра Беларусь»! — выдаў ён мне нібыта казырны аргумент. Маўляў, відавочная кан’юнктура! Якая чалавечнасць і духоўнасць?.. А калі я спытаў, што ж там Ленін думаў пра Беларусь, дык пачуў у адказ: «Што беларусы будуць першымі ў камунізме…» — і далей прыблізна тое, што казаў пра беларусаў у 1959 годзе Мікіта Хрушчоў і што ні да Бураўкіна, ні да ягонай паэмы, ні нават да Леніна ніякага дачынення не мае.

Праблема яшчэ ў тым, што сёння ў нас амаль ніхто і амаль нічога не чытае…

Дык вось нічога, ці амаль нічога, у паэме Генадзя Бураўкіна «Ленін думае пра Беларусь» Ленін пра Беларусь не думае, бо няма чаго яму

пра яе думаць. Так, трызніць… А думаюць у паэме пра Беларусь (і напісана паэма пра Беларусь, а не пра Леніна) Скарына, Каліноўскі ды Купала.

«…Будучы ўсёю сваёю сутнасцю грамадска-актыўнай і шчыра-даверлівай асобай, ён адгукаўся і на сацыяльны заказ часу, і на настойлівыя заклікі ідэалагічных камісараў. З імпэтам, а то і з замілаванасцю пісаў ён і пра грандыёзныя пасляваенныя будоўлі, і пра гучныя антываенныя акцыі, і пра адважны прарыў у космас. І паколькі было ўсё гэта ў яго сагрэта арганічным унутраным хваляваннем, адухоўлена выдатным талентам, дык і вершы на «надзённую тэму» нярэдка атрымліваліся па-сапраўднаму прачулымі і засталіся жыць, натуральна і лёгка пазбыўшыся прывязанасці да канкрэтнай падзеі ці даты. Але самыя высокія ўзлёты натхнення прыпадалі на перыяды гістарычных духоўных узрушэнняў роднага краю, калі да мастака сама сабою прыходзіла надзвычайная свабода выказвання», — напісаў Генадзь Бураўкін у эсэ «З жаўранкам у душы» пра Пімена Панчанку. Прыблізна тое самае Панчанка мог напісаць пра Бураўкіна — і трохі іншымі словамі напісаў ужо згаданы Масей Сяднёў:

«Як рэдка хто з беларускіх савецкіх паэтаў, Бураўкін і ў часы, калі трэба было прытрымлівацца метаду сацыялістычнага рэалізму, здолеў захаваць сваю суверэннасць паэта, пры тым нават у такой коўзкай тэме, як ленінская тэма, — ён яе смела беларушчыў (падкрэслена мной. — *У. Н.*). Вядома, тут не абышлося без выдаткаў, але ў цэласці талент Бураўкіна, мастакоўская чэснасць, чалавечае перамагала і тут. Няма двух Бураўкіных — ёсць суцэльны архіпелаг паэзіі Бураўкіна, паўторым яшчэ раз — чалавечай паэзіі, арганічна патрыятычнай. Не дэкларацыйна, а ўсёй моцай сваёй душы паэт Бураўкін любіць сваю зямлю Беларусь, якую ён (цытую): «абцалаваў песнямі і вершамі».

Дарэчы, пра песні.

Найчасцей пра іх (тым больш у дачыненні да паэтаў такога ўзроўню, як Бураўкін) кажуць як пра нейкі дадатак да творчасці — ледзьве не хобі. Калі б яно было так, дык наўрад ці песні прысутнічалі б у кнізе выбранага ў такой колькасці, у якой яны прысутнічаюць. Прычым прысутнічаюць тут і, так бы мовіць, «звычайныя», пасля ўжо пакладзеныя на музыку, вершы («Завіруха», «Зачараваная мая», «Месяц — жоўтая лодка»), і адмыслова створаныя для песень («Калыханка», «Матылі», «Конь незацугляны»). Думаю, прысутнасць іх тлумачыцца не столькі тым, што песня (такая, як «Завіруха» ці «Калыханка») дадае папулярнасці, пазнавальнасці паэту, колькі тым, што Бураўкін разумее: хіба толькі беларуская песня яшчэ здольная пранікнуць туды, куды не пранікае ўжо амаль нічога беларускага.

Тады,
пахаладзелы ад здзіўлення,

Пачую я, як прарастае песня,
Як цёплыя і трапяткія крылы
Узносяць над прыціхлаю зямлёй
У слова пералітае імгненне,
У слова пералітыя гады.

— А як жа быць з вершамі «Я твой трубач, таварыш камсамол…», «Я з твайго неспакойнага племені, партыя…»? — пытае ў мяне малады — і не з горшых — паэт. — Лічыць, што іх не было?..

Пры ўсёй непахіснасці ў разуменні ўладкавання свету, сакральным месцам якога ёсць для яго (а для астатніх павінна быць) Беларусь, Генадзь Бураўкін і як паэт, і як асоба — постаць, безумоўна, неаднназначная (зрэшты, як і ўсе, чыё жыццё прыпала на дзве эпохі, якія адмаўляюць адна адну). Ён супярэчлівы ў поглядах, ва ўспрыманні рэчаіснасці і шмат у чым яшчэ. Ну, да прыкладу, у адносінах да народа, з якім ці не кожны беларускі паэт, пачынаючы ад Купалы, лічыў неабходным разабрацца. У нейкі момант Бураўкін мог дэклараваць: «Мой Бог — народ!» — а пасля раптам выказаць таму самаму *Богу* такое, за што і ад «царквы» адлучыць можна:

Чужым і ўласным дармаедам
Глядзіць у рот
І паслухмяна крочыць следам —
Такі народ.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Не хочуць мець парадак новы.
Наадварот,
Гатовы жыць без роднай мовы.
Такі народ.

Побач з такімі радкамі сцвярджэнне (гэта ўжо ў іншым вершы) «Ты, мой народ, мяне не папракнеш» выглядае пажаданнем, якое яшчэ невядома, ці спраўдзіцца.

Генадзь Бураўкін нарадзіўся ў вёсцы, якой няма. Можа, таму ў ім гэткае абвостранае разуменне, пакутлівае адчуванне таго, што і Беларусі можа не стаць. Яно нібы неверагодна, але хіба мала ў гэтым свеце здаралася неверагоднага? Таму паэт гатовы і крыкам крычаць, і вінаваціць тых, хто, можа, ні ў чым і не вінаваты. Найперш народ, якому напляваць на свае святыні. Калі ж і ў гэтым вінаваты не сам народ, не ён — тады хто?.. Той жа Багдановіч («Народ… ты сляпы, быццам крот») ніякага іншага вінаватага не знайшоў.

Але досыць пра гэта. Як і іншых прадмоўных слоў, бадай, дастаткова.

Хіба яшчэ вось што.

Бураўкінская шчырасць — гэта найперш бураўкінская лірыка. Вершы, у якіх ён спавядаецца і якія спяваюцца незалежна ад таго, напісана на іх музыка ці не:

Адхіну ўспамінаў грэшных дымку,
Дзе схаваў я ад чужых людзей
Сонейка заспанае — радзімку —
У лагчынцы белай між грудзей…

Тут таварыш Ленін лішні… І не да галавы ні партыя, ні камсамол… Ні дыктатура, ні дэмакратыя…

І як бы мы ні пастарэлі,
Няхай і летам і зімой
Юнацтва сінія арэлі
Ляцяць між небам і зямлёй.

Няма чаго тут каментаваць. Тут Бураўкін такі, які ён ёсць. Ляціць на сініх арэлях…

Я ведаю (сам неаднойчы чуў), што ён часцяком дакарае сябе: мала напісаў, недастаткова зрабіў, трэба было б лепш, больш… Але ж няма мяжы ні лепшаму, ні большаму. Як на маё ўяўленне, дык за дар, які даў яму Бог, паэт Генадзь Бураўкін перад Усявышнім апраўдаўся. Ва ўсякім разе, яму не павінна быць страшна, што ад ягоных «дум і спраў, ад парыванняў, што ў душы сабраў», нічога не застанецца.

Застанецца
на роднай зямлі грудок.
Застанецца
на роднай мове радок…

*Уладзімір Някляеў*

# ВЕРШЫ

* * *

Дагарала ў сорак трэцім восень
Ціхім арабінавым агнём,
Нас мінаў вясковы лістаносец,
І старэла маці з кожным днём.

А затым, у лютаўскую замець,
На парозе позняю парой
Бацька абдымаў мяне і маму
Леваю адзінаю рукой.

Аднагодак кожны мой раскажа,
Колькі меў у першым класе бед:
Як рабілі мы чарніла з сажы,
Як пісалі на лістах газет…

Я пазнаў тады акрайца хлеба
Самую суровую цану,
Палюбіў густую просінь неба,
Люта зненавідзеўшы вайну.

*1955*

Я ІДУ…

Сёння я незвычайна радасны,
Ну, не хлопец —
усмешка адна:
Цеплынёю дваццаціградуснай
Абагрэла мяне вясна.

Люстры-лужыны
                    проста ў вочы
Сотні сонцаў мне навялі.
І лягчэй,
          і прыемней крочыць
Па сырой, адагрэтай зямлі.

І паветра здаецца мядовым,
І нябёсы —
               чысцей і сіней.
Я іду — дваццацігадовы,
І дзяўчаты глядзяць на мяне.

І, напэўна, таму,
                    што рады я
Захапленню ў вачах дзяўчат,
Так пяшчотна спявае радыё,
Так свавольна звініць ручай.

А каб сум, як атрутны стронцый,
Супыняючы кроў, не лез,
Вось вазьму ў спадарожнікі сонца
І на ноч не пушчу за лес.

І з ягоным святлом непатушаным
Абыду ўвесь зямны прасцяг,
Незвычайна шчаслівы і ўзрушаны,
Перапоўнены прагай жыцця…

*1956*

## ПОЛАЧЧЫНА

Не шукайце красы за морамі,
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі,—
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі.

Тут азёры, як неба, сінія,
У чаротах чароды гусіныя,
А на дне Млечным Шляхам свецяцца
Трапяткія гурты язіныя.

Навальніцы грымяць над кручамі,
З гор бягуць ручаі грымучыя,
Тут ля Дрысы сасонкі звонкія,
Над Дзвіною бары пявучыя.

Тут вясёлкай сонца акружана,
Усміхаецца з кожнай лужыны,
Тут на кожнага закаханага
Салаўёў па чатыры тузіны.

Тут дзяўчаты ўсе — чарнабровыя,
На палях ільны двухметровыя…
Тут пад кожным курганам і каменем —
Ці быліна, ці казка чароўная…

Дык навошта шукаць за морамі
Узбярэжжаў з крыштальнымі зорамі? —
Прыязджайце да нас на Полаччыну,
Пахадзіце яе прасторамі!..

*1956*

* * *

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягне дзіўная сіла мяне да ракі.

Цэлы дзень у прадоннях крынічных віроў
Бачу гульні язёў, чуйны сон шчупакоў.

Я не знаю, удаўся ў каго я такі:
Цягнуць, нібы магнітам, мяне сasнякі.

Я гатоў слухаць там ад зары да зары
Перашэпты вяршалін густых угары,

Слухаць дзятла працоўны паспешлівы стук,
Чуць, як проста з-пад ног сыраежкі растуць.

Я адчуў, што і я не чужы на зямлі,
Што гараць на далонях маіх мазалі…

Да хмурынак-пярын, у паўдзённы блакіт,
Свае звонкія песні ўзнялі жаўрукі.

Чую: гліцу і мох прабіваюць грыбы…
Каб не быў чалавекам, я б жаўранкам быў

І спяваў бы нястомней за ўсіх і званчэй,
Каб рабілася людзям ад песні лягчэй,

Каб шпарчэй узнімаліся ўвысь сасrandom
Каб вяліся ў вірлівай рацэ шчупакі…

Я не знаю, удаўся ў каго я такі…

***1956***

## ЗНОЎ ПАБАЧЫЎ ЦЯБЕ…

Цэлы тыдзень хадзіў я прыгнечаным,
Не гулялася,
не спявалася.
Кожнай раніцай,
кожным вечарам
Сэрцу нечага не ставала ўсё.

А сягоння,
зусім няпрошана,
Нечакана, неспадзявана я
Зноў убачыў цябе,
харошая,
Дарагая, нецалаваная.

І гатоў салаўём заліцца я
На лады, на калены розныя,
Каб дзівілася нават міліцыя,
Што такімі бываюць цвярозыя.

І нясу, каханнем асвечаны,
Па вясновай зямлі сэрца гром-біццё.
Паглядзяць на мяне сустрэчныя —
І таксама шчаслівымі робяцца…

***1956***

* * *

Я часам сам сябе не пазнаю:
Разважлівы, спакойны і цвярозы,
Пра маладосць бясхмарную маю
Усё часцей ка мне прыходзіць роздум.

Я ўсё стражэй да слоў сваіх і рук,
Трывожыць сэрца мне любая дробязь,
Нібы адказнасць я за ўсё бяру,
Што ў цэлым свеце думаюць і робяць.

І з кожным днём вярней мне дружбакі,
І ўсё цвярдзей
любоў,
нянавісць,
вера…
Ці то характар робіцца такі,
Ці гэта сталасць стукаецца ў дзверы…

*1957*

## ЛЯ ПАРТЫЗАНСКІХ СЦЯГОЎ

Яны выцвілі ў дыме боек,
Каля зыркіх начных кастроў
І прынеслі ў залу з сабою
Родны пах беларускіх бароў.

Дзе між імі той самы родны,
З пахам хвой і купальскіх траў,
Той, які пад агнём кулямётным
Бацька мой цалаваў?

Можа, гэты, прабіты куляй?
Край яго парудзеў ад крыві.
Да яго працягнуў руку я,
Поўны шчасця, тугі і любві,
Каб узняць яго зноў, як бацька,
Не збаяцца нягоды любой…

Чую раптам:
«Не дакранацца

Да музейнага сцяга рукой!»
Гэта вы, вартаўнік?
Прабачце.
Адшукаў запаветны сцяг.
Гэта пэўна: яго мой бацька
Перад смерцю збярог на грудзях.

Гэта ён тут, паміж сцягамі,
Самы просты з музейных сцягоў.
Калі нельга рукой —
губамі
Мне дазвольце крануцца яго.

*1957*

## ПОЛАЦКАЯ БАЛАДА

Я люблю тваю чуйную зімнюю ціш,
Мой абсыпаны зоркамі горад.
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш?
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш.

Толькі ўслухацца лепш у марозны спакой,
Толькі вочы закрыць на хвіліну —
І пачуеш дыханне далёкіх вякоў,
Старадаўнія песні-быліны.

І не проста ўжо рыпнуў запознены крок,
І дымком пацягнула ад фабрык —
Гэта рыпнуў Скарыны друкарскі станок,
Гэта пахне друкарскаю фарбай.

Рукавом выцер потны, задумлівы твар,
Стаў пад лютаўскім ветрам, ля сходак,
З хрустам плечы расправіў стамлёны друкар,
Мой разумны, няўрымслівы продак.

І не дуб недзе крэкнуў, парушыўшы ціш, —
Зарыпелі ўладарна батфорты.
То ад Верхняга замка спяшае сюды ж
Пётра Першы, суровы і горды…

Хто сказаў, што тут ноччу няма ні душы
І ўсё гэта — рамантыка, ўрэшце,
Толькі снег зарыпіць, зазвіняць ледашы
І нікому з магіл не ўваскрэсці?

Не, прыслухайся лепш:
не ільдзінкі звіняць —
Гэта шаблі аб ківеры звоняць,
Гэта цяжка даецца французам Дзвіна,
Заіржалі трывожныя коні…

І таму я люблю слухаць зорную ціш,
Твае казкі начныя, мой горад…
Хто сказаў, што ты ноччу маўчыш?
Ты не спіш.
Ты са мною гаворыш…

*1957*

* * *

Калі часам трохі засумуецца
І адчую на душы тугу,
Я выходжу да людзей на вуліцу,
У натоўпу шматгалосы гул.

Пасяшаю непрыкметна зліцца
Я з табою,
гарадскі прыбой,
Каб у шумнай радасці згубіцца
Са сваёй нязначнаю журбой.

І па кроплі, па маленькай частцы
Мне ў душу збалелую ідзе
Нехаванае чужое шчасце
Толькі што спатканых мной людзей.

І яны маю бяду-навалу
Разнясуць, развеюць назаўжды,
Запрашаюць нават запявалам
У свае вясёлыя рады.

Не скруціць ніякай чорнай скрусе
Маладосць крылатую маю.
Я іду з усімі
і смяюся,
Я іду з усімі
і пяю.

І калі каго бяда агорне,
Трапіцца журботны хтосьці нам, —
Я вазьму ў яго часціну гора,
Частку сваёй радасці — аддам.

*1957*

* * *

Вочы сінія-сінія…
Косы тугія…
Хтось шчаслівы, як кажуць, дзяўчыну хрысціў.
Трэба вытаптаць многа дарог,
каб другія
Вочы гэткія, гэткія косы знайсці.

Пра такіх, пэўна, казкі складалі ў народзе,
Надзяляючы сотнямі светлых імён…
А цяпер — гарманісты чародамі ходзяць,
Носяць песні-прызнанні ўначы ля акон.

А яна — маладая ў сваёй прыгажосці.
Ні прызнанняў, ні песень не хоча яна.
Аднаго прычакаць бы ёй толькі у госці,
Ды з зямлёю яго абвянчала вайна…

Не згуляе вяселля той, хто гэтак абвенчан.
А яна ўсё чакае, верыць казачным снам,
Адганяе сватоў, што прарочаць:
не вечна
Будзе доўгай каса, будзе яркай краса.

І даўно з хаты ў хату і з вуха у вуха
Носяць бабы па вёсцы няўмольны прысуд:
Застанецца яна назаўжды векавухай,
Нізавошта састарыць, загубіць красу…

Я не знаю,
быць можа, і праўда, не трэба
Ёй, прыгожай такой, адзінокаю жыць.
Я ж яе разумею…
І вельмі хацеў бы
Вось такое каханне ў жыцці заслужыць.

*1958*

## ПАЛЕСКАЯ БАЛАДА

*Памяці загінуўшых у час*
*Вялікай Айчыннай вайны*
*Івана Цубы, які паўтарыў*
*подзвіг Івана Сусаніна, і яго*
*брата Міхала*

Ёсць на Піншчыне рэчка Лань.
Там зімой ходзіць берагам здань.

Круцяць снег, гоняць снег вятры.
Праз завею ідзе стары.

Кажушок на схуднелых плячах,
Боль пякельны ў патухлых вачах.

У халодным пажары завей
Ён далёкага брата заве:

«Дзе твой след? Дзе ты, родны, ляжыш?
Ці спакойна ты, братка, спіш?
Ці харошыя сняцца сны,
Ці чуваць табе шум лясны?
Я адпомсціў забойцам тваім,
Кінуў багну пад ногі ім.
Сам я поперак шляху лёг,
Сам заблытаў ім сотні дарог,
Сам я зоркі ўгары згасіў,
Сем галодных ваўкоў запрасіў,
Партызан ад нападу збярог,
Не прадаў нашых родных дарог…
Дзе ж ты, брат? Што ж ты, братка, маўчыш?
Дзе твой след? Дзе твой крыж?»

Круцяць снег, гоняць снег вятры.
Праз завею ідзе стары…

*1958*

* * *

Гэта цяжка,
                    таварыш,
Разам кашу варыць.
З кожным стрэчным не зварыш.
Тут не трэба мудрыць.

Тут такія парадкі,
Што пароўну дзялі
І зацішак палаткі,
І вяндліны скрылі.

Часам компас саб’ецца,
Мы ж асільваем шлях,
Толькі грукаюць сэрцы,
Толькі песня ў зубах.

Без папрокаў і скаргаў
Мы нясём за спіной
Дзесяць знойдзеных скарбаў,
Дзвесце казачных сноў.

І калі ўсё стрываеш,
На вяршыні гары
Вельмі добра, таварыш,
Разам кашу варыць.

*1960*

* * *

Шпак спявае…
                    Стамлёныя крылы — ўразлёт,
Ад зямнога, вясновага шчасця зажмураны вочы.
Доўга песню хаваў ён за морам ад сцюжы і слот —
І яна ў цёплай дзюбе цяпер і звініць, і булькоча.

Падлятае,
трымціць —
не сядзіцца шпаку,
Быццам недзе хапіў непатухлага жару
І збіраецца з клейкіх пупышак на кожным суку
Распаліць
сто маленькіх
зялёных пажараў…

*1960*

## БЕЛАРУСІ

У любві да цябе я не раз буду клясціся.
Не таму,
каб ты помніла клятву маю.
Проста, дзе ні пабуду —
у Смаргоні ці ў Клясціцах, —
Я ўсё болей цябе пазнаю.

Пазнаю цябе юнаю і старажытнаю,
У сузор'ях агнёў і ў паводках бяроз.
Сто разоў
кожным нервам сваім, кожнай жылкаю
Перажыў я твой мужны і велічны лёс.

Колькі вызнаў і вынес ты,
краю мой мілы!..
І сягоння ўспамін твае грудзі пячэ,
Дзе старыя акопы,
як пустыя магілы,
Што сябры закапаць не паспелі яшчэ.

У нябыт
і нядоля, і ворагі рынулі…
І цяпер,
прыгажэй, даражэй удвая,
Ты стаіш, Беларусь,
завадская, зубрыная…
Я — пясчынка твая.
Я — крывінка твая.

І ў любві да цябе я не раз буду клясціся.
Не таму,
каб ты помніла клятву маю.
Проста, дзе ні пабуду —
у Смаргоні ці ў Клясціцах, —
Я ўсё болей сябе пазнаю.

*1962*

## БЯЗБАЦЬКАВІЧЫ

*Рыгору Барадуліну*

Сорак пяты.
Незабыўны год сорак пяты…
Маёвыя песні
Пасля шэрых ваенных зім.
О, як мы ляцелі —
Толькі мільгалі пяты —
Насустрач салдатам вусатым,
Насустрач бацькам жывым!

Мы нават і спаць не клаліся
Без бацькоўскай пілоткі,
Усе ў медалях блішчастых
Хадзілі ў сяброў ля акна.
Шчаслівыя,
Мы не бачылі,
Што плакалі аднагодкі,
Якіх сурова назвала
Бязбацькавічамі вайна.

Яны тады навучыліся
Хаваць мужчынскія слёзы,
Яны тады навучыліся
Матак сваіх берагчы.
Не па гадах маўклівыя,
Зацятыя і сур’ёзныя,
Бацькоў —
У медалях, у ордэнах —
Снілі яны штоначы.

З пасівелымі маткамі поплеч
Працу любую рабілі,

Многія не паспелі
Закончыць дзесяты клас.
Сонца, сівер і слота
Твары ім агрубілі.
Здавалася, што і душы
Агрубіць нялёгкі час.

Яны служылі ў арміі,
Яны спраўлялі вяселлі.
Упарта
Бацькі несустрэтыя
Сніліся зноў і зноў.
Дарагія сябры-бязбацькавічы
Аблыселі і абвуселі.
І мы вучымся ў іх пяшчоце,
Калі няньчаць яны сыноў…

*1962*

* * *

Нам адведзена шмат гадоў.
Мы на іх атрымалі права
Ад братоў, ад бацькоў і дзядоў,
Што палеглі ў зямлю са славай.

Дзед…
Ён чэсна касіў і араў,
Надрываў свае грудзі і рукі
І маліўся, калі паміраў:
— Хай маё дажывуць унукі.

Бацьку зрэзаў фашысцкі свінец,
Ён упаў на зялёнае жыта
І не ўзняўся.
Прасіў толькі смерць
Нам аддаць яго век недажыты.

О, гады…
Толькі жыць нам і жыць
За сябе,
За дзеда,
За тату

І за брата,
Што ў Вене ляжыць,
Не сустрэўшы свой год дваццаты.

Жыць і жыць…
Ды гатовы заўжды
За Радзіму сваю
без прынукі
Мы пакласці жыццё…
А гады…
Хай за нас дажывуць унукі.

*1962*

## ТАНЦЫ ЛЯ ВАЕНКАМАТА

Танцы ля ваенкамата,
Танцы ля ваенкамата…
Стрыжаныя, у ватоўках хлопцы.
У дзявочых вачах —
туга.
І маці, старыя, прыціхлыя маці:
«Вось і да малодшых дайшла чарга».

А пары кружацца ў вальсе.
Танцы ля ваенкамата.
І ў нязграбных стрыжаных хлопцаў
Бесклапотны настрой…
А потым
уладна грымне
На гулкім двары каманда
І стройныя сяржанты
Выраўняюць строй.

І будуць хлопцы дагледжаны,
Накормлены і абуты,
І старшына ім выдасць
Удосталь
махоркі і сноў…

Маці,
чаго ж вы плачаце,
Чаго гледзіце са смуткам

На стрыжаных і нязграбных
Малодшых сыноў?..

Сыны вашы хутка вернуцца,
Ім будзе ў арміі добра.
І маці слёзы ўціраюць
Сарамліва шурпатай рукой.
Яны за сыноў спакойныя.
Што зробіш, калі падобны
Стрыжаныя, у ватоўках хлопцы
На паўшых сваіх бацькоў…

*1962*

## ЗДРАДНІК

На вайне
Кожны міг
можна з куляй сустрэцца,
Нават ціхманым золкам,
Калі гулка крычаць драчы.
Паміраць не хацелася
Ні ў сорак першым,
Ні ў сорак трэцім.
І салдаты пра смерць не думалі,
У бой ідучы.

Ён жа
думаў пра смерць
Пра сваю,
Калі раптам снарадам
Разарвецца зямля пад нагамі
І вочы агнём апячэ.
У салдата —
жыццё або смерць.
Ён абраў сабе
здраду.
Нібы рукі Радзімы,
Пагоны скінуў з плячэй.

Ён імчаў напрасткі,
Слізкай цемрай атулены.

Бег —
          і боты таптал і
Магілы сяброў.
Ён упаў.
І не ведаў,
Свая ці варожая куля
Абарвала дарогу
Да цёмных бароў…

І сягоння
Стаяць абеліскі,
Наліваецца жыта,
Расцвітаюць бяссмертнікі
Там,
Дзе ўпалі салдаты
На шляхах перамог.
Крапівой і асотам
Зарастаюць магілы чужынцаў.
А дзе здраднік ляжыць —
Толькі пыл,
Толькі голы пясок,
Толькі мох…

*1962*

## ЮНАЦТВА СІНІЯ АРЭЛІ

*Юлі*

Яны прыглушана рыпелі
Сярод старых кашлатых ліп.
Мы тыя сінія арэлі
Зламаць нікому не далі б.

Над імі гойдаліся далі,
Яны нам казкаю былі —
І ў неба сіняе ўзляталі,
І ледзь краналіся зямлі.

І як бы мы ні пастарэлі,
Няхай і летам і зімой

Юнацтва сінія арэлі
Ляцяць між небам і зямлёй…

***1962***

* * *

Сінія званочкі, сінія званкі
Стаялі сасмяглыя, сонныя.
Мы іх збіралі, ставілі ў збанкі,
Паілі вадой сцюдзёнаю.

Мы іх хавалі ў цень ля сцяны,
Ставілі на падаконнікі
І верылі,
                    што ад шчасця яны
Зазвоняць тоненька-тоненька.

Яны ж на луг пазіралі з вакна —
І ніводзін нават не дзвынкнуў.
І была ў сінім сэрцы кожнага званка
Белая-белая слязінка…

***1962***

## КАСТРЫЧНІЦКІ ЛЕС

Сосны жоўтыя, як з воску.
Вепрукоў старых сляды.
Пакідаю ўранні вёску
І спяшаюся сюды.
Каля ног гараць брусніцы —
Нібы ў красках летні луг.
Ад цілінькання сініцы
Ельнік здзіўлены аглух.
Смела шастаюць вавёркі,
Цягнуць позныя грыбы.
Пад кустом ажыны горкай
Вожык фыркае рабы.
Мне ж нічога тут не трэба:
Ні звяроў, ні жухлых траў.

Я не браў з сабою стрэльбы,
Нават кошыка не браў.
Можа, ты і не паверыш, —
Толькі я сюды спяшу
Не па ягады —
па вершы,
Што аднойчы напішу.

*1962*

* * *

Адышлі ў нябыт панегірыкі
Ціхім вінцікам, ранняй сяўбе.
Людзям хочацца шчырай лірыкі
Не пра вінцікаў,
пра сябе.

Людзям хочацца песні звонкай
Не пра мудрасць высокіх пасад,
А пра сінія матчыны вокны,
І пра раніцу, і пра сад.

Людзі хочуць, каб гімны зайгралі,
Калі плошчы запоўніць парад,
І пра іхнія рукі, і раны,
І пра будні (іх болей, чым свят).

Людзі хочуць, каб званні і славу
Не давалі нікому дарма…
Людзі маюць на гэта права.
Ім дала яго праўда сама.

*1962*

* * *

*Міколу Матукоўскаму*

Сябрам мы прысвячаем эпітафіі,
Калі паклічуць за трунойісці…

А чым сябры, скажыце, не патрапілі,
Што мы аб іх не пішам пры жыцці,
Што словы выпакутваныя выкласці
Спяшаемся чамусьці для другіх
І нават лічым найвышэйшай сціпласцю,
Што вось маўчым пра іх, пра дарагіх?..
Яны ж, крыклівай славай не пакрытыя,
Сябе не выстаўляюць напаказ,
І вершы нашы лаюць больш, чым крытыкі,
І, можа, больш, чым жонкі, любяць нас.

Адданасць іх мужчынская і вера —
Найлепшы дар з усіх зямных дароў…
О, колькі мы не напісалі вершаў,
Сапраўдных вершаў пра сваіх сяброў!..

*1962*

## ПОЎДЗЕНЬ

Я веру поўдню.
Ён не памыляецца,
Бо ён не мае у сабе ані
Туманнасці яшчэ санлівай раніцы
І стомленай вячэрняй цішыні.

Я веру поўдню.
Казкі не лапоча ён
І позехам даўгім не крывіць рот,
А моўчкі ўсмак працуе заклапочана
Ды рукавом з ілба ўцірае пот.

Ідзе сваёй прывычнаю дарогаю
І памятае, ведае адно —
Ужо ў зеніце самым сонца строгае
І ўсё як ёсць адтуль яму відно.

Я веру поўдню.
Веру,
бо з цвярозасцю,
Са сталасцю
ён дружны нездарма.

І ў ім няма вячэрняй асцярожнасці
І ранішняй туманнасці няма.

Я веру поўдню…

*1963*

## БЕЗЫМЯННЫЯ ВЫШЫНІ

Колькі вас,
вышынь безымянных!
Колькі на вашых вяршынях паўшых!..
Многія сёння пазааранамы
У чыстым полі
і ў памяці нашай.

Смерці вышыні,
Славы вышыні,
Хіба вас памяць усе ўтрымае!..
Спіны вам шорсткія травы прашылі,
Легла ў галовах ціша нямая.

Шмат вас мы сёння не знаем,
не помнім,
Горкія подзвігаў ратных калыскі.
Вы стаіце над шляхамі, над пожнямі,
Як радавыя,
без абеліскаў.

Толькі ж
жывуць побач з намі салдаты,
Тыя, што знаюць імёны вашы.
Толькі ж
жывуць побач з намі салдаты,
Тыя, што помняць імёны паўшых.

Памяць сівая ў пагнутай касцы
Часта ў сны ім знячэўку ўрываецца —
І яны прачынаюцца ноччу,
шукаючы
Вашу траву агрубелымі пальцамі.

Сынам яны дораць ракеткі і кеды,
Купляюць дочкам вясельныя плацці.

Ды зубы сціскаюць,
калі ракеты
З гулкім салютам у неба ўзвіваюцца.

Ляцяць ракеты,
чырвоныя,
сінія, —
Як солі драбкі на нязгойныя раны…
І ўваскрасаеце вы,
безымянныя,
Смерці вышыні,
Славы вышыні.

І здасца салдатам —
у едкім дыме,
Устаўшы ў атаку, пад град кулямётны,
Сыны,
неабстраляныя, маладыя,
Для вас,
безымянных,
шукаюць імёны.

*1964*

## ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Суровы і цвярозы век дваццаты,
Люблю цябе да скону
і кляну.
Вятрамі міжпланетнымі працяты,
Ты знаеш усяму сваю цану.

Музыкі пра любоў натхнёна трынькаюць,
Малююць генералы галубоў.
А ты глядзіш з халоднаю хітрынкаю
І лічыш склады вадародных бомб.

Усё як ёсць табе відаць адразу —
І кроў,
і здрада,
і падлог,
і гнеў.

Ад войнаў,
　　　　　ад палітыкі
　　　　　　　　　　і джазу
Ты ачмурэў і рана ачарсцвеў.

І ўсё ж ты хочаш да вякоў данесці,
Ад ненажэрнай смерці ўберагчы
Матуляў нашых баравыя песні,
Касмічных трас цяжкія абручы.

Баішся, каб ад атамных бяссонніц
Навек наш свет зялёны не зачах…
Таму і цягнем мы цябе
　　　　　　　　　　　да сонца
На потных і скрываўленых плячах.

*1964*

* * *

Такі спрадвечны лёс мужчын:
Рвануцца з мілых рук,
Пайсці
　　　　　і зноў перамагчы
Сто слот і завірух,
Заблытаць тысячу дарог,
І выпіць дзесяць рэк,
І любай палажыць да ног
Увесь свой скарб і грэх.

Ну а калі праз сто разлук,
Праз сто смярцей вайны
Да мілых,
　　　　　　　незабытых рук
Не вернуцца яны, —
У тым няма віны мужчын,
Зусім няма віны,
Што рана леглі на спачын
Пад сосны і кляны…

*1964*

## ЖАВАРАНАК НАД ПРАСПЕКТАМ

Успырхнуў жаваранак над праспектам,
Затрымцеў,
утрапёны і горды,
Над асфальтным прапыленым пеклам
Стаў паласкаць дажджынкаю горла.

Шэрымі крылцамі лопае-лопае,
Дзюбай паўдзённае сонца казыча —
І ляцяць халодныя срэбныя кроплі
На вусны дзяўчатам,
міліцыянерам на лычкі.

І ловяць іх клёны ў зялёныя прыгаршчы.
І коцяць перад сабою тралейбусы,
Асцярожненька,
тармазамі не скрыгаючы,
На хмурынку закінуўшы сталёвыя лейцы.

Я стаю, усміхаюся,
як дзіця, расчулены.
А побач нехта хмура пакрэктвае.
Божа,
няўжо ён не чуе
Жаваранка над праспектам?..

*1964*

* * *

Прыходзяць часта к нам хваробы —
І мы пад пахай грэем ртуць.
А ў вёсцы бацьку-хлебароба
Яны, на шчасце, не бяруць.

Па полі слотны вецер гойсае,
Ганяе хмары цэлы дзень —
А ён,
расхрыстаны і босы,
Па лужах восеньскіх ідзе.

І п’е нагбом з палеткаў голых
Гаркавы пастушыны дым,
І робіць на хаду уколы
Яму іржэўнік малады.

І так салодка патыхае
Вільготна-чорная ралля.
І слухае яго дыханне
Сівая доктарка —
Зямля.

*1964*

* * *

Словы жудасна паміраюць,
Патухаюць,
як светлякі.
Забываюць іх, не паўтараюць
І газеты, і языкі.
Толькі недзе ў далёкай вёсцы
З плёску рэк і шуму лясоў
Узляцяць,
як забытыя вёсны,
Салаўямі на сто галасоў.
І ажно перахопіць дыханне,
Як у словах пявучых зноў
Затрапеча чыёсьці каханне,
Запульсуе густая кроў.
Ды цяжкім, раўнадушным нарогам
Іх завальвае час і быт.
І здаецца,
не словы —
народы
Адыходзяць моўчкі ў нябыт.
Немата ім сціскае грудзі,
Заціхае самотны ўздых…
Людзі! Людзі!..
Ну што ж вы, людзі,
Не ратуеце, родных, іх?..

*1964*

* * *

Гадзіннік
                    ножанкамі стрэлак
Стрыжэ, стрыжэ нябачны час
І моўчкі падганяе нас,
З мінутай кожнай пастарэлых.

Не затрымаць і не спыніць
Яго размеранага стуку.
Нібы лічыльнікамі,
                                        цюкае
Ён раўнадушна дзень пры дні.

І як спяшаюцца гады!
Як хутка вянуць навальніцы!..
Паспець бы толькі, не стаміцца,
Не збіцца з маладой хады,
Каб за спіною узмакрэлай
Цяжэў бяссонных спраў запас…

Гадзіннік
                    ножанкамі стрэлак
Стрыжэ, стрыжэ нябачны час.

*1964*

* * *

Колькі я пражыву,
                                    не ведаю.
А хацелася б шмат пражыць,
Навальніцамі ўсімі і ветрамі
Вусны ўдосталь свае асмужыць,
Наглядзецца на неба сіняе,
Нахадзіцца па верасах,
Каб гады палахлівым інеем
Пазаблытваліся ў валасах.

Толькі колькі мне там адпушчана
На кароткі мой век зямны,
На сустрэчы з лугамі і пушчамі,
З крыкам кнігаўкі і жаўны,

Колькі ранкаў яшчэ збяру я,
Колькі вёрст паспею змагчы…
Абхітрыць бы як-небудзь старую,
Што з іржавай касой на плячы.

*1964*

## РЭКІ БЕЛАРУСІ

О рэкі, рэкі Беларусі
Сярод лугоў, сярод лясоў!
Калі я гімн саткаць збяруся
З блакітных вашых паясоў?

Не дзеля славы мімалётнай
(Ах, што там крытыкаў басы!),
А дзеля вашай паўнаводнай
І нестарэючай красы.

Як мне салодка з вас пілося!
Як сняцца,
што ні гавары,
І вашы завадзі,
і плёсы,
І лукавіны,
і віры,
І ластаўкі на вашых кручах,
І цень ад вербаў і бяроз,
Ля берагоў —
аер пахучы,
Чарот
і талака стракоз…

Здаецца,
што перад другімі
Вы выставіце напаказ? —
Ані парогаў,
ані гімнаў,
Ані плацін няма у вас.

А я з маленства
сэрцам рвуся

Ткаць песні з вашых паясоў,
О рэкі, рэкі Беларусі
Сярод лугоў, сярод лясоў!

*1964*

## УСПАМІН ПРА НАЧЛЕГ

Лазім па арэшніку,
бадзяемся па лесе,
Дзвіну на бераг цягнем у мокрых невадах…
А ў вачах —
смугою —
сіняе Палессе,
Нетаропкай Прыпяці бурая вада.

Асака высокая —
зялёнымі штыкамі,
Забытымі шаломамі —
пахучыя стагі.
І над зямлёю стомленай цішыня такая!
І месяц,
як антонаўка,
жоўты і тугі.

І жніўеньскія зоры,
пахучыя, як дыні,
Сінія, нібыта верасы…
А ў чарнабровай нашай гаспадыні
Пахлі кменам рукі,
мятай — валасы.

Нам яна выносіла кварту сырадою,
Аржаны акраец ламала напалам
І частавала потым самагонкаю рудою
І добрых сноў бязгрэшных на ноч жадала нам.

І вось мы цэлы месяц бадзяемся па лесе,
Дзвіну на бераг цягнем у мокрых невадах,
А ў вачах —
смугою —
сіняе Палессе,

А на губах —
тугою —
далёкай мяты пах.

*1964*

* * *

Каля бярозак беланогіх
Рабіны стройныя стаяць.
І стала торнаю дарогай
Сцяжынка вузкая мая.

І нашы клёны разрасліся,
І хуткаплынныя гады
Пазамялі апалым лісцем
Мае хлапечыя сляды.

За сіняватаю імжою
Ля нашай згубленай вярсты
Каханне новае, чужое
Збірае жоўтыя лісты…

А нам з табой упарта сніцца
Сцяжынка вузкая мая,
Бярозак юных завушніцы,
Рабін зялёная сям’я.

*1964*

* * *

Сон мой сіні,
салодкі верад —
У зацішку палян лясных
Зацвітае бахматы верас
Над цяжкімі слядамі ласіх.

Зацвітае…
І зноўку верыш:
Пад шырокімі лапамі хвой

Сцеражэ крэпканогую неруш
Баравік запаветны твой.

І бяжыць верасовай сцяжынкай,
Топча хмельны асенні мёд
Тая,
    лёгкая, як сняжынка,
Незабыўная, як крыгаход…

…Безнадзейнай, наіўнай верай
На далёкай юначай вярсце
Сіні верас, бахматы верас
І сягоння яшчэ цвіце…

*1964*

* * *

Не,
    мы з табою не святошы.
Мы прагна выпілі,
Да дна,
І ласку вечароў харошых,
І пацалункі давідна.

І мне не раз яшчэ салодка
Спаць на тугім тваім плячы
І, як маланкаю, дрыготка
Аб вусны вусны апячы.

І раптам сцішыцца ў здзіўленні,
Калі няўмольна,
                        як прысуд,
Мяне зноў кіне на калені
Жаночай прыгажосці цуд.

Няхай яно жыве са мною,
Да скону грэючы жыццё,
Маё мужчынскае,
                        зямное,
Святое гэта пачуццё.

А калі скрывяцца святошы —
Ну што ж,
мы выпілі да дна
І ласку вечароў харошых,
І пацалункі давідна.

*1964*

* * *

Месяц — жоўтая лодка —
Плыве між аблокаў.
Пахне мятай
Салодка-салодка,
Далёка-далёка.

У абвялых пракосах
Дрэмле ціша святая.
Твае цёплыя косы
Я няўмелай рукой расплятаю.

І з рамонкамі белымі
Уплятаю ў іх сцежку вузкую.
І лаўлю ашалела
Сухія гарачыя вусны.

І цалую
і шыю,
і локці…
А ва ўсім вінаваты
Месяц — жоўтая лодка —
Ды салодкая мята.

*1964*

* * *

Мы дома песень менш знаходзім,
Удалеч шлях кіруем свой.
На поўнач едзем
І на поўдзень,
Бліжэй да кедраў і секвой.

А там,
дзе першы крок рабілі,
Дзе нашы мацеркі жывуць,
Растуць бярозы і рабіны
І лісце падае ў траву.

Ды мы
наіўна прывыкаем,
Што нам спатрэбіцца пасля
Прашытая баравікамі,
Смалой прапахлая зямля.

Шукаем сцежак невядомых,
Чужыя топчам бальшакі.
А песні нас чакаюць дома,
Ля цёплай матчынай шчакі.

*1964*

* * *

Сябрам ківаю галавою,
Развітваюся з бальшаком.
Сцяжынкай вузкай палявою
Спяшу дадому пешаком.
Іду між смолак і званочкаў,
Дзе б’юць крыламі матылі, —
І не магу душу і вочы
Красой забытай наталіць.
І хочацца
раскінуць рукі
І моўчкі кінуцца ў траву,
Забыўшы болі ўсе і мукі,
Паклаўшы ціш пад галаву.
І ўбачыць зноў, як каля хаты
Хаваецца ў дрымотны цень,
Як бацька, ціхі і вусаты,
Крыху ссутулены ячмень.
А потым выбегчы знянацку
Да хаты з засені бяроз
І на двары аклікнуць бацьку

І маці,
        светлую ад слёз.

*1964*

## СКРЫПКА

Скрыпач яе ўзнімае з футарала,
Як немаўля заспанае з калыскі,
І чуйнымі даверлівымі пальцамі
Пяшчотна гладзіць кожную струну.

А потым беражна,
                        нібы руку каханай,
Ён да шчакі яе ласкава туліць
І нерашуча ўскідвае над ёю
Цяжкі наканіфолены смычок.

І вось
        смычок цалуе ціха струны,
Як быццам праганяе сон апошні
І асцярожна выпытаць спрабуе,
Дзе песня найзванчэйшая ляжыць.

А песня ўсё хаваецца гарэзна,
Смычок яе шукае — і злуецца,
І ўжо ў адчаі
                    па халодных струнах,
Нібы крылом буслiным,
                                гулка б’е.

Вы думаеце,
                    скрыпцы не балюча,
Калі скрыпач яе смычком пілуе,
Калі вось-вось, здаецца,
                                разарвуцца
Усе чатыры чуйныя струны?

Вы думаеце, так,
                        без болю,
                                песня
Народзіцца ў маленькай, кволай скрыпцы?..
О, вам тады яшчэ не біў па сэрцы
Смычок турбот бяссонных і трывог…

А скрыпка грае.
                                І ніхто на свеце
Спыніць не зможа і зламаць не зможа
Над чуйнымі разбуджанымі струнамі
Буслінае імклівае крыло.

Яно
        то ўверх рванецца нечакана,
То ўніз сарвецца,
                                то абвяне раптам
І затрапеча ціха і пакорна
У скрыпача ў бязлітаснай руцэ.

І песня
              то ад шчасця захлынецца,
То зойдзецца ў душы схаваным болем,
Такім салодкім і такім нясцерпным,
Аж закіпаюць слёзы на вачах.

*1965*

## НЕБА І ЗЯМЛЯ

### 1

О неба,
              зорнае і ціхае,
Крыху пабляклае ад сну,
Табой,
              як сіняю хусцінкаю,
Я любай плечы ахіну.

І на прыжмураныя вейкі,
Нібы дрыготкую расу,
Парывістым світальным ветрам
Ёй зоркі ўсе твае страсу.

Хай,
        таямнічая і яркая,
Са дна вачэй каханых мне
Недасягальная Палярная
Хоць раз гарэзна падміргне.

Хай чохне кроплямі цяжкімі
Сузор’е Лебедзя ў жарству…
А хочаш —
я каханай імем
Цябе навекі назаву
І на руках насустрач сонцу
З каханнем разам панясу,
Плячом рассоўваючы сосны,
Дыханнем сушачы расу?..

О неба,
ціхае,
світальнае…
Мы пад шатром тваім стаім
З салодкай сённяшняю тайнаю
І лёсам заўтрашнім сваім.

І недзе ўжо сініца цінькае.
І салавей канцэрт пачаў.
А ты — блакітнаю хусцінкаю
Трымціш у любай на плячах.

2

Няўжо хто верыць,
што мы ўсе на небе,
Што ў пекле і для нас кіпіць смала?..
Мы на зямлі.
Пад Ржэвам і пад Невелем.
Мы ўсе ў зямлі.
І самі ўжо — зямля.

Мы па зямлі
паўзводна і паротна
Ішлі,
паўзлі,
займалі рубяжы.
І падалі на ёй,
на нашай роднай,
Ні разу не паспеўшы саграшыць.

А ў дымным небе «юнкерсы» кружылі.
О, каб на небе мы тады былі —

Мы б кулакамі крылле ім скрышылі,
Мы б іх смалой пякельнай залілі.

Хай потым чэрці нам ламалі б рэбры,
Хай потым нас засмоктвала б смала…
Ды мы ляжым.
                              У кожным воку — неба.
А пад плячамі —
                                  мулкая зямля.

Нас замятае восеньскае лісце.
Без нас да зор стартуюць караблі.
Мы на зямлі навекі засталіся,
Каб вы, жывыя, ў небе пабылі.

3

Зямля здрыганецца нема,
Асыплецца яблыняў бель.
У неба,
          у сіняе неба
Рванецца і мой карабель.

І ў поўныя жудасці нетры
Урэжацца, нібы ў забой,
Халодныя кіламетры
Пакінуўшы пад сабой.

Я знаю —
              ні Бога, ні чорта
Я там не сустрэну і ўноч,
Хоць неба, як сажа, чорнае,
Застыне ля самых ног.

Я знаю…
             А раптам, можа,
За цемрай маўклівай той —
Малочныя рэкі і мора
З рыбкаю залатой,
І сад у райскіх ранетах,
І лес без гадзюк і ваўкоў?..
І можна спыніць ракету,
І жыць сто зямных вякоў,
Абняўшыся з сонцам і небам,

Ахутаным зорнай луской,
Над воблакамі і снегам,
Над мітуснёю людской…

Нязнаная радасць спакою.
Блакітная ў садзе трава…
Ды я нецярплівай рукою
Рвану паслухмяны штурвал.

І сэрца трывожна заные,
Калі пад грымучым крылом
Лясы і азёры зямныя
Зноў лягуць духмяным скрылём.
І кінуцца стэпы пад ногі
З травою, ад пылу сівой,
І неба, такое зямное,
Аслепіць мяне сінявой.

Запахне жывіцай і хлебам,
Забомкаюць сонна чмялі…
Нічога мне ў свеце не трэба —
Ні неба, ні зор — без Зямлі.

*1965*

* * *

Калі зямля спакойна засынае
І ў зорак нават сплюшчваюцца вейкі,
Тады здаецца, што на цэлым свеце
Не спяць адны вартаўнікі.

А інвалідам і тады не спіцца,
Смыляць незарубцоваными раны,
І нудна, аднастайна, раўнадушна
Пратэзы ў цішыні начной рыпяць.

Успыхваюць у цемры папяросы —
І дым,
ад дум салдацкіх пасівелы,
Плыве,
плыве бясконцым Шляхам Млечным
І колькі год ніяк не растае.

На вуліцу выходзяць інваліды,
Каля прысад пахаладзелых крочаць —
І быццам зноў ваенны вецер вее
І тысяча гаёў пад ім рыпіць.

Яны ідуць з прыгнутымі плячыма,
Нібы параненых таварышаў выносяць
З цяжкіх сваіх ваенных успамінаў,
З далёкіх акрываўленых гадоў.

Бяссонніцу праносяць інваліды
Па вуліцах дваццатага стагоддзя.
І ў іх вачах гарыць, не патухае
Ці то чырвонае густое сонца,
Ці бітваў незакончаных агонь.

А на зямлі спакой світальны дрэмле,
І ў зорак нават сплюшчваюцца вейкі.
І ўсім здаецца, што на цэлым свеце
Не спяць адны вартаўнікі.

*1965*

## БАЛАДА ПРА МІНЁРАЎ

*Васілю Быкаву*

Дваццаць гадоў
                    неадступнаю зданню
Былое трывожыць салдацкія сны…
Штоночы ўстаюць і ідуць на заданне
Хлопцы-мінёры апошняй вайны.

Топчуць боты палын прагорклы
І недаспелыя каласы.
Абнюхваюць кожны грудок і пагорак
Мінашукальнікаў тупыя насы.

Здаецца,
          вайна так даўно адгрымела.
Акопы быльнягом зараслі…
А мінёры ходзяць нясмела
Па зямлі.

Мінёры пад ногі глядзяць з апаскаю:
Не наступіць бы
праз дваццаць год
На выбух
ці на сябраву каску,
Прабітую навылёт.

*1965*

## НЕКАЛЬКІ ЗАНАТОВАК НА ХАДУ

Цікавыя стварэнні — людзі!

Глядзець на іх часам забаўна,
Калі бягуць на работу,
Ці пруцца ў набіты аўтобус,
Ці проста гуляюць з малымі,
Або чакаюць сяброў.

Кожны надзіва розны…

Адзін, як дзіця, наіўны,
Жанчын прапускае наперад,
Не топча ногі суседу
І з жахам глядзіць на гадзіннік,
Не залезшы ў дзесяты аўтобус.

Другі, як індык, надзьмуты,
Вядзе за руку малога,
І на твары круглым такое,
Што бачны ў яго за спіною
Агромністы халадзільнік,
Пыласос і машына пральная,
І жончына моднае футра,
І новенькі тэлевізар,
І ля сэрца — ў ашчаднай кніжцы —
Палавіна блакітнай «Волгі».

А трэці сяброў чакае.
У кішэні паўлітра грэецца
І паўкілаграма ліварнай.
І ён злуецца даўно,
Што вецер гайдае ліпы

І лісце пад ногі сыпле,
Што сяброў не відаць
і трэба
Чакаць яшчэ паўгадзіны,
Пакуль адкаркуюць бутэльку
І ў шклянку нарэшце пальецца
Цёплая і дарагая вадкасць.

Цікавыя стварэнні — людзі…

Гаварыць з імі часам забаўна,
Калі цягніка чакаеш,
Або сядзіш на футболе,
Ці каля рэпрадуктара
Слухаеш выпуск навін.

Кожны надзіва розны…

Адзін чытае газету
І ніяк зразумець не можа,
Чаму там усё так правільна,
А ў яго на рабоце
начальнік
Выпісвае тры газеты
(Усе як адна цэнтральныя),
І лаецца горш, чым рамізнік,
І зяцю дае кватэру,
І маніць штодзень «вярхам».

Другі на футболе свішча,
Жартуе бесперастанку,
А потым раптам пытаецца,
Чаго гэта столькі народу
На стадыёны прэцца,
Калі ў філармоніі Брамса
Іграе аркестр самадзейны,
А ў кнігарні прывезлі
Цудоўны томік Петраркі.

А трэці —
усё пра дарогі,
І пра старэнькую маці,
Якой вельмі сумна адной,
І зноў пра Сібір, палаткі,

І пра рыбацкі сейнер,
І пра касмічныя караблі…

Цікавыя мы стварэнні, людзі…

*1965*

## ПАЛІЦАЙ

Дваццаць год яму ўжо больш не сніцца
Сіні бор і сіняя Дзвіна.
Як ні кінь —
усюды заграніца.
Шлях дамоў адрэзала вайна.
О, пракляты тройчы сорак першы,
«Юнкерсаў» цяжкі, нахабны цень!..
Не збіраўся ні страляць, ні вешаць,
Ды страляў — хацеў ці не хацеў.
А цяпер — як ні малі, ні вохкай —
Не даруюць здрады ні на міг
Трое хлапчукоў блакітнавокіх,
Трое тых заложнікаў малых…
За спіной — усе трынаццаць пеклаў,
Дваццаць пяць дзяржаў і сто дарог,
Ды ад тых даўгіх халодных петляў
Ні схавацца, ні ўцячы не змог.
Вось яны гайдаюцца на клёнах,
На слупах, у засені бяроз.
Самым страшным на зямлі праклёнам
Крэсляць зноў і зноў ягоны лёс.
І за ім, як злосная ваўчыца,
Што згубіла недзе ваўчанят,
Будзе вечна следам валачыцца
Чорны жах блакітных вачанят…

*1965*

* * *

Я ўваходжу ў лес,
нібыта ў хату,

Дзе згадкі ўсе мае ў зацішку спяць.
Іду між сосен, гонкіх і кашлатых,
І чую, як маснічыны рыпяць.

Тут недзе маці сабірае думы
У кошык, поўны выспелых суніц.
І лес сівым вясковым тугадумам
Над кожнаю сцяжынкаю стаіць.

Я перад ім схіляю голаў нізка —
І чую, як у мудрай цішыні
То ліпа раптам зарыпіць калыскай,
То скрыпкаю яліна зазвініць.

Я чую,
          як на ўзлеску верасовым
Зязюля лічыць і мае гады.
І ціха ў сэрцы прарастаюць словы,
Цяжкія, як рудыя жалуды.

*1965*

* * *

Грамы варочаюцца ў небе,
А на зямлі спакой такі,
Ажно чуваць, як звонка недзе
Лапочуць крыллем матылькі.
Ні самалёта. Ні сініцы.
Стаяць бярозы, нібы ў сне,
Пакуль ламанай бліскавіцай
Па небасхіле паласне,
Пакуль дрымотна забуркоча,
З-за хмары выкаціцца гром,
Загрукае пустою бочкай
І разаб'ецца за бугром.
Ляжыць зямля стамлёна, нема
І сніць той непаўторны міг,
Калі ў грамах падорыць неба
Ёй ласку кропель дажджавых.

*1965*

* * *

Над дарогай —
туман ці пыл.
Ля дарогі —
маўклівы сад.
І гудуць, і гудуць слупы,
Як і дзесяць гадоў назад.

І над сцежкаю палявой
Васількамі — мае гады…
Ці то зоркі над галавой,
Ці то яблынь цяжкія плады.

Вецер шастае баравы,
Глуха грушы старыя рыпяць…
Ці то ў вырай ляцяць журавы,
Ці то песні не хочуць спаць…

Зноў для кожнай травінкі свой
Я на мілай бацькоўскай зямлі.
Толькі маці стала сівой…
Толькі яблыні адцвілі…

*1965*

## ЯК ПЕСНЯ НАРАДЖАЕЦЦА

Як часта на сцяжынцы палявой
Яна ўва мне прачнецца нечакана
І па спакойным і будзённым сэрцы
Ударыць мяккім, трапяткім крылом!
І ціхі вецер камяком гарачым
На міг маё дыханне перахопіць,
І я глыну яго —
і цёплай хваляй
Ён паплыве ўладарна па крыві.
І галава закружыцца, і ў роце,
Нібы ў спякотны поўдзень, перасохне,
І летуценне вочы затуманіць,
І я спынюся пасярод зямлі.
Тады вось
з глыбіні душы шчаслівай

Нясмела, нетаропка і ўрачыста
Бліскучай рыбай слова усплыве.
І рынуцца за ім другія словы,
Задыханыя, потныя, цяжкія,
Зацокаюць бязладна капытамі,
Закруцяцца шалёным табуном.
Я іх спыняць не стану.
                                Хай бушуюць,
Падковай з сэрца выкрасаюць іскры
І радасцю шчымлівай, першароднай
Калоцяцца нястрымана ў грудзях…
Да кожнага я буду прымярацца.
Я кожнае акіну хітрым вокам —
І самых наравістых адбяру.
І буду з імі мучыцца і плакаць,
Спрачацца буду з імі і смяяцца,
І лашчыць буду і ўтаймоўваць іх,
Пакуль яны збяруцца добрым ладам
І самым лепшым моўчкі ўступяць месца
(О, каб заўсёды так было ў жыцці!).
Тады,
        пахаладзелы ад здзіўлення,
Пачую я, як прарастае песня,
Як цёплыя і трапяткія крылы
Узносяць над прыціхлаю зямлёй
У слова пералітае імгненне,
У слова пералітыя гады.

*1965*

* * *

Ты пазваніла мне з дзяцінства,
Далёкага, амаль забытага, —
І сэрца мне ўспамінам сціснула,
І сэрца спуджана забілася.

Няўжо былое зноў вяртаецца,
Няўжо навекі не памерлі
І клятвы даўнія,
І тайны,
І вернасць даўняя,
І вера?..

…У сэрцы
і ў мембране выстылай —
Твой смех,
як майскія грымоты.
Ты пазваніла мне з дзяцінства,
Далёкага
І незваротнага…

*1965*

## КРАЙ МОЙ…

Не залаты зусім,
не срэбны,
Быў на табе заўсёды ўбор
Звычайны самы,
самы зрэбны —
Зялёны луг ды сіні бор,
Каля дарогі жыта ў полі,
Вярба старая ля ракі
Ды ў жоўтым восеньскім прыполе
Рабін даспелых аганькі.

Ты не сляпіў вачэй.
Быў просты
Ва ўсе вякі твой родны ўзор:
Гаёў бялюткая бяроста,
Густы блакіт лясных азёр,
І лён, зусім як неба, сіні,
І ўсе ў рамонках берагі…
Мой беларускі,
мой адзіны
Край ад калыскі дарагі…

*1966*

## ХЛАПЧУКІ

Нас усё хлапчукамі клічуць,
Нас усё блазнюкамі лічаць,
Пацяшаюцца «дружбакі».

Спачуваюць, калі вытыркаемся,
Ушчуваюць, калі не каемся.
Кпяць паблажліва: «Хлапчукі!»

Мы бунтуем з запалам хлапечым,
Аб высокіх ідэях ляпечам,
Пром да ісціны напрасткі.
А яны аціраюцца ззаду,
Выглядаюць сабе пасаду
І пасмейваюцца: «Хлапчукі!»

Прынцыповасцю іх не купіш.
Яны носяць магутны кукіш
Там, дзе цёплыя кашалькі.
Асцярожныя, як дыпламаты,
Не агрэюць ніколі матам,
Проста зморшчацца: «Хлапчукі!»

Мы ж
　　　(даруйце нам дур маладую)
Іх апраўдваем і шкадуем,
Не сціскаем на іх кулакі.
Мы, нібы паслухмяныя дзеці,
Ім прыпісваем дабрадзейнасць,
Намі выдуманую…
　　　　　　　　Хлапчукі!

А сыны нас бацькамі клічуць,
А дзяўчаты дзядзькамі лічаць,
Не працягваюць юнай рукі.
Мы развітваемся з вясною,
Заручаемся з сівізною,
Палыселыя хлапчукі.

І злуюцца салідныя «монстры»
(Ажно лоб намаршчынены мокры),
Што ні ў якія ўжо вякі,
Мнагавопытным і ўсёмагутным,
Да партфеляў цяжкіх прыкутым,
Ім не крыкне ніхто: «Хлапчукі!»

*1966*

* * *

Па той зямлі,
дзе ўсё табою дыша,
Дзе твой каснік заблытаўся ў траве,
Плыве ў чаўне сярод туману ціша,
Мой сон пудлівы да цябе плыве.

З чужых краёў да вокан незабытых
Яго ўспамінам ціхім занясло.
Ляжыць вясло зламанае,
нібыта
Сіваваронкі шызае крыло.

І ходзіць над садамі сонны месяц,
І ў вокнах гаснуць познія агні…
Калі ты ўбачыш човен каля весніц —
Не адгані яго,
Не адгані…

*1966*

* * *

Мая вясковая хаціна,
Пасляваенны горкі лёс!
Прымі мяне,
бадзягу-сына,
У цёплы цень сваіх бяроз.

І дзверы, што выходзяць к лесу,
Не замыкай хварасцінай,
Хай злосна зарыпяць завесы,
Даўно не мазаныя мной,
Хай у струхлелых сценах цесных
Сустрэнуць зноў мяне
Спакой,
Старэнькі стол,
прапахлы цестам
І мокрай рыбінай луской,
Вуглы закопчаныя тыя,
Дзе ціха плакаў хлапчуком,

Дзе ахінуліся святыя
Вясковым белым ручніком…

Не думай, што забыў лучыну
І нізкі ссечаны парог.
Я ўсё, чаму мяне вучыла,
У сэрцы беражна збярог.

Ты не становішся чужая,
Хоць ганак твой імхом зарос.
І я на споведзь прыязджаю
Сюды,
        у цёплы цень бяроз…

*1967*

* * *

У лясах
Чужынцаў косці
Дагніваюць.
А былых салдатаў
Кулі
Даганяюць.

То інфарктам,
То сухотамі —
А толькі
Праразаюцца
Варожыя асколкі.

Хлопцы падаюць
Без крыку
І без стогну.
Раптам
Рана незагоеная
Торгне.
І аглушаць
Пульсу
Ціхія удары,
І на вочы
Наплывуць
Чужынцаў твары.

Не закрыцца
Ні акопам,
Ні бранёю,
Ні мінулай
Пераможнаю
Вайною.
Тыя кулі,
Што калісь
Заселі ў целе,
Даляцелі ўсё ж
Да сэрца,
Даляцелі…

*1967*

* * *

У твар дыхнула водарам вясны.
І адурманіў сіні хмель лясны.
І ўбок —
усё няпэўнае на свеце.
Убок —
зімовы халадок трывог.
Ля самых губ —
бярозавае вецце,
І кветка-сон —
каля стамлёных ног.
І звоніць, звоніць над палянай голай,
Аж песняй захлынаецца, жаўрук…
Ускінь насустрач гэтай песні голаў,
Ускінь насустрач сонцу промні рук,
Смакуй, як найсвяцейшае прычасце,
Гаркавы вецер, цёплы дух лясны…

Што ні кажыце,
ёсць на свеце шчасце,
Пакуль дурманіць сіні хмель вясны.

*1967*

* * *

Уцякаюць хлопцы ў гарады,
Ад зямлі бацькоўскай уцякаюць.
Іх плугі і косы не цікавяць,
Надакучыў жніўня пыл руды.

Што паробіш? Можа, век такі?
Можа, ўмеюць хлопцы час падслухаць?..
Вёска, нібы дзеўка-векавуха,
Пазірае ўслед ім з-пад рукі.
Не гукне, не ўсхліпне наўздагон.
Хай ідуць, няхай у шахты лезуць,
Здабываюць вугаль і жалеза,
Прыручаюць вецер і агонь.

На палях не ўзыдзе кураслеп…
Ды пад старасць хлопцам здасца дзівам,
Як гэта зямля
без іх
радзіла
Аржаны незамянімы хлеб.

*1967*

* * *

Другія з доўгіх падарожжаў
Дамоў, да любых у двары,
Што найдзіўней,
Што найдарожай
Вязуць заморскія дары.

А я з далёкае дарогі
Табе на памяць прывязу
Падкову —
месячык двухрогі
І зорку —
сінюю слязу.

І, не абмыўшы пот салёны,
На шчасце наша ці бяду,

Табе ў халодныя далоні
Свой лоб гарачы пакладу.

*1967*

* * *

Хто раней,
хто пазней,
Толькі ўсе
Зноў і зноў
Мы прыходзім
Да простых,
як хлеб і паветра,
Высноў:
Што жыццё чалавеку —
Любому —
Даецца адно,
І што,
як ні надточвай,
Кароткае вельмі яно,
І што праўда на свеце
Адна —
Без крупінкі маны,
І што шчасця на свеце
Няма
Без сваёй стараны…
Колькі б ты ні мудрыў,
Як ні кідаўся б ты,
А прыходзіш
Да гэтай святой прастаты.
І ўзыходзяць
Над лесам
Пражытых табою гадоў
Непагасныя зоркі
Законаў бацькоў і дзядоў.
Прарастаюць зярняты
Яшчэ невядомых навук
На шырокіх далонях
Натруджаных рук.
І нідзе

Не схавацца
Ад сынавых ясных вачэй.
І на свеце тады
Жыць намнога цяжэй
І лягчэй.

*1968*

* * *

Люблю свой край,
Зялёны і спакойны.
Сіваваронкі дрэмлюць на слупах.
Над хатамі —
Вясёлыя шпакоўні,
А ў хатах —
Аржанога хлеба пах.

Усё вакол
знаёмае да болю:
Збягаюць незабудкі да вады,
Сядае важна бусел на таполю,
Ад ластавак абвіслі правады.

На ноч сплывае сонца за жытное.
Свой невад туманы павалаклі…
Святое,
непрыдуманае,
тое,
Чаго не знойдзеш на чужой зямлі…

Такім свой край навек люблю і помню.
І калі згасне сонца у вачах, —
Мне будуць сніцца кожны дзень
шпакоўні
І аржанога хлеба родны пах…

*1968*

* * *

Хтось палюе на сініцу,
Нехта ловіць жураўля…
Мне ж багацце і не сніцца —
Толькі родная зямля,
Толькі маці,
Толькі песня,
Кнігаўкі над лугам крык…

Лёс мяне не вельмі песціў.
Я да простага прывык.
І багацця мне не трэба,
Без прысмакаў пацярплю —
Толькі б хлеба,
Толькі б неба
Ды бацькоўскую зямлю…

*1968*

## У ДАРОЗЕ

Я зноў зялёнай магіі дарог
Душою падарожніка прадаўся.
І вось, нібы сярэбраны гарох,
Дождж барабаніць па вагонным даху.
Цяжкія колы над зямлёй грымяць
З далёкімі грамамі ўперамешку.
А луг заве саскочыць
і прымяць
Званочкі танканогія на ўзмежку.
Праносяцца слупы і правады.
Наўзбоч —
калюг блішчастыя асколкі.
У небе з чыстых кропелек вады
Гром выкаваў сабе дугу вясёлкі.
П’яніць гаёў абмытых гамана.
І мне, зачараванаму, не сорам,
Што, як хлапчук, прынікнуў да акна
І захлынуўся ветрам і прасторам.

*1968*

* * *

Ідуць дажджы.
Асенняя пара.
Заплаканыя вокны спахмурнелі.
Аўторка не адрозніш ад нядзелі,
Ад быльнягу — шпачынага пяра.
За тыдзень свет, здаецца, пастарэў.
За вёскай — непралазнае балота.
Апошняя цяжкая пазалота
Злятае з абсвістаных ветрам дрэў…
А потым
сонца высветліць блакіт,
І дрэвы ўміг ізноў памаладзелі,
І над ракою ў золаце нядзелі —
Наструненыя постаці ракіт…
Заблытаны лісткі календара.
У чыстым небе,
маладым і сінім,
Перапляліся промні з павуціннем…
Ах, восень,
пераходная пара…

*1968*

* * *

Сняжынкі на расстанне,
Дажджынак першы звон.
Салодкае вяртанне
У красавіцкі сон.

Там пад зімовай маскаю —
Вясны гарэзны смех.
Там, як вяснушкі майскія, —
Праталіны праз снег.

Над соснамі, асінамі
Гуляюць па бары
Зялёныя і сінія
Залётныя вятры.

На вербах разапрэлых
Скідаюць кажушкі
Нахохленыя, белыя
Тугія каташкі.

І сонца хмары ссоўвае,
Глянцуе неба сінь.
І ўсё вакол часовае,
Няпэўнае зусім.

Але ўжо над таполямі
З відна і да відна
Крыламі б’е няўтольная,
Няўмольная вясна.

*1968*

* * *

У гаях лапоча лісце,
Што да восені — нядоўга.
Я ж спяшаюся кудысьці
Разам з новаю дарогай.

Не хаваю дні ў прыполе —
Рассяваю поўнай жменяй.
Што ні дзень — жыцця ўсё болей,
Што ні дзень — жыцця ўсё меней.

А на сэрцы, як ні дзіўна,
Ні хмурынкі шкадавання,
Што ўжо столькі адхадзіў я,
Столькі вытаптаў дазвання.

Толькі сум нахлыне часам,
Варухне душу трывога,
Што вяртаюся не часта
Да бацькоўскага парога.

Я іду на кліч ласіны,
Да бароў смалістых еду.

І за мною — сіне-сіне:
Васількамі дні па следу…

*1968*

* * *

Ты, мой народ, мяне не папракнеш:
Я ўсё табе аддаў —
жыццё і сілы.
І не баюся я ані магілы:
Ты ж, мой народ, мяне не папракнеш.

Я ведаю:
не вечны шлях жыцця,
Не вечнае знядужалае сэрца.
Яно ў грудзях аднойчы разарвецца.
Я ж ведаю:
не вечны шлях жыцця.

Ды мне не страшна:
нешта застанецца
Пасля мяне ад дум маіх і спраў,
Ад парыванняў, што ў душы сабраў.
Я веру:
нешта ў свеце застанецца.

Застанецца
на роднай зямлі грудок.

Застанецца
на роднай мове радок…

*1968*

* * *

Не ўгонішся ніяк за часам
Ні цягніком,
Ні на кані.
Зноў разбрыліся самапасам
Табе адведзеныя дні.

За ўсім адразу не паспееш,
Жыццё, як воблачка, сплыве.
І валасоў, брат, не пасееш
На аблыселай галаве.

І шчасця хітрую жар-птушку
Не зловіш за агністы хвост,
Як ні прыладжвай ёй кармушку,
Як ні бяжы за ёй наўпрост…

Усё будзённей і звычайней,
Усё прасцей і весялей.
Не варта кідацца ў адчаі,
Калі ты сёння не ў сядле.

Жыві сваёй галоўнай працай,
Трымайся даўніх добрых вех…
А што за часам нам не ўгнацца,
Дык гэта ўжо такі наш век…

*1969*

* * *

Колькі б нам за жар-птушкаю ўслед ні ганяцца,
Усё роўна прыблудзім назад у сяло,
Дзе ў далёкім юнацтве,
У шчаслівым юнацтве
На цара-жураўля майстравалі сіло.

Ціха сонца за хаты старыя садзіцца.
Пачынаюць рабіны ў дварах ружавець.
У сяброў па садах
Сыта звоняць сініцы.
І крычыць недасяжна ў небе
мой журавель.

Мы ідзём па сцяжынках, на якія не вернемся.
Мы ідзём па дзіцячых здзічэлых лясах.
Павуцінка — уверсе.
Павуцінка — у верасе.
Павуцінка — ў маіх валасах…

*1969*

* * *

Мы хочам зразумець галактык мову.
А хто мне скажа,
                думае аб чым
Сцяжынка ў полі,
                спелы бор сасновы,
Рачулка,
        што прыцмоквае ўначы?

Хто разгадае слёзы шэрай кані?
Хто расшыфруе для маёй душы
Аленя закаханага рыканне
І салаўіны цёхкат у цішы?

Свае званы пагойдваюць азёры.
Звініць гаёў кастрычніцкая медзь…
Мы слухаем маўклівае міжзор'е,
А блізкіх нам не можам зразумець.

*1969*

* * *

Лісцё асыпалі бярозы.
Буслоў не бачна за ракой…
Нібы на споведзі,
            цвярозы
Сыходзіць на душу спакой.
Пражытыя табою годы
Ляцяць, як жалуды ў траву.
Негаваркі сялянскі одум
Схіляе нізка галаву.
Успамінаюцца шляхі ўсе,
І прызнаешся у цішы,
Што па-блазенску мітусіўся
І часта,
        як хлапчук, спяшыў,
І нёс вядро сваё няпоўным,
І спатыкаўся шмат разоў,
І хваляваўся не галоўным,
А выпадковай драбязой…

Ах, колькі жалудоў мадзее
На намі ўтоптанай зямлі…
Але не выкідай надзею —
Каб тыя,
што яшчэ рудзеюць,
Праз лісце прэлае ўзышлі…

*1969*

## НЕКАЛЬКІ ЖАРТАЎЛІВЫХ ДЫЯЛОГАЎ

### З сонцам

Вечар па небе едзе
На аднаколавым веласіпедзе.
Тармозіць —
і затухае
Бліскание чырвоных спіц.
Сонца за цёмныя сосны
Скацілася недзе.
Спіць.

Як там яму — у Амерыцы?
Не горача?
Не мулка?
Усё-такі Амерыка —
Не наша старана.
Там і каровы, напэўна,
Па-іншаму мукаюць,
І капіталісты стаяць ля стырна…

І пайшоў я да сонца ў Амерыку.
Пералез праз хрыбет Урала.
Праз Енісей пераскочыў.
Прадзёрся праз зялёнае шчаціннe тайгі.
І прыйшоў.
А сонца не спала.
І злосць мяне разабрала:
Што гэта за беспрынцыпнасць —
Свяціць і тым, і другім?

Такая непераборлівасць
Са здрадаю нават мяжуе.
Вось вам і ўсёдаравальнасць,
І прымірэнчасць сама:
Уранні — грэе рабочага,
Увечары — грэе буржуя.
А кажуць яшчэ,
Што на сонцы плямаў няма.

Сонца глядзіць спакойна.
Не спрачаецца і не сварыцца.
І кажа:
— Не кіпяціся.
Хто можа мяне самалётам дагнаць?
Хто мікраклімат мае?
Хто грэецца кварцам?
Знаць.

А хто ў жоўтай Афрыцы
І ў блакітнай Грэцыі
Майму кожнаму промню,
Як выратаванню, рад,
Каб пасля галоднага вечара,
Пасля начы беспрытульнай сагрэцца?
Пралетарыят.

Ніхто без мяне —
Ні Бог, ні міласэрная пані —
Не запаліць жабраку
Надзеі тонкую стэарынавую свячу.
Вось і кручуся,
Чырвонае ад недасыпання.
Уранні — тут,
Увечары — там
Свячу.

Ты, чалавек,
Сам наводзь на зямлі справядлівасць.
Майго ж старога парадку —
Не руш…

…І я пакланіўся нізка.
І пачырванеў сарамліва.
І зняў капялюш.

## З мурашом

З вялізнай жоўтай саломінай —
Падгіналіся ногі аж —
Поўз па галінцы зломленай
Лупаты, лабаты мураш.

Спыніўся, каб дых перавесці.
І я падышоў да яго.
— Слухай, — кажу, — урэшце
Рвешся ты так чаго?

Ты ж ад работы чорны.
Аддыхайся, не спяшы.
Праўду пішуць вучоныя —
Дзіўныя вы, мурашы…

Ён сеў ля саломіны чынна —
Пот блішчыць на ілбе:
— Вам памагаюць машыны.
А мы ж усё — на сабе.

У вас і лазер, і атам,
І краны, і трактары.
А ў нас —
Шэсць лап слабаватых
Ды цёплае сонца ўгары.

У нас трэба ўсё самому.
На ўласным сваім плячы
Колькі цяжкіх саломін
Трэба прывалачы!

Выспацца нават некалі:
Лёг, а ўжо трэба ўставаць…
Паслухай,
Будзь чалавекам —
Не перашкаджай працаваць!..

## З трутнем

На пасецы ўсё ад звону гуло.
Стаяў гармідар вясёлы.

То мчаліся ў ранішні луг за сяло,
То назад вярталіся пчолы.

Стамлёна спускаліся да латака,
З ног абтрасалі ўзяткі.
Як хмарка, крылатая талака
Мільгала ля кожнай хаткі.

Пачаўся летні духмяны дзень,
Сонечны,
            доўгі,
                        трудны.
А за калодай, дзе шэры цень,
Ляжалі сонныя трутні.

Адзін пазяхнуў,
                        пачухаў спіну,
Выпрастаўся з асалодай
І мне па-змоўніцку падміргнуў:
— Глынуць бы вады халоднай!

— А як жа пчолы?
За рэйсам рэйс
Шнуруюць на луг далёкі…
— Дурныя!
Маглі б пачакаць, padурэць,
Налёталіся б пасля спёкі.

Што, іх гоніць нехта ў каршэнь?
Ты расшчапі калоду —
Хопіць усім нам на цэлы дзень.
Там жа, як лёду, мёду.

Не могуць гадзіны адной пасядзець,
Лепяць і лепяць соты.
А што, як раптам прыйдзе мядзведзь —
Бывай цэлы месяц работы!

Восенню выграбе мёд чалавек —
Паўгода штодзённай працы,
Цукру падсуне ім —
Жруць
            і павек
Не могуць ні ў чым разабрацца.

Да самага вечара будуць звінець,
Не вылузнуць ледзьве са скуры…
А я не працую.
Затое мяне
Ніколі ніхто не абдурыць…

Я ўжо нахіліўся яго раздушыць.
Ды раптам рука задрыжала:
У трутня ж напагатове заўжды
Доўгае вострае джала.

Ягоны балючы, пякучы агонь
На дзень мне жыццё атруціць…

…І зарагатаў ён мне наўздагон —
Вялізны калматы труцень:
«А ў мяне ж джала няма!»

*1969*

* * *

Яшчэ канькоў не навастрылі дзеці,
А восені ўжо як і не было.
Нячутна і нябачна падкрадзецца
Зіма амаль пад самае сяло.

Маўкліва прыме кволыя аковы
Пахмурая стамлёная рака.
І вось ужо на выгане вясковым —
Па першым снезе —
петлі шарака.

І зноў падкова звонкая раскроіць
У каляіне хрупаткі лядок.
І ўсё чутней абсіверыным скроням
Гадоў пражытых зімні халадок.

*1969*

* * *

Халодны сквер дашчэнту абляцеў,
Хоць бы лісток на вымаклай бярозе.
Паэзія ўступіла месца прозе.
Барвовы шум сваё адлапацеў.

Прымай дажджы,
як невясёлы лёс.
Таго не ўнікнуць, што наканавана.
Абложных хмар даўгія караваны
За далягляд завезлі сінь нябёс.

Вось так ужо прыдумана жыццё:
Дзе ніва спела,
Колецца іржышча,
Дзе сад шумеў,
Прамозглы вецер свішча,
Не за гарамі — завірух выццё.

Але затое бачацца ясней
І зеляніна завязі вясенняй,
І чэрвеньскага поплаву адценні,
І на яліне — першы чысты снег…

*1969*

* * *

Грукочуць дрогкія калёсы,
І ўслед за спуджаным канём —
Чарнавалосы і бялёсы —
Імчаць падлеткі сугрунём.

Мільгаюць збітыя калені,
Трымцяць кашулі на плячах.
І першароднае здзіўленне
Аж скача ў радасных вачах.

Ім дзівам казачным здалося,
Што па асфальце гарадскім
Грымяць падковы і калёсы,
Не выдуманыя нікім,

Што конь
жывы —
глядзіце самі! —
Перад арудаўскім пастом
Б’е капытом,
Стрыжэ вушамі,
Махае стрыжаным хвастом…

Вось так прыходзяць з новым часам
І казка новая, і быль…
Здаецца, ўчора я імчаўся,
Каб паглядзець аўтамабіль…

*1969*

* * *

Чуеш,
Наплывае цёплы гром?
Бачыш,
Зацвітае навальніца?
Не спяшайся ў свой зацішны дом
Ад сухога ветру зачыніцца.

Пачакай у садзе.
Не бяжы.
Хай знікае той, хто трэці лішні.
Не бяда,
Што летнія дажджы
Чохнуць з дрэў,
Як срэбраныя вішні.

Прытаіся на грудзях маіх.
І пад лопат вымытага лісця
Неба не зямлю,
А нас дваіх
Зыркаю маланкай перахрысціць.

*1969*

* * *

Як ні называем іх па-свойску,
Як ні абжываем гарады,
А паэтаў нараджаюць вёскі,
Як і ў даваенныя гады.

Пэўна, неабходна для зачыну,
Каб над хлапчуковай галавой
Прашумеў вясёлы май шпачыны
Чыстаю вясковай сінявой.

Пэўна, хочуць новых песень струны,
Каб крануў іх вецер баравы
Тонкімі смычкамі першай руні,
Язычкамі клейкімі ліствы.

Пэўна, неабходна для паэта
Нават і ў касмічныя вякі,
Каб звінела птушкамі паветра
І цвілі ля сцежак васількі…

*1969*

* * *

Не ўсюды роўная, прамая
Мяне дарога ўдаль вядзе.
І ўсё ж я ўсю яе прымаю —
І ў захапленні, і ў бядзе.

Прымаю гэты свет раскуты
З яго журбой і барацьбой.
Іду,
    гатовы на пакуты,
На неспакой і вечны бой.

Нясу з цярплівасцю салдата
Рубцы і мецiны байца
І прадзіраюся зацята
Праз супярэчнасці быцця.

І рад,
      што не праходзяць міма,
Не аціраюцца ў цяньку
Мае сябры і пабрацімы,
Гатовыя падаць руку,
Прыняць спакойна бой суровы,
Не праклінаць жыцця,
                                        калі
На нашы мёртвыя галовы
Пасядуць мірна матылі.

*1970*

* * *

Вечарамі на чужых узгорках,
Дзе чужыя кветкі між травы,
Як нам не хапае родных зорак
І салодкіх ветраў баравых!

Як душа апахмяліцца хоча
Хоць крупінкай роднага святла,
Хоць глытком жытнёвай цёплай ночы,
Хоць дымком бацькоўскага жытла!

Не заглушыш сум нічым,
                                        павер мне.
Лепей памяць даўнюю пакліч —
І дадому успамін паверне,
Як вясновы жураўліны клін.

І здалёку прыляціць палескі
Родны вецер.
Ты яго глыні —
І, нібыта раннія пралескі,
Зоркі расцвітуць у вышыні.

*1970*

* * *

Восень зноў надыходзіць —
І ў мяне на душы,
Як і ў роднай прыродзе,
Ціш і сіняя шыр,
І смуга, і лагоднасць,
І —
    да кроплі малой —
З небам крэўная роднасць,
Роднасць з мілай зямлёй.

Вяне клён гаманлівы.
Ні хмурынкі ўгары.
У гаях і на нівах —
Яснасць сталай пары.

Толькі ў сэрца пракраўся
Адгалосак тугі,
Што на лузе —
Не краскі,
А стагі.

*1970*

## КАМПРАМІСЫ

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Улева крок ці ўправа крок.
І ўжо жандар праходзіць міма,
І ўжо не ўзведзены курок.
І ўжо не выдумкаю злою
І не абразлівым радком,
А літасцівай пахвалою
Цябе аблашчваюць крадком.
Табе руку падаць гатовы,
Хоць і з аглядкаю,
                    а ўсё ж…
А за спіной — напагатове
Крывы, з зазубінамі, нож.

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Малочных рэчак берагі.
Давай другім і сам карміся.
Кінь сухары — еш пірагі!

Табе ваду заменяць супам,
Худы сяннік — пухавіком.
Ты толькі волю дай уступкам,
Сярод ваўкоў завый ваўком.
Ты толькі збоч,
ты толькі збойся,
Зняверся ў нечым хоць на міг —
І лоўка прашмыгне забойца
Тваіх сяброў, ідэй тваіх.

Ах, кампрамісы, кампрамісы —
Стратэгій тонкая гульня.
А ўжо душу халоднай пысай
Вынюхвае шпікоў гайня.
І ўжо ўсучыць лаўчыцца вораг
Свае паскудныя дары.
І ўжо сырэе гнеўны порах.
І ўжо тупеюць тапары.
А потым будзе кроў дыміцца,
Ударацць боты па касцях…

Ах, кампрамісы, кампрамісы!..
І рукі выпускаюць сцяг…

*1970*

## МЯШОК З МЕДАЛЯМІ
*(Казка-быль)*

Ішоў чалавек,
У руках — мяшок.
А ў ім —
Бляшкі-рэгаліі.
Сэрца дрыжыць —
За штуршком штуршок, —
Каб толькі не адабралі!

Гэта ж дажыўся
У рэшце рэшт.
Свая рука —
Уладыка.
Калі ніхто
Мех не адбярэ,
Чапляй адзнакі
Без ліку.

Глядзеў ён з нянавісцю
Па баках —
Горла гатоў перагрызці
Нават у лепшага дружбака,
З кім соллю дзяліўся
Калісьці.

Зайшоў чалавек
У дрымучы лес,
Сеў пад сасной зялёнай
І асцярожна
Рукой залез
У мех,
Поўны меднага звону.
І выцягнуў ордэн.
За ім — другі.
А потым — медаль блішчасты.
І паплылі ў вачах кругі.
І лес пахіснуўся ад шчасця.

Ён вешаў на правы,
На левы бок,
Прышпіліць на спіну стараўся.
І ўсё вакол,
Як затраўлены воўк,
Спалохана азіраўся.

І вось ужо,
З галавы да ног
Абвешаны ўсімі рэгаліямі,
Ён на нагах устаяць не змог —
І грымнуўся
На прагаліне.

Ваўкі завылі непадалёк.
На асінах залопала лісце…

Але адшпіліць
Хоць адзін медалёк
Рукі не падняліся.

А ў змроку
Стары пугач галасіў,
Яхкаў вяпрук галодны.
І не было ў чалавека сіл
Цягнуць на сабе ўзнагароды.
Паклікаць людзей,
Ад бяды ўцячы
Не далі чалавеку
Рэгаліі.
І моўчкі ваўкі маладыя ўначы
Ягоны шкілет абглыдалі…

…Таго чалавека
Зусім не шкада.
Ды недзе ж
Ляжыць на выгодзе
Яшчэ не пусты
Той мяшок —
І бяда,
Калі яго нехта знойдзе…

*1970*

* * *

*Нілу Гілевічу*

Не, я ужо даўно не малады.
Прыкідвацца юнцом бязвусым смешна.
Бягуць гады няўмольна і паспешна.
Навек згараюць знічкамі гады.

А ўсё здаецца:
не прапаў запал,
Не адшумеў крыламі ранак мілы.
І сэрца поўняць маладыя сілы,
І хмеліць галаву вясновы шал.

Ды ўсё не так, як некалі было.
І як ні горка ў гэтым прызнавацца —

Прайшло маё блакітнае юнацтва,
Сплыло маё ружовае вясло.

Няма ў мяне юнацкіх прывілегій.
Бяру ўсё па-даросламу ўсур'ёз,
І не баюся ўжо мужчынскіх слёз,
І не смяюся з сябравых элегій…

*1970*

* * *

Патухаюць, цямнеюць высі.
Зоркі ўспыхваюць над сінявой.
Да пляча майго прыхініся
Залатою сваёй галавой.

Чуеш вецер і чуеш вечар?
Чуеш, ціха бярозы рыпяць?
На твае худзенькія плечы
Асыпае звон зарапад.

Гэта я з табой вечарую,
Туманамі цябе чарую.
Васількоў шапатліваю моваю
Зачароўваю, зачароўваю.
Роснай сцежкаю, рэчкай ціхаю
Закалыхваю, закалыхваю…

І ад рук няўмелых,
нясмелых
Не схаваешся ты нідзе.
Поўня белая яблыкам спелым
На далоні твае ўпадзе.

Ты шапнеш мне адчайныя словы,
Што шаптаў табе ўчора я,
Вечаровая,
зачарованая,
Закалыханая
мая.

*1970*

* * *

Каля твайго паркана снег мяце,
Парыпвае азяблая ігрушына.
А я шукаю след твой зацярушаны,
Блукаю ў нескачонай маяце.

Завея рве свае пухавікі,
Па твары б'е халоднай белай лапай.
Мне хоць бы лёгкі ўзмах тваёй рукі,
Хоць бы прамень з тваёй настольнай лямпы.

Мароз тваё акно замураваў.
Паміж табой і мною — шкло настылае.
Ты каля печы грэеш рукі, мілая,
А я б дыханнем іх адаграваў…

*1970*

* * *

Мне часу не хапае, не хапае.
А за спіною — тупанне гадоў.
І сталасць мне на пяткі наступае,
А я за ёй угнацца не гатоў.
Дні пралятаюць клопатна і марна,
На дол спадаюць, быццам пыл сівы.
Усё часцей з блакітнага захмар'я
Мяне тужліва клічуць журавы.
І ўжо наіўна адкладаць на потым
Галоўны клопат і галоўны боль,
Калі гады адгарадзілі плотам
Так многа пражытага табой.
На доўгі век зямля ўсё больш скупая.
Вось і трывожна сэрцу ад таго,
Што часу не хапае,
                                    не хапае,
А пазычаць яго няма ў каго…

*1971*

* * *

Пад вятрамі згорбіліся ўзгоркі.
Сосны ўздзелі снежныя брылі.
Промні,
 як блішчастыя іголкі,
Рассыпае сонца па зямлі.

Цягнецца дарога Шляхам Млечным.
Зоркамі ўскіпае белы снег.
І не знаеш —
 вечны ці не вечны
Ты ў бяскрайняй гэтай белізне.

Можа,
 раптам колкі вецер зімні
Завірухай ранняю ўзмахне
І на крылы ледзяныя ўзніме
І ўжо не апусціць больш мяне.

Што ж,
 няхай усё, што маю,
 лясне.
Толькі аднаго да слёз шкада —
Гэты вось,
 заснежаны і ясны,
Мілы свет навекі пакідаць.

Хай ён і халодны,
 і калючы,
Без густой травы і сінявы —
Толькі ўвесь рыпучы і пявучы,
Заінелы,
 звонкі
 і жывы…

*1972*

* * *

Заморскія далікатэсы
Не падыходзяць для мяне…
Я выпечан з такога цеста,
Што толькі ў нашай старане.

Яго ўсчынялі ў пушчы сіняй
Пад булькат жвірыстых крыніц.
Яго бязлітасна мясілі
Цяжкія рукі чужаніц.

І разрывалі, распіналі,
І насміхаліся над ім.
І не віно і цукар клалі,
А слёзы з попелам сівым.

Але яно —
усім на дзіва —
Перацярпела здзек і жах
І паднімалася, «хадзіла»,
Расло,
нібыта на дражджах.

І розных вылюдкаў нямала,
Што лезлі к нам ва ўсе вякі,
Аб гэта цеста паламала
Свае хіжацкія клыкі…

*1972*

## ВЯРТАННЕ ПЕСНІ

*Ансамблю «Песняры»*

Аж хістае сцены палацаў
Гучных воплескаў вадаспад,
Калі хлопцы
«Скрыпяць мае лапці…»
Запяюць на сучасны лад.

Сэрцу радасна і балесна
Ад таго,
як прыходзіш зноў

Ты, мая беларуская песня,
Да сваіх і чужых сыноў.
    Дзе тыя выжарыны,
    Дзе тыя прашчуры,
    Што цябе,
                як жаваранка,
    Бераглі і лашчылі,
    У туманы хуталі,
    Грэлі пад пахаю,
    Ціхую-ціхуткую,
    Верасам прапахлую?..
Як крынічка,
                праз камні і наледзі
Ты прабілася з роднай зямлі,
І ніякія беды і нелюдзі
Замуціць цябе не змаглі.
    Ты ж мая адзіная,
    Ты ж мая ніўная,
    Ты ж мая радзінная,
    Ты ж мая жніўная,
    Ты ж мая вясельная,
    Ты ж мая вясенняя,
    Ты ж мая нязваная,
    Ты ж мая нязнаная,
    Да грудзей прытуленая —
    Матуліна…

Спявайце ж, хлопцы, спявайце!..

*1972*

## ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Не можа быць,
                каб доўга так было —
Вісела духата над спелым полем
І навальніцы сіняе крыло
Не заняло засмяглае раздолле.

Стаміўся свет ад млоснай цішыні.
Пад пылам задыхаюцца прысады.
Хоць бы Ілля на вогненным кані
Рассек глухую шэрасць далягляду!

Чакаюць верасы і каласы,
Каб зноў азону і дажджу напіцца.
Аглухлі сенажаці і лясы…
О, як марудна спее навальніца!..

***1972***

* * *

Божа мой, я адстаю ад часу,
Ад навейшай моды адстаю —
Небам
            рэактыўны праімчаўся,
Я ж
      бяссільна
                  на зямлі стаю.
З майскаю дажджынкаю халоднай
І слязінай цёплай на шчацэ,
Са сваім каханнем старамодным,
З недапітай чаркаю ў руцэ.
Не паспею дачакацца, мусіць,
Калі раптам,
                  як нябесны дар,
Мне звышгукавы сталёвы бусел
Скіне шчасце новае з-за хмар…
Нада мною,
                  як на сіняй ніве,
Растаюць дзве белых баразны.
Я стаю —
                  шчаслівы
                              і наіўны,
Грэшны,
            ачмурэлы ад вясны.

***1972***

* * *

Вышэй за ўсё цаню я волю,
Але прашу мной валадаць

Цябе,
засеянае поле,
Цябе,
азёр начная гладзь.

Вам,
вечаровыя паляны —
Прытулак ягад і грыбоў,
Я буду самым паслухмяным
Добраахвотнікам-рабом.

Я згодны выплаціць даніну —
І на свой лёс не наракаць —
Вам,
паламаныя яліны,
Табе,
засохлая рака,
Каб потым быў,
як свой,
прыняты
У дол маўклівы і руды,
Дзе спяць асеннія зярняты
І даспяваюць жалуды…

***1972***

## ПЫТАННЕ САБЕ І ІНШЫМ

І наша юнацтва нявечнае
Прайшло непрыкметна так!
Лысеючы і сівеючы,
Адвучваемся ад атак.

Як многа у нас звычайнасці!
Як мала у нас адчайнасці!

Як многа у нас прабачлівасці!
Як мала у нас прадбачлівасці!..

Гуляем з дочкамі ў ладкі,
Водзім сыноў на футбол,
Мосцім у заўтра кладкі,
А сэрца трывожыць боль:

Замнога ў хадзе запаволенасці,
Замала ў душы задаволенасці.

Хоць мы і не робім подлага,
Але і не робім подзвіга.

А намі ж яшчэ не растрачана,
Не вычарпана да дна
Адвага наша юначая,
Адчайная наша вясна.

Няўжо надыходзіць стомленасць?
Няўжо адыходзіць настойлівасць?..

***1972***

* * *

Не рабіце з людзей багоў.
Хай людзьмі застаюцца людзі.
Як пасля мы іх жорстка судзім!
Не рабіце ж з людзей багоў.

Не ўздымайце іх на п’едэстал,
Падстаўляючы ўгодліва спіну.
Усё роўна іх некалі скінуць…
Не ўздымайце ж іх на п’едэстал.

Не тапчыце мёртвых багоў,
Дачакаўшыся голасу неба.
Разбірацца з жывымі трэба.
Не тапчыце ж мёртвых багоў.

Ачышчайце душы свае
Ад бяздумнасці і багалюбства.
Слаўце волю і розум людства.
Як іх часта яшчэ не стае!

Не стварайце сабе багоў!

***1972***

* * *

Вечар сцішыўся.
Аж не верыцца —
Ні транзістараў,
ні машын.
Драч замоўк.
І плыве па верасе
Туманоў маўклівая сінь.

Толькі конік ля вуха цікае
Ды пад ганкам сапе шчаня.
Ах, якая сягоння ціхая
Вечаровая цішыня!

Як яна ўспаміны раскоўвае,
Летуценням дае прастор —
Неразгаданая, вясковая —
Ад расінкі да ранніх зор.

Светлячком палахлівым коціцца
Па душы маёй,
па траве…
Ну няўжо яна некалі скончыцца,
Назаўсёды з зямлі адплыве?

*1972*

* * *

Схаваўся месячык за дрэвы.
Міргаюць зоркі-спарышы.
Тваё акно салодка дрэмле
У цёплай жнівеньскай цішы.

Я сон твой палахлівы чую,
Да раніцы паберагу
Тваю даверлівасць начную,
Тваю няясную тугу.

Не пабягу,
як неба грымне,
За лесам рэха крактане

І грукнуць срэбраныя грыўні
Па незачыненым акне,
Як ломкае святло маланкі
На момант выхапіць з начы
Твае закрытыя фіранкі,
Каля паркана касачы…

Я сцерагчы ўсё роўна буду
Цябе,
        шчаслівую ад сну,
Сябе,
        цыбатага няўклюду,
І нашу першую вясну…

*1972*

* * *

Вы чуеце —
                    чаромха расцвіла?
Гайда ў лясы,
                    у веснавыя нетры!
Раз’ятраныя, халастыя ветры
Гуляюць ад сяла і да сяла.

Чаромхавая бель —
                              як цёплы снег,
Як незаплямлены вясельны вэлюм…
І галава ўжо кружыцца завельмі,
І так салодка вабіць першы грэх…

Заві сваю адзіную,
                              заві,
Бяжы да мілых вуснаў напярэймы,
Ламай чаромхі душныя бярэмы,
Кідай вясну да ног сваёй любві.

І шчасцем спапялі душу датла
Рашуча,
            безразважна
                              і чароўна…

Ах, што ты робіш,
горкая чаромха!
Навошта гэтак рана расцвіла?..

*1972*

## УДЗЯЧНЫ ЛЁСУ

Я ўдзячны лёсу,
што з усіх краёў
Ён выбраў для мяне навекі
гэты,
Дзе бальшакі прастуюць між гаёў,
А па сцяжынках коцяцца ранеты,
Дзе Нарач мые сінія шаўкі
І п'юць з Дняпра паўдзённыя вясёлкі,
Дзе з салаўямі дражняцца шпакі
І жыту голас дораць перапёлкі.

Я ўдзячны лёсу,
што ў сябры мне даў
Далёкія і блізкія дарогі
Да прыамурскіх сосен і застаў
І да вяршынь Паміра крутарогіх,
Да кіеўскіх пявучых вечароў
І прыбалтыйскіх гаркаватых ветраў,
Да звонкіх чар малдаўскіх ганчароў
І велічнай маўклівасці Ай-Петры.

Я ўдзячны лёсу,
што ва ўсе часы
Мая блакітнавокая радзіма
Не засланіла мне чужой красы,
Мяне ад свету не адгарадзіла,
Што не магла,
не ўмела быць другой,
Жыла ў суседстве і братоў цаніла
І што ў сябрыне нашай дарагой
Яе завуць усе сястрою мілай…

*1972*

* * *

Ад залысін да лысін
Дажываем патроху
І ад пошукаў ісцін —
Да пакут за эпоху,
Да мужчынскага права
Быць гатовым да бою
І, як маці,
                дзяржаву
Адчуваць за сабою.

Пачынаем цвяроза
У сябрах разбірацца:
Дзе — шыкоўная поза,
Дзе — спакойная праца,
Дзе — згрызоты з-за стравы
Ці з-за кругленькай сумы,
Дзе — турботы за справы
І высокія думы.

Разумеем,
                як брата,
Лес асенні і поле.
Непапраўныя страты
Адгукаюцца болем:
Глуха падаюць сосны
Ля ракі перасохлай,
Не вяртаецца ў вёсны
Бусел з сіні высокай…

Мы не просім палёгкі
І віну і няшчасці
Не спяшаемся лоўка
На другіх перакласці.
Як сур'ёзныя людзі,
Помнім мудрасць старую:
Той сумленна рассудзіць,
Хто сабе не даруе…

*1973*

## ПАМЯЦІ ПАБЛА НЭРУДЫ

Ён быў паэтам.
І раніцай,
нашча
Карміў з далоняў залётную песню,
І мора да ног ягоных лашчылася,
Як сетэр, калматае і распешчанае.

…А генералы не дружаць з паэтамі.
Яны забіваюць паэтаў —
Кастэтамі,
ці ракетамі,
Ці рукаяткамі пісталетаў…

Ён быў паэтам.
Вялікім.
І да яго прыходзілі сосны,
Стукалі ў шыбы ноччу
і клікалі
Шышкамі з неба збіваць зоркі высозныя.

…А генералы не разумеюць вершаў.
Затое ўмеюць яны вершатворцаў
Чацвертаваць,
ці вешаць,
Ці катаваць бясконца…

Ён быў паэтам.
І ў яго часта балела сэрца.
Ягонае сэрца нязгойна паранілі
Дымы Хірасімы,
драты Грэцыі,
Камяні Іспаніі,
каміны Германіі.

…А генералы не любяць хворых.
Ім трэба паболей бравых
У бронетранспарцёрах
і на лінкорах,
У засадах
і на аблавах…

Ён быў паэтам.
І калі яго неслі на могілкі,
За ім
жанчынай няўцешнай
ішла эпоха.
І здавалася, на грудзях не рукі ляжалі,
А сядзеў матылёк знямоглы —
І ён не дыхаў,
Каб матылька не спалохаць.

…А генералы кнігі палілі.
І песня няспетая
Чорнай чайкай
З полымя вынырала…

Дык не пытайцеся,
Чаму ўспамінаюць паэтаў.
Дык не здзіўляйцеся,
Чаму праклінаюць генералаў…

*1973*

## КРАСАВІК

Хоць жаваранак над кустамі,
Нібыта ў маі, засквірчэў, —
Зямля сырая і пустая,
Як неабжытая яшчэ.
Ёй неабходна дачакацца
Папраўдзе веснавой пары,
Калі ўжо ўслед за раўчукамі
Палі пабудзяць трактары,
Калі ў халодныя барозны
Сваё цяпло сыпнуць такі
І на падсочаных бярозах
Праб'юцца першыя лісткі,
Калі трава зараскашуе,
Заціхне мутных рэчак вір
І скіне потную кашулю
На перакуры брыгадзір…

*1973*

## САБАКАРЫ

Братамі мне —
усе жывыя.
Люблю ласёў,
люблю баброў.
Але здаецца,
што завыю
Ад гарадскіх сабакароў,
Калі дзябёлыя кабеты
І дзецюкоў джынсовых раць
Вязуць,
вядуць,
нясуць, як дзетак,
Сабак і сучак «прагуляць».

Ім трэба свежае паветра,
Вячэрні сцішаны прастор.
Ступаюць колі,
нібы мэтры,
Ідзе насуплены баксёр.

Імчаць настырныя аўчаркі.
Сапе раскормлены бульдог.
Як вераб'і ў зімовым парку,
Балонкі цiснуцца да ног…

А побач
юныя бароды
Размовы тонкія вядуць
Не пра прыроду —
пра пароду,
Пра чуйны нюх
і лёгкі дух.

Любуюцца з замілаваннем
І з веданнем —
што ні кажы, —
Як іхні псюк ля дрэва стане
Ці хвост памацае чужы…

Тады ваўком завыць гатовы
Я між разбэшчаных звяроў…

Не пра сабак я —
што вы,
што вы!
Мой гнеў —
супроць гаспадароў.

Я б зразумеў іх,
каб не ведаў,
Што з радаслоўнаю шчанюк
Для іх мілей,
чым сын суседаў
Ці нават родны свой унук.

Я б паважаў іх,
каб не бачыў,
Што ім дайсці няма калі
Ад клопатаў пра лёс сабачы
Да клопатаў пра лёс зямлі…

Спяшаюць галубы схавацца,
Малеча тоіцца ў двары,
Калі клыкастых гадаванцаў
Выводзяць зноў сабакары.

У пальцах —
павадкі вужамі.
На пальцах —
ваўкадаваў шчэць.
І самі ўжо не заўважаюць,
Як пачынаюць сабачэць…

*1973*

## РАЗМОВА З ДУБРОЎНІЦКІМ ВЕТРАМ

Хто як можа —
Хутчэй да мора
Ад духмені,
як ад смалы.
А я лезу вышэй у горы,
Каб на мора зірнуць са скалы.

Праз густыя зялёныя кроны
Прабіваецца промень касы.
Трэпле,
трэпле вецер салёны
Маладыя мае валасы.

Можа, хоча ў нечым прызнацца,
На бягу захліпаецца аж?..
Каля мора
дванаццаць нацый
Абжываюць вясновы пляж.

Хто — як жэрдка.
Хто — як калода…
Што ён, вецер, ім кум які?
Набярэшся хіба прахалоды
На распараныя кумпякі?

Не прывык ён ступаць,
як лёкай, —
З вейкаў ранішні сон не згані.
Захацелася пагалёкаць —
І ён свішча на вышыні.

Я лаўлю яго прагным ротам,
Даспадобы ён мне такі —
Не лагодны
і не курортны,
А калючы і трапяткі.

Хто яго, басяка, аштрафуе,
Што ад сонца так асмялеў
Ён, настоены
не на парфуме,
А на моры і на смале?

Хвалі ўнізе калышуць дымку,
Белы ветразь лянiва абвіс…
Мы стаім на скале ў абдымку
І не хочам спускацца ўніз.

Хай курортнікі ловяць казку,
Расціраюць прамень на плячы.

Па-славянску,
                    па-партызанску
Мы з табой памаўчым.

*1973*

## ЭЛЕГІІ СТАРОГА САДУ

Я зноў прыйшоў у наш зарослы сад,
Дзе пахне зазімкам і лісцем прэлым.
Ён не такі, як дваццаць год назад.
Ён,
    як і я,
            здаецца пастарэлым.

Мне вусцішна між яблыняў ступаць,
Страсаць з галін абуджаныя згадкі.
І за спіной не веснічкі рыпяць,
А памяці разгойданыя кладкі…

### I

У ціхім садзе нашага дзяцінства
Даўно сабе звіваюць гнёзды птушкі.
І я не часта ў сад хаджу, каб раптам
Няўклюднага падлётка не спалохаць.
А можа быць,
                    я больш за ўсё баюся,
Што ўспырхне,
                    нібы жаўранак вясновы,
Забытае імя дзяўчынкі мілай
У белай блузцы і спаднічцы сіняй,
З чарнілам перапэцканымі пальцамі
І русаю худзенькаю касой?
Што, як яна жыве ў забытым садзе —
Абсыпаная рыжымі вяснушкамі,
Абстрыканая крапівой пякучай,
Цыбатая,
            нібыта бусляня?..
Чаго баюся —
Успамінаў смешных

Ці горкай і запозненай сустрэчы
З юначаю неразгаданай тайнай
І першым неўсвядомленым каханнем?
Ды не,
          якое там было каханне!
Было няўцямнае зямное шчасце,
Што вось жыве дзяўчо на белым свеце
І лічыць мяне дужым і прыгожым
І з захапленнем на мяне глядзіць.
І я пераканаць яе стараўся,
Што я папраўдзе нейкі незвычайны,
Што я прыгожы,
                    дужы
                              і разумны,
А быў няўклюдны і дурны,
                                        як бот.
Я пасмяяўся з той дзяўчынкі мілай
Па-хлапчукоўску жорстка і бяздумна —
З яе вяснушак,
                    і з касы худзенькай,
І з нехаванай радасці ў вачах.
І я хадзіў, як певень, ганарысты,
Суровы,
          незалежны
                              і дасціпны,
І быў не варты нават шкадавання,
Не тое
          што яе няўцешных слёз…

Мы вельмі часта позна разумнеем…
Цяпер я ў сад заходжу асцярожна —
А што, як раптам хрусне пад нагою
Птушынае гняздо?..

II

Ты помніш сад,
Парэчкамі зарослы,
Дзе ля паркана быў куток таемны,
Куды ўцякалі мы з табой штовечар
Ад пільных матак і сяброў цікаўных?

Ты помніш?

Там нас хавала яблыня старая.
Мы слухалі маўчанне цёплай ночы,
І я нямеў, калі плячом гарачым
Ты прыпадала да майго пляча.
Там я аднойчы
пры святле маланкі,
Як цуд, нікім нязведаны,
убачыў
Твае блакітныя, як неба, вочы
І белыя, як яблыкі, калені.
На круглыя, як белыя налівы,
Клаў галаву я на твае калені
І піў каўшом Мядзведзіцы Вялікай
Тваё такое блізкае дыханне,
Наіўны і салодкі наш спалох.

І валасоў тваіх густая хмара
Мне засланяла і зямлю, і неба —
І гасла ўсё ў вачах,
І толькі вусны,
Твае сляпыя і сухія вусны,
Як месяц,
прабіваліся праз цемру
І зноў вярталі мне ў душу святло…

Ты помніш?

Растуць парэчкі ў садзе,
як калісьці.
А ля паркана —
восеньскае лісце…
Сюды з табой штовечар мы ўцякалі
Ад пільных матак і сяброў цікаўных.
Тут пры святле маланкі я аднойчы
Зірнуў табе ў спалоханыя вочы…

Стаіць пад ветрам яблыня старая.
Ні павуцінкі — на галінках голых…
А я вачамі маладымі бачу
Два белыя налівы…

III

Быў позні і туманны адвячорак.
Сад звонка лапатаў пасля дажджу —
Як быццам тысяча срабрыстых гномікаў
Саскоквала з галінкі на галінку,
З ліста на ліст,
А з лісця —
                    на траву.
Я ў сад пабег
Паслухаць гэты вэрхал,
Палюбавацца,
Як цяжкія кроплі
Ляцяць свінцовым шротам на пясок,
А яблыні абмытыя стаяць,
Нібыта маладзіцы пасля лазні.

Па лужынах і ручаях імчаў я.
У сэрцы калацілася гарэзнасць,
І мне хацелася такое крыкнуць,
Каб цэлы свет,
                        уражаны,
                                        пачуў.
Тады арліным хлапчукоўскім вокам
Я ўгледзеў іх пад вымаклаю вішняй —
Яны застылі ў доўгім пацалунку,
Як у палёце спыненыя птушкі.
Яны мяне не бачылі,
                                  не чулі,
І я падкраўся —
І зарагатаў,
Спалохаў тое светлае імгненне,
Якое ўжо не зможа паўтарыцца.
Я загалёкаў:
«Цілі-цілі цеста!..»
Улёг за імі шчанюком звяглівым
І ўсё чакаў,
Як голас мой падхопіць
І панясе пад гулкім небам рэха.
А сад маўчаў.
Маўчалі змрочна кроплі,
Што на лістах званочкамі віселі.

А яблыня старая
                    поўнай жменяй
Дажджу мне сыпанула за каўнер.
І я замоўк,
Як быццам спатыкнуўся.
Мяне спыніў цяжкі даарослы сорам.
Пачуў я раптам,
Як замоўк чамусьці
У шапатлівых кронах
                    звонкі лопат,
Як стала ў садзе золка і будзённа…
Мой сад,
          ты помніш гэты адвячорак.
Я дзякую,
          што ты маўчыш,
                    мой сад…
Мой сад…

*1973*

## ЦІХІ ВЕРШ

Ціхая засень старэнькай альтанкі.
Ціхае шчасце —
Шэпат каханкі.

Ціхія гукі.
Цёплыя рукі.

Лісця чаромхі вячэрняя споведзь.
Вусны дыханне спалохана ловяць.

Сіняя ціша
Зоркі калыша.

Крылаў птушыных апошнія ўзмахі.
Святло патушылі шэрыя гмахі.

Чуеш,
Як б’ецца
Сэрца ля сэрца?..

*1973*

* * *

Над лясамі самоты
Да цябе нацянькі
Паняслі самалёты
Мае аганькі.
Над зямлёю бяссоннай
На нябачным крыле
Колер шчасця —
чырвоны —
Паплыў у імгле.
Над спакоем загонаў,
Над журбою людзей
Засвяціўся
зялёны —
Весні колер надзей.
І з завоблачнай стыні
Апаў на лугі
Крыкам кнігаўкі
сіні —
Ціхі колер тугі…

*1973*

* * *

Навек з табою нас жыццё звяло.
І мы ніколі між сабой не дзелім
Усё, што маем —
і дабро,
і зло,
І цень трывогі,
і святло надзеі.

Што нам дзяліць найлепшае з дзівос,
Якое нават смерць забраць не ў стане? —
Зямное непаўторнае каханне
Адно на двух нам даў шчаслівы лёс.

Як раніцу з берасцяной трубы,
Яго мы п’ём —
і ўсё нам мала,
мала.

Нам ні дзяльбы,
                    ні здрады,
                              ні кляцьбы
Яшчэ зязюля не накукавала.

І сняцца нам палянкі дзён сваіх
Адным неадцвітаючым надзелам.
І мы нічога на дваіх не дзелім.
Мы ўсё заўсёды множым на дваіх.

*1973*

* * *

Не знаю,
            гэта добра ці нядобра,
Ды што хаваць мінулыя грахі —
І мне таксама міні даспадобы,
Хоць я ім запазніўся ў жаніхі.

Зноў прымушае здзіўлена спыніцца
Жаночы цуд,
                  як гэты свет, стары.
У цесным калчане міні-спадніцы
Дзве юныя нагі —
                        як дзве стралы.

І плёткі — міма.
Забабоны — міма.
І цокаюць па сонным сэрцы лодачкі.
І мілая дзяўчына ў моднай міні —
Як чарачка крыштальная на сподачку.

І чырванеюць посныя персоны.
І адарваць вачэй не можа Бог
Ад лёгкага,
                  як хмарка,
                              парасона
Над грэшнай парай загарэлых ног.

Пад пошласць — міны.
Пад святошасць — міны.
Аж крэкча цынік качкаю падсаднаю.

А стройныя дзяўчаты ў смелых міні —
Як строгія цюльпаны ў палісадніку.

І цёплы вецер ім каленкі мые.
І я без шкадавання і трывог
Гляджу,
          як небу адкрываюць міні
Зямную прыгажосць дзявочых ног.

***1973***

## НЕЗНАЁМКА

Яна ішла сцяжынкай вузкай
Да вечаровага сяла.
І ветразем над сіняй блузкай
Касынка белая плыла.

Ішла няспешна і стамлёна,
Спакой дзявочы несучы.
І шаўкавістай пасмай лёну
Каса ляжала на плячы.

І ў затуманеным прасторы
Ці то ў душы маёй
                    плылі
Вачэй бяздонныя азёры,
Крылатых броваў жураўлі…

Ах, незнаёмка, незнаёмка,
Неспадзяваная бяда!
І прыпыніць цябе няёмка,
І адпусціць цябе шкада.

Калі яшчэ на сцежцы вузкай
Цябе сустрэну ля сяла?..
Як ветразь,
          над блакітнай блузкай
Касынка белая плыла…

***1973***

* * *

Папытай нават Бога самога —
Не адкажа,
        што ўдалечыні:
Сінь туману ці воблака смога,
След ракет альбо зорак агні.

Дзе ўчарашні наш дзень, дзе навейшы…
Дзе тут ява, дзе лоўкі спадман?..
Ля дарогі сянажныя вежы —
Быццам бы караблі марсіян.

Зазямляецца цуд недасяжны…
Ад чаго ж столькі ў сэрцы тугі?
З неба сыплюцца чорнаю сажай
Яшчэ белыя ўчора снягі.

Чыстай плыні шукае дарэмна
Стронга быстрая ў мутнай вадзе.
Жоўты дым аб'ядае на дрэвах
Маладыя лісточкі надзей…

Сон далёкі ці блізкая ява,
Ясны жах ці наіўны спалох?
Дзе ён,
      зманлівы той і рухавы
Між вар'яцтвам і марай парог?..

Не на Бога маё спадзяванне,
Не на розум машынны ці стрэс —
А на ціхае-ціхае ранне
І сініцай разбуджаны лес:
Не вяртаючы гібласць імшар,
Паважаючы сілу метала,
Не дапусціць усё-ткі душа,
Каб іх раптам на свеце не стала…

*1975*

## ШУКШЫНСКАЯ КАЛІНА

Як ручаі,
                  між берагамі
Турботы коцячы свае,
Каля яе мы прабягалі,
Не заўважаючы яе.

Нам болей кідаліся ў вочы
У восеньскім святле скупым
Дубы старыя ля абочын,
На голых просеках слупы,
Апаленыя кроны клёнаў,
Шпачыны вырай на вярбе…

Ды вось — спыніліся ўтрапёна,
Яшчэ не верачы сабе.

Як налілася сокам горкім,
Як заірдзелася яна —
З усіх нізін, з усіх узгоркаў
Адна на ўвесь абсяг відна.

У цёплай сіні сакалінай,
Чырвоная, нібы ў крыві,
Стаіць шукшынская каліна
Сярод някошанай травы…

***1975***

* * *

Народ мой,
                      дзякую табе,
Што і на міг мне не дазволіў,
Каб я кагосьці абязволіў,
Жыў у кагосьці на гарбе,
Што ў радаслоўную ўпісаў
Не гандляроў і прайдзісветаў,
А плытагонаў і паэтаў,
І штукароў ганчарных спраў.

Народ мой,
дзякую,
што ты
Велікадушна даў мне ў рукі
Не алебарды і шчыты,
А лемяхі і першадрукі,
Што нашаптаць мне не забыў
Не грукатню бравурных маршаў,
А задуменнасць песень нашых,
Дзе столькі болю і жальбы.

Народ мой,
дзякуй,
што нідзе
Мяне балюча не ўпікнулі
За твой далёкі век мінулы,
За сённяшні твой сіні дзень.
І аднаго хачу ў жыцці,
Каб ты не паглядзеў з дакорам,
Каб за мяне ніколі сорам
Табе душу не засмуціў.

*1975*

## РАЗВІТАННЕ З ВЕРАНІКАЙ

*Максіму Багдановічу*

Ён нахіліўся над сталом
Пралескай позняю паніклай,
Самота стыне над чалом,
А вусны трызняць Веранікай.

Яна, як месяца святло,
Яму ўжо не сагрэе грудзі.
Такой, як сніў ён, не было.
Такой ніколі ўжо не будзе.

Пагасне месяц у акне,
А зоркі скоцяцца слязамі.
І смерць бязлітасна ўзмахне
Сваімі чорнымі крыламі.

Навек зламаецца вясло
На пеннай хвалі ў сіняй бухце.
Вачэй Максімавых святло
Трывожыць больш яе не будзе…

Што ж, паўглядаліся здалёк
І моўчкі разышліся жыцці…
А ўсё сінее васілёк
У спелым беларускім жыце…

*1975*

* * *

Люблю пару,
як светлякі
Засвецяцца ў халодным садзе,
У двор збяруцца сваякі —
І мы каля цяпельца сядзем,
Бутэльцы скруцім галаву,
А я, без чаркі захмялелы,
З гамонкай разам паплыву
Туды,
дзе спіць мой лебедзь белы,
Дзе ходзіць добры лесавік,
Заве з бярэзніку русалку,
Дзе дрэва кожнае прывык
Лічыць жывым і родным змалку…

А драч дзярэцца ў лазняку,
І сваякам салодка п'ецца.
Мне ж, як былому ведзьмаку,
Зрэдчас падміргвае цяпельца.
Плыве блакітнае сяйво —
Дымок над смольнымі карчамі.
Як сына блуднага свайго,
Мяне зноў казка прыручае.
Мне зноў відно, як у бары
Між елак свеціцца акенца…

Пачуўшы гэта, як стары,
Мой сын паблажліва ўсміхаецца…

*1975*

* * *

Хто чуў,
                як пад начною слотай
Бярозкі тонкія трымцяць,
З якой шчымліваю пяшчотай
Лісты на клёнах шапацяць,
Як вецер з пэўнасцю фатальнай
Даносіць з ліпы ад страхі
То ўсхліп апошні, развітальны,
То шэпт паспешлівы, глухі,
Як, поўнячы самотай сэрца,
Варожыць моўчкі цішыня,
Каторы ліст
                    вось-вось сарвецца,
Каторы
                дажыве да дня, —
Той
      вартым жалю называе
Таго, хто паўтарае ўсім,
Нібы прырода нежывая
І раўнадушная зусім.

***1975***

## СНЕГ У КАСТРЫЧНІКУ

На белым снезе — жоўтыя лісты,
Нібыта охры высахлыя капкі,
Нібыта гусак выцвілыя лапкі,
І хоць бы лапік голай чарнаты.

Такое ўмее толькі першы снег —
Усё засыпаць чыста і наіўна.
А потым вецер з залатога жніўня
Раптоўна прынясе стракаты мех
І вытрасе пад клёнамі наспех,
Зіму і лета паяднаўшы дзіўна…

Хто скажа мне, што нешта тут не так,
Што гэта — выпадковасць?
                                        Не паверу,

Ступаючы на дыбачках па скверу,
Чытаючы пражылкі на лістах.

Прырода — найвыдатнейшы мастак.
Яна знайшла гармонію і меру.
І як нам перанесці на паперу,
Як затрымаць на палатне няўзнак
Чароўны свет здзіўлення і даверу,
Дзе нават ні намёку чарнаты?..

На белым снезе — жоўтыя лісты…

*1975*

## ХАКЕЙ

Да д'ябла тэлевізары!
З білетамі — о'кей! —
Нібы з замежнай візаю,
Імчацца на хакей
Цырульнікі,
                правізары,
Начальнікі з падлізамі,
Свяшчэннікі пад рызамі,
Дызайнер
            і жакей.

Нібы ў бляшанцы шпроты
(«Падцісніце зады!»),
Яны ў Палацы спорту
Рассованы ў рады.
І над паветрам спёртым,
Над перагарам з потам
Запаленай употай
Паплыў цыгаркі дым…

Да д'ябла ўсе тэатры!
Схавайся ў цень, футбол!
Выходзяць гладыятары —
Ілбы як на падбор.
А гул,
        як лава ў кратэры,
Азартам сэрца кратае,

Давайце ж, чэрці клятыя,
Бой!

Нібы сцюдзёнкі шайку,
Уніз лінула столь —
Ахрыпла:
— Шайбу!
Шайбу! —
Крычаць у глотак сто
Балельшчыцкія роты
З лавушкамі ратоў…
А шайба —
за варотамі,
А шайба —
ля бартоў.

Трэнер сваіх пад'юшвае,
Чужым праклёны шле.
І ўжо трашчыць пад клюшкаю,
Як шалупіна, шлем.
І ўжо кагосьці
з лёту
Падмялі старчака
І паднімаюць з лёду,
Як мерцвяка.

Правілаў ляйчына
Аслабла ўшчэнт.
З тупасцю бычынай
Ігрок суддзю таўчэ.
А зала вар'яцее,
Люцее ад крыві,
Са смакам і надзеяй
Заходзіцца:
— Даві!
Дзяцюк з вачмі рачынымі,
Вусаценькі лаўчыла,
Лыткастая дзяўчына
Упрошваюць:
— Яшчэ!

Саромеецца чына
Генерал,
але ж

Шэпча:
— Малайчына!
Добра б’еш!..

О Божа мой, о Божа!
Няўжо ўсё гэта — спорт?!.
Няўжо ўсё гэта можна —
Галавою ў борт?..
Ніхто не дапаможа,
Калі пад клюшкай рожа,
Як пад нажом — апорт…

О Божа мой, о Божа!
Няўжо ўсё гэта — спорт?!.

***1975***

## ЗАСТОЛЛЕ ПАСЛЯ АБАРОНЫ АДНОЙ ДЫСЕРТАЦЫІ

Пакінуты ў гардэробе цяжкія партфелі,
Напакаваныя цытатамі з кніжак чужых.
Афіцыянткі,
чароўныя, нібы феі,
Даўно ўжо расклалі відэльцы і нажы.

Без вясёлага булькатання засумавалі фужэры.
Дайце іх звону касмічны тэмп!
О, тут даўно ўжо гэтак не жэрлі,
Як на гэтых памінках па адной з навуковых тэм!

Не саромейцеся:
навука — рахманая і нямая,
Яна і не гэткіх корміць даўно.
А тое,
што дысертацыя карысці не мае,
Дапаможа забыцца віно.

Не здзіўляйцеся,
Што ў бяседнікаў думка ў вачах патухла, —
Не патрабуйце сэнсу ад балбатуноў.
Лысы тамада,
самаздаволены, як квактуха,
Налаўчыўся выседжваць тосты і з баўтуноў.

Прыслухайцеся,
                    як ідзе гаворка навуковая
Пра салаты,
              ікру
                    і вэнджанага вугра,
Як раздабрэлы прафесар дацэнту расталкоўвае,
Што гарэлку на каньяк замяніць пара,
З якою дасведчанасцю падлічваюць калорыі,
Адсоўваючы сыру скрылі перасохлыя,
Перспектыўны кандыдат гісторыі
І навапечаны доктар філасофіі…

А пасярод стала,
                    зацьмяваючы ўсё,
Акружаная сытым іржаннем,
Ляжыць навука,
Якую ператварылі ў фаршыраванае парасё
І цяпер рэжуць тупымі нажамі.

Віноўнік урачыстасці да суседзяў лезе
                                        смаўжом,
Сальныя анекдоты шэпча на вуха…
Ад навукі ён абараніўся ўжо.
Ці абароніцца ад яго навука?..

***1975***

## АСЕННІЯ ГРЫБЫ

Спяць асеннія грыбы —
Лесу ціхія рабы —
І ва ўсіх адна надзея:
З лесу выбрацца абы.

Ледзь пачуюць рып які —
Ім здаецца:
              грыбнікі
Прадзіраюцца рашуча
Да палян праз хмызнякі.

Як тады ахвота — ох! —
З капялюха скінуць мох,
Каб грыбнік яшчэ здалёку

Зачапіцца вокам мог,
Каб не бег за тры вярсты
У глухі гушчар густы
І не верыў нагаворам,
Што асенні лес пусты.

Нож хай будзе не тупы,
Кош хай будзе не скупы —
Сыраежак і зялёнак
На паляне тры капы.

А як толькі верасы
Паабсохнуць ад расы,
Падрашэтнікі палезуць —
Не адужаць без касы…

Крочыш з лесу, як герой.
У кашы —
грыбы гарой…
Ох, і шчодры лес асенняй
Развітальнаю парой!

*1975*

* * *

Паваражы, паваражы
На далані задубленай.
Што наварожыш, не кажы —
Я сам усё задумаю.

Паваражы, паваражы
На вуснах нецалованых.
Вузлом на памяць завяжы
Сцяжынку вечаровую.

Паваражы, паваражы
На чубе ускудлачаным.
І на плячо мне палажы
Сваю руку гарачую.

Не захінайся, не бяжы,
Спыніся каля ганачка.

Паваражы, паваражы,
Бялявая цыганачка!..

*1975*

## ЭЦЮД РЭЎНАСЦІ

Нядаўна быў я чысты,
як дзіця,
Не кранутае цвіллю недаверу,
І чалавеку верыў больш, чым зверу,
І кожны дзень чакаў я адкрыцця.

О Божа мой, як ты змяніла ўсё,
Як зруйнавала свет сваёю здрадай!
Цяпер я менш тваёй усмешцы рады,
Чым позірку прыручаных ласёў.

Цяпер я лепей птушкам занясу
Маю, табой адпітую, пяшчоту.
Хай п'юць з маёй далоні,
як расу,
Ні кроплі не пакінуўшы на потым.

Нічога не чакаю я, ані,
Хай зерне шчасця склёўвае сініца…
Чаму дала ты права мне ўсумніцца
У вернасці людской і дабрыні?..

*1975*

* * *

Калі прайшоў ты і агонь, і снег,
Смак працы ўведаў і ад славы збег,
Кахаў жанчын, піў асалоду кніг —
Не думай, што ты ўсё ў жыцці спасціг.

Галоўны страх і горычы глыток
Яшчэ ў цябе наперадзе, браток…

Калі адчуў ты, як мінае час,
Як менее ў душы вясны запас,
Як многа значыць кожны дзень і міг —
Не думай, што цану жыцця спасціг.

Галоўны сэнс і мудрасці глыток
Яшчэ ў цябе наперадзе, браток…

Калі ж, яшчэ не верачы бядзе,
Твой самы блізкі сябар упадзе
І пераступіць чорны той рубеж,
А ты ў бяссіллі неба праклянеш
І зразумееш беззваротнасць страт,
Тады лічы, што ты мудрэеш, брат,
Тады табе адкрыецца спаўна
Жыцця неверагодная цана…

***1976***

## ЯКОГА КОЛЕРУ ВАЙНА

— Якога колеру вайна? —
Мая дачка ў мяне спытала.
І я падумаў,
што яна —
Пад колер шэрага метала,
Пад колер шэрых шынялёў,
Пад колер шэрых папялішчаў,
Пад колер пылу тых палёў,
Дзе ў гільзы злосна вецер свішча.

Ды вочы я закрыў на міг —
І мне прыпомніўся чырвоны,
Чырвоны колер сноў маіх
І ран салдацкіх незагойных,
Агонь чырвоны ў вокнах хат,
Сцягоў святы чырвоны колер,
Чырвоны водсвет кананад,
Што не забудуцца ніколі.

Якога ж колеру вайна?

Уладна ў памяці ўсплывае
Бінтоў шпітальных белізна,
Матулі галава сівая,
І страху пабялелы твар,
І белы колер маскхалата,
І снег,
        што ўжо не раставаў
На вуснах паўшага салдата.

А я ж у памяці нясу
Яшчэ жахлівы колер чорны —
Заледзянелы чорны сум
Удоў і сірат незлічоных…
І чорны дым парахавы,
Дзе чорны воран на магіле,
І чорны колер у травы,
Што агнямётамі палілі…

Якога колеру вайна?
Я б расказаў дачцэ нямала,
Ды на руках маіх яна
Ужо даўно спакойна спала.

*1976*

## ПРЫЯЗДЖАЙЦЕ ДАДОМУ!

Трэба дома бываць часцей…

*Рыгор Барадулін*

Ці то раніцай звонкай,
Ці то вечарам ціхім —
Прыязджайце дадому,
Прыязджайце дадому
На сустрэчу
З яшчэ не забытым дзяцінствам,
Дзе матуля
Калыску люляла малому.

Покуль ніва красуе
І не высахлі рэкі,
Прыязджайце дахаты,

Прыязджайце дахаты,
Дзе ля ганка
Жаўцее бярэма свірэпкі
І ад сонца
Хаваюцца ў пыл кураняты.

Не выкідвайце з памяці
Даўнюю казку —
Прыязджайце да маці,
Прыязджайце да маці
І ў душы не хавайце
Пяшчоту і ласку,
А прылюдна
Сівую сваю абдымайце.

Прыязджайце дадому —
Ці то ўвечар, ці ўранку,
Не таміце матулю
Залішнім чаканнем…
Што, як стрэнуць вас
Толькі пустая буслянка
Ды над лугам
Старая ахрыплая каня?..

*1976*

## АМЕРЫКАНСКІЯ ЭСКІЗЫ

* * *

Ён раптам ударыў па душнай сінечы,
Як каменем вострым па звонкім акне,
Такі нечаканы, такі недарэчны
Той голас:
«Забіце,
забіце мяне!»

Рыдала труба ля дзвярэй рэстарана,
Падміргваў неон на халоднай сцяне…
А ён паўтараў, паўтараў апантана:
«Прашу вас —
забіце,
забіце мяне!»

Машыны шыкоўныя лёгка імчалі,
Стары палісмен пазяхаў у паўсне…
А ён праклінаў і маліў у адчаі:
«Ну што ж вы? —
Забіце,
забіце мяне!»

Прахожыя моўчкі ў вітрыны глядзелі.
І голас,
нібыта ў пустэльні,
звінеў,
Такі малады і такі безнадзейны:
«Вы чуеце, людзі? —
Забіце мяне!..»

…Далёка чужыя масты і пагоркі.
А ўспомню —
і зноў мне душу скалане
Той голас у душным вячэрнім Нью-Йорку:
«Ну што ж вы? —
Забіце,
забіце мяне!»

## КАЛЯДНЫ СЭЙЛ*

Вітрыны
Аб'явы-сарокі абселі,
Прызыўна крычаць на плакатах працэнты…
Здаюцца далярамі медныя цэнты…
Спяшайце разжыцца на сэйле!
На сэйле!

Бяжыце!
Такога ніколі не будзе!
Абкручвайце стан свой крымпленам і шоўкам,
Чапляйце каралі і брошкі на грудзі! —
Дзяшоўка!

Купляйце!
Хапайце!

* Сэйл — продаж па зніжаных цэнах.

Не будзьце дурныя!
Сажніце хоць лапік таго, што не сеялі!
За што поўнай мерай плацілі другія —
Бярыце па сэйле!

Чужыя прыбыткі падлічваюць клеркі.
Не вырвацца з д'ябальскай каруселі.
Шампуні,
Транзістары,
Джынсы,
Талеркі —
Па сэйле!

Ужо немагчыма на хвілю спыніцца:
Любоўнік сапселы
І муж палыселы,
Законы,
Амбоны,
Газеты,
Паліцыя —
Па сэйле!
Па сэйле!
Па сэйле!
Па сэйле!..

Нібыта факір звар'яцелы
на сцэне
Усё пераблытаў — і праўду, і жарты…
Хто ведае,
Што ў гэтым свеце не ўцэнена?
І што чаго варта?
І хто чаго варты?..

* * *

Ад анекдота да Карана,
Ад могілак да казіно —
На шырачэнныя экраны
Усё выплёхвае кіно.

Ні фарб, ні часу не шкадуе,
Разглядвае з усіх бакоў

То лесбіянку маладую,
То нейкіх монстраў-павукоў.

Нібыта наркаман бязвусы —
Не можа без кашмарных сноў:
І распінае зноў Ісуса,
Пампею спапяляе зноў,
Наложніц з лютасцю шалёнай
Зганяе ў змрочныя скляпы,
Дзе шматсерыйныя шпіёны
Прывычна трушчаць чарапы.

Ад жудасці само сівее,
Як здзекліва рагоча ўслед
Бардэль маленькі — на Брадвеі,
Бардэль вялікі — цэлы свет…

І ты ўцякаеш,
                    ачмурэлы
Ад скепсісу і ад выцця,
Каб толькі ўбачыць чорна-белы
Аднасерыйны фільм жыцця…

## НА КАНЦЭРЦЕ МОДНАГА СПЕВАКА

Яго чакалі,
                быццам бога.
І вось
          у цемры грымнуў свіст
І ўзвіўся крык,
                      нібыта бомба
З-пад столі рынулася ўніз.
А ён,
        нахабны, распанелы,
Стаяў, асветлены суздром,
Як зазывала на панелі
Пад вечаровым ліхтаром,
Паблажліва, ляніва слухаў
Дзяўчат раз’ятраных выццё,
Рукой махаў,
                  нібыта кухар,
Што сыпле перац у кацёл.

А потым,
                        разамлелы добра,
У неба ўскінуў галаву
І мікрафон схапіў,
                                            як кобру
Ці гетманскую булаву,
І зашаптаў,
                         закрыўшы вочы,
Як заклінальнік змей сівы
Ці хворы гетман,
                                         што не хоча
На свеце жыць без булавы.
Ды ўдарыў барабанны пошчак,
І раскаціўся медны гром —
І ён,
          нібы рэгуліроўшчык,
Стаў з мікрафонам,
                                               як з жазлом,
Махаў налева і направа,
А грукат рос,
                               як шторм які,
Нібы з гары жалезнай лавай
Ляцелі ўніз грузавікі;
Крычаў ён штосьці
                                                 і ўсім целам
Трымцеў,
                         як ліст на скразняку,
І,
   як шаман той з закапцелым
Бажком у кволым кулаку,
Кідаўся, курчыўся…
Распяты
Нялюдскім грукатам,
                                                    заціх
І мікрафон, нібы гранату,
Прыціснуў да грудзей сваіх.
Стаяў,
               аглухлы і стамлёны,
І,
    покуль медны звон патух,
Ён ляскаў шнурам мікрафонным,
Як доўгай пугаю пастух.

А залу ліхаманка трэсла,
Лямантаваў за радам рад…

Прыйшоў сюды паслухаць песні,
Напэўна, я адзін,
вар’ят…

## БЛЮЗ ВЯЧЭРНЯГА ГАРЛЕМА

Чырвоная кроў —
у чорнага.
Чырвоная кроў —
у белага.
Чырвоная кроў —
у жоўтага.
Ва ўсіх — чырвоная кроў.
Чырвоная —
у вучонага.
Чырвоная —
у карабела.
Чырвоная —
у гужоўшчыка.
І ў мяне — чырвоная кроў.

Сэрца адно —
у чорнага.
Сэрца адно —
у белага.
Сэрца адно —
у жоўтага.
Сэрца ва ўсіх — адно.
Сэрца адно —
у адчайнага.
Сэрца адно —
у нясмелага.
У паліцэйскага-жлоба —
сэрца таксама адно.

Жыццё адно —
у белага.
Жыццё адно —
у жоўтага.

Жыццё адно —
у чорнага.
Ва ўсіх нас — адно жыццё.
У катаржаніна збеглага,
у мільянера-жмота
і ў маёй нарачонай —
толькі адно жыццё.

Для Захада
і для Усхода,
для Поўначы
і для Поўдня,
для ўсіх на свеце народаў —
Зямля,
як маці, —
адна.
Дык чаму ж
не ўсе мы свабодныя?
Дык чаму ж
не ўсе мы роўныя?
Чыя ў гэтым віна?..

## РАНІЦА Ў ЛАС-ВЕГАСЕ

Аглухлі фантаны.
Патухлі неоны.
Ад сонца
Зажмурыўся
Горад бяссонны.
Рулетка спынілася.
Вычарпан «мізер».
Выключан
Яркі,
Як ноч,
Тэлевізар.
Вымерлі бары,
Як пасля бамбёжкі.
Людзі,
Што карты,
Раскіданы ў ложкі.

Спіць
Кіназорка,
Уцёкшы ад «ахаў».
Спіць
Дэтэктыў
З пісталетам пад пахай.
Спіць
Рэпарцёр,
Ачмурэлы ад віскі.
Спіць
Мільянер
Ля халоднай стрыптызкі.

Спяць,
Пад падушку схаваўшы даляры,
Нафарбаваныя
Потныя лярвы…
Прынц мараканскі…
Студэнтачка з Ніцы…
Спяць…
І нікому
Нічога
Не сніцца.

Сон
Самы дзіўны
Быў яваю ўночы,
Спрытна пастаўлены,
Добра аплочаны.
Не паскупіліся
Шчодрыя Штаты
На голыя грудзі
І райскія шаты…

Апушчаны шторы.
Замкнёны палацы…
Размораны горад
Лёг
Адаспацца.
Вецер варушыць
Акуркі,
Абгорткі,
Фігавых лісцікаў
Шэрхлыя горкі…

На свет
Касавурацца
Моўчкі атэлі,
Дзе людзі кішэлі,
Як мурашы…
Пуста на вуліцы.
Пуста ў кішэні.
Пуста ў душы…

***1976–1977***

## АДКАЗ НА ПРОСЬБУ ПАВЕСЯЛІЦЬ ЗАСТОЛЛЕ ВЕРШАМІ

Вы задалі мне хітрую задачу —
Каб я вас мілым словам весяліў.
А мне мой лёс бяду ў душу ўсяліў
І горкіх слоў падсыпаў у прыдачу.
Якая будзе ў слове весялосць,
Калі я болей, чым смяюся,
плачу
І ў сэрцы часта закіпае злосць?

Вы задалі мне цяжкую задачу…

Вы хочаце,
каб я вас весяліў,
Каб я наш свет,
як веснавую дачу,
Аднымі салаўямі засяліў,
А ў горле у мяне камяк гарачы
Ад роспачы, бяссілля і абраз,
І я стаміўся прычакаць удачу…
Дык як магу павесяліць я вас?

Не ўмею я з гатоўнасцю сабачай,
Забыўшы ўсё,
паслужліва юліць…
Не здолею я вас павесяліць.

Не для мяне вы задалі задачу…

***1976***

## ГАРАДСКАЯ БЯССОННІЦА

Калі ўрэшце горад паўночны ўгамоніцца,
Машыны сплывуць грукатлівай ракой,
Як вопытны злодзей,
                    крадзецца бяссонніца,
Нячутна заходзіць у цёмны пакой.
І ўжо каля ложка затоена шастае,
Лаўчыцца ўтачыць пад падушку руку,
А толькі ўздыхнеш —
                    заціхае, вушастая,
І спрытна хаваецца ў дальнім кутку.
І зводдаль нядрэмна цікуе,
                              праклятая,
Сцяну надакучліва пальцам шкрабе,
З хіхіканнем здзеклівым подла падглядвае
Задуманы сон,
            што не сніцца табе.
Стаіць над душою з задышкаю хрыплаю.
Варушыцца чорнаю кошкай ля ног…
Ды ўрэшце,
          як злодзей пабіты,
                              усхліпвае
І стомлена,
          ціха паўзе за парог.
Ну вось…
          Закалыхвае спальня пустая.
Знясілена ты пачынаеш драмаць…
Як раптам
          таксі па вачах пралятае
І проста па рэбрах грукоча трамвай.
Па скронях дзяўчына абцасамі цокае,
Б’е ў вушы кувалдай будзільніка ход,
І вокны раструшчвае песня далёкая,
І проста пад столлю гудзе верталёт.
Па вуліцы рэха за злодзеем гоніцца —
Чуваць, як звіняць у кішэні ключы…
А гэта ўцякае шахрайка-бяссонніца
Далей ад цябе, ды не можа ўцячы…

*1976*

## СПРОБА ВЯСЁЛАЙ ПЕСЕНЬКІ ПРА НЕТЫПОВЫХ ТУРЫСТАЎ

Хто за дзвесце кіламетраў,
Хто за трыста,
Хто з гітарай,
Хто з транзістарам,
Хто без —
На прыроду
Выпраўляюцца турысты.
Сцеражыся і дрыжы,
Шаноўны лес!

Колькі хуткасці,
Напору,
Весялосці —
Наваколле
Будзе войкаць і грымець!
Не трапляйся пад руку,
Вавёрка,
Лось
Ці
Ад маліны палагоднелы
Мядзведзь!

На траву ляцяць
Бляшанкі,
Шклянкі,
Пляшкі —
Кожны вольны і рашучы,
Што казак.
Распаўзайцеся,
Няўцямныя мурашкі, —
Homo sapiens
Развязвае рукзак.

Аглушыў паляну
Стук сякеры звонкі.
Ліжа полымя
Галіны і камлі…
Разбягайцеся,
Бярозкі і сасонкі!

Што ж вы, родныя,
Да долу прыраслі?

Салавей,
Канчай свае старыя оды —
Гэта ўсё
Для недасведчанай душы.
Першакласныя дыёды і трыёды
Шэйкам здолеюць
Пярнатых заглушыць.

Ля палатак
Дагарае корч смалісты.
Змоўк транзістар —
Батарэйкі падвялі…
Засынаюць
Асавелыя турысты.
Не будзі!
Хай будзе ціха на зямлі!

*1976*

## КАСЕЦ У СКВЕРЫ

У скверы пахне сенам маладым.
Звініць каса пад шорсткаю мянташкай…

І мне ўявіць сабе зусім не цяжка
Расяны луг,
туману лёгкі дым
І за спіною —
чорнай баразной —
Мой свежы след,
а ў небе над пракосам
Хмурынку з жаўруком срэбнагалосым
І першы промень — паласой скразной…

Тралейбусы,
як поўныя вазы,
Парыпваюць, праносячыся побач.
І рупіць па-старому
«Бог на помач!»

Гукнуць касцу,
што выйшаў з-за лазы.

Няма калі чупрыну расчасаць,
І не чуцён яму фантана лопат —
Яго заняў сялянскі летні клопат:
Касі, каса, пакуль раса.

Ён косіць…
Хто яго сюды прыслаў
Як прывітанне з маладосці нашай?..
Пасля ўсё гэта я ўспрыму іначай,
Ды толькі будзе гэта ўсё пасля.
А сёння я не здаў яшчэ правы
На той вясковай памяці набытак,
Дзе захаваны звон касы адбітай
І пах нядаўна скошанай травы…

*1976*

## СНЕЖНАЯ ІМПРЭСІЯ

Ты куды мяне клічаш,
паслухай? —
На дварэ ні машын, ні людзей.
Завіруха мяце, завіруха…
Белы снег,
Белы цень,
Белы дзень.

Я іду за табой,
як сляпая,
Патрапляю ў замецены след.
Засыпае нас снег, засыпае.
Белы снег,
Белы след,
Белы свет.

Як паходня,
твой шаль ружавее.
І вакол —
ні вачэй, ні акон.

На зямлі —
я і ты
і завея,
Белы снег,
Белы клён,
Белы сон…

*1976*

## НЕ ВЕРУ!

*Памяці Івана Мележа*

Не можа быць!
Не веру!
Не хачу!..
Адкіну прэч жалобную паперу.
Ні ворагу, ні сябру, ні ўрачу
Ніколі не паверу.
Не паверу.

Не могуць ні хвароба, ні вайна
Яго ад нас забраць,
Не маюць права.
Навекі з ім турбота ў нас адна,
Адна ў нас недавершаная справа.

Зямліцы роднай ён так шмат аддаў
Крыві, здароўя, таленту і працы,
Што забіраць яго ад ніў і траў
Яна, матуля, не магла спяшацца…

Не веру я бязлітаснай жарстве,
Што холадам магільным рукі коле.
Ён ёсць,
Ён ёсць!
Ён з намі.
Ён жыве…
Ён нежывым не можа быць ніколі!

*1976*

* * *

Мне з табой бы лепей размінуцца,
Міма праляцець на паўкрыла…
Дык чаму ж малюся той мінуце,
Што з табой няпрошана звяла?

Не было нічога,
што на свеце
Да цябе не падарыў мне лёс…
Дык чаму ж мне так таемна свецяць
Вочы твае, цёмныя ад слёз?

Мне з табой бы лепей развітацца,
Кожная сустрэча —
як турма…
Дык чаму ж твае слабыя пальцы
Я ў сваёй далоні затрымаў?

Размінуцца б лепей, размінуцца,
Каб душа спакойнаю была!..
А я ўсё малюся той мінуце,
Што з табой няпрошана звяла…

*1976*

* * *

Больш табе я не пазваню,
Не ўстрывожу самотную ростань.
Сам сабе канчаткова зманю,
Што забыў цябе вельмі проста.

Ні вачэй тваіх,
ні плячэй
Злым папрокам я не абражу.
Без цябе будзе несці лягчэй
Летуценняў наіўных паклажу.

Што паробіш,
калі пагас
Пад дыханнем тваім халодным

Той агеньчык,
                    што некалі нас
Нечакана апёк мімаходам…

Адбалела. Прайшло. Адплыло.
Не пакінула нават суму…
А быць можа, і не было?
А быць можа, я ўсё прыдумаў?..

*1976*

* * *

Скажы мне,
Скажы мне,
Што гэта было —
Адчаю імгненне,
У вечнасць імкненне,
Аб шчасці маленне,
Ці проста здзіўленне,
Ці проста
Зямнога кахання святло?

Скажы мне,
Скажы мне,
Што гэта было —
Ад гора збавенне,
Душы наталенне,
Прыход прасвятлення,
Ці проста зблíжэнне,
Ці проста
Грудзей тваіх пудкіх цяпло?

Скажы мне,
Скажы мне,
Што гэта было —
Жыцця патуханне,
Ці смерці дыханне,
Ці неба ў абдымках зямлі калыханне,
Калі не вяртання назад,
Ні адхлання,
А толькі

Рыданне,
Гарэнне,
Згаранне?..

Скажы мне,
Няўжо гэта з намі
Было?..

***1976***

* * *

Не веру,
што з гадамі адыходзіць,
Згасае палкасць маладых сустрэч.
Прыйдзі ка мне ў пакоры і лагодзе,
Маім рукам і вуснам не пярэч.

І не хавай,
як хітрая цыганка,
Няўтольнага агню ў сваіх вачах.
Хай будзе тонкі месяц за фіранкай.
Хай будзе ціхі стогн каля пляча.

Хай згіне ўсё,
што ўжо было,
што будзе.
Але хай застануцца на вякі
Твае ненапалоханыя грудзі
І ля шчакі цяпло тваёй рукі…

***1976***

## СКАРЫНА

Кожная птушка ў сваё гняздо вяртаецца з выраю.
Кожны бадзяга-звер знаходзіць сваю бярлогу.
Кожная рыба свайго трымаецца віру.
Дык ці ж магу я забыцца матчынага парогу?

Кожная краска ўсцілае сваю сцягу палявую.
Кожнае дрэва скідае ліст свайму долу.

Кожная пчолка прыносіць мёд у свой вулей.
Дык ці ж я мог сваіх кніг не прынесці дадому?

Шмат я па свеце прайшоў, шукаючы ўдачу,
Многа пабачыў.
Ды вочы былі сухія.
А тут
        мімаволі ўсцешана плачу,
Ледзьве здалёку ўгледжу купал Сафіі.

Мне віначэрпіі Падуі, Кракава, Прагі
З сонечным сокам кубкі падносілі залатыя,
Ды не маглі наталіць яны смагі
Так, як звычайны карэц,
                                        калі чэрпну з маёй Палаты я.

Мне саладзейшыя самыя
                                        ветры з Дзвіны баравыя
І плытагонскіх кастроў паўночны куродым.
Калі ў далёкіх краях на мяне заяўлялі правы,
Я
Паўтараў, што са слаўнага Полацка родам.

Ты мне, мой горад, даруй,
                                        што ціхае імя Францішак
Я памяняў на нянаскае, гучнае імя Георгій.
Радзімы ж сваёй не мяняў, як нацельны крыжык.
Ад мовы сваёй не адрокся ні ў шчасці, ні ў горы.

Мэту маю і надзею, пакуту маю і трывогу, —
З літар, як з кропелек поту, збіраў я свае першадрукі
Не для цароў венцаносных, абраннікаў Бога,
А для цябе,
                    светласэрцы мой люд чарнарукі.

Як я хацеў,
                    каб ты вольнасці здолеў напіцца,
Каб пасяліў назаўсёды ў хацінах асвету,
Вокладкі кніг расхінуў — як адчыніў аканіцы,
І падзівіўся бязмежжу і мудрасці свету.

Не дзеля гучнага імя і нейкай дзівацкай фатыгі —
Дзеля дабра твайго выбраўся я ў шлях далёкі.

І як на плошчах палілі ў кастрах мае кнігі,
Хіба табе, мой народ, не балелі апёкі?..

Я каралеўскі батанік і лекар.
                    І знаю:
                              няма таго зелля,
Што хоць на міг ад тугі па Айчыне вылечвае.
Ды і ў грудзях маіх, можа, не сэрца — вузельчык
З роднай зямелькаю, цёплай і вечнаю…

***1977***

## КАЛІНОЎСКІ

*Вільня, 22 сакавіка 1864 года*

Ён ішоў між штыкоў і шабляў
І ўсміхаўся на поўны рот,
Што жандары на вуліцы зяблі
І чакаў пракурор ля варот.

Пасля камеры запляснелай
Піў марозную свежасць усмак.
І на сэрцы ў яго яснела.
Адпаўзаў
          страху слізкі слімак.

Над турэмнаю чарапіцай,
Над густым частаколам крыжоў
Сонца грэлася,
               каб напіцца
Заўтра мог верабей з капяжоў…

Ён на вуліцу выйшаў пакорна,
Удыхнуў
          дыму хатняга пах
І падумаў зусім спакойна:
«Гэта вось мой апошні шлях».

Камяні, што масцілі шлях той,
Нагадалі яму акурат
Кашалькі ненавіснай шляхты
І падсумкі царскіх салдат.

Нібы выкінутыя, ляжалі.
Іней стыў на іх, быццам пыл.
І падумаў ён з горкім жалем:
«Эх, каб панскія чарапы!

Малавата я іх раструшчыў.
Мнагавата іх на зямлі…
Толькі б пушчы, цёмныя пушчы
Грознай помстай не адгулі!

Толькі б веры не пахіснулі
Ні нагайкі, ні недарод!
Толькі б порах збярог і кулі
І нянавісць сваю народ!..»

Сакавіцкі марозны ранак
На сумёты клаў цень касы.
Вытыркаліся з-за фіранак
Палахлівых паненак насы.

Праімчаў праз дарогу на брычцы
Нейкі важны віленскі туз,
Пагразіў кулаком па прывычцы.
А рамізнік прыўзняў картуз.

Тупа ўзвод паліцэйскіх пратопаў.
Афіцэр гаркнуў: «У-зяць нагу!..»
І ўжо блізка чуцён натоўпу
Несціханы, стрыманы гул.

Недзе там — кажухі і абноскі.
Там браты яго — мужыкі.
Іх пабачыць хацеў Каліноўскі.
Хоць здалёк, хоць на момант які.

Толькі б стражнікі не адцёрлі,
Толькі б з плошчы не выгналі іх…
І ажно перасохла ў горле,
Як падумаў пра страшны міг.

Не было ў душы шкадавання,
Нават крыўды на лёс не было,
Што вось гэта халоднае ранне
Назаўсёды патушыць святло.

А была палыновая горыч
І бяссільная злосць
ад таго,
Што не ён паноў аб’ягорыў,
А яны ўсё ж злавілі яго.

І вядуць па апошняй дарозе,
І нахабна ўзіраюцца ў твар,
Быццам гэта не ён —
той грозны
Яська, віленскі гаспадар…

Вось і плошча.
Марозны вецер
Пругка хіліць пятлю на ўсход.
Над людзьмі, над усім на свеце
Узвышаецца эшафот.

Ён хаду запаволіў трошкі
І на сонца зірнуў з тугой.
У цішы звонка рыпнулі дошкі
Пад яго маладой нагой.

Стаў пад шыбеніцу рашуча,
Быццам пераступіў парог.
І, як дымка з надрэчнай кручы,
Над натоўпам паплыў спалох.

Хто — з нянавісцю,
хто — з адчаем
Пазіралі на эшафот.
І ад радасці надзвычайнай
Ззяў, як люстра, жандарскі бот.

Ад яго шырокага ранта
Не адводзіў пагляду шпік.
У збялелага фабрыканта
Торгаў вока нервовы цік.

Як нямая шэрая лава,
Разлілася чыноўная раць…
Усміхнуўся Кастусь:
«Вам цікава,
Як я буду тут паміраць?

Што ж, спектакль такі не рэдкі.
Дык чаго ж вочы хіліце ўніз,
І забылі прынесці кветкі,
І не чуеце воклікаў «біс»?

Ні маленнем, ні здрадай новай
Я пацешыць вас так і не змог.
І зірніце: не я, панове, —
Вы сягоння ў мяне каля ног».

Яшчэ вышай ускінуў голаў
І заўважыў ён:
                    там, дзе штыкі,
За ватоўкамі балаголаў
Калыхаліся армякі.

Там было неспакойна,
                              быццам
Людзі рваліся з ланцугоў,
Там хацелі наперад прабіцца,
Да яго бліжэй, да яго…

Віратлівай паводкай гулу
Падмывала там цішыню…
І душу яму ўскалыхнула
Цёплай хваляю ўпершыню.

«Вы са мною ў мой міг апошні,
Мае родныя мужыкі!
Я дзяліў з вамі дзень ваш посны,
Гарапашны ваш лёс цяжкі.

Я ў адчаі кляў разам з вамі
Ніву бедную і сенажаць.
Пот салёны вы засявалі,
Каб пасля слёзы горкія жаць.

Вам і рукі, і душы скруцілі,
Завязалі на сем вузлоў,
Каб маўчалі вы, як скаціна,
Нават родных не помнячы слоў.

Абкрывянілі сэрца даволі
Здзекаў, крыўд і няпраўд асцюкі…

Я хацеў вас прывесці да волі.
Я вам шчасця хацеў, дзецюкі.

Не дасяг я жаданай мэты,
Ды не плачу ўсё ж ні аб чым:
Не памру я незразуметым,
Бо змагацца я вас вучыў.

Не чакайце ж здалёк падмогі
І не верце ў добрых цароў.
Колькі будзе жыцця і змогі,
Не пускайце з рук тапароў.

Шкода, што ўжо не ўведаю,
зноў з кім
Вы падымеце бунт святы.
Аб сваім Кастусю Каліноўскім
Прыгадайце тады, браты!..»

І хацеў ён вышэй прыўзняцца,
Зноў зірнуць на свой крэўны люд.
Толькі раптам,
нібы знянацку,
За спіной загучаў прысуд.

Даляцелі,
як адгалоскі,
Непрывычных слоў камяні
Пра яго:
«Дваранін… Каліноўскі…»
Кату крыкнуў ён:
— Не мані!

Я з народам навек з’яднаны.
Што вы глупстваў панаплялі?!
Ні халопаў няма, ні дваранаў —
Людзі роўныя на зямлі!..

І ні слёз у вачах,
ні жаху,
Калі змоўкла плошча пасля
І няўмольна
халоднай вужакай
Абвіла яго шыю пятля.

«Будзь здаровы, мужыцкі народзе!
Хай нядоля цябе абміне.
Гіну я за цябе.
Пры нагодзе
Спамяні добрым словам мяне.

Быў я сын для цябе, а не лёкай.
І калі адляціць мой дух,
Будзеш ты мне, зямелька, лёгкай,
Мяккай, як жаўруковы пух.

Без мяне прычакаеш радасць.
Станеш слаўнаю між людзьмі.
Даў табе я мужыцкую праўду,
А свабоду сама вазьмі…»

Закрычала жанчына нема.
Засланіла сонца імгла.
Пахіснулася раптам неба.
Пад нагамі зямля паплыла.

І калі
цела
цяжка
абмякла
І заціх гордай шыі хруст,
З губ сплыло развітальнае:
— Матка-а!
Бе-ла-ру-у-усь!..

*1977*

## КУПАЛА

Сярод балот, лясоў і выспаў
Ёсць занядбаны Богам кут.
Мне лёс такі на долю выпаў —
На белы свет радзіцца тут.

Мяне з-пад сонца, як зазвычай,
Падкінуў бусел пад страху
І ад калыскі мне пазычыў
Жалейку, пугу і саху.

І ўжо, куды ні сабяруся,
Куды дарога ні памкне,
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Маёй пакутнай старане.

*

Я пахадзіў па свеце белым,
Жыццё пабачыў без пакут,
А сэрца ўсё адно балела
За бедны мой забраны кут.

Як цуд чужы вачэй ні цешыў,
Душа шаптала мне сама:
Ёсць край цяплейшы, багацейшы,
Але раднейшага няма.

Ці абзавуцца ў небе гусі,
Ці дзяцел грукне па сасне,
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Лясной, азёрнай старане.

*

Я праг для бацькаўшчыны шчасця,
Гатовы быў хоць на вайну,
А змог ёй толькі песню скласці
І разбудзіць яе ад сну.

Я гаманіў у кожнай хатцы
Тым словам, што жыло з вякоў,
І клікаў я народам звацца
Забітых працай мужыкоў.

Заўсёды аб адным малюся:
Хай пошасць нас не закране.
Мне сняцца сны аб Беларусі —
Шчаслівай, вольнай старане.

*

Я прычакаў агнёў свабоды,
Іх жыватворчага святла.
І свой пасад сярод народаў
Мая радзіма заняла.

Пазбыўся мой народ прымусу,
Сагрэўся чырванню сцягоў.
Кім быць на свеце беларусу,
Цяпер залежыць ад яго.

А я і ў радасці, і ў скрусе
І калі сцішуся ў труне,
Сніць буду сны аб Беларусі —
Маёй радзімай старане…

*1977*

## І БУДЗЕ ЖЫЦЬ ШТОДЗЕНЬ…

*На смерць Аркадзя Куляшова*

Нясцерпнае, жалобнае
расстанне…
Як з веку, як заўсёды —
Не ў пару…
Паэты паміраюць на світанні,
Самотным вокам згледзеўшы зару.

Салодка спяць на белым свеце людзі…
Ён ім прыносіць гора не прывык —
Хай іх не скалане
і не разбудзіць
Апошні ўздых і развітальны ўскрык.

Завея крылы ўскінула над дахам,
Лёг на акно марозу шэры цень…
Ён быў пявучым магілёўскім птахам
І ў незваротны вырай адляцеў.

Навек панёс свае святыя тайны,
Удзячнасць нашых спраўджаных надзей…

Паэты паміраюць на світанні —
І астаюцца з намі жыць штодзень.

І не прыглушыць праспяванай песні
Расстайная, заплаканая медзь,
І вечна ў беларускім паднябессі
Ён будзе майскім жаўруком звінець.

*1978*

* * *

Маг-цырульнік, хітры дабрадзей,
Не вастры старанна так нажніцы.
Я не з тых разгубленых людзей,
Што бягуць к табе прычапурыцца.

І не з тых, хто росціць бараду,
Каб смялей ісці на прагулянку.
Я ўжо так як-небудзь дабрыду
Да свайго апошняга паўстанку.

Толькі крыўда горкая адна
Не дае ніяк душы спачыну:
Уплялася чэпка сівізна
І ў маю нямодную чупрыну.

Жалудоў цяжкія капяжы
Шчодра сыпле восень залатая.
Я прашу, цырульнік, — састрыжы
Сівізну, што лета замятае.

Што ж прымоўкнуў, дабрадзей стары,
І ўздыхаеш сумна і трывожна?
Доўга так нажніцы не вастры —
Усё роўна памагчы няможна…

*1979*

* * *

Ад матулінай пачосткі
І ад бацькавых папруг
Я ўцякаў далей за вёску,
На шырокі летні луг.

Бег, расхрыстаны і босы,
Пад зялёныя дубы.
«А куды ж ты?» — «На нябёсы,
Дзе ні крыку, ні журбы».

Па раскідзістых галінах
Узбіраўся ўсё вышэй —
Ад папрокаў, напамінаў,
Ад усмешлівых вачэй.

Лез туды, дзе ззялі далі,
Дзе, як богавы паслы,
На аднойназе стаялі
Задуменныя буслы.

З небам там перапляліся
Цёплы цень і цішыня.
Я і сам быў сярод лісця,
Як малое птушаня.

Адплывалі штохвіліны
Пад зялёны роўны шум
Крыўды ўсе і ўсе правіны,
Прасвятляючы душу…

І цяпер, як сум атуліць,
Я туды ж імчу хутчэй…
«А куды ж ты?» — «Да матулі,
Да матуліных вачэй…»

*1979*

## СУСЕДКА

Калі раніцай вёдрамі ляскала
І да рэчкі спяшала босая, —
Я цябе цалаваў краскамі,
Я цябе цалаваў росамі.

Калі ў поўдзень ішла палеткамі,
Маладога спакою поўная, —
Я цябе цалаваў кветкамі,
Я цябе цалаваў промнямі.

Калі ўвечар да весніц выйшла
І стаяла пад вішнямі колкімі, —
Я цябе цалаваў цішаю,
Я цябе цалаваў зоркамі.

Што, як ноччу ў акно пагрукаю,
Недасяжная і спакусная?..
Я цябе цалаваў думкамі,
А хачу цалаваць вуснамі.

*1979*

* * *

Мне не забудзецца ніколі,
Як у азёрнай старане
Гуло сяброўскае застолле
І ты глядзела на мяне.

І сэнс, і тайна, і надзея
Былі ў бязладнай гамане,
Бо за сталом вясна сядзела
І ты глядзела на мяне.

Усё тады было дарэчы:
І драч, і юшка ў чыгуне.
І плыў туман над соннай рэчкай.
І ты глядзела на мяне…

Яшчэ не раз мне па-юнацку
Твой позірк знічкаю мільгне.

Хаця б на міг, хаця б знянацку
Зірні здалёку на мяне!

*1979*

* * *

Шкадую жанчын,
што пасля пацалунка мужчыны
Не зведалі асалоды пацалунка дзіця,
Што навек ад сваіх грудзей адлучылі
Ненасытную, бессмяротную завязь жыцця.

Шкадую жанчын,
што пасля мужчынскіх абдымкаў
Не зведалі пяшчоты абдымкаў дзіця,
Калі каля вуха даверліва дыхае
Безабаронны працяг твайго зямнога быцця.

Шкадую жанчын,
што пасля ночы бяссоннай
На плячы сваім чулі
толькі холад няголеных шчок
І не песцілі цёплы і круглы, як сонца,
Плод кахання — няўцямны жывы камячок…

Аблысеюць паклоннікі.
Перамруць палюбоўнікі.
Супакоіцца ўрэшце шалу майскага каламуць.
І ці будзе каму
ўспаміны аднолькавыя, як апалонікі,
Чыстай плоткаю ўскалыхнуць?..

*1979*

* * *

Атруці мяне
вясновым хмелем,
Апляці мяне
рукамі цёплымі.

На дваіх з табою мы падзелім
Ноч, што льецца залатымі кроплямі.

Ап’яні мяне
дыханнем чыстым,
Ахіні мяне
прызнаннем ціхім.
Мы ў далоні з неба зор маністы
Ссыплем рук суладным ускалыхам.

Прытулі мацней,
мая абранніца.
Наталі
мае сухія вусны…
О, як хутка прыплывае раніца —
Сну і явы сонечнае вусце!..

*1979*

* * *

Зайздрошчу шчасцю юных закаханых,
Што так баяцца дотыку рукі, —
І ад яго грудзей адмежаваны
Яе грудзей тугія астраўкі.

Зайздрошчу іх святому аняменню,
Калі без слоў усё адчуць лягчэй,
І смешнаму, дзіцячаму няўменню
Хаваць пачуцці ад чужых вачэй.

Зайздрошчу іх наіўнаму спалоху,
Яшчэ незразумеламу агню,
Калі ўвесь свет змяняецца патроху
І дорыць азарэнне ўпершыню
І паміж кожным позіркам і словам,
Ужо зусім бяссільная,
звініць
Напятая, як песня жаўрукова,
Збліжэння недазволенага ніць…

*1979*

* * *

Я не га́ню землі чужыя —
Хай іх сонца не абміне.
Толькі дзе за морам ні жыў я,
Беларусь мая снілася мне.

Так карцела — сляза закіпала, —
Каб да сэрца хаця б здалёк
Прыплывалі жалейка Купалы,
Багдановічаў васілёк…

Гэта ўсё, безумоўна, не нова.
А ці трэба, каб новым было
Поле бацькава, матчына мова
І над хатай буслова жытло?

Хіба душы свае не лечым
Ад бяздомных бядот і згрызот
Самым простым і самым вечным,
Што пранёс праз вякі народ?

І якія б шляхі не схадзіў я,
Кліча полацкая сенажаць…
А калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

*1979*

* * *

Слова наша роднае,
хапала
На стагоддзі доўгія цябе.
Багдановіч, Колас і Купала
Прыпадалі да цябе ў журбе,
Адкідалі кпіны і абразу,
З дзён былых цягнулі ў заўтра ніць
І хаця не ўсіх і не адразу, —
Навучылі ўсё ж цябе цаніць,
Вымытае ў гулкіх навальніцах,
Нам як запавет перадалі,

Каб пілі і не маглі напіцца
І ўзнялі наўздзіў усёй зямлі.

Матчына нявыцвілае слова,
Даўжнікі мы вечныя твае…
Так нам не хапае Куляшова.
Мележа так горка не стае.
Нам цяпер цябе на раздарожжах
Берагчы за іх і за сябе,
Даражыць пявучым гукам кожным,
Як зярняткам чыстым на сяўбе,
Каб не адляцела, як салоўка,
Не аглухла ў гуле бальшакоў…
Строга з нас вачэй не зводзіць Броўка.
Стоена ўзіраецца Лынькоў…

Мова продкаў нашых і нашчадкаў —
Шэпт дубровы і пчаліны звон, —
Нам цябе ласкава і ашчадна
Спазнаваць ажно да скону дзён,
Па чужых краях не пабірацца,
Не аддаць цябе на забыццё,
Наша невычэрпнае багацце,
Наша несмяротнае жыццё.

*1980*

* * *

Я не сквапны — вы паверце.
Не прыслужваю рублю.
Лепшы яблык на талерцы,
Не шкадуючы, ўступлю.

Сувеніры, кветкі, рэчы,
Нават тыя, што люблю, —
Забірайце. Не пярэчу.
Пашкадую — і ўступлю.

Сцежку лепшую ў прысадах,
Поля лепшага раллю
І высокую пасаду —
Не крыўдуючы, ўступлю.

А тваіх вачэй смяшынкі,
Як нябесны дар, каплю.
Ні адной тваёй маршчынкі
І слязінкі не ўступлю.

Праз пагрозы, пасміханне —
Праз усё пераступлю.
А цябе, маё каханне,
Нізавошта не ўступлю.

*1980*

* * *

Мой родны край,
за што цябе, скажы,
Гісторыя так люта шкуматала —
Разворвала ўсіх войнаў рубяжы,
Каціла вал грымотнага метала?

Нібыта ёй карцела дапячы
Тваёй спрадвечнай стойкасці вясковай.
Як пяліся чужацкія ключы
Тваю душу замкнуць абавязкова!

І колькі сквапных прыхапняў паўзло
З агнём, з атрутай, з Богам і без Бога!
Свінцом і здрадай рассявалі зло,
Каб зарасла нянавісцю аблога.

Не шкадавалі толу і брані
На ціхія палеткі і прысады.
Але тваёй славянскай дабрыні
Не затапталі танкі і снарады.

Ты ў свайго лёсу нават не спытаў,
За што прыблуды на табе кішэлі.
І маладой нястрымнасцю атаў
Пазараслі акопы і траншэі.

Узрушанаму людству напаказ
Ты ўзняў не крыўдаў звугленыя раны,

А жыццялюбства вечнага запас,
На дне тваіх крынічак захаваны.

*1980*

* * *

Лю́бая,
ты засланіла свет
Шэры, аднастайны і будзённы —
Электрычак цесныя вагоны,
Мокрыя, цяжкія парасоны,
Душны, непрыбраны кабінет,
Гуд аўтамабіляў манатонны
Быццам бы расталі неўпрыкмет.

Любая,
ты расчыніла свет
Рознакаляровы і ўрачысты —
Раскідае срэбра дождж краплісты,
Сінява застыла ў шыбах чыстых,
Ловіць жвавых «зайчыкаў» паркет,
Электрычка кліча галасіста
На лясны прастор — за ёю ўслед.

Свет запаланілі перамены.
Матылёк успырхнуў на акне…
Гэта ты прыветна і праменна
Раніцой зірнула на мяне.

*1980*

* * *

У звышсучаснай каламуці,
Нібыта «іжыцу» і «яць»,
Старыя правілы чамусьці
Мы пачынаем забываць.

Не прадпісанні-аднадзёнкі,
Што напяклі пісарчукі,

А нашых продкаў завядзёнкі,
Якіх трымаліся вякі.

Хіба іх помніць больш не трэба?..

Здавалася б, чаго прасцей:
«Не папракай кавалкам хлеба
Бацькоў, нашчадкаў і гасцей».

Чаго ясней:
                «У беднай хаце,
Дзе на цвіку вісіць сума,
Не заікайся пра багацце,
Бо тут яго даўно няма».

І ўжо зусім ніякавата
Не знацца з ісцінай такой:
«Пажар тушыць і ставіць хату
Найлепш суседскай талакой…»

Усё праверана вякамі
І над бяздумнаю травой
Прыбіта вопыту цвікамі
На браме памяці жывой.

І хоць на мудрасць не скупая
Зямля, дзе сёння мы стаім,
Нам так часамі не хапае
Служэння правілам старым!

*1982*

## ВЕЧАР У ВЁСЦЫ

Калі кладзецца між баразнамі
Запылены апошні цень,
Цяжкою стомаю і роздумам
Развітваецца з намі дзень.

І перш чым выбрацца дахаты,
Так цягне,
                збоку ад людзей,
У тумане халаднаватым
Хаця б хвілінку пасядзець.

Адчуць цяпло спатнелай робы
І зразумець у соты раз:
Не толькі мы работу робім,
А і работа робіць нас.

Хоць нíюць жылы, ломіць косці,
Але ў душы зусім няма
Ніякай зайздрасці і злосці,
Бо дзень пражыты нездарма.

Чакае блізка двор зацішны,
Дзе водар мяты і смалы.
І жонка ўжо да весніц выйшла.
І мчыць насустрач сын малы.

І нам, знясіленым і грубым,
Супакаенне дорыць час:
Не толькі мы работу любім,
А і работа любіць нас…

*1982*

* * *

Сучасны свет бязлітасна старэе:
Хто з барадою,
Хто без барады —
Дзяды ў Кітаі,
І дзяды ў Карэі,
І ў нас, куды ні кінешся,
Дзяды.

Мітынгаваць усё яшчэ ахвочыя,
Хоць падпірае дыхаўку трыбух.
Абвіслі шчокі.
І патухлі вочы.
Але нястрымна рвуцца да трыбун.

Бяссільнай зграяй збіліся з дарогі.
Рыпяць, як перасмяглыя драчы.
Памочнікі перастаўляюць ногі,
І замяняюць сківіцы ўрачы.

Запоўнены трызненнямі і тлумам,
Свет з імі занудзіўся і азяб…
Калі ўжо аб жыцці не могуць думаць,
Пра смерць сваю падумалі хаця б.

Але няма для іх жыцця і смерці.
Іх сцяў адзін —
Уладу страціць —
Жах.
Трасуць галовамі —
І цэлы свет трасецца
І ўжо не хоча старасць паважаць.

*1982*

* * *

Па́даюць яблыкі —
Тупае восень па садзе.
Жоўтае лісце
Мяце на кляновай градзе.
А надвячоркам
На прызбе нячутна прысядзе
І залацісты праменьчык
Ля ног пакладзе.

Будзе пра лета мінулае
Думаць паціху.
Гляне спакойна
На познія кветкі ў вакне.
Здыме нязлосна
Са смуглай шчакі павуцінку
І гаркаваты начлежны дымок
Пракаўтне.

А як да цёплых сцяжынак
Падступяцца росы
І пахаваюцца
Змоўклыя птушкі ў гаях,
Пойдзе
Насустрач змярканню халоднаму
Восень —

Можа, яшчэ не мая.
Хай бы яшчэ не мая…

*1982*

* * *

Мільгаюць гады.
Я цяпер гэта ведаю добра —
Мільгаюць.
Не ўхопіш,
Не спыніш,
Назад не павернеш ніяк.
Пад ветрам
Бярозка
Дрыжыць сіратліва ля гаю.
Бярозка, а можа,
Забытая песня мая.

Плыве аблачынка
Па небе прасторным і сінім.
Мы ўслед ёй
Тужліва
З бярозкаю разам глядзім.
Не толькі гадоў —
Нават той аблачынкі
Не спынім
Ні песняй,
Ні просьбай,
Ні крыкам,
Ні шэптам сваім.

Сплыла аблачына.
Вясёлка палае над Пінай.
Глядзіцца ў Дзвіну
Сінявокая ніва ільну…
Быць можа,
Вось гэтак —
Бяследна,
Імкліва,
Няспынна —

З маімі гадамі
І я ля цябе прамільгну…

*1982*

* * *

Я ўсіх вас, закаханыя зямлі,
Назваць братамі роднымі гатовы,
Калі вы ў гэтым свеце бесталковым
Сустрэцца з нарачонымі змаглі.

Я падзяляю вашу весялосць,
Я разумею добра вашу ўдачу
І сам ад шчасця часам ледзь не плачу,
Бо і ў мяне маё каханне ёсць.

І я жыву ва ўладзе пекнаты,
Забыўшыся на скаргі і на страты…
І ўсё ж я перад вамі вінаваты,
Вы мне даруйце, родныя браты.

Я самую прыгожую з дзяўчат
Схаваў ад вас, забраў ад вас навекі.
Яе радзімкі, локаны і вейкі
Пяшчотна лашчаць толькі мой пагляд.

Адну яе стварыў натхнёны Бог.
Другой такой ніхто ўжо больш не знойдзе.
Я абакраў вас, як нахабны злодзей.
Даруйце мне.
                    Іначай я не мог.

Я не ўпусціў міг вашай слепаты,
Але і вы ўсе можаце, на шчасце,
Мяне падобным чынам абакрасці…
Дык будзем квіты, родныя браты…

*1982*

* * *

Бег да цябе праз буран і імжу,
Поўз да цябе з летуценнем і скрухай
Болей маўчаць не магу.
                    Я скажу.
Ты мяне ўважліва толькі паслухай.

Вуснамі смелыя словы ляплю,
Цяжка і горача іх выдыхаю:
Чуеш, каханая? — верна люблю,
Чуеш, любімая? — шчыра кахаю.

Можаш пасля адмахнуцца —
                              «Бывай!»,
Можаш пасля адвярнуцца сурова.
Толькі даслухай, не перабівай.
Як мне баліць маё кожнае слова!

Вуснамі смяглыя вусны лаўлю
І перад вечнаю тайнай сціхаю…
Чуеш, каханая, — верна люблю,
Чуеш, любімая, — шчыра кахаю…

*1982*

* * *

Я за тваім плячом не разглядзеў
У доўгую хвіліну развітання,
Што за акном —
              змярканне, ці світанне,
Ці поўневая ноч, ці хмурны дзень.

Было адно імгненне на дваіх.
Было адно спякотнае дыханне
І вусны —
         як кругі выратавання,
Калі ў бяссіллі мы шукалі іх.

Быў шэпт твой непрытомны:
                              «Дарагі…»
І неслухмяных рук перапляценне —

Як крылы птушак,
што не даляцелі
Да выраю
і ўпалі на лугі.

І захлынуўся, і спыніўся час,
І ты прынікла да мяне адчайна…

Я добра помню ўсё, што нас злучае.
І ўсё забыў, што разлучыла нас.

*1982*

* * *

Наш белы свет нанова кожны раз
Я ўранку пазнаю і адкрываю
І рады сонцу,
быццам караваю,
Якога хопіць мне на доўгі час.

І з кожным годам родны край мілей —
Ці не таму, што меней засталося
На долю мне і зорак, і калосся
І ўсё бліжэй ссівелы юбілей?

Ах, як душа цяпер мая шчыміць,
Што гэтулькі мінула беззваротна,
Што ўжо ніякім зеллем прываротным
Не адбяліць сцяжынак шэрых ніць!

Нічога ўжо не вернецца назад.
Жыццё ідзе сваім няспынным ладам —
Курлычуць глуха журавы над садам,
І вецер лісце гоніць між прысад…

Як шчасце, я лаўлю свой кожны міг,
Што ён зусім не вечны, не шкадую.
Хачу зямлю такую ж маладую,
Як і была, пакінуць для другіх…

*1983*

## НАЧНАЯ ВОСЕНЬСКАЯ ДАРОГА

Адзінока. Вусцішна. І пуста.
Хоць бы дым начлежнага кастра.
Сум мой сеў каля дарогі кустам.
Шэрая сава — яму сястра.

За спіной разбойна вецер свішча.
Дуб галіны ўзняў наперавес.
Колецца халоднае іржышча.
І глухую цемру тоіць лес.

Зорку ўгледзець сілюся зняможана,
Сам-насам з жудою і журбой.
Дзе ты, выпадковы падарожны? —
Хоць бы ты забраў мяне з сабой…

*1983*

* * *

Люблю зіму за сонца і марозы,
За снег,
            сыпучы і рыпучы ўвесь.
Адначасова хмельны і цвярозы,
Іду ў паўдзённы заінелы лес.

У ім прасторна, выстыла і звонка.
Не ўскрыкне птах, не трэсне сук нідзе.
Адно струной басоваю сасонка
На ўзгорку пад вятрыскаю гудзе.

Лес клопатнаю думкаю заняты —
Як да вясновых красак дажыве.
На лапах хвой, нібыта зайчаняты,
Прыселі ўзвівы ранішніх завей.

У гушчары густым сінеюць цені.
У кронах — зыркіх промняў мітусня…
І на душу сыходзіць прасвятленне.
І на зямлі пануе цішыня…

*1983*

* * *

Сотні раздарожжаў паміж намі,
Прывакзальны тлум і шум травы.
Ды ўсё роўна над тваімі снамі
Я стаю — нязменны вартавы.
Месяцаву срэбраную сцежку
У руцэ трымаю, як прашчу.
Нават прынца казачнага ўсмешку
Да твайго акна не падпушчу.
А калі світанне ценем белым
Ляжа на прыцiхлую ваду,
У расстанні доўгім асмялелы,
Да цябе нясмела падыду.
Адхіну ўспамінаў грэшных дымку,
Дзе схаваў я ад чужых людзей
Сонейка заспанае — радзімку —
У лагчынцы белай між грудзей…

*1983*

* * *

Сябе да адзіноты прывучаю,
А шэпт твой горкі ўсё па сэрцы б’е,
Як жураўліны кліч,
Як крык адчаю:
«Я так засумавала без цябе!»

Навошта — зноў?
Усё даўно забыта,
Закрэслена маршчынкай на ілбе,
Я нашых сцежак болей не разблытваў —
Рассек
        і за сябе, і за цябе.

Ды толькі над разлівам іван-чаю,
Над палыном ссівелым
                                        у журбе,
Як жураўліны кліч,
Як кліч адчаю,

Плыве:
«Я так сумую без цябе!»

*1983*

* * *

Хай душа над былым не рыдае.
Плечы нам не прыгнулі гады.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

Не бяда, што сняжок ападае
На юначыя нашы сляды.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

І ніхто яшчэ не разгадае
Нашы хованкі, нашы брады.
Па-ранейшаму ты маладая.
Па-ранейшаму я малады.

Толькі сэрца вясну прыгадае —
І акрыюцца белым сады…
Па-ранейшаму ты — маладая?
Па-ранейшаму я — малады?..

*1983*

* * *

Каму б я верыў,
Каб не ты?
Мне б дзень быў шэры,
Каб не ты.
І цуд дзявочай
Пекнаты
Не грэў бы вочы,
Каб не ты.

Пра што б я думаў,
Каб не ты?

Памёр бы з суму,
Каб не ты.
У свеце,
          поўным
Нематы,
Я б стаў бязмоўным,
Каб не ты.

Няшчасны быў бы,
Каб не ты —
Без дабраты,
Без праваты.
І ўсё ў душы маёй дачасна
Даўно б пагасла,
Каб не ты…

*1983*

* * *

…Духавыя аркестры.
Пявучыя трубы.
Пары кружацца ў вальсе
На траве маладой.
Ціха падаюць зоркі
Светлячкамі на клумбы.
Месяц высцеліў сцежкі
Блішчастай слюдой…

Духавыя аркестры.
Самадзейнае рэтра.
Задуменныя ўсмешкі.
Несучасны спакой.
Роўна дыхае
Даўнім блакітам паветра.
Халаднее каса
Пад хлапечай рукой…

Закусіла матуля
Пабялелыя губы —
Успаміны ўсяму нечаканай вiной:
Духавыя аркестры,

Паходныя трубы
Папулярнымі робяцца
Перад вайной.

*1984*

* * *

Мы будзённа гаворым пра космас.
Ён не слепіць ужо навізной.
След ракеты здаецца пракосам
Ці запыленаю баразной.

На арбіце, салёнай ад поту,
І цяпер не лягчэй, не прасцей,
Ды спакойнае слова «работа»
Паўтараем часцей і часцей.

Звыклым светам, знаёмым занадта,
Дзе каліны,
Крыніцы,
Стрыжы,
Вучаць нас,
як дзяцей,
касманаўты
З новай сілаю даражыць.

Ім над зорнаю цішай і ціскам
Так карціць удыхнуць хоць здаля
Водар сена —
ці, можа, дзяцінства,
Ці асенняй планеты Зямля.

І не дзіўна, што хочацца дужа
Да галактык узняць пад крылом
Не касмічную цемру і сцюжу,
А зямное святло і цяпло…

*1984*

* * *

Люблю бары, бярэзнікі і пушчы я
Яшчэ з ваеннай бежанскай пары.
Цярплівыя,
Маўклівыя,
Відушчыя,
Яны мае надзейныя сябры.

Ашчадныя,
Запаслівыя,
Шчодрыя,
Яны і мне прадоўжылі гады,
Калі дарылі кошыкамі, вёдрамі
Баравікі,
Чарніцы,
Жалуды.

Я помню іх гарэлымі і роснымі,
У пекле дыму, холадзе дажджоў.
Я плакаў іх рабінамі і соснамі
Ля мінамі разбітых бліндажоў.

На ўзлесках і пад кронамі высокімі
Яны вучылі мудрасці без слоў —
Як сябраваць з зязюлямі і сойкамі,
Як разумець вавёрак і ласёў…

Стаю сярод паляны незадымленай,
Любуюся раскошаю зямной —
Як быццам зноў чытаю вершы Пімена
І рэха паўтарае іх за мной.

А можа, ён здалёк мне абзываецца,
Вясёлы, заклапочаны лясун…
Я з пушчы і яму
капусту зайцаву
І сплюшчаную гільзу прынясу…

*1984*

* * *

Сябры, не адключайце тэлефон!
Калі ўтрапёны свет вірыць наўкола,
Праз свіст і грукат, музыку і звон
Так хочацца пачуць знаёмы голас!

Як погляду, як поціску рукі,
Чакаеш доўга водгуку-адказу,
Але назад вяртаюцца гудкі,
Праз цішу не прабіўшыся ні разу.

Праклясці б свой будзённы марафон,
Спыніцца,
Паспрачацца,
Павініцца…
На тым канцы адключан тэлефон —
Не дакрычацца і не дазваніцца.

Зямлю наўсцяж аблыталі драты.
Радары скарацілі далячыні.
А ты — нібы ў пустэльні нематы:
Сябе сябры сягоння адключылі
Ад анекдотаў, ад чужой журбы,
Ад плётак, што сабраў сусед-назола,
І ад цябе,
                    каму б іх голас быў
Як знак надзеі, як глыток азону.

І я,
      хоць, можа, патрывожу сон
І дружна дактары мяне асудзяць,
Прашу:
Сябры, не адключайце тэлефон,
Хай ні на міг не рвецца з вамі сувязь!

*1984*

* * *

Нідзе не здраджваў матчынаму краю,
Не набіваўся іншаму ў сыны.
А ўсё часцей
                дадому прыязджаю
Я з адчуваннем даўнішняй віны.
Усё вакол нязводнае і роднае —
Сцяжынкі,
                валуны і сасняќі.
Гарлае хрыпла певень за гародамі.
Вуркоча глуха трактар ля ракі.
Званкамі з неба жаваранкі падаюць.
Маўчаць буслянкі над дварамі ўдоў.
І не відно пакуль што за прысадамі
Ні аўтастрад,
                ні аграгарадоў…
Па вуліцы іду —
                        і заўважаю:
Старэюць і суседзі, і тыны.
І сэрца зноў
                сціскаецца ад жалю
І адчування ўласнае віны.
Як быццам я таксама вінаваты,
Што на замку прасторны новы клуб,
І пачарнелі сцены роднай хаты,
І пакасіўся нашай студні зруб.
Шапчу сабе дакорліва:
                                «Дажыўся!»,
Калі пачую ад суседа зноў,
Як рослыя бамбізы
                        ў модных джынсах
Пасмейваюцца з матчыных размоў,
Пакепліваюць з «некультурнай» вёскі,
Звысоку лаюць
                    свой «адсталы» кут,
Хаця напакаваныя авоські
Па выхадных у горад валакуць.
Як з госцем,
                і бацькі са мной гавораць
Пра сенакос,
                пра дровы,
                            пра ўраджай:

— У нас тут зараз рознай працы горы.
Як справімся,
тады вось прыязджай…
…І песня зноў выходзіць не такая —
Ёй не хапае згубленай струны.
І еду з вёскі —
быццам уцякаю
Ад даўняй і нясплочанай віны…

*1984*

## ВЕРАСНЁВАЯ ПАРА

*Валянціну Блакіту*

Павуцінка залятае
Да вясковага двара.
І заве нас залатая
Вераснёвая пара.

Верасовая сцяжына.
Па баках — беразнякі…
Мы з табою не чужыя.
Мы з табою дружбакі…

Мухамор на вочы лезе.
Пад нагой пружыніць сук.
У маўклівым цёплым лесе
Толькі дзятла перастук.

Сала скрыль у нашай сумцы.
У кашах — баравікі…
Мы з табою аднадумцы.
Мы з табою сябрукі…

Нам за дзень не нахадзіцца
Між нізінак і палян,
Дзе рабіны, і брусніцы,
І пахучы дурнап’ян.

Ні хмурыначкі — уверсе.
Цішыня — на ўсе бакі…
Мы з табою аднаверцы.
Мы з табою грыбнікі…

Завядзёнкі не парушым —
Адшукаем касагор,
І сагрэе нашы душы
Непаспешлівы касцёр…

*1984*

* * *

*Памяцi*
*Уладзiмiра Караткевiча*

Зноў жалобных званоў ускалых,
Як пятлёю, сціскае горла.
Усё меней сяброў жывых.
Усё болей сяброў памёрлых.

Асядае ўспамінаў дым.
Не сустрэнемся, не пагаворым…
Давярайце ж сябрам жывым,
А тым болей — сябрам памёрлым.

Беражыце іх кожны міг,
Разумейце, маўклівых і гордых…
Не мяняйце сяброў жывых.
А тым болей — сяброў памёрлых.

І калі на шляхах крыжавых
Раптам вочы засцеле морак,
Успамінайце сяброў жывых,
Памінайце сяброў памёрлых…

*1984*

## ЛІСТОК АЛЬБОМА З XIX СТАГОДДЗЯ

«У шляхетным палацы,
У аздобленай мармурам зале,
Дзе грымела мазурка
І свечкі гарэлі ледзь-ледзь,
Перад дамамі сэрца
Паэты калені схілялі —

І жанчыны шчасліва
Пачыналі ўміг маладзець.

Гнеўны верш, як пальчатку,
Кідалі збялелым тыранам,
Ад сябе лёгкім жэстам
Адвёўшы знямелую смерць.
На світанні паэты
Прыносілі кветкі каханым —
І жанчыны шчасліва
Абяцалі ім век не старэць.

З-пад чужых небасхілаў,
Дзе крыж свой пакутніцкі неслі,
Дзе ў душы дагаралі
Летуценні былыя і злосць,
Прысылалі паэты сяброўкам
Лебядзіныя песні —
І жанчыны шчасліва
Берaглі праз гады маладосць.

І няхай у высокіх палацах
Пацямнеюць паркеты
І прыглухне мазуркі
Шляхетная медзь —
Пакуль будуць жанчыны,
Не замоўкнуць паэты,
Пакуль будуць паэты,
Жанчыны не будуць старэць…»

*1984*

* * *

Калі хто скажа,
                    што ў каханні ён
Усё спазнаў і вычарпаў дазвання,
Не верце.
                    Ён не знаў яшчэ кахання.
Ён яшчэ трапіць да яго ў палон,
І будзе плакаць над сабой былым,
І пракляне ўчарашняе бяссонне,

І здзівіцца,
што, можа, толькі сёння
Узнік кахання воблік перад ім.

Калі хто скажа,
што даўно
ані
Ужо няма ў каханні таямніцы,
Не верце,
і яму яшчэ прысніцца
Яно, як цуд нязнанай чысціні.
І ён,
як невядомыя дары,
Адшукваць будзе для прызнання словы,
Каб спаконвечнае адкрыць нанова,
І тайну тайнаў зноўку паўтарыць,
І зразумець аднойчы,
што жыццё
Пустым было б і вартым спачування,
Калі б на свеце не было кахання,
Дзе ўсё спрадвек — сакрэт і адкрыццё…

*1984*

* * *

Я не думаў пра вершы.
Толькі што ты паробіш з душой
Калі ў ёй,
Як вясновыя кветкі,
Прабіліся вершы.
І я з цэлым бярэмам
Да цябе
Без дазволу
Прыйшоў,
Свае тайны, і страхі,
І надзеі ўсе
Словам даверыўшы.

Я паклаў іх табе на калені —
Бяры, рассыпай, варушы
І раскладвай —

Адчай і прызнанні,
Папрокі і лёсткі.
А захочаш — на кожным
Задумліва паваражы,
Перабраўшы радкі,
Як вясёлых рамонкаў пялёсткі.

Я аддаў іх табе,
Самай гордай
З сучасных багінь.
Ты скажы — і яшчэ
Прынясу я ахвотна.
Можаш іх раздарыць.
Ды адзін
Літасціва
Пакінь —
Той,
Што, як васілёк,
Непрыкметны,
Блакітна-самотны…

*1984*

* * *

Назіраю употай
За табой, за табой.
Суцішаю работай
І сум свой, і боль.

Сню і думаю ўпарта
Пра цябе, пра цябе.
Як нядрэмная варта,
Мая мара жыве.

Да бяссоннай пакуты
Табою, табой
Я пакорна прыкуты
Надзеяй слабой.

О, не рві мае путы!
Я сцярплю гэты боль…

*1984*

## НАПАМІН ХАЛАСЦЯКУ

Так спрадвеку павялося,
Што знайсці мы ўсе павінны
Свайго шчасця, свайго лёсу,
Свайго сэрца палавіну.

І пакуль ты адзінокі
Пасярод жыццёвай прозы,
Ты як быццам аднабокі,
Несалідны, несур’ёзны.

Хоць дасведчаны і знаны
І жывеш на ўзроўні века,
Ты ўсё роўна
                    без каханай —
Палавіна чалавека.

Як людзей ні судзіш строга,
Ды без жончынага вока
Ты яшчэ сябе самога
Разумееш неглыбока.

Так што вер наіўным вершам
І навек адно запомні:
Толькі любую сустрэўшы,
Станеш ты нарэшце поўным.

Ды глядзі
              (і так бывае),
Каб цябе не падлавіла
Дарагая, дзелавая,
Ды чужая палавіна…

*1984*

* * *

Хто мудрэйшы быў — Адам ці Ева, —
Мы не будзем усчыняць садом.
Дзякуй ім,
              што адшукалі дрэва
З грэшным і спакуслівым пладом,

Што спалох пераступілі смела,
Нецярпліва згледзелі ў галлі
І сарвалі яблык недаспелы,
Надкусілі, нам перадалі…

Пэўна, мудра ўсё зрабілі продкі,
Калі столькі часу ўсім наўздзіў
Яблык той,
і горкі, і салодкі,
Нам яшчэ аскомы не набіў…

*1984*

* * *

«Вяршыня самазабыцця —
Каханне.
Зарука вечнасці жыцця —
Каханне.
Калі абвал сэрцабіцця
Не ў стане
Стрымаць няўцямнае,
Як сон,
Прызнанне.

Натхнення сакаліны ўзмах —
Каханне.
Каліны прысмак на губах —
Каханне.
Калі заледзянелы жах
Расстання
Ад промня ў дарагіх вачах
Растане…»

Калі ўжо ўблыталася ў чуб
Мне лета,
Ці то адчуў, ці то пачуў
Я гэта,
Ці песню з тых,
што не стае,
Склаў не такую…

Не можа быць,
                    што без яе
Звякую…

*1984*

* * *

Бязглуздая спрэчка.
Паспешлівы поціск рукі.
Глухое маўчанне.
Падкрэслены холад расстання.
І крокі заціхлі.
І выплыў туман з-за ракі.
І сэрца балела ў адчаі
Ажно да світання…

А ты хіба спала спакойна? —
Прызнайся сама.
І сэрца табе не кальнула
Туга шкадавання?
Калі не кальнула,
Дык, можа, яго і няма —
Маленькага сэрца,
Якое баліць ад кахання…

*1984*

* * *

Імклівы час — мудрэц вялікі.
Як паяднаў чароўна ён
Каханых незямныя лікі,
Зямныя воблікі мадонн!

Як звёў іх проста і прарочa,
Злучыў развагу і парыў,
На прыгажосць жывую вочы
Велікадушна нам адкрыў!

І абнавілася каханне,
І ў разняволенай душы

Зямлі і неба паяднанне
Даспела, нібы спарышы.

І ў снах пакутлівых узніклі,
Неразгаданыя спакон,
Каханых незямныя лікі,
Зямныя воблікі мадонн…

*1984*

* * *

…У прыцемку халодным прыскам тлеючы,
Твая сукенка ўпала каля ног,
І ты рукамі засланіла плечы,
Бо я ад іх святла аслепнуць мог.

Ты смеласці сваёй сама здзівілася.
А у мяне ў збянтэжаных вачах
Нібыта поўня белая дваілася.
І сэрца ашаломленае білася,
Як выпушчаны з цеснай клеткі птах.

Ты не ішла — асыпаная зорамі,
Хмурынкай лёгкай да мяне плыла —
Уся з адчаю, чысціні і сораму,
З даверлівасці, страху і святла.

Цьмянелі,
аддаляліся
і чэзнулі
Зямныя і нябесныя агні.
І я ступіў насустрач цёплай бездані
Здзіўлення,
шчасця,
тайны,
цішыні…

*1984*

* * *

Кагосьці безнадзейна кліча каня.
Зязюля шчодра дзеліцца гадамі…
А можа быць, яны маё каханне
Сваёй душой птушынай разгадалі?

Не заціхае салавей да рання.
Жаўрук неўтаймавана будзіць далі…
А можа быць, яны маё каханне
На свой птушыны лад пераказалі?

Ці не таму мне спеў іх зразумелы,
Такі трывожны і такі прыгожы?..
А я перад табой стаю, нясмелы,
Душа пяе,
а слоў знайсці не можа…

*1984*

* * *

Калі з начнога плёса
праз трысцё
Ты бегла
Да мяне на рукі ўпасці,
Я думаў,
Што каханне —
Гэта шчасце,
Якога хопіць мне на ўсё жыццё.

Калі ў расчаравання на мяжы
Мне вечнасцю здаваліся мінуты,
Каханне —
Думаў я тады —
Пакуты,
Якія немагчыма перажыць.

Калі ж суцішыў час мой гнеў пусты
І мудра ўраўнаважыў
сум і радасць,
Давер і рэўнасць,
жорсткасць і спагаднасць,

Я зразумеў:
Каханне —
Гэта ты.

*1984*

* * *

Ты спытала,
што вазьму я
У дарогу ў снег і слоту,
Калі вельмі засумую.
Адказаў:
— Тваю пяшчоту.

Ты пытала ў задуменні,
Што важней за ўсё —
Работа,
Шчасце,
Поспехі,
Натхненне?
Я шаптаў:
— Твая пяшчота.

Без падказкі і прымусу
У адчаі і самоце
Давяраю і малюся
Толькі ёй —
Тваёй пяшчоце.

І калі б ты запытала
У дзесяты раз і ў соты,
А чаго ў жыцці мне мала,
Я б сказаў:
— Тваёй пяшчоты…

*1984*

* * *

Я за жыццё сваё спасціг,
Што злосць —
сястра зларадаснасці,
А сэрца,
што ў грудзях маіх, —
Гняздо для птушкі радасці.
Ды толькі вось адно бяда,
Якую не агораю,
Не прылятае да гнязда
Пяюння яснапёрая.
Затое ў дождж
і ў халады
Ляцяць,
прытулку просячы,
Другія птушкі —
з чарады
Сумнення,
Смутку,
Роспачы.
Як найбліжэйшая з прынад,
Так вабіць іх гняздо маё.
Хіба ж я мог іх не прыняць,
Калі яны бяздомныя?
Яны ў мяне ў гасцях жылі
У зацішку спагаднасці,
Каб гнёзды іншыя былі
Сагрэты птушкай радасці.
Я і цяпер
іх галасы
Лаўлю душою шчыраю
І веру: блізяцца часы,
Што клікнуць іх да выраю.
І будзе свет — як светлы дом,
Без подласці і зайздрасці.
І я аддам яму гняздо
Для звонкай птушкі радасці.
Няхай яна
усім пяе,
Шчабеча,
не змаўкае ўсё.

Я дачакаюся яе.
Дачакаюся…

*1984*

## НАША ПЕСНЯ

Не была ты ніколі пры знаці,
Не стаяла ў чарзе да стала,
Не прасілася слёзна: «Прызнайце» —
Проста з людам тутэйшым жыла.

Лёс ягоны цярпліва дзяліла,
Не падсмейвалася з-за вугла,
Галасіла на ранніх магілах,
Гулкі рэй на вяселлях вяла.

Не прымала маны і прынукі,
Не сцірала загару са шчок
І хавала сялянскія рукі
Пад сатканы самой хвартушок.

Засталася спагаднай і годнай,
Разбудзіла маўклівы абшар
Некрыклівая споведзь народа,
Васількавага краю душа.

*1985*

* * *

Я славы не малю,
Пашаны не вымольваю,
Люблю сваю зямлю,
Найлепшую, па-мойму.

Ёй аддаю спаўна
Змярканні і дасвецці,
Каб шчаснаю яна
Была на гэтым свеце.

Ніколі без патрэб
Ёй клятвы не мусолю.

Не пасыпаю хлеб
Заморскай ёлкай соллю.

Мне сон і сэнс —
яна,
Маўклівая, звычайная,
На ўсё жыццё адна,
Нідзе не пазычаная.

Яе абцалаваў
Я песнямі і вершамі.
Хай пасля нашых спраў
Зямля паўстане лепшаю.

Няхай наперад мкне,
Імя сваё ўзвышае…
І гэта будзе мне
І слава, і пашана…

*1985*

## ПІСЬМО ПЯТРУ КЛІМУКУ З ЗАСНЕЖАНАЙ КАМАРОЎКІ

Панасыпала сёння сумётаў,
Аж схаваліся яблынь камлі —
Быццам сотня тваіх самалётаў
Пракаціла віхор па зямлі,
Быццам хмарай пранесліся гусі —
Кожны скінуў на вёску пяро…
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.

Гэта можна ўявіць толькі дома —
Як заснулі ў палях маразы,
Як звіняць заінелыя бомы
І пад сонцам блішчаць палазы,
Як на белым бяскрайнім абрусе
Зіхаціць завірух серабро…
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро.

Хай дымы рассцілае сталіца
Неадмытай старой прасцінай.
Я з табою хачу падзяліцца
Першабытнай зямной чысцінёй,
На прасторы, расчыненым насцеж,
Цёплым промням падставіць шчаку
І рыпучую сцежку пракласці
Па сляпучым глухім цаліку,
Каб сіберныя ветры атрэслі
Сум настылы з кашлатых хваін
І касмічныя трасы і стрэсы
Ты забыў хоць на дзесяць хвілін…

Не паддайся сумненню і скрусе,
Не прыхоўвай у сэрцы дабро —
Слава, гонар, любоў Беларусі,
Прыязджай на радзіму, Пятро!

*1985*

* * *

Не думаючы надта пра вякі,
Спяшаючы трыбух набіць уволю,
Не самародкі-дзеячы — дзялкі
Наперад прадзіраюцца ўсё болей.

Вала гісторыі даймаюць — «цоб-цабе!»
(А ён цярплівы, чорны вол рабочы).
Панастаўлялі помнікаў сабе,
З якіх пасля нашчадак парагоча.

Адданасць, талент, пот і мазалі
Змяніла падхалімскае старанне.
Да забавак старэчых давялі
Узнагароды, лозунгі і званні.

Заснулі ў цёплай засені пасад,
Не ведаюць, што пасярод дарогі
Аднойчы азірнецца вол назад
І ўсіх узніме на крутыя рогі.

*1985*

## ПЕСЕНЬКА АНГЛІЙСКАГА САЛДАТА

Ці прыпадак вар’яцтва,
Ці проста дзівацтва —
А куды толькі беламу свету дзявацца? —
Пачынаюць палітыкі зноў задзірацца,
Значыць, хутка салдату ў дарогу збірацца.

Сверб старога ваяцтва
Ці прыступ пірацтва —
Толькі дзе яго ў свеце зусім не збаяцца? —
Пачалі ў сваіх планах генералы ўпірацца,
Значыць, хутка салдату ў дарогу збірацца.

Душ і лёсаў сваяцтва —
Салдацкае брацтва.
Ці паспееш з сябрамі навек развітацца?..
У дарогу салдату нядоўга збірацца.
Толькі вось ці пашчасціць дадому вяртацца?..

*1985*

* * *

Лес для таго і вырас на зямлі,
Каб птушкі і звяры у ім жылі,
Каб таямніцы варажылі ўночы,
А ўранні разлягаўся трэск сарочы,
Каб я паклаў пад елку ці сасну
Сваю апошнюю вясну…

*1985*

* * *

Ты стала ля дзвярэй
У гулкай цішыні.
Шаптала мне: «Скарэй…»
Прасіла: «Зачыні».

Адвага і адчай
Маўчаннем сцялі рот.

І паварот ключа —
Як лёсу паварот.

Ніхто не адамкне
Зачыненых дзвярэй.
Цяпер ніхто ў мяне
Цябе не адбярэ.

Шалёны сэрца ўдар
Каля маіх грудзей —
Як шчасця шчодры дар,
Як бурны ўсплёск надзей.

Ноч выблескам пляча
Працята навылёт…
І паварот ключа…
І лёсу паварот…

*1985*

* * *

Жанчын прыгожых трэба берагчы
Ад пошласці, каварства і знявагі,
І ад мяшчанскай зайздрасці і звягі,
І ад залішняй ветласці і ўвагі,
І ад рукі нахабнай на плячы.

Яны прыйшлі на грэшную зямлю,
Як сны і летуценні залатыя,
Жаданыя і трошачкі святыя,
Нязнанага суладдзя панятыя, —
Святлом напоўніць вечнае «люблю».

Не дайце іх зняславіць і заплеміць,
Не рвіцеся ўчыняць над імі суд.
Хай горда па жыцці яны нясуць
Вясны юначай радасную памяць,
Зачаравання невыказны цуд…

*1985*

* * *

Ад цякучкі бяздарнай,
Ад будзённай трухі
Сталасць клікне ўладарна
На былыя шляхі —
Поўны шчасця і болю,
Я прайду па гадах,
Па бацькоўскаму полю,
Па юначых слядах.

Па туманах і росах,
Па траве,
Па вадзе
Юнай памяці посах
Зноў мяне павядзе.

Прыпынюся на полі,
Дзе стаялі сябры, —
Хай мне ногі наколе
Іх іржэўнік стары.
У службовых замотах
Я не страціў правоў,
Каб паслухаць самотна
Іх сівых журавоў,
Каб у хісткім спляценні
Напамінаў і дат
Іх знаёмыя цені
Між рабін угадаць…

Чмыхне спуджаны вожык,
Нібы ўчуўшы бяду…
Я ўжо даўняга, можа,
Больш нідзе не знайду.

Ды хіба гэта мала,
Калі там пасяджу,
Дзе вясёлая мама
Серп схавала ў мяжу,
Дзе я мчаў з хлапчукамі
Да надрэчнай грады,
Дзе стаяў з васількамі
Бацька мой малады?..

*1986*

* * *

Ад Чарнобыля ў небе плыве аблачынка.
А па лузе ідуць хлапчанё і дзяўчынка.
Вецер шастае колкі.
Ліпкі дожджык імжыць…
І хто ведае,
Колькі
Засталося ім жыць.

Дзеўчанё яснавокае
І хлапчук светла-русы —
Па вясновай зямлі ідуць беларусы.
Узіраюцца ў неба зусім без апаскі,
Каля сцежкі зрываюць паніклыя краскі.
І прагрэс перад позіркам іхнім дрыжыць.
«А ці будзем мы жыць?»
«А ці будзем мы жыць?!»

*1986*

* * *

Якое шчасце —
Жыць на белым свеце,
Піць водар траў і цішыню бароў,
Твар падстаўляць пад чабаровы вецер
І мець сям'ю, работу і сяброў!

Якое шчасце —
Жыць зусім звычайна:
Браць кнігі з перапоўненых паліц,
І наліваць вадой крынічнай чайнік,
І ў садзе лісце прэлае паліць!

Якое шчасце —
Даланёй сялянскай
Адчуць слухмянасць гэбля і касы
І з нечаканай прадзедаўскай ласкай
Расчулена пагладзіць каласы,
У засені схавацца за адрыну,
Дзе дуб калыша свой зялёны шум,

I сцішанаю песняю адрынуць
I адзіноту, і бетонны сум.
Аднойчы выйсці ў поле на дасвецці,
Каб зразумець —
Да ачышчальных слёз, —
Якое шчасце —
Жыць на белым свеце
Сярод вясёлак, птушак і бяроз!

*1986*

* * *

Непрыгожых жанчын не бывае.
Паглядзі —
Вунь насустрач ідзе
Асляпляльная,
Баявая,
Як маланка,
Як выклік нудзе.
Ці плячом павядзе,
Ці брывамі —
Абрываецца сэрца на міг.
Як світальнай расой аблівае,
Ад халоднай зямлі адрывае
I ўзнімае да зор агнявых.

Непрыгожых жанчын не бывае.
Паглядзі —
Вунь насустрач ідзе
Сарамяжліва-
Снегавая,
Як лілея на ціхай вадзе.
Вочы ўзніме —
I сінь палявая
Павявае лагодай такой,
Што глухая трывога сплывае,
I пяшчота душу спавівае,
I прыходзіць
Шчаслівы спакой.

На жніве,
Ля ракі,
У трамваі —
Паглядзі —
Прыгажунь не злічыць.
То — нібы сон-трава баравая,
То — як зорка Венера ўначы…

Непрыгожых жанчын не бывае.
Проста шмат невідушчых мужчын.

*1986*

* * *

Хоць ты ў Антарктыку бяжы,
Калі па ўсім вясновым краі
Ідуць кіслотныя дажджы,
Як быццам неба нас карае
За спляжаны бяздумна лес,
За гербіцыды і нітраты,
За ўвесь бязлітасны прагрэс,
Хоць ён зусім не вінаваты.

На дымным ядзерным крыжы
Прырода курчыцца пакутна.

Ідуць кіслотныя дажджы,
На сад выплёхваюць атруту.

Цьмянее незабудак сінь,
З лістоты піць не хочуць птушкі.
І кроплі чорныя на ўсім —
Нібыта д’яблавы вяснушкі.

*1987*

* * *

Той чарнобыльскай ноччу,
Як у жудасным сне,
Напамінам прарочым
Скаланула мяне —
Бліскавіцай урану
Можна свет спапяліць.
І пякельнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Больш не радуюць кветкі
І не клічуць грыбы.
Не магу я
Быць гэткім,
Як да гэтага быў.
Роздум змрочным тыранам
Будзе роспач цвяліць.
Незагойнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Што пакіну я ўнуку?
Што я сыну скажу?
На людзей і навуку
Я іначай гляджу.
І віной дараванай
Гора не адбяліць.
Невылечнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Як ва ўсім разабрацца
Нам без жудасных сноў,
Каб агонь радыяцый
Не ўзвіхурыўся зноў,
Каб не слалі праклёну
Нам ні лось, ні мядзведзь?..
Будзе, будзе да скону
Мне Чарнобыль балець…

*1987*

* * *

А пад раніцу глуха зямля задрыжала,
І вятрыска не змог мерны гул пагасіць —
Па маўклівых прасеках, палянах, прагалах
Праімчалі задыханым статкам ласі.

Хто ім значыў у шэрым тумане дарогі?
Што на ногі ўзняло іхні кемлівы род?..
Аб старыя яліны ламаючы рогі,
Гнаў важак іх няспынна на ўсход і на ўсход.

У празорлівым воку ягоным сышліся
Вечаровыя здані і пачварныя сны:
Двухгаловыя рыбы, аблезлыя рысі
І сляпыя бяздзюбыя бацяны.

Ён інстынктам спрадвечным вышукваў сцяжыны,
Ад знаёмых азёр ласянят адганяў,
Вёў і вёў у дрымучыя нетры чужыя,
Быццам гналася следам ваўкадаваў гайня.

Не даваў перадыху няўцямнаму спеху,
Хоць халоднай расой спакушала трава,
Вечнай памяццю продкаў адчуваў небяспеку,
Ад нязнанай пагрозы статак свой ратаваў,
Нёс па лесе
На капытах
Чарнобыльскі пыл
І чарнобыльскі страх…

*1988*

## ПЕРАСЯЛЕННЕ

Вось і прымусіў
Раскуты, раз'юшаны атам
На развітанне расстайнае
Кланяцца пуням і хатам,
Кланяцца студням,
Дрывотням,
Тынам,
Азяродам,

Зазелянелым садам
І засеяным агародам.

Вось і настала пара
Развітацца
З сабакам
І з пеўнем,
Гэткім вясёлым,
Чырвонабародым
І спеўным,
Моўчкі пагладзіць —
Ці ўдасца пабачыцца зноўку? —
Дужа слухмяную,
З чорным цяляткам,
Кароўку…

Нехта галосіць.
А нехта бязладна ляпеча…
Бабка ж Аўдоцця
Ніяк не расстанецца з печчу.
Перамаўляецца з ёй напаўголаса,
Нібы з жывою,
І да ляжанкі хінецца
Сваёю сівой галавою.

— Як жа ты будзеш адна,
Без мяне,
Мая любка?
Ты ж не пліта,
Не камін,
Не «буржуйка»,
Не грубка.
Я ж цябе
Толькі сухімі дрывамі
Паліла
І перад святамі
Свежаю крэйдай
Бяліла.
Столькі гадкоў
Мы жылі з табой
Дружна і міла.
Ты мяне грэла,
Карміла,

Не дужа дыміла.
І засланіла не раз
Перад смерцю самою.
І засталася са мною
Сяброўкай маёй
І сям'ёю.
Мужа забіла вайна,
А блакада дзяцей загубіла.
У галадуху
Радню ўсю
Забрала магіла.
Толькі з табой
І падзелішся
Скрухай і горам.
Мы і паплачам удзвюх,
І паскардзімся,
І пагаворым.
А вось цяпер
І зусім
Давякую
Адна я.
Хто будзе з нас шчаслівейшы,
І Бог сам не знае.
Перахрышчу я,
Дазволь,
Цябе тройчы
На ростань
І абагрэю
Здавён прыхаванай
Бяростай…

Двор свой пакінула бабка
Спакойна і смела.
Толькі з аўтобуса
Доўга
На родную вёску глядзела.
Бачыўся ёй
Пачарнелы ад часу дамок
І, як дыханне,
Над комінам
Сіні дымок.

*1988*

## ПРЫСНІЎСЯ СОН МАТУЛІ…

Матулі зноў прысніўся дрэнны сон
Пра сына.
Пра каго ж яшчэ ёй сніцца?
Нібыта ходзіць па кватэры ён,
Ламаючы струхлелыя масніцы.
А ёй карціць яму дапамагчы,
Рвануцца напярэймы,
Ды няможна.
І сын, як здань, знікае уначы.
І сэрца маці тахкае трывожна.
Ёй не заснуць да раніцы цяпер,
Не вымаліць душэўнай раўнавагі.
І прадчуванне, як галодны звер,
Ламацца будзе ў сумныя развагі:
«Чаму масніцы?
Ад чаго яны
Рыпелі і ламаліся штохвілі,
Калі ў яго паркет і дываны —
Ні парахні,
Ні шашалю,
Ні цвілі?
Так доўга не званіў і не пісаў.
Мінулы год хварэлі ўнукі часта.
А можа, недзе прастудзіўся сам?
А можа, чым не дагадзіў начальству?..»
Як толькі сонца бліснула ў акне,
Яна спалох панесла да суседзяў,
Каб нехта ў дзіўным, недарэчным сне
І тайны сэнс, і тайны знак угледзеў.
Зноў прыгадала ўсе свае гады,
Усе свае сакрэты і прыкметы.
Калі ён быў худы і малады,
Дык на пабыўку прыязджаў штолета.
Гарэў у печы весела агонь.
Па хаце праплывалі кропу хвалі.
І ціха пад ягонаю нагой
Памытыя маснічыны спявалі…
Вярнулася вясёлая.
На ўслон
Прысела,

Перш чым корпацца ў гародзе.
«І праўду кажуць:
Глупства — гэты сон.
Чаго не навярзецца ў адзіноце…»
Палола, палівала цэлы дзень.
Курэй у хлеў загнала на змярканні.
Прылегла.
А жаданы сон не йдзе.
І сэрца распінаюць прадчуванні.
На вуліцы не ціхнуць галасы.
Пад коўдраю ніяк не прымасціцца…
І ўсё ў вачах стаіць далёкі сын.
І ўсё рыпяць старэнькія масніцы…

*1988*

* * *

*Памяці Жэні Янішчыц*

Жэня, Жэня!..
Што ж ты нарабіла?..
Як жа мы цябе не зберaглі?!.
Жорсткім ветрам паламала крылы
Ластаўцы зняверанай зямлі.

Зноў з тупым адчаем і з журбою
Мы цябе пакінулі адну.
І — не замаліць перад табою
Горкую балючую віну.

Сумная, запозненая пошта
Больш не прынясе твае лісты…
Ластаўка палеская,
Навошта
Гэтак рана адляцела ты?..

*1988*

* * *

Ноч над лугамі, расою намоклымі,
Хмаркі рассоўвае.
Зноў і на сэрцы маім, і за вокнамі —
Ціша бяссонная.

Нейкая птушка ніяк не ўгамоніцца,
Пырхае, ціўкае.
Можа, і ў птушкі старая бяссонніца,
Роспачнасць ціхая.

Ці не хапае святла над разорамі,
Ветру мурожнага?
Ці і ў яе між зямлёю і зорамі
Столькі трывожнага?

Цьмяна заранка за вёскаю бліскае,
Птушку палохае.
Крылы слабыя. Надвор’е вятрыстае.
Доля нялёгкая.

І ўжо на выгане вырай збіраецца
Купкаю рэдкаю…
Вось і засні тут, чакаючы раніцу,
З гэткай суседкаю…

*1989*

* * *

У раённай ранішняй гасцініцы
Першы промень шыбы залаціць.
І здаецца,
Вось акно расчыніцца
І гарласты певень заляціць,
Крыламі агністымі залопае,
Горда ўскіне
Звонкі свой кадык
І ўзнясе над соннаю Еўропаю
Першабытны пераможны крык…

Хай нічога ў свеце не адбудзецца,
Ды ўва мне,
Як вечнае святло,
Раптам
Дзіва дзіўнае абудзіцца,
Што дзіцячай яваю было.

Дзе яно,
Забытае,
Далёкае,
Даўняе,
Схаванае ў душы —
На палянах верасных галёкае
Ці маўчыць у цёмным шалашы?

Вабнае,
Наіўнае,
Няўлоўнае,
Да якога зноў не дабрысці,
Сёння, можа, самае галоўнае,
Самае патрэбнае ў жыцці?

Цяжка цісне скрухай беспрычыннаю
Сэрца, пасталелае даўно…
Свеціць сонца.
І акно расчынена.
Толькі пеўня штосьці не чутно…

*1989*

* * *

Не перанось спатканне на пасля.
Хто ведае, што заўтра нас чакае —
Ці то ад шчасця спыніцца зямля,
Ці напаткае нас бяда якая.

Сагрэй мне вусны сённяшнім агнём,
Абмый душу мне сённяшняю ўсмешкай.
Хай кажуць,
што жывём кароткім днём,
А не халоднай вечнасцю няспешнай.

Хвіліны нават не паўторыць час,
Хоць папракай яго ты, хоць упрошвай.
Што, як сустрэча гэтая якраз
Для нас галоўнай стане і… апошняй?..

*1989*

* * *

Непрыкметна падступіла восень —
Хутка пацямнела неба просінь,
Выстылі маўклівыя прасторы,
Не гарыць касцёр на касагоры,
І плывуць ад лесу і з прылукі
Сумныя, прыцішаныя гукі.

Гэта, змыўшы жнівеньскія цені,
Несуцешна плача свет асенні.
Плача вецер над зламанай слівай.
Плача неба над нязжатай нівай.
Над свінцовай роўняддзю затокі
Горка плача лебедзь адзінокі.
А між іх душа мая, няйначай,
Над самой сабой журботна плача.

*1991*

## БЕЛАРУСІ 90-Х ГАДОЎ

Ты начулася ўдосталь прамоўцаў пустых,
У якіх пaverб паяднаны хлусня і хвала,
І чамусьці даўно ўжо не слухаеш тых,
Каму таленты раздала.

А яны ж тваю сутнасць нясуць праз гады.
Свет па іх вызначаць тваё месца прывык.
Дзе ж стаіўся іх голас,
Заўжды малады?
І ў душы выспявае не просьба, а крык:

«На цябе неаднойчы вастрылі нажы,
Каб навекі цябе загубіць.

Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш свабоднаю быць!

У вар'яцкай яздзе, на сляпым віражы
І дарогу няцяжка згубіць.
Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш разумнаю быць!

Ты аглухла сягоння ад песень чужых,
А свае ўсе паспела забыць.
Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш славутаю быць!

Прагані з даляглядаў сваіх міражы
І пабудку паспей пратрубіць.
Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш магутнаю быць!

Сіратліва не стой ля суседскай мяжы
І не дай сваю памяць знябыць.
Беларусь,
Свае таленты беражы,
Калі хочаш шчаслівай быць!»

…І разбілася думка мая яшчэ раз
Аб каменную сценку людской глухаты.
І ехідна ўсміхнуўся зняверaны час…
Ну няўжо не пачула і ты?

*1991*

* * *

Бязбожнікі былыя ўсё часцей
Прыходзяць да царкоўнага парога.
(Калі дабра не бачыш ад людзей,
Знайсці спагаду спадзяешся ў Бога.)

Няўмела свечкі ставяць за ўпакой,
Гатовы сарамліва прычасціцца.
Баяцца вочы ўзняць —
Над галавой
Увысь анёлы ўзносяць таямніцы.

Нязвыкла словы даўнія гучаць,
Аж халадок перапаўняе грудзі,
Нібы спыніўся і змяніўся час —
Ці то ўжо ўсё было,
Ці толькі будзе.

З даверам,
Без папрокаў і маны
Са сцен глядзяць прасветленыя твары.
І ў сэрцы будзяць гулкія званы
Раскаянне і прадчуванне кары.

А Ойча блаславіць усё смялей
Свавольную надзею маладую…
Быць можа, не паможа Бог,
Але
І выслухае ўсіх, і пашкадуе.

*1991*

* * *

Заморская вясна
Парасчыняла скарбы,
Рассыпала спаўна
Свае густыя фарбы.

Унізе і ўгары,
Як выдумка былая,
То жоўтае гарыць,
То белае палае.

Ды тыя фарбы штось
Душа не заўважае.
Чужая прыгажосць
Яна і ёсць чужая.

А ў сонны лес ідзеш —
Пралеска дагарае.
Някідкая,
Але ж
Такая дарагая.

Пераміргнуцца з ёй
Так проста і так добра:
То ж сон зямлі маёй,
Маёй журбы аздоба.

Прыгожая яна
Для сэрца і для вока,
Як даўняя вясна,
Што ад мяне далёка.

*1991*

* * *

Над бясконцасцю акіяна
Цьмяна ўспыхвае зараніца.
Ад бяссонніцы акаяннай
Мне да раніцы не адбіцца.

Сярод скал бесхацінцам пахілым
Адзінота згубілася недзе.
Мне ж за выцвілым небасхілам
Ні бароў, ні сяброў не разгледзець.

Так далёка-далёка ад дому.
Б’ецца сэрца трывожна і гулка.
Настальгію сваю і стому
Я схаваў пад падушкай мулкай.

Дагарае апошняя знічка
На чужым раўнадушным небе.
А Радзіма мяне не кліча.
Я Радзіме, відаць, не патрэбен.

Што ж, ізноў, як сын нелюбімы,
Застануся з надзеяй і болем…

А мая дарагая Радзіма
Мне патрэбна ўсё болей і болей.

*1991*

* * *

Можа, за дзесятым небасхілам
Край дзіцячай радасці і ўцех.
Я б туды,
Каб меў такія сілы,
Птушкай пералётнай паляцеў.

Крылы ж мне адлегласцю звязалі.
І сярод бязадрасных размоў
Я жыву, нібыта на вакзале,
І чакаю цягніка дамоў.

Хай то будзе учарашні жорсткі
Ці імклівы сённяшні экспрэс,
Толькі б ён спыніўся каля вёскі,
Дзе рачулка чыстая і лес,
Дзе над студняй —
Журавель пахілы,
Залатыя пчолы —
Ля вулля,
Дзе на ўзгорку —
Родныя магілы,
А навокал —
Родная зямля.

*1991*

* * *

Я ведаю:
Нядобрых моў няма,
У кожнай мілагучнасць ёсць і сіла,
Якая песняроў ускаласіла
І мудра зберагла,
Каб не скасіла

Іх ні хлусня,
Ні слава,
Ні турма.

Я слаўлю мову,
Што яднання дар
Дала і акадэміку, і цеслю.
І ў думках нават я не перакрэслю
Чужую споведзь і чужую песню,
Якія зразумець мне лёс не даў.

Як самая дакладная з навук,
Нам мова праз стагоддзі захавала
Пах палыну
І тонкі звон металу,
Арліны клёкат,
Гулкі гул абвалу —
Усё, што пераліта ў кожны гук.

І правіла прыдумалі не мы,
Што там,
Дзе не шануюць роднай мовы,
Мялеюць рэкі,
Нішчацца дубровы,
Каля магілак пасвяцца каровы,
Народ там мёртвы,
А той край — нямы.

Быць у пустэльні не жадаю я.
І не хачу я мець сяброў бязмоўных,
Бо на зямлі ў нас столькі моў чароўных,
Малення поўных
І здзіўлення поўных,
Усіх пявучых
І усіх — галоўных.
І толькі так —
Як роўная між роўных —
Жыць можа мова родная мая…

*1991*

* * *

Не, я не здолею, напэўна,
Прадбачыць свой апошні дзень,
Калі садоў густая пена
На дол абвалам упадзе
І паплыве пустая лодка,
Згубіўшы ў чаратах вясло,
І стане вусцішна і лёгка
Так, як ніколі не было…

Я разумею, разумею —
Нашто аб гэтым варажыць?
Але жыцця ўсё меней, меней
Да мне адведзенай мяжы.

Як ні жартуй,
Як ні храбрыся,
Не абмінеш зямны статут.
І там,
За тою страшнай рысай,
Сяброў ужо не менш,
Чым тут.

І колькі ў шчасці ні галёкай,
Прыцісне чорная туга,
Што недзе вельмі недалёка
Мая чарга,
Мая чарга.

*1991*

* * *

Гэта тайна
Спрадвечнай
На свеце была:
Паміж зоркай і свечкай
Ёсць нітка святла.

У начы безгалосай
Шлях падкажуць і мне

Зорка ў цёмных нябёсах,
Свечка ў дальнім акне.

Сумна ў сэрцы асядзе,
Як і ў даўніх вяках, —
Зорка ў мілым паглядзе,
Свечка ў мёртвых руках.

Дажывуся і сам я
Да самотнай пары,
Калі зорка згасае,
А свечка гарыць,
Кожнай кропляй гарачай
Лье святло, як спакон…
І не мне перайначваць
Гэты вечны закон.

*1991*

* * *

Як вецер лісце шугане
Па скверу,
Ты засумуеш без мяне —
Я веру.

З-за хмар збяжыць змяркання міг
Па промню.
Як добра нам было ўдваіх,
Я помню.

Плыла ад поўні паласа
Скразная.
Ты страхам поўнілася ўся —
Я знаю.

На зоркі клаўся цень крыла
Ціхутка.
Ноч тая цёплая прайшла
Так хутка.

Ёй грэцца ў памяці маёй,
Як цуду.

Да скону дзён маліцца ёй
Я буду.

*1991*

* * *

Нечакана шчымліва-адчайна
За туманамі, за асакой
Ці то кнігаўка, ці то чайка
Пракрычала над соннай ракой.

Так трывожна, тужліва кугіча,
Быццам просіць прачнуцца сяло.
Ці то ў новыя далечы кліча,
Ці то плача над тым, што прайшло.

Спіць зямля. Небасхіл залачае.
І плыве над чародамі ліп
Для каго — крык здарожанай чайкі,
Для мяне — роднай кнігаўкі ўсхліп…

*1992*

* * *

Я ведаю,
Мне дома будзе горш.
Я ведаю,
Мне дома будзе горка.
Але ірвуся
З сытага Нью-Йорка
У Мінск,
Дзе гастраноміі — на грош.

Зманю,
Калі скажу:
Не ўспомню больш
Кавярні з вострым водарам цытрыны,
Напоўненыя рэчамі вітрыны,
Імклівыя бясшумныя машыны,
Цэнтральны парк,

Начны Брадвей…
І ўсё ж…

Ні варажбіт,
Ні мудры экстрасенс
У тым не знойдуць логікі асновы,
Што так імкнуся ў бедны кут сасновы,
Пакінуўшы ўбаку разумны сэнс.

І мне ўжо ні пасада,
Ні багацце
Не перашкодзяць кінуцца туды,
Дзе ля парога —
Шэры цень бяды,
Дзе нівы засыхаюць без вады
І з ростані мяне чакае маці…

Што тут паробіш,
Калі ўсе гады
Я нёс,
Нібы праклящце і закляцце,
Упартую адданасць роднай хаце
І ўдзячнасць краю,
Дзе жылі дзяды.

*1992*

* * *

Як толькі ў густым вечаровым тумане
Ускрыкне вавёрка ці птушка якая,
Цяжкое халоднае прадчуванне
Мне сэрца сціскае,
Зноў сэрца сціскае.

Далёкай Радзімы забытыя цені
Выходзяць, нячутныя, з лесу старога.
Ва ўсе спадзяванні,
На ўсе летуценні
Крадзецца трывога,
Кладзецца трывога.

У памяць заходзяць рашучай ступою
То водбліск зарніцы,
То водгулле грому.
І думка адна не дае супакою:
А як жа там дома?
Ну як жа там дома?..

Няхай сабе ціха,
Няхай сабе глуха —
Імя Беларусі душа паўтарае.
Няўжо не пачуе ніводнае вуха
Ва ўсім родным краі,
Па ўсім родным краі?..

*1992*

* * *

Цяжкі застой на Беларусі
Каторы год.
І разважаюць людзі:
Мусіць,
Такі народ.

Чужым і ўласным дармаедам
Глядзіць у рот
І паслухмяна крочыць следам —
Такі народ.

Як ні гукай адчайна:
— Людцы!
Ганіце зброд! —
Яны ў адказ адно смяюцца.
Такі народ.

Не хочуць мець парадак новы.
Наадварот,
Гатовы жыць без роднай мовы.
Такі народ.

Хаця прывык да ўсякай працы,
Шукае брод,

Каб не дай бог не вытыркацца.
Такі народ.

Трываць дурныя кпіны будзе
І недарод…
Няўжо і праўду кажуць людзі —
Такі народ?..

*1994*

* * *

Як з тайнай смерці сувязь стане крэўнай,
Спакойна зразумееш спакваля:
Нявечныя і курганы, і дрэвы,
Нявечная, напэўна, і зямля.

І ўжо не будзеш з крыўдаю і страхам
Пратэставаць, што ў вечнай барацьбе
Усё памрэ і стане лёгкім прахам
З табою,
Пры табе
Ці без цябе.

Таму ці варта плакаць над сабою,
Над свечкаю былога пачуцця,
Над кволаю галінкай,
Над слабою
Крупінкаю нявечнага жыцця?..

*1994*

* * *

Так знаёмы ўрочышчы і палеткі,
А і яны складаюцца з таямніц:
Таямніца атама,
Таямніца клеткі,
Таямніца зернетка і крыніц.

У душы разгубленай праз напасці
Беражна пранесены,

Як абразы,
Таямніца вернасці,
Таямніца шчасця,
Таямніца ўсмешкі і слязы.

Як святое таінства на дасвецці
Скрозь дзірван бяспамяцтва прараслі
Таямніца вечнасці,
Таямніца смерці,
Таямніца неба і зямлі.

Ох, даўжэй пажыць бы пад Мілавіцай,
Каб паспець да лепшага свет змяніць,
На зямныя дзіўнасці надзівіцца,
Разгадаць хоць некалькі таямніц…

*1994*

## ШТО ТРЭБА

Важнай шышцы пазванілі
Ці мо «зверху», ці то з неба
І спыталі клапатліва:
— Што табе на сёння трэба?

Над сталом устаў начальнік,
Паважнеў, як для даклада,
І, не думаючы доўга,
Адказаў адно:
— Улада.
Мне не трэба прывілеяў,
Шакаладу-мармеладу,
Ні прыгожых сакратарак,
Ні вялікага акладу,
Ні пузатага партфеля,
Ні сакрэтнага буфета,
Ні прафесарскага звання,
Ні музейнага партрэта…

Сам сабе ўсміхнуўся хітра:
«Калі буду мець уладу,
Дык, напэўна, атрымаю
І зарплату, і пасаду,

Прыйдзе ўсё само сабою —
Добры чын і ўсё да чына:
І дагледжаная дача,
І службовая машына.
І паслужліва-лісліва
Будуць побач аціраццa
І тупыя даручэнцы,
І разумныя дарадцы.
Прынясуць мне і бутэльку,
І прэзенцікі ў канверце…
Так што мне патрэбна ўлада
І на сёння, і да смерці».

Паўтарыў у трубку сціпла,
Не мяняючы пагляду:
— Анічога мне не трэба.
Толькі ўлада,
Толькі ўлада.

*1994*

## ПРУСАКІ

*(Паводле народнага)*

Можа, хто і вінаваты,
Што пішчом з усіх бакоў
Паналезла ў нашы хаты
Ненажэрных прусакоў.

Не пытаючы прытулку,
Пазаймалі ўсе куткі —
І не стала паратунку
Ад нахабнікаў такіх.

З мілай ласкай і са сваркай
Просяць бабы мужыкоў:
— Заняліся б гаспадаркай —
Паганялі б прусакоў.

Мужыкі ж бурчаць ляніва:
— Што за клопат,
Божа мой!

Хай жывуць.
Такое дзіва.
Здохнуць самі ўсе зімой.

Ды залез мароз у сені,
Намяла снягоў зіма,
А на д'яблава насенне
Ўсё пагібелі няма.

Як мяцеліцы ні граюць,
Не стамляюцца яны —
На муку пераціраюць
Хлеб,
І крупы,
І бліны.

Хоць ты кліч на дапамогу,
Бо не справіцца ніяк —
Занялі ўжо ўсю падлогу,
Да краёў забілі гляк,
Нейкі шастае на печы,
Нейкі посцілку грызе,
Прабіраецца за плечы,
Шпацыруе па назе…

І мужоў «пілуюць» жонкі,
Не шкадуюць грымакоў:
— Скора бегчы трэба вонкі
Ад праклятых прусакоў.
Як мага хутчэй мяняйце
Свой характар, лайдакі,
А то будуць жыць у хаце
Да сконвеку прусакі…

*1994*

* * *

Абыходжу родныя аселіцы,
Строгія агледзіны раблю.
Новыя суседзі дружна селяцца,
Абжываюць глёўкую зямлю.

Цёткі з цягавітасцю спрадвечнаю
У дварах вядуць сялянскі рэй,
А бабулі з шумнаю малечаю
Разганяюць качак і курэй.

Люстраю ці лямпай мадэрноваю
Зырка свеціць кожнае акно…
Толькі вось парою вечароваю
Гаманы на прызбах не чутно.

У застоллях песні не спяваюцца,
Як было ў ранейшыя гады.
І пахмурна мужыкі співаюцца
Ад нядбальства, тлуму і нуды.

Замяло мае сады юначыя
Скразнякоў сцюдзёнае крыло…
Нешта горка, незваротна страчана.
Нешта непрыкметна аджыло.

Невядомасць віратлівай стромаю
Рушыць мой запас душэўных сіл.
І кажу суседу незнаёмаму:
— Мне не чарку —
Песню
Паднясі.

*1994*

## СОН

Страшны кашмар
Мяне мучыць да раніцы.
Жудасны сон
Зноў і зноў паўтараецца:

Быццам бы воля злавесная нейчая
Шэрых ваўкоў пасяліла з авечкамі.

І пад аўчынаю
Знікла адвечнае.
Што тут —
Ваўчынае?

Што тут —
Авечае?

Ходзяць ваўкі кучаравыя
Пашамі.
Выюць авечкі
З клыкастымі пашчамі.

Не заўважаюць
Ні сена,
Ні зайцаў,
Б'юцца ілбамі,
Штоміг агрызаюцца.

Кожны лаўчыцца
Іншага зжэрці
І не шкадуе
Ні шкуры,
Ні шэрсці.

А праз выццё
І бляянне авечае
Ясна чуваць
Галасы чалавечыя:

«Што ж не ў засценках
Вы ўсе апынуліся —
Проста за сцэнай
Пераапрануліся?

Вымелі вон
Маніфесты з дакладамі,
Робіце шмон
З адрасамі дакладнымі.

Сталі шпікамі
З начнымі пагонямі.
Пад пінжакамі —
Мундзіры з пагонамі…»

Зграя гырчыць,
Не даруе,
Не каецца
І загрызае

Усіх,
Хто спаткаецца.

Поўсць разлятаецца,
Шкура крывяніцца…

Не надыходзіць
Жаданая раніца…

…Вые,
Скавыча,
У друзе качаецца…

Жудасны сон мой
Ніяк не канчаецца.

*1994*

* * *

Так ужо заведзена спрадвеку —
Можа, прымха,
Можа, Божы знак —
Толькі на Радзіме чалавеку
Ходзіцца і дыхаецца ўсмак.

І заўжды здаецца нават зверу
Найцяплейшай родная зямля.
Гэта ўсё я на сабе праверыў,
Даўшы па планеце кругаля.

Не прыжыўся я за акіянам,
Не прыняў замежны той рэжым.
Як прыехаў я туды нязваным,
Так і з’ехаў я адтуль чужым.

Лёгка збыў красу чужую тую
І пяшчотна да душы тулю
Ціхую, змарнелую матулю —
Родную, знябытую зямлю.

*1994*

* * *

Калі цябе я,
Край мой,
Пакідаў,
Я ведаў,
Што за цёплым акіянам
Мне будзе не хапаць
Тваіх атаў,
Тваіх суніц
І яблыкаў крамяных.

Разлукі чашу выпіў я да дна,
Ператрываў тугу начэй бяссонных
І зразумеў,
Што кроў у нас адна,
Адна душа
І лёс адзін —
Да скону.

І я вярнуўся,
Твой самотны сын,
Хоць шлях няпросты быў і некароткі.
І не змаглі ўбіць паміж намі клін
Ні сыканне,
Ні гіканне,
Ні плёткі.

Нічога,
Што ты шчасця не паднёс
І вочы твае поўныя журбою.
Я не хаваю ачышчальных слёз.
Я дома.
Я з сябрамі.
Я з табою.

*1994*

* * *

У брудным Брукліне ў Нью-Йорку,
Дзе доля горкая жыве,

Я чую наскую гаворку
І мову родную ў царкве.

У кожным гуку так дарэчы
Сярод глухіх чужых муроў
Лаўлю я ўсплеск палескіх рэчак
І гоман полацкіх бароў.

Ашчадна захавалі ўсё-ткі
Жывое слова землякі,
Браслаўскія сівыя цёткі,
Мажныя слуцкія дзядзькі.

Звязала мова ім
Набыткі
І сцежкі ўсе ў клубку гадоў,
Як тая суравая нітка,
Што лучыць з кроснамі дзядоў.

Ці не таму так лёгка
Сэрца,
Ледзь толькі памяць запалі,
На ласку Бога адгукнецца
І песню з матчынай зямлі?..

А я стаяў між малітоўцаў
І зразумець ніяк не мог,
Чаму па-нашаму ні слоўца
У Мінску не гаворыць Бог?..

*1994*

* * *

Забуду трывогі і стому,
Адкіну шаўкі і парчу,
Як вольная птушка,
Дадому
Праз тысячу вёрст палячу.
Аб вецер ламаючы крылы,
Высільвацца буду туды,
Дзе родныя дрэмлюць магілы
І спяць чараты ля вады,

Дзе маці квяцістаю хусткай
Махае з грады маладой.
Абмыю сасмяглыя вусны
Салодкай крынічнай вадой.
Прысяду над плыткай ракою.
Пачую начных салаўёў.
І там я навек супакою
Знямоглае сэрца сваё.

*1994*

* * *

Ноччу сёння зноў крычалі гусі,
Будзячы вярэдлівы ўспамін.
Ведаю,
Яны да Беларусі
Не дацягнуць свой крыклівы клін.

Толькі, можа, у смузе аблокаў
На хвіліну спыняцца яны
І разгледзяць хоць краёчкам вока
Берагі зялёныя Дзвіны.

Хай бы памаўчалі ў паднябессі
І, нібыта боскую расу,
На бары наддзвінскія атрэслі
З цёплых крылаў
Мой бяссонны сум.

*1994*

* * *

Пад стук вагонных колаў,
Прымружу вочы ледзь,
Гучыць унукаў голас:
«Не трэба, дзед,
Не едзь».

Ён над вакзальным тлумам
Махае мне рукой,

Глядзіць з дарослым сумам
І светлаю тугой.

Не ўразумець адразу
Яму законаў лес —
Службовы абавязак,
Дзяржаўны інтарэс.

А я ў замежжы дальнім
Вяртаю ўсё назад
І позірк развітальны,
І просьбу як загад.

Калі ж адчай прыдушыць, —
Маленькі мой мядзведзь,
Ты мне шапні на вушка
Здалёку:
«Дзед, прыедзь!..»

*1994*

* * *

У смугу акіянскую
Неба
Апускае вячэрні кумач…
Гэтак многа сказаць хацеў бы,
А не пішацца,
Хоць ты плач.

Як самотнікі па пустыні,
Разбрыліся словы ў нудзе.
Адбалелае сэрца стыне.
Утрапенне ў радок не ідзе.

Іншаземныя яркія дзівы
Не ўзрушаюць зусім мяне…
Вершы пішуцца на Радзіме.
Сэрца цешыцца на Дзвіне.

*1994*

* * *

Што ж гэта такое
З Радзімай адбываецца? —
Песні не спяваюцца.
Вершы не складаюцца.

Душы недалужныя
Не здалелі выстаяць —
Пад вятрамі сцюжнымі
Даастатку выстылі,
Хоць і не апальныя,
Хоць і не галодныя,
На чужыну дальнюю
Рвуцца, як бязродныя.

А за акіянам
Ласка невялікая
Для гасцей нязваных,
Сваякоў някліканых.
І сумленне ж мучае,
Што так лёгка кінулі
І бацькоў засмучаных,
І садкі з калінамі…

Покуль гэта ўцяміцца,
Покуль песня вернецца,
Колькі дум запляміцца,
Колькі душ зняверыцца!
Горка,
Як дзяціна
Ад хаты адбіваецца…
Што ж гэта з Радзімай
І з намі адбываецца?..

*1994*

* * *

Удача —
Сяброўка такая,
Што лішне ў адданасць не вер.

То лашчыцца,
А то ўцякае,
Як позна прыручаны звер.
То весела скача,
То плача,
То славіць цябе,
То кляне.

Чужая каханка —
Удача
Аднойчы была і ў мяне.
Гуляла са мной
І спявала,
Збірала сяброў да стала
І ноччу з пустога вакзала
У сінім вагоне ўцякла.
Як здань, адплыла ў наваколле,
Растала ў сутонні бароў…
А мне засталося вуголле
Ад зыркіх бяседных кастроў…

*1994*

* * *

У гаях пажаўцела трава
І лісты ападаюць нясмела.
Пасівела мая галава,
Пад вятрамі гадоў пасівела.

Адзінокі, запознены госць,
Я іду па зямлі апусцелай.
Адшумела мая маладосць,
На дарогах жыцця адшумела.

Толькі хочацца сэрцу ўдвая
І святла,
І вясны,
І надзеі…
Чырванее рабіна мая,
Як раней, у гаях чырванее…

*1994*

* * *

Ці ўспамінала ты мяне,
Калі я доўга быў далёка?

Хоць у нядзелю,
Хоць у сне
Ці ўспамінала ты мяне
З пяшчотай і журбою лёгкай?

Ці выглядала мілым вокам
Мой цень у ранішнім акне,
Ці чула ў незнаёмых кроках
Маю хаду?
Было ці не?

Ці ўспамінала ты мяне?

Было мне ў дальняй старане
Тужліва так і адзінока,
Што я паверу і мане,
Што ўспамінала ты мяне,
Калі я доўга быў далёка…

*1994*

* * *

Так, я перад табою вінаваты
За доўгія самотныя гады,
За непаразуменні ўсе і страты,
За майскія замоўклыя сады,
За словы непатрэбныя і ўчынкі,
За наш касцёр, што ледзьве не ачах,
За сівізну і раннія маршчынкі
І стому вечаровую ў вачах,
За вольніцу і шумны хмель пракляты,
За ростані і тайны недавер.
А больш за ўсё бязмежна вінаваты,
Што я цябе кахаю і цяпер.

*1994*

* * *

Чаму ты помніш сумнае адно?
Было ж у нас вясёлае, здаецца,
І ад кахання абмірала сэрца,
І ноч нам зоркі сыпала ў вакно.

Няўжо яно забылася даўно
І ў памяці жывой не адзавецца,
Як залатое поўнае вядзерца,
Што нечакана ўпушчана на дно?

А мне адно шчаслівае відно
У далечы, што мараю завецца.
Там і сягоння не закрыты дзверцы
І не дапіта хмельнае віно.

Хай не знайшлі мы дзіўнае руно,
Але прайшлі сцягой адзінаверцаў,
І на вячэрняй роздумнай паверцы
Не ўспамінай журботнае адно…

*1994*

* * *

Як цябе няма са мною побач,
Белы свет халодны і пусты.
І гукаю я тады на помач
У адчаі:
— Любая, дзе ты?!

Хай вакол вірыць жыццё нястомна,
Маладосць ад шчасця ў бубны б'е,
Я ўсё роўна быццам непрытомны
І асірацелы без цябе.

Поспех,
Слава,
Дабрата зямная,
Што ў душу завабілі вясну,
Без цябе,

Я гэта добра знаю,
Трацяць сваю даўнюю цану.

Адплываюць жураўліным клінам
Летуценні,
Песні
І лісты…
Можа, я пасля сябе пакіну
Толькі крык мой:
— Любая, дзе ты?!

*1994*

* * *

Гартае восень жоўтыя лісты —
Старую кнігу вечных успамінаў
Пра беззваротны век свой залаты,
Дзе доўгі спіс сакрэтаў і правінаў.

Лагодна ціша селіцца ў душы,
Але, з былым сустрэўшыся, няйначай,
То светла заўсміхаецца ў цішы,
То ачышчальна ўпотайкі заплача.

Прылёг свавольны вецер на мяжы,
Дзе колецца іржэўнік цёплай шчэццю,
Дзе віснуць зоркі выспелых ажын
І павуцінне серабрыста тчэцца.

А цень лясоў ужо хавае стынь.
З лагчын плыве туман сівы і рэдкі.
Сціхае смех.
І ападаюць кветкі…

Гартае восень жоўтыя лісты…

*1994*

* * *

У начной бязладнай завірусе
Замяло сляды мае за мной.
Прыпыніўся я і азірнуўся
З горкаю трывогаю зямной.

На жыццёвых бальшаках падбіўся,
Ад густой пазёмкі пасівеў.
І, быць можа, так і не адбыўся,
Хоць ад Бога блаславенне меў.

Раны свае тайныя і страты
Не паспеў злічыць і прыглушыць.
Ці то лёс,
Ці сам я вінаваты,
Што баляць яны ў маёй душы.

Выплывае месячык двухрогі.
Кропля неба стыне на шчацэ.
І стаю я пасярод дарогі
Са старою кульбаю ў руцэ.

*1994*

## МАЛІТВА

Мы здалёку ўбачылі свабоду
І яшчэ не вырваліся з пут…
Божа,
Не дабаў майму народу
Пошасці,
Няпраўды
І пакут.

У чужым нялюдскім землятрусе
Хіба ў нечым мелі мы віну?..
Божа,
Адвядзі ад Беларусі
Здраду,
Вераломства
І вайну.

Смутнаю парою нелюдзімай,
Калі ўсё наўкол ідзе на злом,
Божа,
Захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем
І цяплом!

*1994*

* * *

Я стаміўся ад сустрэч і спрэчак,
Ад папер,
Паседжанняў,
Прамоў.
Хочацца да яблынь і парэчак,
Да Дзвіны нахмуранай —
Дамоў.

Лектары
Бясстрасныя, як ёгі,
Зноў і зноў падказваюць адно —
Як не збіцца нам з прамой дарогі,
Аб якой забылі ўсе даўно.

А мая надзейная дарога
Павядзе мяне праз гушчары,
Ля глухога селішча старога
Да бацькоўскай студні,
Што ў двары.

Ноччу там пад месяцам двухрогім
Журавель парыпвае-пяе.
Там пачатак і канец дарогі.
І не збіцца б толькі мне з яе…

*1995*

* * *

Верыць лёстачкам хітрым,
І подлай хлусні,
І дурному нязбытнаму цуду,
Хоць вяроўку на шыі маёй захлісні,
Не магу,
Не хачу
І не буду.

Мірна слухаць абвалы напышлівых слоў
І старога тупога прыблуду,
Хоць абвешай мяне серабром медалёў,
Не магу,
Не хачу
І не буду.

Прызнаваць верхаводства чыноўнай гайні
І цану палітычнага хлуду,
Хоць на плошчы галоўнай мяне разапні,
Не магу,
Не хачу
І не буду.

А служыць занядбанай сваёй старане
І цярпліваму роднаму люду,
Хоць яны і не ўспомняць пасля пра мяне,
Як змагу,
І хачу я
І буду.

*1995*

* * *

Ну што, Беларусь, у цябе за сыны? —
Хто быў паштаром,
Плугаром
Ці падпаскам,
Як толькі праб'ецца хоць трохі ў чыны,
Забыць цябе лічыць сваім абавязкам.

Ад хлева вясковага вернуць лычы,
Хоць бацькава сала ядуць як зазвычай,
І матчыну мову гатовы лічыць
І «беднай»,
І «хамскай»,
І проста «мужычай».

Не лезе у вушы ім даўні назоў,
Псуецца настрой ад бабуліных строяў,
Зусім ім не трэба
Ні нашых князёў,
Ні нашых прарокаў,
Ні нашых герояў.

Хоць ты з іх і крыжык нацельны здымі,
Ніхто перад крыўдай тваёй не заплача…
Ну што тут паробіш —
У кожнай сям'і
І з сынам часамі бывае няўдача.

Ну што ж,
Калі нехта гатоў і чалму
Надзець,
Каб на месцы сваім утрымацца.
Адно толькі сэрца сціскае:
Чаму,
Чаму іх так многа ў цябе,
Мая Маці?..

*1995*

* * *

…Ідзе ў кабінетах высокіх гульня,
Бушуе манкуртаў гарластая раць:
Ці мову мяняць,
Ці дзяржаву мяняць,
Ці, можа, абедзве суседу аддаць…

Усё, як у хворым прыдуманым сне…
Не дай Бог дажыць да часіны,
Калі
Унук нас на мове чужой пракляне

За тое,
Што родную не зберaглі…

*1995*

* * *

Ты, помніш, мне казаў:
— Няможна жыць,
Зусім няможна жыць без Беларусі…

Ідуць гады,
Імклівы час бяжыць.
А ты далёка.
І не скора, мусіць,
Заморскія закончыш ваяжы.

Не веру я,
Што выгада адна
Цябе з чужых краёў не адпускае,
Што дабрабыту сыты сатана
Цябе аплёў зларадНасцю,
Якая
Між намі вырастае,
Як сцяна.
Відаць,
Старая тайная віна
Табе душу збалелую сціскае.
Ды Бог табе суддзя.
Каля вакна
Стаіць матуля сумная, сівая
І ўсё цябе чакае давідна.

А я ў бяды народнай на мяжы
З усімі тут і плачу, і смяюся,
Бо праўду ты казаў:
— Няможна жыць,
Зусім няможна жыць без Беларусі.

*1995*

* * *

Чорнай навалаю коціцца зверху
Гвалт небывалы,
Раз’ятраны вэрхал.
У кіраўнічых суровых прамовах
Бэсціцца зноў беларуская мова:
Быццам бы наскія словы не здатны
Выказаць талент і розум выдатны.

Новай уладзе не пашанцавала —
Хоць даспадобы ёй бульба і сала,
І самазвалы,
І фермы,
І нівы,
Непераборлівы люд наш цярплівы,
Бор карабельны і мёд верасовы, —
Косткаю ў горле —
Народная мова.

Колькі душылі яе і травілі,
А не складае падбітае крылле,
А ўсё жыве і ніяк не канае —
Песня азёрная,
Казка лясная.

Перажыла наша родная мова
І Бенкендорфа, і Мураўёва,
Панскія здзекі,
Чэкісцкія чысткі,
Рогат імперскі,
Вырак фашысцкі…
Тых,
Што з мякінаю ў галаве,
Перажыве!..

*1995*

* * *

Гісторыя,
Разумніца сівая,
Сваім дыханнем чыстым
На ляту
Ад ісціны
Рашуча адсявае
Бяздарную, базарную лухту.

Яе шырокай нівы не заселе
Ні хітрасць,
Ні прыгожая мана.
Спакойнаю рукою
Пустазелле
Бязлітасна выполвае яна.

Не ўзяць яе ні ласкай, ні аблогай,
Хоць пагражай,
Прасі
Ці скавычы.
Ад будучага дня
І ад былога
Адна яна захоўвае ключы.

Ніякаю абгорткай адмысловай
Ёй не ўсучыць траянскія дары.
За ўсе вякі,
За ўсе перабудовы
Яшчэ ніхто яе не абдурыў.

Не набівайся ж да яе ў сваяцтва,
Не дуй старанна ў гулкую дуду,
А ўсю сваю завершаную працу
Аддай яе сумленнаму суду…

*1995*

* * *

*Памяці Пімена Панчанкі*

Настаўнікі не паміраюць,
А аддаляюцца ад нас
І зверху строганазіраюць,
Як мы вядзём свой рэй і час.

Яны не могуць нам нічога
Ні адмяніць, ні загадаць,
А толькі смутнаю трывогай
Свой ціхі голас нам падаць.

У небе роспачнасці
Поўняй
Іх думка ясная плыве.
Яны жывуць,
Пакуль мы помнім
І вопыт іх, і запавет.

Мы не адразу зразумеем,
Як цяжка ўзняць было б крыло
І ўзвіцца ўверх назло завеям,
Каб іх на свеце не было.

Яны з далёкасці сусветнай
Душою светлай кожны міг
За намі сочаць непрыкметна,
Аж покуль прыйдзем мы да іх…

*1995*

## ПАПЫТАЙЦЕ ФІЛАРЭТА

Як у нас бывае гэта,
Як людзей мяняе свет,
Папытайце Філарэта.
Вам раскажа Філарэт.

Сан шануючы ягоны,
Не пакепвайце з таго,
Як дзяржаўныя персоны

Уцякалі ад яго,
Як партыйныя падлізы,
Несучы на твары жах,
Адбягалі ў бок ад рызы
І свяшчэннага крыжа.

Гэта ўсё не толькі модна —
Было выгадна,
Калі
Чорны опіум народны
Выкрывалі і клялі.

А цяпер парыў інакшы
Зачмурае галаву.
І былыя слугі нашы
Пацягнуліся ў царкву,
Бо яны і ў часе гэтым
Вельмі хочуць цараваць
І ўладыку Філарэту
Лезуць рукі цалаваць.

Беражна трымаюць свечкі.
Не хаваючы слязы,
Быццам божыя авечкі,
Тупаюць пад абразы.
І ківаюць галавою.
І ўзнімаюць вочы ўверх.
І яны цяпер з царквою
Неразлучныя навек…

Ну а як завецца гэта,
Дзе тут Новы Запавет, —
Папытайце Філарэта.
Можа, скажа Філарэт…

*1995*

## ДОСЦЬ!

П'юць у нас
Пенсіянеры,
Прэзідэнты
І прэм'еры,

Без закускі
І без меры.
Ах!
Падпісаўшы дагаворы,
Калі проста не ў гуморы,
Бо вакол —
Гарэлкі мора.
Жах!

Зранку п’юць
Для апахмелкі,
Падганяюць часу стрэлкі.
Ну а вечарам —
«Сустрэлкі»:
Госць.
З кварты,
З конаўкі,
Кілішка.
І няма ніколі лішка.
І не трэба перадышка
Штось.

Сіл няма ужо спыніцца.
Не мялее ўсё крыніца.
У руках —
Бутыль-«сініца»
Ёсць.
Скора ўсе паперап’юцца.
Скора ўсе папераб’юцца.
Крыкнуць хочацца мне:
— Людцы!
Досць!

Колькі ўсюды інтарэсу:
Стадыён,
Кіно
І прэса,
Дзеці —
Пасынкі прагрэсу,
Сад.
З нас жа цэлы свет рагоча.
Прадзярыце ўрэшце вочы.

Хто ж па-людску жыць не хоча?..
Ат!..

*1995*

* * *

Пакуль жывы,
Турбуйся аб жыцці,
Але пра смерць не забывай таксама,
Каб з першым і апошнім словам «мама»,
З якім у свет прыйшоў,
З яго пайсці.

Паспей для ўнука дрэва пасадзіць
І пыл з іконы старадаўняй сцерці.
І памятай заўсёды:
Толькі ў смерці
Ёсць права ўсё спакойна рассудзіць.

Не мітусіся лішне —
Усяго
Купіць,
Нагрэбці,
Нахапаць
Няможна,
І драбязу не пхні ў рукзак дарожны —
Ты ж хочаш сыну перадаць яго.

Не бойся смерці —
У тваёй крыві
Хапае і агню, і засцярогі.
Не саступай з абранае дарогі.
Пакуль жывы,
Жыві!

*1995*

* * *

Чаму павінен плакаць чалавек,
Калі ён хоча весела смяяцца,
Калі яму ўсяго гадоў семнаццаць
І таямніца свеціць з-пад павек?

За што яму бязладнае жыццё
Суровыя сюрпрызы падкідае,
Калі яго сяброўка маладая
Нясе ў сабе ягонае дзіцё?

Навошта ён даверліва пачаў
Начную споведзь з вопытным суседам,
Калі пасля прыйшлі за ёю следам
І здрада,
І знявага,
І адчай?

Чаму такі непрымірымы век,
І помніць крыўду горкую старую,
І ўсіх памылак даўніх не даруе?..
Чаму павінен плакаць чалавек?!

*1995*

* * *

Наказ бацькоўскі я збярог
На Полаччыне і Палессі:
Не трэба мудраваць у лесе,
Шукаць нязведаных дарог.

Тут столькі ўжо людзей прайшло
І непрыкметных,
І вялікіх,
Што ў памяці лясной на ўліку
І камень кожны,
І дупло.

Вядуць сцяжынкі
Да палян,
Да такавішчаў

І крыніцаў.
І ў лесе можна заблудзіцца,
Сышоўшы толькі ў дурнап'ян.

Тут хтосьці да цябе хадзіў,
І след яго ляжыць гадамі.
Пакуль дарога пад нагамі,
Ты ў гэтым лесе не адзін.

*1995*

* * *

Каму патрэбнае «Поле-полечка»,
Каб у душы запал закіпеў,
А мне —
«Купалінка»,
«Перапёлачка»,
І звон цымбальны,
І дудкі спеў.

Каму — лезгінка,
Гапак
Ці хора,
Каб у вандроўках быў лёгкім крок,
А мне найлепей,
Каб быць у гуморы, —
«Мікіта»,
«Бульба»
І «Чабарок».

Хто — стэп карнаямі агалошвае,
Хто — дудуком адгукаецца з гор.
Мая жалейка —
Зусім не горшая,
Не сапсуе паважаны хор.

Няхай дзівак ярлыкі развешвае,
Багацці ўзважвае —
Дзе чыё.
Маё — не горшае,
Хай і не лепшае.

А Богам дадзенае —
Маё.

*1995*

## ГРЭЧКА ЦВІЦЕ

…Быццам плыве нетаропкая рэчка
З пеннай густою вадою жывою…
Пахне мядовая белая грэчка.
Вечнасцю пахне.
Пахне царквою.

…Быццам матуля ішла да крыніцы,
Выліла ў полі вядро сырадою…
Пахне чаборам і медуніцай.
Пахне вашчынаю маладою.

…Быццам туман сто раёў пералётных
Мірна акрыў барадою сівою…
Чуецца звон несціханы, клапотны.
Вечнасцю пахне.
Пахне царквою.

*1995*

## У МІХАЙЛАЎСКІМ

Яшчэ драмала слава маладая,
А ён быў неаглядна малады —
І толькі бомы з голасам Валдая
Сяброўскі ўздзіў прыносілі сюды.

Услед за ветрам бег ён летнім полем
І кідаўся ў разліў пахучых траў
І ўсім прысадам,
Сцежкам
І таполям
Па-царску бессмяротнасць раздаваў.

Ён тут блукаў у горным задуменні.
Ён тут чакаў каханкі тайны крок,

Нястомны грэшнік,
Кучаравы геній,
Насмешнік,
Задзірака
І прарок.

Усе грахі яму даўно адпушчаны,
І дух ягоны ўзнесен на амбон…
Плыве,
Лунае над зямлёю Пушкіна
Усіх расійскіх храмаў перазвон.

*1995*

* * *

Плыве ў тумане вечар разамлелы.
І ў духаце чаромхавых завей
Шчыруе асмялелы,
                ахмялелы,
Бяссонны,
                утрапёны салавей.

    Сок, сок, сок
    Цёк,
    Цёк,
    Цёк —
    Цур-р-р,
    Цур-р-р,
    Цур-р-р.
    Ці-мох, Ці-мох
    Піў, пі-іў, піў.
    У цянь-ку,
    У цяньку-у-у
    Аўдоц-цю, Аўдоц-цю
    Цмок,
    Цмок,
    Цмок.
    І ўцёк.

Маленькі птах уздрыгвае ад ветру,
Падскоквае, нібыта на агні,

На цэлы свет вясковыя сакрэты
Апавяшчае ў гулкай цішыні.
І покуль ён у гордай адзіноце
Раскідвае сярэбраны гарох,
Заснуць не можа сумная Аўдоцця
І курыць аж да раніцы Цімох.

*1995*

* * *

*Рыгору Барадуліну*

Споведнаю пеністаю чашай
Вёсны нас з табой не абняслі.
Пройдзем мы не раз яшчэ па нашай
Полацкай рамонкавай зямлі.

Скоціцца з ушацкага пагорка
Ранішняя зорка не адна.
Голасам Кулініным —
«Рыгорка!»
Клікне прыдарожная сасна.

Змыем заклапочанасць цяжкую
Халадком крынічнае вады.
І зязюля шчодра накукуе
Нам з табою многія гады…

Лёс яшчэ ў наш дом зямны, часовы
Не паклаў апошняга вянца.
І ў сцяжынкі нашай верасовай
Не відно пакуль яшчэ канца…

*1995*

* * *

Збор дадому нядоўгі.
Справы пільныя — ўбок,
І раскручвай дарогі
Каляровы клубок.

Прывязу я дахаты,
Да бацькоўскай страхі
Не цяжкія дукаты,
А цяжкія грахі.

Галаву маю схіляць
Без густога віна
Слёзы шчасця сухія
І сляпая віна.

І найбольшым багаццем
(Лепш не знойдзеш нідзе) —
Быць у матчынай хаце,
Паміж родных людзей.

*1995*

* * *

*Памяці Максіма Танка*

Зноў пацямнеў наш родны небасхіл —
Упала зорка зыркая ў знямозе.
І сэрца, што ўжо больш не мела сіл,
Раптоўна спатыкнулася ў дарозе.

І выпала пяро з халодных рук.
І анямела белая папера…
Няўмольнасці бязлітасны павук
Закратаваў навек зямныя дзверы.

Жыццё пражыта.
У сівой траве
Згубілася паніклае калоссе…
Ды ўсё навокал дыша і жыве.
Усё на гэтым свеце засталося.

Няма канца пракладзенай вярсце.
Яна вядзе ў прастор, як і ўпачатку…
І зорка, як бяссмертнае зярнятка,
На беларускай ніве прарасце.

*1995*

* * *

Ліпеньскі малюнак незвычайны
Нечакана позірк мой спыніў —
Лётае разгубленая чайка
Над разлівам недаспелых ніў.

І крычыць,
Нібы гукае тайны,
І трымае страх напагатоў,
Носіцца над полем непрыкаяна
І крылом кранаецца жытоў…

Можа, ўрэшце змораная чаіца
Знойдзе тут прыстанішча сабе,
Прыжывецца ў полі, прызвычаіцца
І гняздо зацішнае саўе.

І шчаслівай будзе ў долі новай,
І паверыць нават праз гады,
Што прыносіць вецер палыновы
Родны горкі пах марской вады…

*1995*

* * *

Здавалася,
Што лязгатам металу
Зацюканае, хмарнае жыццё
Адкінула,
Змяло
І растаптала
Да каранёў бацькоўскіх пачуццё.

І можна жыць без голасу матулі,
Без блытанай суседскай гаманы,
Хаваючы ў шматпавярховы вулей
Сакрэты,
Недарэчнасці
І сны.

Але яно пакліча,
Так, пакліча
Непераможнай цягаю зямной,
Лясной крынічкай,
Ці старой каплічкай,
Ці курганком за вёскай пад сасной.

І набяжыць скупой слязой на вочы
На згубленай і знойдзенай вярсце —
І з каранёў загубленых
Аднойчы
Зялёная націнка прарасце.

*1995*

## РАБІ́НА РА́БІНА
*(Жартоўная легенда)*

Ра́бін рабы
Пайшоў у грыбы.

І пры кожнай удачы
Рэбе
Стужачку вешаў на дрэве:
На бярозе,
Сасонцы,
Асіне —
Чырвоную,
Белую,
Сінюю.
А там,
Дзе найбольшы знайшоў баравік,
Пачапіў зялёны каснік.

Пасля падышлі кабеты,
Угледзелі вэрхал гэты,
Хацелі парадак навесці,
Ды сталі ўтрапёна на ўзлессі:
Навокал быў лес —
Гэта ж трэба! —
Рабы і вясёлы,
Як рэбе,

Як рэбе,
Крыху хітраваты,
Прыбраны,
Як ёлка на святы.

Кабет здзівіла нямала —
Без стужкі рабіна стаяла
З галінамі
Гнуткімі,
Тонкімі,
З цяжкімі чырвонымі гронкамі…
Яе,
Адзінокую,
Зграбную,
Яны і назвалі
Рабінаю ра́біна.

Вятры развязалі стужкі.
Склявалі рабіну птушкі.
Гады ж не змянілі мянушкі —
Цвіце і цяпер на сугрэве
Рабіна рабога рэбе.

***1995***

## МАЛАДЫ АРОЛ

З нявіннаю душою галубінай
Ён прыляцеў на кволае святло,
Такі наіўны і такі глыбінны,
Якіх у нас дагэтуль не было.

І пацяплеў халодны лес прамоклы.
Усеўся ён у дуба на плячы —
І задзіракі-каршуны прымоўклі,
І ў гушчары схаваліся сычы.

А маладога птаства шматгалоссе
У цёмных кронах і ў густой траве
Так вольна і шчасліва разлілося,
Што ўсім здалося:
Вось дзе рай жыве.

Хапала ўсім ягонай абароны —
Ад вожыка да залатой пчалы.
І прыляцелі шумныя вароны
І гучна яго славіць пачалі.

Ён слухаў лёсткі —
І ўсё болей сталі
У клёкаце звінела з той пары.
На дужых лапах грозна адрасталі
Вялізныя крывыя кіпцюры.

Не стаў мірыцца з песнямі любымі
І салаўёў загнаў на дно канаў.
Каб стаць галоўным самым і любімым,
Усю сям'ю лясную даканаў.

Сядзіць адзін каля старога дуба,
Самотны, як патухлая свяча, —
З хіжацкай акрываўленаю дзюбай
І чорнаю душою крумкача.

*1995*

* * *

Ах, не спявайце вы пры мне
Чужому берагу асанну.
Я вас перабіваць не стану,
Але душу мне скалане
Сум аб радзімай старане.

Я не хачу пакрыўдзіць вас
Маёю ціхаю тугою.
Другою вечнаю любоўю
Жыве душа мая ўвесь час.

Я моўчкі адыду ў куток,
Дзе дрэмле змрок несамавіты,
І ачышчальных слёз глыток
Заменіць шчырыя малітвы…

Я не забыў, дзе мой выток…

*1995*

* * *

Кожны дзень гняце тупая стома,
Глушыць парыванняў гамана
І сціскае сэрца пакрыёма
Горкая апошняя віна.

Скончыцца жыццёвая дарога,
Згасне боль
І выветрыцца сум.
Каб вы толькі ведалі,
Як многа
Я туды з сабою панясу.

Колькі нерастрачанай пяшчоты
За пустымі жартамі хаваў,
Колькі песень адкладаў на потым
І сваёй зямлі не праспяваў!

Можа быць,
Усе мае дзівацтвы
Мае ўнукі сплацяць за мяне.
Павініцца ж і паспавядацца
Так,
Як я б хацеў,
Не змогуць,
Не.

*1995*

* * *

Я думаў:
Без кахання пражыву.
Я верыў:
Без цябе не засумую.
Пайду да рэчкі,
Лягу на траву,
Знайду дарогу да нябёс прамую.

Жыць буду сярод кветак і стракоз
У сінім свеце,
Чыстым і прывольным.

І шчасце мне падорыць мудры лёс.
І буду я расхрыстаным і вольным…

Я быў саманадзейны і сляпы,
Падсміхваўся над чарамі тваімі.
А мне
І тэлеграфныя слупы
Гудуць тваім,
Праклятым мною,
Імем.

Твой погляд запаўняе сіняву,
Твой голас напаўняе наваколле…

Не, без кахання я не пражыву,
Не пражыву я без цябе ніколі…

*1995*

* * *

Ты выйшла да мяне.
Той ноччу зорнай
Я верыў:
Шчасце нас не праміне
І ласка будзе доўгай, непаўторнай…
Ты ж думала зусім не пра мяне.

Ты цалавала вуснамі сухімі,
Няўцямна паўтарала,
Як у сне,
Каля майго пляча
Чужое імя.
Адкуль было ўсё гэта ведаць мне?

Са мной дзяліла ты адчай і стому,
Са мной хавала смутак у віне.
А паклялася ў вернасці другому…
Чаму так доўга ты маніла мне?

І вось астаўся я,
Табой пракляты,
Адзін з халодным ценем на сцяне.

І я ва ўсім,
Па-твойму,
Вінаваты?
І гэта —
Праўда,
Слушная ўпаўне.

*1995*

* * *

Адвярніся хаця б на хвілінку адну —
І сум з вачэй маіх пацячэ.
І я патану,
Патану,
Патану
У ямачцы на тваёй шчацэ.

Твой смех на мяне абрынуў вясну,
Нібы крыгалом на бурлівай рацэ, —
І я навек патану,
Патану
У ямачцы на тваёй шчацэ.

Яшчэ не разбуджаную струну
У сэрцы тваім закрануць я хацеў…
Ды што тут хітрыць?
Я даўно патануў
У ямачцы на тваёй шчацэ.

*1995*

* * *

Як хочацца вярнуць усё назад:
І маладосць,
І салаўіны сад,
І закаханы позірк той дзяўчынкі,
Якую міма ветрам пранясло,
І неба без адзінай аблачынкі,
І на ружовай завадзі вясло.

Але ад пылу пацямнелі далі.
Сад высеклі.
Сцяжынкі затапталі.
Прайшлі дажджы шырокай паласой.
І юны рыцар
Тонкую дзяўчынку,
Сустрэўшы на аўтобусным прыпынку,
Ад скразнякоў хавае пад крысо.
І мкне маторка па рацэ імкліва…

І гэта ўсё, вядома, справядліва.
І сумна гэта.
Вельмі сумна ўсё…

*1995*

* * *

Як пакліча Ўсявышні
У сваю благадаць,
Я не буду залішне
На зямлі назаляць.

У святую дарогу,
Дзе і мытні нямаш,
Мне не трэба падоўгу
Пакаваць свой багаж.

У прыпар ці ў завею,
На ляту, на бягу
Даспяваць не паспею,
Дакрычаць не змагу.

Да свайго каравана,
Што п’е з Леты ваду,
Адплыву нечакана,
Неўпрыкмет адыду…

*1995*

* * *

*Васілю Зуёнку*

Па даху грукне яблык уначы,
Падкрэсліць цішу і спакой вясковы.
І ты між небам і зямлёй —
нічый,
Як іншапланецянін выпадковы.

Табе пашанцавала неўпрыкмет
Забрацца ў пуню на сухое сена,
З падстрэшша зорку кінуць у Сусвет,
І засмяяцца,
І заснуць імгненна.

І абдымаць туманам сенажаць,
І ветрам пралятаць па-над палямі,
І ў неба рукі лёгкія ўзнімаць,
І чуць зямлю жывую пад нагамі.

І забывацца,
Хто ты ёсць і дзе,
І несці ў сэрцы ўздым і азарэнне…
Пакуль зялёны яблык не ўпадзе
І вернецца зямное прыцягненне.

*1995*

* * *

Я не думаў, што так прывязаны
Да імшарнай, пясчанай зямлі,
Да пагоркаў з дубамі і вязамі,
Да бяроз, што ў паляны ўраслі.

А, пажыўшы ў заморскай далечы,
Паглядзеўшы рэкламны рай,
Зразумеў я,
Дамоў прылятаючы,
Як мне дораг мой родны край.

Бедны мой,
Сціплы мой,

Запылены
На крутым скрыжаванні дарог,
Дзе ўзнімаецца за магіламі
Ці то храм, ці то змрочны астрог.

Тут дубы векавыя, нядрэмныя
І надрэчныя купкі ракіт
Аплялі маю памяць карэннямі
І ўзнялі мае думы ў зеніт.

*1995*

* * *

Прыйшла мая асенняя пара —
І да стала папера запрашае,
Бяжыць гулліва рыфма да пяра
І боскі халадок душу ўзрушае.

Я зноў шчаслівы,
Як прылётны птах.
Мне ў гэтым свеце вольна і прасторна.
Плыве ў садах апалых грушаў пах,
І падаюць лісты з рабіны чорнай.

Сінічка жвава скача за плячом —
Здаецца, што вось-вось радок мой клюне.
Вятрыска з ценькім сцішаным плачом
Прыладжваецца за суседскай клуняй.

Ля ног —
Ніты парваных павуцін,
Незатаптаныя кратовы норкі…
І я — на ўсю ваколіцу адзін,
І ў той жа час зусім не адзінокі.

Мне словы развярэдзілі душу,
Я зразумеў цярплівую прыроду
І ў небе ўчуў бялюткіх крылаў шум —
Як быццам на парозе адыходу…

*1996*

* * *

У век неразбярыхі
Між вар'ятаў
Не выжыў бы ніколі я,
Калі б
На свеце не было
Бацькоўскай хаты,
Зімовых соснаў
І вясновых ліп.

Калі б не меў ратунку —
Пры патрэбе,
Каўтнуўшы ёлкай роспачнасці ком,
Параіцца
З начным высокім небам
І споведным купалавым радком.

Быць можа,
Д'яблу я душу аддаў бы,
Паслухаўшы, як маняць каралі,
Калі б зусім не ведаў
Простай праўды,
Вялікай праўды плуга і раллі.

Быць можа,
Горка плачучы,
Манеце
І кулаку
Пайшоў бы на паклон,
Калі б не ведаў,
Што бяда мінецца
І застанецца чорнай працы плён.

Вось і трываю на зямлі таму я.
І веру непахісна,
Што жыццё
Нарэшце ўсіх вар'ятаў утаймуе
І кіне іх навекі ў забыццё…

*1996*

* * *

Выцерпеў край наш
Паводкі,
Пажары,
Навалы,
Выдраўся трудна з балота пагарды і зла,
Толькі каб родная мова жыла і спявала
І для душы беларускай святою
скарбонкай была.

І ўжо здавалася:
Сонца заззяла ў аконцы,
Прашчураў ціхі наказ даляцеў да прысад
І па-дзяржаўнаму годна
Па ўсёй ачунялай старонцы
Роднае слова займае законны пасад.

Дзеткі,
Нібыта малітву,
Яго паўтаралі.
Песні ўздымалі яго да яснотных вышынь…
Ды ўжо злавалі
Імперскіх штабоў генералы.
Ды ўжо фельдфебелі
Лезлі яго задушыць.

Тыя,
Што беглі сюды ад цяжкой галадоўлі
І пачувалі сябе, нібы ў хаце сваёй.
Ну а найболей —
Уласнай саўгаснай гадоўлі
З луджанай глоткай
І рабскай халоднай крывёй.

Як яны наскае слова качаюць у брудзе!
Як яны пнуцца яго даканаць назусім!..

Родны Іван Дамінікавіч!
Вы нам даруйце.
Ты нам даруй,
Калі зможаш,
Самотны Максім!..

*1996*

* * *

Дзіўны сон прысніўся мне ў начы:
Я стаю на восеньскім узлессі,
Ластаўка шчабеча на плячы
І на дол расой злятаюць песні.

Вецер носіць развітальны шум.
Сыплецца лістота залатая.
Я плячом нясмела варушу.
Ластаўка ж сядзіць, не адлятае.

Навіну мне хоча перадаць,
Не баіцца холаду німала.
Ну не проста ж так яна, відаць,
Ад начнога выраю адстала.

На паляне свецяцца агні.
Сіні дым плыве над чорнай грудай…
Так я і прачнуўся ў цішыні
На плячы з пявунняй белагрудай.

*1996*

## ВЯСКОВАЯ ІДЫЛІЯ

Квецень асыпала вішня на росны гарод.
Певень заспаны ўзляцеў на паркан зухавата.
І над калодзежам рыпнуў стары калаўрот…
Гэта няспешна ступіла на вуліцу свята.

Зводдаль глядзяць вераб'і на памыты парог.
Ластаўка хоча бліжэй да акна прымасціцца.
Дыхае ў печы салодкі пшанічны пірог.
Пахнуць аерам пад ходнікам чыстым масніцы.

Дрэмлецца мірна на лаўцы рудому катку.
З-пад ручнікоў абразы узіраюцца строга.
Хата падмецена.
Венік прыткнуўся ў кутку.
Цёпла і ўтульна,
Нібыта за пазухай Бога.

*1996*

* * *

Пад сухімі вербамі
Рэчка не цячэ.
Маладосць не вернецца,
Старасць не ўцячэ.

Ад кастроў нядрэмных —
Дым над галавой.
Сцежкі патаемныя
Зніклі пад травой.

Не знайсці ні зёлкаў,
Ні жывой вады,
Каб вярнуць далёкія
Юныя гады.

Выстылае сэрца
Прысак не пячэ.
Маладосць не вернецца,
Старасць не ўцячэ.

*1996*

* * *

У планеты весняй
На віду
Завяду я песню,
Завяду.

Тую,
Не забытую,
Маю,
Што ні з чым не зблытаю,
Пяю.

Тую,
Не забітую
Яшчэ,
Што з душы
Малітваю
Цячэ.

Завяду я песню,
Завяду.
Можа,
Не на шчасце —
На бяду.

Кіну,
Як расінку,
На жарству,
Каб сказала ўсім,
Што я жыву.

*1996*

* * *

Я ніколі
І нікому
Нізавошта не ўступлю
Нашу працу,
Нашу стому,
Нашу глейкую зямлю.

Гэта родныя мне людзі
Назаўсёды аддалі.
Гэта ўсё са мною будзе,
Покуль буду на зямлі.

І ніякія дзяржавы,
І ніякія цары
Адабраць не маюць права
Ні крынічкі,
Ні зары,
Ні глытка жаданай волі,
Ні прыдбанага сцяжка,
Ні засеянага поля,
Ні мурожнага стажка.

Гэту гліцу,
Гэту гліну,
Веснавы грачыны гам,
Як і мне калісьці, —
Сыну

Я аднойчы перадам,
Каб збярог і не расфукаў
Богам дадзенае нам,
Перадаў у рукі ўнукам,
А яны —
Сваім сынам.
І далей
Ад сына — сыну,
З сэрца — сэрцу,
З веку ў век
Несканчона
І няспынна,
Покуль будзе чалавек.

*1996*

* * *

Ты, мой строгі крытык і дарадца,
Галавой хітаеш над радком:
«Вось і пачынаеш паўтарацца,
Да юнацтва цягнешся крадком.
Сённяшні самотны дзень кароткі
Да сябе ў памочнікі бяры!
Там твае галоўныя знаходкі,
Там твае бясцэнныя дары…»

Я ж аддам наступныя дары ўсе,
Не спытаўшы нават аб цане, —
Толькі б дзень той светлы паўтарыўся,
Калі ты ў жыццё прыйшла ка мне.

*1996*

* * *

У засяроджанай цішы
Неспадзявана
Сярод ночы
Скацілася з тваёй душы
Сляза адчайнасці жаночай.

Паплач, любімая, паплач.
Хай роспачы тваёй паможа
Сваёю музыкай скрыпач,
Што за сцяной не спіць.
О Божа!..

Хай буду ведаць толькі я,
Як плакалі ў дрымоце зыбкай
Душа самотная твая
І растрывожаная скрыпка…

*1996*

* * *

Усім
Перад апошнім паваротам
Закрэсліць мудрасць
Крыўды і ныццё:
Ніхто з людзей не будзе бессмяротны,
Ніколі не памрэ
Само жыццё.

Затопчуцца сцяжынкі і разоры.
Вясёлая чаромха адцвіце.
Ды застануцца
Сосны, і азёры,
І валуны на зубравай вярсце.

І пракрычу табе ажно з-пад сонца я
Ці прашапчу аднойчы з-пад зямлі:
— Не сумнявайся,
Што жыццё —
Бясконцае.
Я рад,
Што мы ў ім разам пабылі.

*1996*

* * *

Я ездзіў рэдка да бацькоўскай хаты,
Дзе сцены пахнуць мохам і смалой.
І больш за ўсё я горка вінаваты
Перад сваёй радзімаю малой.

Вось і клянуся полацкаму краю,
Дзе над Дзвіной крутыя берагі,
Што аж да скону вернасць захаваю
І песнямі аддам свае даўгі.

Ну а калі, быць можа, не паспею,
Віну не поўнай мераю сплачу,—
Туманам апушчуся на Асвею
І жаўрам да Расонаў прылячу.

*1997*

* * *

Там — правалы,
А тут — прагалы
Ці зусім ніякіх слядоў.
Колькі коней ні запрагаю,
Не дагнаць маладых гадоў.

Не дагнаць,
Не вярнуць,
Не аклікнуць,
Грыву цёплую не ўхапіць —
Паўз бальшак пралятаюць без ліку,
Толькі збоку мільгаюць слупы.

Эх вы, коні мае буланыя,
Падкаваныя капыты!
Праімчыце міма каханай
Праз калінавыя масты.

І спыніцеся ля крыніцы,
Апусціце ў траву павады.
Нам даўно ўжо трэба напіцца
Гэтай чыстай жывой вады.

Мы пранесліся гулкім алюрам
Праз такія брады і шляхі,
Што і Богам,
Суровым і хмурым,
Дараваны ўсе нашы грахі.

Не бяда, што гадоў не дагонім —
Кліча вецер з далёкай вярсты.
І яшчэ не распрэжаны коні.
І яшчэ не струхлелі масты…

*1997*

## ДАЧНЫ ВЕЧАР

Калі суцішаецца дзённая спёка,
На луг вечаровы кладзецца туман,
У вёсцы суседняй,
Далёка-далёка,
Забытую песню выводзіць баян.

Нябачныя конікі звонка стракочуць,
Пілуюць зялёны шаўковы сувой,
Нібыта мелодыю слухаць не хочуць,
Занятыя вечнай турботай сваёй.

Пад ветрам самотна ўздыхаюць рабіны,
Запознена клён завяршае імшу…
А з вокнаў расчыненых
Тэленавіны
Сусветным вар'яцтвам
Вярэдзяць душу.

*1997*

* * *

Калі павуцінка злятае з рабін
І пахне былым дзераза,
Так хочацца добрае штосьці зрабіць
І мудрае штосьці сказаць.

Пражыўшы жыцця некароткага трэць,
Пара перастаць дурэць.
З гадамі трэба не толькі старэць,
З гадамі трэба мудрэць.

Ах, колькі ў духмяных, рыпучых вазах
Правезлі мы летаў і зім!
І мудрае іншым паспелі сказаць.
А трэба б —
Сабе самім.

*1997*

* * *

Якая яна гаючая —
У цёплых сонечных пырсках,
Якая яна пявучая —
У коніках і чмялях, —
Зялёная наша калыска,
Чароўная наша зямля!

Зямля не бывае бруднай —
Чорнай зямля бывае.
Зямля не бывае шэрай —
Пыльнай зямля бывае.
Зямля не бывае беднай —
Яна неўрадлівай бывае…

Няўтульнай і непрыгожай
Зямля быць ніколі не можа.

Бруднай,
Шэрай
І беднай
Робіць яе чалавек.

*1997*

* * *

Слава —
Марская вада,
Якой не прагоніш смагі
Ні конаўкаю з вядра,
Ні глыткамі з біклагі.

Хоць ёлкая соль пячэ,
Ды,
Злавіўшы струменьчык цёплы,
Просіць душа:
— Яшчэ!
Хоць кроплю,
Хаця б паўкроплі…

Не гасіць агонь вада.
Ад спёкі язык бялее.
А ў мора
Дна не відаць —
Святы,
Піры,
Юбілеі…

Колькі ні пі віно,
Колькі зорак сабе ні прывінчвай,
А вуснам усё адно
Трэба
Вады крынічнай.

*1997*

* * *

Лес яшчэ не ўвесь павысякалі.
І каля наезджаных дарог
Грыбнікі гуляюць касякамі,
Топчучы сухі ссівелы мох.

Хай сабе набытак не шыкоўны —
Сыраежка,
Чашчавік,
Казляк…

Ды пад вечар будзе кошык поўны
І настрой —
Як прасвятлення знак.

Павядзе дамоў сцяжынка ў жыце,
Камары зазвоняць талакой.
І на сэрца зноў,
Што ні кажыце,
Сыдуць ачышчэнне і спакой.

І так лёгка будзе скінуць змору
І не сумнявацца ні на міг,
Што сцяжынак,
Лесу
І прастору
Хопіць на зямлі яшчэ для ўсіх…

*1997*

## ЧАКАЮ…

Праносіцца вецер са свістам
Па голых шляхах палявых.
Чакаю зялёнага ліста.
Чакаю зялёнай травы.

Ні гуку над вымерзлай нівай.
Ні руху ля цёмных лаўжоў.
Чакаю паводкі шумлівай.
Чакаю лясных капяжоў.

Сняжок на дубовых галінах.
Пароша на лапах сасны…
Чакаю ключоў жураўліных.
Чакаю вясёлай вясны…

*1997*

* * *

Вы думаеце,
Я шукаю слоў? —
Яны прыходзяць проста і прароча
То ў белых фраках
Богавых паслоў,
То ў сініх пінжаках
Чорнарабочых.

Іх кожны крок —
Нібы маланкі ўдар.
Яго лаўлю я сэрцам,
А не слыхам.
Яны мяне
То кідаюць у жар,
А то сцінаюць прымаразкам ціхім.

Яны мой дом запоўнілі суздром.
Ды я ў іх —
Не чаляднік на падхваце.
Я паміж іх сяджу
Гаспадаром
І ўладна рэй вяду ва ўласнай хаце.

Яны — мае вясёлыя сябры.
Яны — мае бязлітасныя суддзі.
Гукаюць адвячоркам у бары,
А на світанку на гарышчы будзяць.

Я іх і ў свой апошні шлях вазьму
У гэтым свеце сумным і трывожным.
Яны прыходзяць самі.
І таму
Адно без аднаго
Мы жыць не можам.

*1997*

* * *

Здаецца, мы так і не скончылі клас
Нялёгкай жыццёвай навукі,

Але па-ранейшаму звязваюць нас
Успаміны,
Дзеці
І ўнукі.

Хаця нашы душы хістала не раз
Пад сіверным ветрам разлукі,
Ды зноў сагравалі і зводзілі нас
Успаміны,
Дзеці
І ўнукі.

Зайздросныя людзі
Ці моташны час —
Хто больш разнімаў нашы рукі,
Не будзем спрачацца,
Бо ёсць яшчэ ў нас
Успаміны,
Дзеці
І ўнукі.

Хто скажа,
Які ў нашай згоды запас,
Наперадзе —
Шчасце ці мукі?
Але і паміраць, і выручаць нас
Успаміны,
Дзеці
І ўнукі.

*1997*

* * *

Дзе ёсць парадак,
Там ёсць душа…

На цеснай падмеценай кухні
Жыве душа
На дне гладыша
І ў прыцьмелым вымытым кухлі,
У мяккім тканым палавіку,
У старой драўлянай сальніцы

І ў цёмным кутку,
Дзе ніяк павуку
Не даюць хоць на ноч пасяліцца…

Паўдзённае сонца,
Вячэрні спакой
За накрытым сталом дарэчы.
І ўсё пад рукой.
І жывуць талакой
Вясёлыя людзі і рэчы…

І не варта смяяцца з высокіх слоў:
У бедламе, смуродзе і брудзе,
Як пацверджана вопытам з даўніх часоў,
Не было душы і не будзе.

*1997*

## КУПАЛЛЕ

Зноў запалалі зыркія кастры,
Зноў песні сустракаюцца ў бары
І ходзіць шчасце блізенька зусім.
І гэтак лёгка размінуцца з ім.

З былых вякоў у новыя вякі
Плывуць, плывуць купальскія вянкі…

Як зоркі, іскры сыплюцца ў траву.
Як хмель, прызнанні кружаць галаву.
Касу калыша цёплая вада.
Для мілага нічога не шкада…

Ля кветкі — кветка.
Ля шчакі— шчака.
Цячэ, цячэ купальская рака…

*1997*

* * *

*Віктару Казько*

Калі я разгадаў свой лёс,
Усім астаткам сіл
Я ўзняў далоні да нябёс
І знаку папрасіў.

Сабраўся ў мёртвай цішыні
У доўгі шлях адзін.
І з паднябеснай вышыні
Мне Бог сказаў:
«Ідзі!»

Мне секла ногі асака
І джгала крапіва,
І я шукаў хоць раўчука.
А Бог казаў:
«Трывай!»

Калі ж я ў прыдарожны пыл
Упаў зусім без сіл
І лоб разбіў аб камяні,
Бог мовіў:
«Адпачні».

А як я ўзняўся —
І ў вачах
Пamроіўся Сезам,
Я запытаў, хто знойдзе шлях,
Бог адказаў:
«Ты сам».

*1997*

ПАЎДЗЁННЫ ПРЫПАР

Ад лясной паляны недалёкай
Хваляю густою
Зноў і зноў
Прыплывае з ліпеньскаю спёкай
Водар медуніц і палыноў.

Каля сцежкі чмель азваўся сіпла,
Ледзь сябе ад кветкі адарваў.
Конікаў навокал як насыпана,
Аж звініць-варушыцца трава.

Стома закалыхвае імгненна,
Расцякаецца ва ўсе бакі
Цёплым духам маладога сена,
Лёгкім свежым ветрам ад ракі…

*1997*

## БАРАВІЧОК

У лесе пахне едлаўцовым дымам.
Гарэзліва патрэсквае касцёр…
Стаіўся пад асінамі рудымі
Баравічок,
Што хоча збегчы ў бор.

Ён цёплы мох
У сне салодкім бачыць,
Да верасовай выспачкі прынік
І чуе,
Як непадалёк грыбачыць
Вясёлы і няўдачлівы грыбнік.

І ён такі ж —
Пужліва адзінокі.
Здаецца,
Сам бы выдраў карані
І выбег на прыглушаныя крокі:
Я тут!
Вазьмі мяне,
Не абміні!..

*1997*

* * *

Вы мяне не клічце, не завіце
У заакіянскі край прыгожы.
Я не буду, як былінны віцязь,
Доўга разважаць на раздарожжы.

У мяне даўно адна дарога
Вызначана памяццю бяссоннай —
Да кутка азёрнага, ляснога,
Дзе мае зялёныя Расоны.

Так ужо мне вызначана лёсам,
Так мне на зямлі наканавана,
Што не трэба казачных дзівосаў,
Цёплага, чужога акіяна.

Я прыйду ссівелым і стамлёным
Да маёй любімай Беларусі,
Паздароўкаюся з кожным клёнам,
З кожнаю бярозкай абдымуся.

*1997*

* * *

На дрогкіх выбоінах
Шляху зямнога
Згубілася многа,
Забылася многа.

Ды помню:
На печы
У вечар зімовы
Матуля шаптала
Чароўныя словы.

Я помню ўсё добра,
Я помню ўсё цвёрда:
«Кацілася торба
З высокага горба…»

І помніцца,
Мроіцца,

Чуецца мне
Прытомлены шэпт:
«Ішоў Бай па сцяне…»

Няма на зямлі ўжо
Ні хаты,
Ні печы.
Унук
У мяне на каленях
Ляпеча.

Яму я шапчу
Таямніча і горда:
«Кацілася торба
З высокага горба…»

І разам з наследнікам
Верыцца мне,
Што Бай барадаты
Ідзе па сцяне.

*1997*

## СЛІМАК
*(Іранічная ідылія)*

Ля гарода
Ляжыць калода.
На калодзе сядзіць слімак.
Для гарода
І для народа
Ён не робіць шкоды ніяк.

Сонны трошкі,
Ён грэе рожкі.
Не збіраецца саслізгнуць.
Богам створан —
Ніякі воран
Не павінен яго крануць.

А вакол —
Цішыня і згода,
Як суладдзя нябесны знак.

Ля гарода
Ляжыць калода.
На калодзе сядзіць слімак…

*1997*

## АСЕННЯЕ

Чаго душа мая шчыміць,
Не ведаю:
Ці ад таго,
Што нецікава жыць,
Ці ад таго,
Што неба сёння бледнае
І ліст апошні за акном дрыжыць.

А можа, ад таго,
Што шмат растрачана
І быльнягом счарнелым зарасло,
Што з памяці сплывае ўсмешка матчына
І жураўля спазнелага крыло.

Забылася, схавалася пад верасам
Сцяжынка ля бацькоўскага двара.
І многія сябры мае не вернуцца
З дарогі той,
Куды і мне пара.

Не грэе сонца.
Горбяцца за крушнямі
Замшэлыя, цяжкія валуны.
Буслы зляцелі з балацін асушаных
І ўжо назад не прыляцяць яны.

На хмаркі
Промні выцвілымі пасмамі
Кладуцца,
Каб сплываць за далягляд.
І толькі пазняцвет
Вачамі яснымі
Глядзіць,
Як і паўсотні год назад…

*1997*

* * *

Я сяджу задумліва-мінорны
Вечарам асеннім пры акне.
Кажуць, што мінору болей нормы
Стала штосьці ў вершах у мяне.

Ну не ўмею я дзеля пракорму
Рыфмаваць салодзенькі мажор.
Ды і хто ўгадае тую норму,
Што і мне азначыў пракурор?

Зноў гляджу ў зажуранае неба,
Песню жураўліную лаўлю.
І ў душу маю плыве патрэба —
Адгукнуцца ціха жураўлю.
І паспагадаць людскому гору,
І схавацца ад будзённых спраў…

Вы ўжо мне даруйце,
Што мінору
Я звыш нормы сёння перабраў…

*1997*

* * *

Я сваё жыццё, нібы пірог,
З многімі дзяліў і не бярог.
Менш за ўсё каханай адламіў…
Каб жа хоць каго ды накарміў!

Талент, вершы, веру і любоў
Раскідаў, нібы паштовых галубоў.
Можа, ад Дняпра ці ад Дзвіны
На змярканні вернуцца яны…

*1997*

* * *

Нехта — з пекла,
А нехта — з раю

Голас мне сябры падаюць.
Вельмі рана сябры паміраюць.
А вось ворагі
Доўга жывуць,
Абмінаюць судовую лаву
І шалеюць ад п’яных піроў,
І крадуць
Пасмяротную славу
У маіх нешчаслівых сяброў.

Смерць і праўда —
Бяздушна-сляпая,
Калі ўсіх іх раўняе ў цане.
А сяброў маіх так не хапае
І зямлі беларускай,
І мне.

Я крыві не хачу,
Вы паверце,
І граху не вазьму на душу.
Не прашу я для ворагаў смерці —
Для сяброў даўгалецця прашу.

*1997*

* * *

Той,
Хто іншаму яму капае,
Хай спытаецца ў лёсу свайго,
Ці не кіне воля сляпая
У сыпучы пясок і яго?

Ці не скоціцца ён з касагору
На халоднае мулкае дно,
Каб пасля доўга грэбсціся ўгору,
Дзе вячэрняе неба відно?

А з-за хмар будзе месяц смяяцца,
Як у ямы той бераг высок.
І ўвесь час праз бяссільныя пальцы
Будзе сыпацца жоўты пясок.

*1997*

## ВУЛІЧНЫ МУЗЫКА

Вакол яго будзённасць шэрая
Людской паводкаю вірыла,
А за спіной —
Вялізным чэравам
Шумеў, бурчэў паўдзённы рынак.

Яго, здаецца, зранку ўходала
Чужая гулкая гамонка.
Ён слухаў сам сваю мелодыю,
Шчакой прыпаўшы да гармоніка.

І медалі яго салдацкія
З грудзей глядзелі сарамліва,
Нібыта прадзедавы цацкі,
Наіўна ўзятыя з архіва.

Адзін ён чуў
Званочак срэбны
Святой ваеннай маладосці,
Зусім нікому не патрэбны
Тут,
Дзе кубельцы ды авоські.

Яму даўно было ўсё роўна,
Ці спачуванне чуць,
Ці кепікі.
Не заўважаў,
Як грошы поўнілі
Старую «ленінскую» кепку.

Ён помніў,
Што яго з «зарплатай»
Ужо чакаюць дамачадцы…
А мне хацелася заплакаць.
І выбачацца,
Выбачацца…

*1997*

## ПАМІРАЛА ЖАНЧЫНА

Жанчына ціха памірала,
У вечнасць чорную плыла.
То ў цемру стомлена ныралa,
То ўскідвалася да святла.

Яе наструньвала імкненне
Адчайна вырваць з небыцця
Хаця б глыток,
Хаця б імгненне
Зямнога грэшнага жыцця.

Кусала вусны, каб не войкаць,
Шукала на экранах сцен
Самотным невідушчым вокам
Кахання прывіднага цень.

Яна ўжо ведала,
Як мала
Дыхання засталося ёй,
І развітальны крык трымала
Усёй істотаю сваёй.

У барацьбе з хваробай лютай
Ёй так хацелася, відаць,
Каб і апошняю пакутай
Нікому клопату не даць…

*1997*

* * *

Б'юць па спіне цапы.
Зрок засцілае мліва…
Цярпі, народ, цярпі,
Раз ты такі цярплівы.

Твой дзеляць каравай,
Твае ламаюць жорны…
А ты, народ, трывай,
Раз ты такі пакорны.

Твае паслугачы
Падбрэхваюць лісліва.
А ты, народ, маўчы,
Раз ты такі маўклівы.

Грызі сухі калач,
Збірай завялы верас…
Не плач, народ, не плач —
Масква слязам не верыць…

*1997*

## ЧУЛЛІВЫМ МЕМУАРЫСТАМ

О, як вы любіце сябе,
Сваю кашулю і прычоску!
(Каб гэтак вы любілі вёску,
Дзе сівы конь мурог скубе!)

О, як вы помніце сябе,
Прыгоды даўнія і мары!
(Каб гэтак помнілі абшары,
Дзе плачуць кнігаўкі ў журбе!)

Як ганарыцеся сабой,
Сваімі ўмелымі рукамі!
(Каб ганарыліся бацькамі
Вось так у велічы сваёй!)

Як вы шкадуеце сябе,
Сваіх прыхільнікаў і дзетак!
(Каб край свой шкадавалі гэтак.
Дык ён бы сёння не гібеў!)

Ды боль чужы,
Чужая слава
Па сэрцу вашаму не б’е.
І вам нічога не цікава,
Апроч сябе,
Апроч сябе.

*1997*

* * *

Навошта жыць,
Калі Радзіма гіне?
Каму спяваць,
Як водгулля няма?
На ўсіх шляхах,
На кожнай лугавіне
Ляжыць адчаю
Белая зіма.

Разбойны вецер
Шастае па полі,
Каліны прыгінае да зямлі.
Да цёмных хат,
Да цёплага застолля
Завеі ўсе дарогі замялі.

Гляджу ў бязмежжа
Сумнымі вачыма,
Угадваю сцяжынку ад бяды…
Глухі прастор.
Знямелая Айчына.
На белым снезе —
Чорныя сляды…

*1997*

* * *

Можна быць бязбацькавічам —
Добрым чалавекам.
Горка жыць без Бацькаўшчыны —
Дробным недарэкам.

Сорам жыць па-панску
І цурацца маці,
І выпрошваць ласку
У суседскай хаце.

Подла падружыцца
З хцівасцю і згубай,

Што нясуць чужынцы
Для Радзімы любай.

Можна стаць багатым,
Мець казну залогам…
Страшна быць праклятым
І людзьмі, і Богам…

*1997*

* * *

Скажуць,
Гэткае немагчыма,
Ды чаго не бывае ў жыцці —
Я шукаў на Радзіме Радзіму
І не мог яе доўга знайсці.

Быццам чорная хмара навісла
Над прасцягам палеткаў і траў,
Быццам нехта чужы, ненавісны
Ад мяне маё шчасце схаваў.

Колькі я ні ўглядаўся ва ўзлессі,
Як ні слухаў дыханне начэй,
Не хапала матулінай песні,
Не хапала вясёлых вачэй.
З беларускаю крыўдай адвечнай
Я спытаўся ў азёр і дуброў:
Што ж за час,
Што так душы знявечыў,
Што ж за лёс,
Што так край абакраў?

І ў адказ, як апошняе слова,
Мне шапнуў мой знядужаны кут:
— Ты ў сябе запытайся сурова,
Ты сабе абвясці свой прысуд…

*1997*

## АЛЕ Ж…

Жыў чалавек —
Не больш, не менш,
Як многія на свеце.
Хоць небагаты быў,
Але ж —
Пасада,
Хата,
Дзеці.

Не быў ніколі на віду,
Хаваў сваё аблічча.
А тут —
На мітынгі вядуць,
На барыкады клічуць:
«Устань
І праўду-матку рэж,
Развенчвай супастата,
Як на касцёр ідзі!..»
Але ж —
Пасада,
Дзеці,
Хата.

Ён быў абачлівы наўздзіў:
Уладу лаяў трошкі,
Але ніколі не хадзіў
З начальнікам у рожкі.
І развaжаў:
Скарынку еж
І папівай гарбату,
Прысмакаў не купляй,
Але ж
Пасаду май
І хату.

І даўні страх,
Як слізкі смоўж,
Паўзе паміж лапатак.
Хоць і ў «абрэз» усё,
А ўсё ж
Такі-сякі дастатак.

А што як павядуць на суд
Або ўпякуць за краты,
Ці ткнуць дубінкаю?
А тут —
Пасада,
Дзеці,
Хата.

Хіба адразу разбярэш,
Дзе праўда,
А дзе здрада?
Свабоды хочацца…
Але ж —
Сям'я,
Жыллё,
Пасада.

Вось і хаваецца ў кустах,
На гонар ставіць лату
І ўспамінае
Даўні страх,
Дзяцей,
Пасаду,
Хату…

*1997*

* * *

У хвіліну адчаю
Пакладзі мне далонь на чало,
Адкажы на пытанне маё
На расстанне:
Ці патрэбны я быў,
Як мяне не было,
Ці патрэбны я буду,
Як мяне ўжо не стане?

Не маўчы,
Не хлусі,
Не хавай сваіх чорных вачэй.
Не фліртуй,

Не жартуй,
Не ўцякай ад адказу.
Праўду ўсю мне скажы —
І мне стане лягчэй,
І ўзрушэнне
Ці ўспыхне ярчэй,
Ці патухне адразу.

Што б ты мне ні сказала,
Далонь не прымай ад чала.
Будзе мне не хапаць
Лёгкіх пальцаў тваіх прахалоды…
Для мяне ты заўсёды
Патрэбнай была.
Для мяне ты патрэбнаю
Будзеш заўсёды.

*1997*

* * *

Мы з табой сустрэліся аднойчы
На перанаселенай зямлі.
Да пляча плячо,
І ў вочы вочы,
У руцэ — рука
Ў жыццё пайшлі.

Шчасце,
Таямніцы
І руціна.
Грэшныя, няўцешныя гады…
Нас жыццё каціла і круціла,
Біла і па карку, і пад дых.

Не мінаў
Ні журавель,
Ні бусел.
Абсыпала попелам бяда…
На былое як ні азірнуся —
Мне зусім нічога не шкада.

З берага другога
Свечкі свецяць,
Хоць, здаецца, спалены масты…

Як тады,
На цэлым белым свеце —
Двое:
Ты і я.
І я, і ты…

*1997*

* * *

Не глядзі мне ўслед,
Нібы старому.
На расстанне не махай рукой.
Яшчэ доўга нашаму парому
Плысці віратліваю ракой.

Ты яшчэ не раз
Зязюляй шэрай
Будзеш перагуквацца са мной.
Будзе ціха набліжацца бераг
З адзінокай гонкаю сасной.

Будуць над высокімі слупамі
Пралятаць вясновыя шпакі.
Будзе нестарэючая памяць
Узірацца ў заўтра з-пад рукі…

Помню я завеі і дажджы ўсе
І цябе з рамонкавым вянком.
Хоць і да сівых валос дажыўся,
А ў душы застаўся юнаком.

*1997*

* * *

Свеча горела на столе,
Свеча горела…

*Барыс Пастарнак*

На ўсёй зямлі спыніўся час.
І ў гэтым часе
Ты засталася ля пляча,
Ты засталася.

І месяц
Стомленым ваўком
Схаваўся нанач.
Шумела Нарач за акном,
Шумела Нарач.

Каб зоркі бліскалі ў акне,
Мы не хацелі.
Трымцелі цені на сцяне,
Трымцелі цені.

Нам сну не даў вясновы час —
Вясёлы скнара.
І вечнасць цэлую для нас
Шумела Нарач…

*1997*

* * *

Помніш,
Ты даверыла
Мне ключы,
Адчыніла дзверы
Уначы,
Не дала і трохі
Ачуняць,
Бо цябе палохала
Цішыня,
Што шапоча голлем
Ля акна,

Ходзіць завуголлем
Давідна?

Дыктавала правілы
Ты сама.
І мяне адправіла.
А — дарма.
Ад варот не вернуты,
Я замоўк.
Зачыніла дзверы ты
На замок.
І заснула ў радасці
І ані
Не баішся
Ранішняй
Цішыні.

*1997*

* * *

Не трашчы так настырна, сарока,
Побач з даўнім, былым, дарагім.
Тут каханне прайшло недалёка.
Не са мною прайшло, а з другім.

Я і сёння іх постаці бачу —
Хто іх ведае:
Дзве ці адна.
Я і сёння не веру ва ўдачу,
Хоць чакаю яе давідна.

А яны насцярожаным крокам
Прамільгнуць міма нас па начы.
Памаўчы побач з імі, сарока.
Памаўчы, як і я.
Памаўчы.

*1997*

* * *

З усмешкай сумнай
Па вясне
Праводжу позіркам дзяўчатак,
Што,
Як казуль пудлівых статак,
Бягуць імкліва паўз мяне.

Майму пахіламу плячу
Плячо дзяўчына не падставіць.
Я страціў даўнія падставы
Аклікнуць тых,
Каго хачу.

Цяпер я,
Нібы папскі нунцый
Ці нават сам суровы Бог,
Адно, што маю, —
Азірнуцца
І ціха адысціся ўбок.

Ну што —
Дажыўся, галубок?..

*1997*

* * *

Дзе лагчына,
Дзе ляшчына,
За пагоркамі
Ты нуду маю лячыла
Прыгаворкамі:

«За пясчаным касагорам,
Дзе крутыя берагі,
Давай, мілы, пагаворым
Мы з табою на мігі.
Я сама табе пазычу
Маладых вясновых чар.
Я сама цябе паклічу
У ядлоўцавы гушчар.

Пад сасною залачонай
Скіну страху паранджу,
Да сябе касою чорнай
Назаўсёды прывяжу.
Звонкім сокатам сарочым
Смех твой хітры заглушу.
Не скалечу,
Не сурочу,
Не ўкраду
Тваю душу.
Спакушальніца былая,
Да ласункаў прывучу,
Як лясунка,
Залюляю,
Зашапчу,
Заказычу.
Хай прарвецца праз ігліцу
Мліва нуднага дажджу.
Будзеш ты ка мне прасіцца,
Ну а я дык пагляджу…»

… І твайго вядзьмарства сіла
Сапраўды мяне тады
Палячыла,
Прыручыла,
Прысушыла
Назаўжды.

*1997*

* * *

Хоць не закончаны раман,
Ды мне фінал вядомы, —
Што без цябе
Мяне няма
Ні ў прымаках,
Ні дома.

Ці ў свеце лета,
Ці зіма,
Ці маразы,

Ці спёка, —
А без цябе
Мяне няма
Ні блізка,
Ні далёка.

Ты добра ведаеш сама,
Хоць і не кажаш гэта:
І без мяне
Цябе няма…

Такі вось паварот сюжэта.

*1997*

* * *

Калі твая дарога ўніз збягае
І зарастае маладой травой,
Прысядзь на цёплы верас каля гаю,
Паслухай жураўля над галавой.

Зірні на ліст бярозавы зялёны,
Духмяны вецер вуснамі крані —
І праясніцца твой пагляд замглёны
Ад чыстага блакіту ў вышыні.

І ціха клікне васількамі ніва
Яшчэ адной сцяжынкаю прайсці.
І зразумееш проста і шчасліва:
Не ўсім і гэта выпала ў жыцці.

*1998*

* * *

Вечны клопат.
Вечная трывога.
Вечныя пытанні да сябе.
Вечная вясковая дарога.
Вечная задуха на сяўбе.

Вечны страх.
І вечная спакуса.
Вечны дух жытнёвы на жніве.
Вечная пакута беларуса.
Вечны Млечны Шлях у сіняве.

Вечны пошук.
Вечнае сумненне.
Вечны сон пакорнага раба.
Вечны сум.
І вечнае маленне.
Вечная за ўладу барацьба.

Вечнае старых лясоў дыханне.
Вечная калоссяў гамана.
Вечны боль.
І вечнае каханне.
Перад Богам вечная віна…

…І аднойчы
Трошкі недарэчна
У бацькоў спытаецца дзіця:
— Што, і сапраўды ўсё гэта вечна
Да канца нявечнага жыцця?

*1998*

* * *

Ці збылося ўсё, ці не збылося,
Ведае пра гэта толькі Бог.
Нікне паламанае калоссе
Ля старых раз’езджаных дарог.

Што яго так злосна паламала —
Навальніца,
Вецер
Ці бяда?
Гэта ўсё людзей цікавіць мала.
Ім чужога жыта не шкада.

Хутка завіруха загалосіць,
Шэранню засцеле ўсё вакол…

Сыплецца з пажухлага калосся
Зерне пераспелае на дол…

Сірацее лапік недажаты
Ля старых раз’езджаных дарог.
І ці ўзыдуць тут вясной зярняты,
Ведае наперад толькі Бог…

*1998*

* * *

Іду да вершаў пешшу
Між красак і камлёў,
Нагледзецца паспеўшы
На слонак і чмялёў,
Глынуўшы ўсмак азону
Дажджоў і навальніц,
Наслухаўшыся звону
Рачулак і крыніц.

Ступаю асцярожна
І ціхну —
Балазе
Тут намаўчацца можна
На мяккай дзеразе.

Губляецца дарога
То ў вербах,
То ў трысці…
Хто ведае,
Як доўга
Да вершаў мне ісці?..

*1998*

* * *

Жыві і радуйся,
Што ты яшчэ жывеш,
Што на стале ў цябе —
І хлеб, і масла,

І ў сэрцы выспявае новы верш,
І кволая надзея не пагасла.

Ну што ж,
Калі не спраўдзіліся сны,
Калі ў душы ўсё новыя трывогі.
Ёсць крык жаўны,
І вечны шум лясны,
І над дарогай —
Месячык двухрогі.

Наіўным летуценням больш не вер.
Падманлівасць —
Як рана нажавая…
Жыві і цешся,
Што яшчэ жывеш
І што твая душа яшчэ жывая.

*1998*

* * *

Легенды час развенчвае,
Выпальвае датла.
Я думаю пра вечнае
(Мая пара прыйшла).

Пра тое непадманнае
І ў хаце, і ў царкве,
Што не дзяржаўнай маннаю,
А сухаром жыве.

Пра тое непараднае,
Што многім не відно.
Па тэле і па радыё
Не хваліцца яно.

Пра тое несмяротнае,
Што век не задушыць,
Што чыстай песняй роднаю
Струменіцца з душы.

Пра тое непаўторнае,
Што маем на зямлі,
Каб не з жабрацкай торбаю,
А горда ў свет ішлі.

Пра вечнае,
Пра вечнае,
Асноўнае з асноў,
Дзе Беларусь прасвечвае
З усіх легенд і сноў…

*1998*

* * *

Сумна падлічваем страты.
У прэсе і ў лесе —
Прагалы…
Губяць прыроду нітраты.
Губяць народы нейтралы.

Зменены флагі на транты.
Мора працэджваюць тралы…
Вецер разносіць нітраты.
Просяць спакою нейтралы.

Сквапныя лічаць караты.
Спрытныя цягнуць каралы…
Выбух рыхтуюць нітраты.
Здраду не чуюць нейтралы.

Ніва чарнее ля хаты.
Душы адчужанасць сцяла…
Губяць прыроду нітраты.
Губяць свабоду нейтралы.

*1998*

* * *

За кармушкаю ўслед не бегаю
І не каркаю, як усе.
І таму варонаю белаю
Станаўлюся я пакрысе.

Чарадою крыклівай ходзячы,
Натапырыўшыся ў імгле,
Падазрона глядзяць суродзічы
На нязвыклыя крылы мае.

Не куваю,
Не кукарэкаю,
Не шукаю глушцовых сцяжын,
А здаюся ім недарэкаю,
Непатрэбным зусім і чужым.

Перад зграяй безабаронны,
Пад вятрамі трываючы ледзь,
І памру я белай варонай,
Не збіраючыся чарнець.

*1998*

## ПУШЧАНСКАЯ ЛЕСНІЧОЎКА

Ці салоўка каля весніц шчоўкне,
Ці ўпадзе на ганак яблынь бель, —
І не варухнецца леснічоўка —
Сухапутны Ноеў карабель.

Тут усё ідзе адвечным ладам,
У суладдзі з небам і зямлёй:
Звоняць пчолы над прасторным лядам,
Пахне вецер цёплаю смалой.

Тут вавёрка ўранні на сасонцы
Правярае схованкі свае,
Гулка дзяцел
Тэлеграмы сонцу
Кожны божы дзень перадае.

А калі апошні філін змоўкне,
Загарацца зоркі ў сіняве,
У начным тумане
Леснічоўка
На сустрэчу з вечнасцю плыве.

*1998*

* * *

За цёплы вецер верасовы,
За сіняву над галавой
Я б так хацеў
Зямлі суровай
Дабавіць радасці жывой.

За мірны гуд пушчанскай борці
Я падарыў бы
Па вясне
Сасонцы кожнай —
Па вавёрцы,
Ялінцы кожнай —
Па жаўне.

Я б кожным вечарам
З дубровы
Настой палян асенніх піў
І баравік чорнагаловы
Старому вожыку ўступіў.

А на зіму
Зайцоў вушастых
Я пасяліў бы ў будане…
Ды ў гэтым свеце
Так не часта
Залежыць нешта ад мяне!..

*1998*

* * *

Ты задаеш мне
Зноў і зноў
Наіўныя пытанні:
— На чым трымаецца жыццё?
— На працы і каханні.

На вечным клопаце зямным,
Што ў поле кліча ўранні,
І на цярплівасці тваёй,
І на маім чаканні.

На вернай дружбе,
На сям'і,
На юным парыванні,
На вейках стомленых тваіх
І на маім дыханні.

На аблачынцы ў сіняве,
На ветаху ў тумане,
І на тваёй скупой слязе,
І на маім маўчанні…

Такі няхітры мой адказ
На ўсе твае пытанні.
— На чым трымаецца жыццё?
— На працы і каханні.

*1998*

## НАСЛЕДАВАННЕ ЯСЕНІНУ

Не шкадуй таго, што адбылося.
Не сумуй па тым, што не прыйшло.
Павуцінкаю звязала восень
З маем
Жураўлінае крыло.

Вось яна, срабрыстая, віецца
У замоўклай чыстай сіняве.
І яе неасцярожны вецер,
Можа быць, навекі разарве.

Я яе, здаецца, не ўтрымаю.
Пальцы халаднеюць ад імглы.
І ляціць,
Як прывітанне маю,
Сумнае, апошняе «курлы»…

*1998*

* * *

Забываю звонкі вокліч «Тата!»,
Прывыкаю да звароту «Дзед!».
«Мілы» —
Як юначая цытата,
Так даўно не чуецца мне ўслед!

Новы час —
І новыя найменні,
Новая самота і журба.
У вачах гарэзнасці ўсё меней.
І ўсё больш гаркоты на губах.

У душы ні зайздрасць, ні нянавісць
Не хаваю нават у кутку,
Хоць мяне ўжо ўнукі абганяюць
На жыццёвым людным бальшаку.

Я спакойна памахаю маю —
Хай за небасхіл сплывае сінь…
Толькі ад дзявочага
«Кахаю»
Адвыкаць не хочацца зусім.

*1998*

* * *

Калі ў маіх вершах знайсці
Вы раптам захочаце тое,
Чаго не бывае ў жыцці, —
Адкіньце жаданне пустое.

Я проста збярог між лістоў,
Як памяці светлай закладкі,
Засохлыя кветкі гадоў
І мар незавялыя згадкі.

Я проста паклікаў з вясны
Наш бэзавы вецер ліловы,
Яшчэ не забытыя сны,
Яшчэ не сказаныя словы…

Я вас не абражу маной,
Не ўражу фантазіяй смелай.
Было гэта з вамі,
Са мной
Ці ў нашай душы набалелай…

*1998*

* * *

Я ведаю адно:
Няма на свеце
Зямлі,
Дзе я хацеў бы вечна жыць,
Акрамя той,
Дзе сінія дасвецці
І чорныя пахілыя крыжы.

Яна даўно
Суседам абсмяяна
І моўчкі прыняла
Свой горкі лёс.
Ды толькі тут я
Яблыкаў крамяных
На ўсе гады
Наследнікам натрос.

Хаця на ёй
Саманадзейны гіцаль
Збіраецца да скону цараваць,
Я буду ёй
Прыслужваць і маліцца.

І сцежкі ёй
Гатовы цалаваць…

*1998*

## ЧОРНЫ ЧАЛАВЕК

Нада мною
Чарнакрылым воранам
Вісне прадчуванне —
Быць бядзе:
Чорны чалавек
З партфелем чорным
Назіркам за мною ўслед ідзе.
Кожны крок мой сочыць неадступна,
Цэліцца,
Як вопытны стралок.
Змрочна,
Недаверліва
І тупа
Акуляры бліскаюць здалёк.
Ухмыляецца прыблудным чортам,
Дыхае натужна за спіной…
Чорны чалавек
З партфелем чорным
Цёмным ценем цягнецца за мной.
Стражнікам стаіць над кожным словам,
На парог прыходзіць без ключа,
Нават ноччу за сталом пісьмовым
Зазірае хітра з-за пляча.

Што ты скажаш подламу прыблудзе?
Як яго прагоніш з хаты прэч?..
Тонкім пальцам тыцкае мне ў грудзі
І сіпіць пагрозна:
«Не пярэч!»

Каб я стаў
Лагодным і пакорным,
Сціплым і бяздумным,
Як усе,
Чорны чалавек

З партфелем чорным
Варту сваю пільную нясе.

*1998*

* * *

Душу сціскае стомленасць цяжкая,
І вецер сыпле жоўтыя лісты.
А я ўсё роўна цеплыні чакаю,
Шукаю ў лета тайныя масты.

Я не хачу паверыць,
Што на полі
Даўно адкрасавалі васількі,
І маладосць не вернецца ніколі,
І не парвуцца старасці сілкі.

Прагнаць імкнуся навалач адчаю,
Трымаю ўдачы кволую свячу,
І ўсё яшчэ шчаслівых дзён чакаю,
І з холадам змірыцца не хачу.

Быць можа,
У нябыт парыў мой кане
І дзіўны цуд прысніўся не ў пару,
Але пакуль жыве ўва мне чаканне,
Я не ўпаду,
Не знікну,
Не памру…

*1998*

## У МАЙСТЭРНІ ЛЕАНІДА ШЧАМЯЛЁВА

…А я ні пра Галгофу,
Ні пра церні
Не ўспомніў нават,
Калі з чорных рам
Святло святое
Хлынула ў майстэрні,
І я паверыў,

Што майстэрня —
Храм.

І я стаяў,
Шчаслівы і вясёлы,
Нібы паломнік пасярод зямлі.
І недзе блізка
Лёталі анёлы,
І побач
Шаты райскія цвілі…

Я быў гатовы
Майстру памаліцца,
Паспавядацца,
Быццам святару,
Бо з дрэва спасціжэння таямніцаў
Счышчае ён будзёншчыны кару.

У грэшным свеце
Ён святлом
Патроху
Выводзіць цемры ліпкую паршу,
А церні ўсе
І вечную Галгофу
Забраў сабе ў збалелую душу.

*1998*

## ПАНІХІДА
*Сон*

Ну вось і мне ўжо ладзяць паніхіду.
Каля труны расстаўлены вянкі.
Стаіць начальства,
Сумнае для віду.
Маўчаць калегі.
Плачуць сваякі.

Непадалёк ад ганаровай варты
Пад сарамлівы перашэпт глухі
Зайздроснік малады

Зладзеявата
Прыпамінае ўсе мае грахі.

Разгублены і вінаваты нейкі,
Сярод чужых цікаўных разявак
Былы мой сябра
Ціснецца да сценкі,
Бліжэй не можа падысці ніяк.

А ўзад і ўперад
Мой смяротны вораг —
Вось нечаканка дзе,
Вось дзіва з дзіў! —
Каля маіх сяброў,
Старых і хворых,
Унурана і згорблена хадзіў.

Ён гэтак шчыра гараваў па мне,
Ён гэтакім асірацелым чуўся,
Што я не змог улежаць у труне,
Умомант усхапіўся.
І — прачнуўся.

*1998*

## СТРАХ

Вы верыце прамовам,
Што на сваёй зямлі
Нарэшце канчаткова
Мы страх перамаглі
І што ніколі болей
Не ступіць на парог,
Не сцісне сэрца болем
Бязлітасны спалох?..

А за спіною глуха
Паўзе зларадны шэпт,
Свідруе мозг і вуха:
— За ўсімі сочыць шэф.
Усе ўзнімайце лапкі,
Бо на любога з вас
Ёсць у архівах папкі

І рапартаў запас.
Там вечар учарашні,
І кожны цмок і глык,
І плёткі ўсе,
І шашні
Пастаўлены на ўлік.

І гэта ўсё аднойчы,
Як выбуховы тол,
Не паглядзеўшы ў вочы,
Вам пакладуць на стол.

І колькі б ні лячылі,
А стрэс па сэрцы —
Трах!..

Ну вось.
А вы лічылі,
Што вас не возьме страх.

*1998*

## ЭЛЕКТАРАТ

Ён у нас рашае шмат,
Дарагі электарат,
На стале ў яго заўсёды —
Хлеба кус
І сала шмат.

Ён зусім не хоча звад,
Мудры наш электарат.
Кожны выбраны начальнік
Для яго —
І сват, і брат.

Мае наш электарат
Самагонны апарат.
Ён яму для прапаганды
Падыходзіць акурат.

А яшчэ электарат
Прызнаваць не хоча страт,

І сябе невінаватым
Лічыць ён ва ўсім падрад.

Ды часамі сам не рад
Родны наш электарат,
Што загруз даўно ў балоце —
Ні наперад,
Ні назад…

*1998*

## ПАКУЛЬ НАРОД СМЯЕЦЦА…

Мяціце з хаты смецце,
Трымайце ў галаве:
Пакуль народ смяецца,
Ён на зямлі жыве.

Надзеяй цепляць вочы
І жарт,
І анекдот.
Пакуль народ рагоча,
Не ўмёр яшчэ народ.

І хай чужынец цягне
Дурных прароцтваў мех,
Ён захлынецца ў багне
Пад наш агульны смех.

На мару залатую
І нам даў Бог правы…
Пакуль народ жартуе,
Датуль народ жывы…

*1998*

* * *

І шум,
І грук,
І віск які
Аб лізінгу,

Аб бартэры!
Высвістваюць статыстыкі.
Такуюць агітатары.

Няўжо хапае ежы нам?
Няўжо хапае волі нам?
І кожны з нас дагледжаны?
І кожны задаволены?

Няма ніякай радасці,
Няма ніякай роўнасці
Ад нашай талерантнасці,
Ад нашай памяркоўнасці.

І гонар наш раздушаны,
Даведзены да крайнасці
У ціхай раўнадушнасці,
У хітрай прывыкальнасці.

І халуі з падлізамі
Сягоння —
Трыумфатары…
Дык сціхніце пра лізінгі!
Дык сціхніце пра бартэры!

*1998*

* * *

Вы чаго спяшаецеся ўпрочкі,
Вас чаго так ветрам аднясло,
Ясныя асеннія дзянёчкі,
Позняе апошняе цяпло?

Хіба прасушылі вы тарпы ўсе,
Хіба ўсю смугу прагналі з ніў?
Я ж яшчэ прастору не напіўся.
Я яшчэ гарачы пыл не змыў.

Вы,
Нібы навыперадкі з летам,
Прамільгнулі ўмомант між прысад…

Можа б, я пабег за вамі следам,
Толькі ці ж вярнуся я назад?..

*1998*

## НА НАЧНЫМ БЕРАЗЕ

У затоенай цемры начной
Нізкі бераг праглядвае злёгку
І пагойдвае хваляй рачной
У трысці прыхаваную лодку.

Навакол мяне ціша і змрок.
Як я з прыстані цёмнай адчалю?
Кожны шолах глухі,
Кожны крок
Набліжае мяне да адчаю.

Зрэдку плёхае рыба ў рацэ.
Вісне нізкае хмарнае неба.
І вясло халаднее ў руцэ…
Плысці трэба!

*1998*

* * *

Цёплай ноччу вераснёваю
Прымасціўся на сучок —
Казку новую высноўвае
Працавіты павучок.

У цішы часінай светлаю
Цягне тоненькую ніць,
Каб пасля срабрыстай сеткаю
Зорку раннюю злавіць.

Марыць ён,
Нібы аб цудзе,
Як яна,
Прачнецца ледзь,

Каля лап ягоных будзе
Дзіўнай музыкай звінець.

*1998*

## НА СМЕРЦЬ МІКОЛЫ СЕЛЯШЧУКА

Як нам хочацца доўга жыць!
Як нам хочацца шмат пабачыць!..
А ўжо хваля да ног бяжыць,
Затаіўшыся па-сабачы.

І цямнее,
Як быццам хто ўкраў
На матулінай покуці свечку.
І хаваецца за небакрай
Горад вечны
І мора вечнае.

Падкрадаецца са спіны,
Свой бязлітасны час вызначае
Хваля зайздрасці і маны,
Недаверу,
Бяссілля,
Адчаю…

Пены прывідны паясок.
Як прыбой,
Гамана салонная…
І ля вуснаў —
Пясок,
Пясок
І вада,
Як сляза,
Салёная…

На Палессе
Па сотнях дарог
Пакацілася сонца кола…
Што ж для нас ты сябе не збярог,
Мі-ко-ла?!

*1998*

* * *

Каля шляхоў гаі палаюць жоўта.
Між лужынаў пятляе каляя…
Як добра,
Што на свеце ёсць Крыжоўка
І хата прыдарожная мая!

Сюды я ад сталічнага бедламу
Употайкі спяшаюся ўцячы,
Каб адшукаць каля дзвярэй пад лавай
Да адзіноты роздумнай ключы.

Тут
Мой вясковы клопат вечаровы
Стамлёна абапёрся аб вушак,
І весела гараць у печы дровы,
І аж звініць ад цішыні ў вушах.

І не злуе мяне ўжо вокрык нейчы,
Не кліча звадыяш у свой пакой.
Ні вэрхалу няма,
Ні калатнечы,
А толькі —
Вецер,
Неба
І спакой.

Забылася заморская вандроўка.
Не сыкае трывога,
Як змяя…
Як добра,
Што на свеце ёсць Крыжоўка
І хата прыдарожная мая!..

*1998*

* * *

…Нясуць дзяўчаты юбіляру краскі.
Прэм'ер схіляе нізка галаву…
А мне не трэба афіцыйнай ласкі.
Я без дзяржаўных кветак пражыву.

Жыццё мне дорыць простыя прэзенты —
Шумлівы лес
І ціхую ваду.
Адыдуць рэзідэнты, прэзідэнты.
І сам я ў свет інакшы адыду.

Забудуцца праклёны і законы.
Мінецца мімалётная бяда.
І будзе лепшым дарам —
Лес зялёны
І ціхая блакітная вада…

*1998*

* * *

І ў задуменні вечаровым,
І ў дзённым клопаце сваім
Заўсёды быў я з родным словам,
Нідзе не разлучаўся з ім.

Калі яно са мной дружыла,
Я шчаслівейшы быў з людзей,
І хмельна кроў бурліла ў жылах,
І песня рвалася з грудзей.

Калі ж яно ўва мне змаўкала
І аддалялася на міг,
Я халадзеў душой завялай
І быў няшчасны і нямы.

Яно,
Як сонца,
Без спачыну
Свяціла ўсім маім гадам.
Дык як жа я яго пакіну?
Дык хіба ж я яго прадам?..

*1998*

* * *

Даруйце людзям таленавітым
Дзівацтвы,
Выдумку
І віно.
Ім за будзённасцю
І за бытам
Жыццё,
Нябачнае нам,
Відно.

Душой наіўнаю і раскутай
Яны адчулі раней за нас
І невядомыя нам пакуты,
І незнаёмы далёкі час.

Іх летуценнем
І азарэннем
Мы адкрываем дабро і зло:
Што ўсе лічылі пустым вярзеннем —
Высокай ісцінаю ўзышло…

Дык не цягніце
Галля бярэмы
У той касцёр,
Што ля іхніх ног.
Грахі даруйце ім.
Недарэмна
Ім падарыў сваю ласку
Бог.

*1998*

* * *

Лугавіны.
Баравіны.
Дым асенняга кастра.
Журавіны.
Журавіны.
Жураўліная пара.

Зажурыліся рабіны
Каля голага бугра:
За вясновыя правіны
Чырванець прыйшла пара.

Віскатлівыя драбіны
Сонца вывезлі з двара…
Павуціны.
Журавіны.
Жураўліная пара.

*1998*

* * *

Асенні лес маўчыць,
Як земляроб стамлёны.
Пра што казаць,
Калі паніклі кроны,
А ля камлёў — апалыя лісты,
Калі на ўзлесках голых
Вецер свішча,
І выстыла пустое такавішча,
І павуцінне легла на кусты?

Паляны адцвілі,
Як быццам пастарэлі.
Замоўклі птушак ранішнія трэлі.
І вожыкі схаваліся…
Ну што ж?..
Ды хочацца і мне
Яшчэ хоць зрэдку
Натрапіць на нявыцвілую кветку
І перабыць пад хвояй
Цёплы дождж.

Ды гэты свет
Ніяк не пераробіш.
І лес задумаўся,
Як пасівелы пробашч,
Сукном змяняе лёгкую парчу.
Ён бачыць ужо блізкую завею…

І я яго так добра разумею.
І я таксама стомлена маўчу.

*1998*

* * *

Як абрынецца ў зялёных шатах
Квецені чаромхавай абвал,
Майскімі начамі
Сняць дзяўчаты
Тайны свой мужчынскі ідэал.

І да іх
Калі не прынц,
Дык рыцар
Скача на запыленым кані,
Каб насупраць весніц прыпыніцца
І спытаць дарогу ў цішыні…

Як трапеча ўзрушанае сэрца —
Аж да горла коціцца адчай:
Што калі ён міма пранясецца,
Нават не зірнуўшы з-за пляча?!

І ў сталіцах,
І ў суседніх сёлах,
На развілках тысячы шляхоў
Так іх мала,
Дужых і вясёлых,
Стройных і прыгожых жаніхоў!

Так не часта выпадае дзіва
Між жартаўнікоў і запявал
Напаткаць аднойчы
Свой адзіны,
Свой зямны мужчынскі ідэал!..

І ніколі,
Аж да самай смерці,
Да завейных адзінокіх дзён,
З запаветнай памяці

Не сцерці
Той вясновы, той чароўны сон…

*1998*

* * *

Калі пад зорным купалам высокім
І для мяне журботны звон праб'е,
Адкінуўшы і крыўды, і папрокі,
Я зноў цябе паклічу да сябе.

І прыпаду ў апошнім парыванні
Да дарагіх халаднаватых рук:
«Даруй мне ўсе грахі,
Даруй каханне.
І вернасць старадаўнюю даруй.
Сагрэй хаця б усмешкаю слабою,
Пакінь мне пацалунак на ілбе.
Калі мы *там* сустрэнемся з табою,
Я зноў навекі выберу цябе…»

*1998*

* * *

Я ніколі наш сад не забуду,
Дзе сінічкі ўзляталі гурбой,
Дзе, як вечнаму весняму цуду,
Мы дзівіліся бэзу з табой,
Дзе аддаў табе ў рукі пастронкі
Ад свайго залатога ярма,
Дзе свае запаветныя гронкі
Раніцой для цябе адламаў…

Тое ўсё —
Як за дальняй гарою.
Ды, знябыўшы і сум, і бяду,
Я аднойчы
Асенняй парою
Да забытага бэзу прыйду.

Будзе мокры лісток целяпацца.
Будзе стынуць пад ветрам шчака.
Будуць доўга азяблыя пальцы
Маладую галінку шукаць…

*1998*

* * *

Як на сэрца ляжа горыч,
Пацямнеюць дні мае,
Дык цябе са мною поруч
Мне так часта не стае.

Я зусім не папракаю.
Проста я цябе прашу:
Клапатлівымі рукамі
Прытулі маю душу.

Паміж здрайцаў і прыблудаў
Захіні мяне ямчэй
Ад бязлітасных прысудаў,
Ад зайздрослівых вачэй.

І не дай з душы ўспаміну
Адляцець у сіняву.
І тады я не загіну.
І тады я аджыву.

*1998*

* * *

Ты снішся мне,
Далёкая такая,
Як незваротнай маладосці знак.
Я зноў цябе здарожана гукаю
І дагукацца не магу ніяк.

Шукаю нашы даўнія сцяжыны,
Што зараслі высокаю травой.
І колецца мне кожны куст ажыны

Маёй віной.
А можа, і тваёй.

Ні злоснага дакору,
Ні праклёну,
Ні рэўнасці ў маёй душы няма…
Маўчаць табой пасаджаныя клёны.
І стыне на губах тваё імя.

*1998*

* * *

Абцалую цябе,
Абшапчу,
Адагрэю,
Не пушчу ні на міг
У сівую зіму.
Над вяршынямі сосен,
Над вольным палётам барэю
На далонях прызнання
Да Бога самога ўзніму.

Я не дам табе слова сказаць —
Я ўсе іх разгадаю.
Я на вуснах тваіх
Прачытаю найлепшы свой верш.
Над шляхамі і снамі,
Над песнямі і над гадамі
Ты,
Як месячык ясны,
У казку маю паплывеш.

А на грэшнай зямлі
Мы прысядзем пад яблыняй белай, —
Я ўсе кветкі і травы
Пакладу табе моўчкі да ног,
Ад нязнанага шчасця,
Ад удачы сваёй захмялелы,
Малады і наіўны,
І твой раб,
І твой бог…

*1998*

* * *

Патушы ў сваёй душы нянавісць,
Запалі ў сваёй душы любоў.
Чорныя часы бываюць нават
У бязгрэшных белых галубоў.

Роспачнасць і ім ламае крылле,
Кідае бязлітасна на брук.
Пазнавата мы з табой адкрылі,
Што няма кахання без разлук.

Верылі мы доўга, што заўсёды
Будзе з намі наш шчаслівы час,
Што расчараванні і нязгоды
Існуюць на свеце не для нас.

І прыгадваць сёння не дарэчы
Боль ранейшы і папрок любы…
Вунь і ў галубоў бываюць спрэчкі.
Ну а мы ж з табой — не галубы…

*1998*

* * *

Я толькі аднаго жадаю,
Каб
Закрасавала ніва маладая.
Я вам,
Сваім нашчадкам,
Пакідаю
Маю Радзіму —
Свой адзіны скарб.

Вы дыхайце маёю збажыной,
Глядзіце ў поўдзень
На мае аблокі.
Хоць я для вас загадкава далёкі,
Я буду з вамі.
Побач.
За спіной.

Я не прыйду на зыркі ваш агонь
Ні буркуном старым,
Ні скандалістам.
Я проста
Ападу кляновым лістам
На маладую цёплую далонь…

*1998*

* * *

О, як я хацеў бы
Скласці шчасцю оду,
Каб не мой панылы,
Непазбыўны одум!

Як бы я прыгожа
Поўніў струны звонам,
Каб не сумны клопат
Пра свой хлеб надзённы!

Як бы ўсім на свеце
Быў я даспадобы,
Каб не крыўда ў сэрцы
На свой лёс нядобры!

О, які я быў бы
Дужы і раскуты,
Каб пазбыўся страху
Мой народ пакутны!

А пакуль не прыйдзе
Шчасце навасёлам,
Неяк пацярпіце
Спеў мой невясёлы…

*1999*

* * *

Куды б толькі ты ні пайшоў,
Сустрэне прырода жывая:
Бясконцы шнурок мурашоў
Са сцежкаю сцежку сшывае;
Разважлівы хітры павук
Свой нерат пляце штохвіліны;
Як доктар пушчанскіх навук
Выстуквае дзяцел хваіны;
За колкім ажынным кустом
Сарока падскоквае вёртка;
З распушаным рыжым хвастом
Між сосен мільгае вавёрка;
Кузюркі кішаць у траве;
Цікуюць буслы за вужамі…
Усё, што жывое, —
Жыве,
Цябе быццам не заўважае.

Не стой жа нядбайна адзін —
З усімі ў суседстве і згодзе
І ты сабе мудра знайдзі
Занятак і месца ў прыродзе…

*1999*

* * *

Упоперак
І ўдоўж
Ідзе асенні дождж,
Усё імглою шэрай зацягнула.
Ужо няма ані
Лагоднай цеплыні,
Пагодлівае лета прамінула.

Няма ў цішы лясоў
Птушыных галасоў,
Раскіслая дарога сірацее.
Зляцелі журавы,
Чарнеюць паплавы,
І кожны дзень паволі карацее.

Над вымаклым галлём
У садзе за вуглом
Скуголіць вецер на шчымлівай ноце…
Прыходзіць і да нас
Несамавіты час
Падумаць над жыццём у адзіноце…

*1999*

* * *

Мінаюць гады.
Адсяваюць яны
Усё выпадковае,
Дробнае.
Раней казалі:
«Было да вайны».
Цяпер ужо кажуць:
«Было да Чарнобыля».

Спалохана
З неба глядзіць маладзік
На мёртвыя рэкі,
Пустыя выжарыны…
Няўжо ён не скончыцца —
Чорны адлік
З крыжамі,
Крывёй
І пажарамі?

Няўжо не сплыве
Сумнай памяці тло,
Каб з радасцю нам
І за межы ісці
І горда расказваць,
Калі што было:
«Пасля Адраджэння»,
«Пасля Незалежнасці»?

Няма на зямлі ў нас
Ніякай віны.
І край наш лагодны,

І людзі ў нас добрыя…
А ўсё паўтараем:
«Было да вайны…»
А ўсё паўтараем:
«Было да Чарнобыля…»

*1999*

* * *

Дзядок ступаў хадою лёгкай,
Пускаў усмешку з-пад павек
І мне гукнуў яшчэ здалёку:
— Паклон вам,
Добры чалавек!

І стала мне на сэрцы светла,
Як жаўруку сярод атаў,
Бо гэтак проста,
Гэтак ветла
Даўно ніхто ўжо не вітаў.

Я крочыў сцежкаю надрэчнай
Паўз маўчуноў і прастарэк
І паўтараў
Усім сустрэчным:
— Паклон вам,
Добры чалавек!

І раптам гамана змаўкала,
І сонца ўспыхвала ў вачах…
О, як усім нам трэба мала,
Каб прысак ласкі не ачах!..

Таго дзядка няма ўжо з намі,
Ды ў наш суровы, жорсткі век
Я зноў кажу
І пад крыжамі:
— Паклон вам,
Добры чалавек!

*1999*

* * *

Я помню той нядаўні час
У беднай вёсачцы ля гаці,
Калі пыталіся і ў нас:
— А колькі душ у вашай хаце?

Для будучых дзяржаўных спраў
У спісы ўносілі,
Дарэчы,
І тых,
Хто ў цеснай люльцы спаў,
І тых,
Хто грэў на печы плечы.

Хоць за спіной хаваўся страх,
Улік ішоў разважна дужа —
Не па галовах і руках,
А па жывых і мёртвых душах.

Той дзень я ў памяці нашу.
Трывожыць сны мне згадка тая.
Чаму ж сягоння
Пра душу
Ніхто нікога не пытае?

І думка лезе ў мозг сама
З наіўнасцю неандэртальца:
Ці то ўжо душ у нас няма,
Ці некаму пра іх пытацца?..

*1999*

* * *

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня.

*Максім Багдановіч*

Я не дбаю пра ўласную славу,
Не чакаю сабе ўзнагарод.
Толькі крыўдна даўно за дзяржаву
І за свой цягавіты народ.

На здзіўленне суседняму люду,
Ён зусім не такі, як усе, —
То прыгрэе дурнога прыблуду,
То вар'ята высока ўзнясе.

І на лёс свой пасля наракае
З непазбыўнай святой прастатой,
Што і хата ў яго не такая,
І набытак чамусьці не той.

І ніяк не збярэцца
Краіну
І прыбраць, і дагледзець як след.
Уздыхае,
Што Бог яго кінуў
І адрокся багаты сусед…

Дык ці здольныя з поўнаю кайстрай
Мы па свеце ісці, як раўня,
Каб народ наш
Усё ж дачакаўся
Залацістага, яснага дня?..

*1999*

* * *

Простае жыццё.
Чаго прасцей —
Не зважаць на гучныя прамовы,
Думаць пра работу і дзяцей,
Пра жніво,
Пра сена
І пра дровы.

Ведаць і касу,
І серп,
І склюд.
Абрабіць і бервяно,
І чурку.
І любіць свой небагаты кут —
Пералесак,

Поле
І рачулку.

Выкапаць калодзеж у двары,
Каля хаты пасадзіць ігрушку,
Адшукаць баравіка ў бары,
Не пакрыўдзіць ні звярка, ні птушку.

І ў вячэрняй мудрай цішыні,
Як прымчыцца сын белагаловы,
З лустай хлеба сесці пры агні,
Каб паслухаць гучныя прамовы…

***1999***

## ПЯШЧОТА

Кажуць,
Пра пяшчоту ўсё напісана.
Можа быць.
Ну і няхай сабе.
…Конік у плячо мне ўткнуўся пысаю
І ля вуха стрымана сапе.

Цёплымі вільготнымі губамі
Цягнецца нясмела да шчакі.
Падкаваным капытом зграбае
Перасохлай гліны камякі.

Косіць на мяне самотным вокам,
Апускае грыву да зямлі,
Быццам мы ў мінулым недалёкім
З ім адну бяду пражылі.

У абдымку мы стаім ля плоту,
Пэўна, адчуваючы адно…

Ну, а вы казалі:
Пра пяшчоту
Выказана ўсё даўным-даўно…

***1999***

* * *

Справядліва ці не,
Толькі ўсюды сягоння
Бізнесмены ў цане,
А паэты ў загоне.

Без развагі цяпер
Нават мілыя дуры
З самых розных папер
Выбіраюць — купюры.

Ля бухгалтарскіх кніг
Баль свой ладзяць фінансы.
Маладых і старых
Не цікавяць рамансы.

Людзі рвуцца да кас,
Дзе скарбонка цяжкая.
На паэмы заказ
Толькі смех выклікае.

Ім адно б —
Паспяваць
Грэбсці маркі і ліры…
А калі заспяваць
Раптам схочуць банкіры?

Што рабіць ім тады,
Дзе ўзяць песень няспетых?..
Ох, і будзе нуды
На зямлі без паэтаў!

*1999*

* * *

Я не хачу мяняць свой лёс,
Які ўжо мне наканаваны.
Хай дзён будзённых караваны
Знікаюць за смугой нябёс.

Ён не такі ўжо і паганы —
Без лішніх слоў і смешных кроз,
Без помсты і прытворных слёз…

Я крыж свой без папроку нёс
І бінтаваў спагадай раны.
І не хачу мяняць свой лёс,
Які ўжо мне наканаваны.

*1999*

* * *

Калі жыццё ідзе на заканчэнне
І дагарае свечка на стале,
Не надавай залішняга значэння
Ні лаянцы чужой,
Ні пахвале.

Ты можаш сам спакойна разабрацца,
Якія выбраў некалі шляхі,
Дзе да вышынь цябе ўзнімала праца,
Дзе ледзь не ў бездань кідалі грахі.

Ну а калі судзіць сябе не здатны,
А ўсе гады —
Як парахня і тло,
Не ўспамінай дарма былыя даты:
Лічы,
Пустым жыццё тваё было…

*1999*

## УСЁ НЕ ЗАТУХАЕ БОЙ…

*Васілю Быкаву*

Здаецца, мірныя часы
У Беларусі незалежнай —
Няма нейтральнай паласы
І акупацыі замежнай.

А ўсё не затухае бой
І ў ранах боль не дагарае,
І над тваёю галавой
Зноў кружыць крумкачова зграя.

І батарэя прыбышоў
Б’е па табе прамой наводкай, —
І той,
Хто з чорнаю душой,
І той,
Хто з луджанаю глоткай.

Ах, як карціць ім,
Бачыць Бог,
Каб да зямлі цябе прыгнулі
І неўсвядомлены спалох,
І ўладай пушчаныя кулі!

Іх злосць бярэ,
Што ты дажыў
Да пераможнай майскай кроплі
Не ў генеральскім бліндажы,
А ў цесным жвірыстым акопе…

Дык боль і роспач перасіль
І ў безаглядным парыванні
Устань на поўны рост,
Васіль, —
І ворагам хай страшна стане!..

*1999*

* * *

*Уладзіміру Някляеву*

Ніхто за нас не здзейсніць нашай долі
І не адорыць задарма дабром.
Хто ўласны дом не ўладкаваў,
Ніколі
Так і не зможа стаць гаспадаром.

Даволі жыць чужою галавою,
Цяплом суседскім грэцца ў чорны дзень.
Ці не пара ўжо
Воляю жывою
Узняцца над вуголлямі надзей,
Не гнацца за падманліваю казкай,
Не верыць у бяздонную дзяжу,
Калі ўжо нават і ад ласкі панскай
Паэты уцякаюць за мяжу?

Пакутліва
Мы самі
Адбядуем
Увесь свой лёс —
Аж да шчаслівых дзён.
І дом свой сіратлівы адбудуем.
І песню сваю гучную складзём…

*1999*

## НАРОД

Пад засядальніцкі куродым
Каторы раз,
Каторы год
Клянуцца лідэры
Народам.
А хто ж ён гэтакі —
Народ?

Худы п’янчужка непрытомны,
Які падпёр падгнілы плот,
Ці гарадскі лайдак бяздомны,
Што за сабой нясе смурод,
Ці злодзей,
Што з завода цягне
Дубовы брус
І медны дрот,
Ці хлус,
Які пасады прагне,
Ці падхалімскі вершаплёт,
Ці подлы вопытны паклёпнік,

Што рые пад усіх,
Як крот,
Ці адстаўны штабіст без клёпак
Або сяржант-мардаварот?..

Няўжо ўсе гэтыя —
Народ?

Калі ад іх імя клянуцца,
І служаць ім,
І любяць іх,
Тады мне дужа страшна,
Людцы,
За родны край,
За нас усіх.

Бо прывядуць у свет шырокі
І не дадуць сысці на звод
Паэты,
Сейбіты,
Прарокі —
Сапраўдны наш, святы народ.

Яны,
А не наадварот.

*1999*

* * *

Хай робіцца наш свет усё люцей
І ў заўтра пазірае з недаверам,
Для беспрытульных, стомленых людзей
Не зачыняйце адвячоркам дзверы.

Ім сёння выпаў незайздросны лёс,
І доўгі шлях,
І золкі злосны вецер,
Што ў торбачку заплечную натрос
Не каласоў,
А палявога смецця.

Іх крыўдзіла балюча
Шмат разоў
Нядоля вераломная, цяжкая…
Не папракайце іх скупой слязой —
Хто ведае,
Што заўтра вас чакае.

Не прывыкайце да чужой бяды.
Для спачування,
Літасці
І веры
І ў навальнічны дождж,
І ў халады
Не зачыняйце ў вашай хаце дзверы!

*1999*

* * *

*Сяргею Законнікаву*

Каля бяроз, таполяў і калінаў
За далягляд скіроўвае шаша…
Пасля Варшаў, Парыжаў і Берлінаў
У Глыбачку спяшаецца душа.

Ад плошчаў, сквераў, авеню і стрытаў
Ты паімчацца стрымгалоў гатоў
Да ўзмежкаў, крушняў, баравін, і рытвін,
І пачарнелых ад дажджоў платоў.

Засумаваў без сажалкі і рэчкі,
Без студні з камяністым цёмным дном,
Без шнура жыта і без поля грэчкі,
Без лугавых рамонкаў пад акном.

Яшчэ ў вушах не ўспела сціхнуць скерца,
Гучаць салонных скрыпак галасы,
А ўжо табе жаўрук чаруе сэрца
І радасць дорыць ранні звон касы…

Здалёк цыгарка бацькі свеціць знічкай.
Бяжыць насустрач згорблены сусед…

Абмыеш вочы полацкай крынічкай —
І ўбачыш раптам іншым цэлы свет…

*1999*

* * *

Я горка вінаваты,
Што рваўся так,
Прасцяк,
З вясковай цеснай хаты
На гарадскі прасцяг.

Я так наіўна верыў,
Што толькі там
Знайду
У свет нязнаны дзверы —
На шчасце ці бяду.

Ну што ж —
Набыў вядомасць
І нейкі дабрабыт
І прыязджаў дадому
У госці ды ў грыбы.

Ішоў на луг нясмела,
Як нёс валун даўгоў.
І ўсё душа балела
Забытаю тугой.

І ўсё яе цягнула
На даўнія шляхі,
Да баравога гула
І ў цёмны сад глухі.

І ўсё яна шукала
Дзіцячы тайны след.
І ўсё было ёй мала
І згадак, і прыкмет.

Як быццам апраўдання
Хацела зноў і зноў
За боль расчаравання
І за нязбытнасць сноў…

Ды час мінаў —
Я марыў
Паехаць ад крыніц
Да плошчаў і бульвараў,
Да шэрых камяніц.

І зноў падслепавата
Мне пазіралі ўслед
Мая старая хата
І мой сівы сусед.

І рваў душу мне одум,
Што,
Як ні гамані,
У дрэва ёсць заўсёды
Не толькі карані…

*1999*

## БІЛЬЯРД

Калі твой першы шар
Улёгся ў лузе,
Уверх не ўскідвай трыумфальна кій,
Бо,
Нібы статак неслухмяны ў лузе,
Разбегліся шары ва ўсе бакі.

А твой супернік спадылба цікуе,
Праходжваецца моўчкі ля бартоў.
Ты здагадацца паспрабуй,
Якую
Паставіць пастку ён табе гатоў.

Узваж усё спрактыкаваным вокам,
Прыберажы галоўны свой удар
І ўверх ускінь свой кій,
Калі з прыцмокам
У лузу ляжа
Пераможны шар…

*1999*

* * *

На шырокім лузе,
На папары,
У затоцы ціхай,
У трысці
І буслы, і качкі ўсе —
Па пары.
Так ужо заведзена ў жыцці.

Пад дажджом,
Пад ветрам радыяцый,
Калі ўсё пастаўлена на кон,
Толькі ўдвух і можна пратрымацца —
Гэтакі няпісаны закон.

У цяжкой мітрэнзе шматвяковай
Удваіх
Заўжды прасцей было
І гняздо ад ворагаў ахоўваць,
І падлёткаў ставіць на крыло.

Вось і чалавеку
Не да твару
Не захоўваць мудрасці ключы —
Вечна
Богам дадзеную пару,
Як жыцця заруку,
Берагчы.

*1999*

* * *

Зноў наш сад вечаровы весніцца,
Сыпле з яблынь ружовы цвет.
Ты стамлёна ідзеш за весніцы,
За блакітным туманам услед.

З хмарак першыя зоркі выцеклі,
За бярозкамі вецер прыціх.
Ты вось-вось схаваешся ў прыцемках,
Не пачуўшы крокаў маіх.

Пачакай мяне за варотамі,
Дзе буяе духмяны май.
Непаўторнае,
Незваротнае
Хоць на міг адзін затрымай.

Прыпыніся з журбой-вячэрніцай
На старых раздарожках нямых.
Можа, нешта ўсё-такі вернецца.
Хоць на міг.
На кароткі міг…

*1999*

* * *

Найвышэйшыя сілы
Нашы зоркі звялі
На святым небасхіле
І на грэшнай зямлі.

І сцяжынкаю зорнай
Лёсы побач пайшлі
І па небе прасторным,
І па цеснай зямлі.

Нам ніколі замнога
Не было на дваіх
Ні кахання зямнога,
Ні трывог незямных.

І жыцця прыбаўляе
Незычліўцам назло
Таямніца былая —
Нашых зорак святло.

*1999*

* * *

Якi б нам лёс нi выпаў горкi,
Стрываць патрэбна ўсё ў жыццi
І на святло высокай зоркi,
Не наракаючы, iсцi.

Назло туманам i аблокам,
Узняць свой твар у вышыню,
Шукаючы бяссонным вокам
Крупiнку боскага агню.

Паўзцi,
Прастуючы без стомы,
Без хлеба нават i вады,
Праз гушчары i бураломы,
Праз багавiнне i груды.

Ад злямчанай травы пажухлай,
Ад высахлых пахiлых верб,
Каб толькi зорка не патухла,
Уверх карабкацца,
Уверх.

І ўрэшце,
Дыхаючы ледзьве,
Дапасцi да крутой гары,
Упасцi
І шчаслiва ўгледзець,
Што зорка ўсё-такi гарыць…

***1999***

* * *

Гэта так —
Мы ўсе *там* будзем.
Ну а тут
За шлях зямны
Богу дзякую
І людзям,
Што былi са мной яны
На парозе

І ў дарозе,
У застоллі
І ў бядзе,
І ў маёй жыццёвай прозе
Не падводзілі нідзе.

І ў мяне ўсяляк бывала,
Ды сказаць я не магу,
Што было мне ласкі мала,
Што я ў некага ў даўгу.

Я рупліўцам Беларусі
Давяраўся,
Як братам.
І таму я не баюся
З імі ўбачыцца і *там*.

*1999*

* * *

Да скону
Я б шчаслівы быў бясконца,
Каб на зямлі для ўсіх хапала сонца,
Каб кожнаму аддадзена была
Яго часцінка дзённага цяпла,
Каб ні на міг
Ні па чыім хаценні
Нідзе
Святла не засланялі цені.

Ды не бывае шчасця без памаркі.
І ўжо на неба
Выплываюць хмаркі,
І вецер іх збірае ў чараду,
Пагрозна гоніць цёмную граду,
І ўсё вакол імгненна спахмурнела,
І прыцемак насунуўся нясмела…

Чым я магу святлу дапамагчы,
Як адвяду халодны цень начы?
Ні ветру і ні хмар я не ўтаймую,
Да сонца не знайду сцягу прамую —

Хіба што толькі промень выпадковы
Схаваю ў выпакутваныя словы,
Каб перад тым,
Як грукне ў дзверы смерць,
Хаця б адну душу паспець сагрэць…

*1999*

* * *

Мы ўсе праходзім поўны круг жыцця —
Ад першых слёз
Да сціхлага дыхання,
Адпіўшы чашу хмельнага кахання,
Адчуўшы колкі холад забыцця.

У ранішняга неба на віду
Прымаем мы,
Што нам наканавана, —
Разгульную віхуру карнавала
Ці будных спраў валовую хаду.

Не разарве ніхто бясконцы круг,
Не перапыніць торную дарогу…
І мы павінны быць удзячны Богу
За гэты вечны, хуткацечны рух…

*1999*

* * *

Ну што,
Неўтаймаваны мой сябрук,
Каштанамі гады ляцяць на брук
І падае на сумнае чало
Чупрыны пасівелае крыло?

А так нядаўна,
Родны мой,
Было —
Ажно гуло
Цымбаламі сяло

І да чупрыны
Ў прыцемку садка
Цягнулася дзявочая рука.

Мінула,
Адплыло
І адцвіло.
І ўсё ж трымае
Памяці сіло
Зусім не попел —
Толькі лёгкі дым
Таго,
Што знікла
З часам маладым.

Не,
Мы яшчэ з табой
Не ўсё ўзялі
На гэтай грэшнай
Веснавой зямлі.
І калі ў сэрца ўдарыць крыгалом,
І мы яшчэ ўзмахнём сівым крылом.

*1999*

* * *

Не судзі мяне залішне строга,
Ад дурных спакус не зберагай.
Нас паміраць
Доўгая дарога
І зялёны салаўіны гай.

Нам даўно з табою даспадобы
На дваіх разлітая туга,
Вогнішча,
І цёплы дождж‌ык дробны,
І вясёлкі чыстая дуга.

І няма чаго дзяліць адчайна
Ні крыніц,
Ні навальніц,
Ні слёз.

Стала боскаю зямная тайна,
Што тугім вузлом звязала лёс.

Што ж яшчэ
У гэтым свеце чорным
Можа нас з’яднаць і зберагчы
Разам з лесам,
Разам з небам зорным,
З вогнішчам ля возера ўначы?..

*1999*

* * *

Даўно забыў юначыя спакусы,
Вясновы шал,
Асеннюю тугу,
А вось забыць твае сухія вусны
І шэпат твой гарачы
Не магу.
Калі тваё наструненае цела
Цягнулася нястрымна да майго,
І ўсё ўва мне спявала і трымцела,
І кроў паліў рашучасці агонь,
І мне чаромхаю лясною пахлі
Распушчаныя валасы твае…

Дыхне ўспамін —
Як прысак неачахлы,
Мне гэта ўсё зноў сэрца саграе…

*1999*

* * *

Твая прысутнасць у гэтым свеце
Дае стамлёнай душы надзею,
Што я спаймаю блакітны вецер,
Што я аднойчы памаладзею.

І хай сустрэцца не давядзецца,
І хай не спраўдзіцца мара тая, —

Твая прысутнасць у гэтым свеце
Мяне ў юнацтва маё вяртае.

Не маладое шаленства мая
І не спайманы блакітны вецер —
Мяне на грэшнай зямлі трымае
Твая прысутнасць у гэтым свеце.

*1999*

* * *

Які б наш дзень ні быў убогі,
А словы і цяпер чутны,
Нібы адказ на ўсе трывогі:
«Каб толькі не было вайны!»

Паўвека адгуло над краем.
Дзядамі робяцца сыны.
А мы ўсё
Горка паўтараем:
«Каб толькі не было вайны!»

І на экране,
І з трыбуны
Не раз
Высокія чыны
Адводзяць крытыку любую:
«Але ж у нас няма вайны».

І з неўсвядомленай віною
Не моўкнуць памяці званы:
«Ну колькі ж можна жыць вайною?
Калі ж мы вернемся з вайны?»

Ды кожным вечарам
Матулі,
Як да калысак клічуць сны,
З адной надзеяй
Дзетак туляць —
Каб толькі не было вайны.

*2000*

* * *

Я веру,
Што і ў кветак ёсць душа,
Якая адгукаецца,
Жывая,
Калі іх нехта ад дажджу хавае
Ці палівае ў спёку з гладыша.

Яна ўсё добра помніць,
Што было
І ў сумны прыцемак,
І ў дзень вясёлы,
Пакуль да сонца цягнецца сцябло
І палісаднік абмінаюць пчолы.

А потым,
Як лісты напоўніць сок
І фарбамі суквецце набрыняе,
Яна рванецца ўверх
Над каранямі,
Пылок з пялёсткаў стросшы на пясок.

І расцвіце,
І здзівіцца сама
Сваёй пяшчотна-яркай прыгажосці.
І да яе злятуцца пчолы ў госці,
І ўспырхне побач матылёў гурма…

І ўсё ж
Ёй будзе, пэўна, адзінока
І крыўдна,
І пакутліва,
Калі
Хаця б на міг
Яна не ўсцешыць вока
Таму,
Хто з гладыша яе паліў.

*2000*

* * *

У электрычцы пры вакне
Яна прымроілася мне,
Як прывід з даўняга стагоддзя,
Што раптам мімаходзь мільгне,
А з памяці ўсё не выходзіць.

Ці ўбачыў,
Ці прыдумаў сам
Я тое мілае аблічча:
Пагляд наіўна-таямнічы,
Кудзеркі светлыя,
Каса
І вусны вабнасці сунічнай…

Яна ўсміхнулася з-за шкла
Ці мне,
Ці радасці прывычнай.
І знікла.
Як і не была.
І змоўкла рэха электрычкі…

*2000*

* * *

Ты і на чужыне
Сінім дымам
Спавіваеш мой трывожны сон.
Я цябе разгадваю,
Радзіма,
Ад калыскі
І да гэтых дзён.

Па рамонках
І па іван-чаю
Зноў і зноў,
Захмелены,
Хаджу,
І глядзець мне не надакучае
На твой чысты луг пасля дажджу.

Я люблю твае лясы і воды,
Бальшакі
І сцежкі між бяроз.
Для твайго спакою і свабоды
Я сярод людзей зычлівых рос.

Мне заранкі раннія
І знічкі
І сягоння
Свецяцца ўваччу.
Я цябе не помню ваяўнічай
І пакорнай
Ведаць не хачу.

Я цябе ад забыцця ўратую,
Ад чужой навалы адстаю,
Вечную,
Адзіную,
Святую
Беларусь пакутную маю…

*2000*

* * *

Як нашы караблі
Віхуры ні гайдалі,
Да ўстойлівай зямлі
Усё бліжэй з гадамі.

Злізала соль вада
На вуснах агрубелых.
І мне ўсіх тых шкада,
Што збеглі ў шторм на бераг.

Хоць дружбу прадалі,
Шчаслівымі не сталі.
Ім месца не далі
На цесным п’едэстале.

На беразе пустым
Стаяць яны ў адчаі.

Як Богавы лісты,
Над імі кружаць чайкі.

Ім з белых караблёў
Не прысылаюць позвы.
І да былых сяброў
Ужо вяртацца позна.

*2000*

* * *

Калі ты жыў нямала на зямлі,
Дык у сябе пытаўся хоць аднойчы:
Навошта птушка пырхае ў галлі
І месяц з хмаркі выплывае ўночы,
Навошта вожык шастае ў кустах,
Міргаюць светлячкі ў смузе вячэрняй?..

Няўжо ўсё гэта ў свеце проста так —
Ні сэнсу,
Ні патрэбы,
Ні значэння?

А можа, гэта ўсё —
Не каламуць,
Але падказ маўклівы, старасвецкі,
Каб ты паспеў
Пабачыць і пачуць,
Што да цябе ўжо ўсё было на свеце,
Што і табе таксама жыць лацвей,
Калі звысоку не прымружваць вока,
І што з табою вожыку цяплей
І зорцы ў вышыні не адзінока,
Што ты патрэбен
Птушкам і траве,
А калі клікне ў дол зямля сырая,
Ты будзеш ведаць,
Што твой свет жыве
І што нічога ў ім не памірае…

*2000*

* * *

Я думаю,
Думаю,
Думаю,
Пытаюся «як?» і «чаму?»
Пра долю цяжкую і сумную,
Што выпала краю майму.

Ніколі ні подлым,
Ні хіжым
Не быў ён,
Калі ні вазьмі.
А вось
Ці то Богам пакрыўджан,
Ці то занядбаны людзьмі.

Як быццам нявольніцкай сеткай
Аблыталі крылы яму
І сілай і славай суседскай
Змушаюць скарыцца ярму.

Вякамі гібее ў знямозе
У смерці з жыццём на мяжы.
Скубуць,
Як гарох пры дарозе,
Яго і сваяк,
І чужы.

І поле ўзаранае зглумлена.
І красак няма ў мурагу…
Я думаю,
Думаю,
Думаю…
А выйсця знайсці не магу…

*2000*

* * *

Калі б душа мая зусім прымоўкла,
Быць можа,
Я б спісаў свае грахі

На гэты свет,
Халодны і прамоклы,
На гэты час,
Бязладны і глухі.

І жыў бы я,
Як за Сцяною плачу,
Аддаўшы іншым і маю віну.
Дык не —
Сябе таксама вінавачу
Ва ўсім,
Што не прымаю і кляну.

Малюся,
Каб надзею ўваскрасілі,
Спагаду
На слабых руках нашу
І слухаю
Ў трывозе і бяссіллі
Балючую нямоўклую душу…

*2000*

* * *

З бомбамі,
Здрадамі,
Бітвамі,
З п’янствам,
Халуйствам
І кратамі
Час наш і праўда заблытаны,
Час наш і праўда пракляты.

Хціўцы да ўлады прычалілі,
Плошчы заставілі крамамі.
Хамы палезлі ў начальнікі.
Сталі начальнікі хамамі.

Звыклі да новых павеваў,
Згодны з чужымі праявамі.
Правыя сталі левымі.
Левыя сталі правымі.

Монстры палохаюць ікламі.
Папы́ абдымаюцца з юдамі.
Цуды зрабіліся звыклымі.
Звыклае робіцца цудам.

Свет у нязведанасць коціцца,
Блытае выдумкі з яваю…
А мне ўсё звычайнага хочацца,
Што стане рэальнаю з’яваю…

*2000*

* * *

Пара ўжо нам прасіць падмогі:
Далёка светлы небасхіл,
А мы
Ці збіліся з дарогі,
Ці проста выбіліся з сіл.

Ці воля д’яблава сляпая
Нам затуманіла мазгі,
Ці, можа, ўдачы не хапае
І адракліся ўсе багі.

Куды ні глянь,
Пануе шэрасць,
Паўзе чыноўніцкая раць…
Так мала тых,
Хто ўмее сеяць!
Так многа тых,
Хто хоча жаць!..

*2000*

* * *

Карычневага не люблю
Ні на палянах,
Ні ля плота,
Калі злятае на зямлю
Ужо аджылая лістота.

У завірусе залатой
Яно крадзецца непрыкметна
І нішчыць
Разам з чарнатой
Вясёлую раскошу лета.

Яно выстуджвае датла
Ружовыя кастры чабору.
І ў свеце менее святла.
І ў свеце менее прастору.

Услед старому жураўлю
Яно гразіцца сцюжай ранняй…
Карычневага не люблю.
Яно —
Як метка вымірання.

*2000*

* * *

Хоць навокал хамства расцвіло,
Не збірайце для душы атруту
І нікому не рабіце зло
Нават і ў адчайную мінуту.

Ворагу свайму ў труну не плюйце —
Ён ужо адваяваўся тут.
Хай ідзе ў апошні шлях па-людску.
Там яго чакае Страшны суд.

І якім бы ён ні быў увішным,
Як бы ні куражыўся сп’яна,
Там нарэшце
Перад Усявышнім
Ён за ўсё расплоціцца спаўна…

*2000*

* * *

Як вяртаешся дадому,
Сустракае і ўначы
Незабыты пах знаёмы,
Што не выветрыць нічым.

У двары,
На падыходзе,
Вецер радасна дыхне
Свежым кропам,
Што ў гародзе,
І смалой,
Што на сцяне.

І павее ад паветкі
Сена звезенага дух.
І настой мядовы ў кветкі
Разліе суседні луг…

Выкідай з душы ўсе страхі,
Прыпыніся
І пастой,
Каб адчуць,
Як домам пахне,
Пахне роднаю зямлёй…

*2000*

## ПАЭТ І КАТ

Яны прыйшлі з сялянскіх хат
І звычак гарадскіх не мелі —
Паэт затурканы
І кат,
Што быў заўсёды пры партфелі.

Адзін
Узносіў да нябёс
Прысады родныя
І ўзгоркі.
Другі ж

Вярнуў ад вёскі нос
І кпіў з матулінай гаворкі.

Іх сцежкі розныя вялі,
І розныя манілі былі.
Яны сустрэліся,
Калі
Іх па суседству пасялілі.

Паэт
Прывёў сваіх сяброў,
Спяваў
І рагатаў без меры.
А кат
Стаіўся між муроў,
Надзейна зачыніўшы дзверы.

Паэт
Чытаў пра шум атаў,
Пра кветкі,
Што цвітуць усюды.
А кат
У гэты час шаптаў
Свае смяротныя прысуды.

Паэт захмелены
Дзяўчат
Прыводзіў вечарамі ў госці.
І кожны раз
Паэту
Кат
З тупой нянавісцю зайздросціў.

Ён быў гатоў маліцца сам
На вусны юныя і косы.
І на паэта
Зноў пісаў
Да самай раніцы даносы.

І ледзь стрымаў шчаслівы крык,
Калі даведаўся пра гэта —
Што сэрца
Ад згрызот і крыўд
Спынілася ў грудзях паэта.

З журбой,
Узятай напракат,
З яхіднай стоенаю ўсмешкай
Каля труны паэта
Кат
Стаяў сярод людзей няўцешных.

Валокся ён за імі ўслед
З мужчынскаю слязой скупою
І ўсім расказваў,
Што сусед
Памёр,
Нябога,
З перапою.

І цешыўся —
Усім на зло —
Сваёю ўдачай непадсуднай.
Ды толькі
На душы было
Чамусьці
Горка і паскудна.

*2000*

* * *

Я раней задумваўся не часта
У штодзённай мітусні зямной:
А ці ёсць яно —
Людское шчасце,
Ці было яно калі са мной?

Меў, здаецца, я і хлеб і сала,
Роўным быў сярод гаспадароў.
Толькі вось часамі не хапала
Волі,
Грошай,
Ласкі
І сяброў.

З нядобразычліўцамі спрачаўся,
Да высокіх спраў шукаў дарог,

А ці бачыў хоць здалёку шчасце,
Так я і не ўведаў,
Далібог.

А цяпер для шчасця мне даволі —
Каб пяро не выпадала з рук,
І ля ног шумела жытам поле,
І звінеў над галавой жаўрук.

*2000*

* * *

Пад маім акном
У ліпкім лісці,
Дзе ў пупышках дрэмле ранні цвет,
Цёплай майскай ноччу
Пасяліўся
Малады няўрымслівы сусед.

І ажно да ранку
Недарэчы
Рассыпае свой вясновы свіст
Над маёй бяссонніцай старэчай
Гэты закаханы скандаліст.

Ну а я сабе ўздыхаю цяжка
Ад забытай радасці наўзбоч…
Што ж ты, салавей,
Малая пташка,
Адпяваеш дні мае ўсю ноч?..

*2000*

* * *

Жаночае цела чаруе таемнаю музыкай —
То скрыпка заплача,
То сумна пакліча габой…
У лёгкай, як ветрык, спаднічцы,
Кароткай і вузенькай,
Дзяўчына

Як быццам плыве
Над травой лугавой.

То ўскінецца пругка,
То раптам абвяне са скрухаю,
То вочы заплюшчыць,
То гляне гарэзна наўкруг…
А я ўсё гляджу закахана
І слухаю,
Слухаю,
Як поўняцца музыкай
Сэрца,
І неба,
І луг…

*2000*

* * *

Я чытаў,
Як сляпы,
Тваё цела рукамі.
І збянтэжанасць піў
З тваіх вуснаў глыткамі.

Ад пяшчоты хмялеў,
Блытаў яву і казку.
Ад спалоху смялеў
І хаваў сваю ласку.

Маё сэрца
Без сіл
Біла ў грудзі адчайна.
І свяціў небасхіл
Мне тваімі вачамі.

Быў гатовы
Да ног
Малітоўна прыпасці
І паверыць не мог
У няўлоўнае шчасце.

*2000*

* * *

Што ты непастаянная такая,
Мне плётак пра цябе панаплялі.
А я цябе,
Як і кахаў,
Кахаю
Так,
Як ніхто не ўмее на зямлі.

Ты да маіх нясмелых слоў глухая.
Прызнанні скласці іншыя змаглі.
А я цябе,
Як і кахаў,
Кахаю
Так,
Як ніхто не ўмее на зямлі.

Напэўна,
Доля горкая, ліхая
Нас не звядзе,
Малі ці не малі.
А я цябе,
Як і кахаў,
Кахаю
Так,
Як ніхто не ўмее на зямлі.

*2000*

## ВЯСКОВАЯ ВЯСНА

Кожны раз вясна-красна
Сумны свет раскоўвае.
Ды сапраўдная вясна
Толькі ў нас —
Вясковая.

Тут
Журбу страсае лес
Шатамі намоклымі.
Тут

Такі пахучы бэз
У дзяўчат пад вокнамі.

Тут
У кожнай хаце кут
З цешчамі нядрэмнымі.
Тут
Чаромху валакуць
Цэлымі бярэмамі.

Тут
Кляновік на сталы
Жонкі ставяць ранкамі.
І да вечара
Буслы
Кружаць над буслянкамі.

Кум на кумку
Адцямна
Салаўёў нацкоўвае…

Вось такая ў нас вясна —
Хмельная,
Вясковая.

*2000*

* * *

Што ж такое дзееца на свеце? —
Здрада,
Як жыла,
Так і жыве
І вандруе весела ў карэце
З залатым вянцом на галаве.

Ёй натхнёна ў бубны б'юць музыкі.
Ёй нясуць букеты гваздзікоў.
Разявакі,
Як на фэст вялікі,
Да яе бягуць з усіх бакоў.

У карэце,
Гружанай мяхамі,
Здрада ў свет імчыцца нацянькі,
І смяецца,
І рукой махае,
Раскідае шчодра медзякі.

Праляцела паўз натоўп імгнення,
Знікла з пылам за гарой крутой…
І стаіць наводшыбе
Сумленнасць,
Што ідзе па свеце пехатой…

*2000*

## З КІРМАШУ

Паўз пералескі,
У паўдзённым пыле
Кіруемся з гравійкі на шашу.
Усё,
Што трэба,
Мы з табой купілі
І нетаропка едзем з кірмашу.

Не тузаем апушчаныя лейцы
І не вядзём старых пустых размоў.
Хай воз наш і няпоўны,
Ды не ўлегцы
Вяртаемся,
Стамлёныя,
Дамоў.

Далёка ззаду
Засталіся зыкі
Гандлярак,
Што крычаць на ўсе лады.
Чутно,
Што ўсё стараюцца музыкі.
Але ўжо не для нас —
Для маладых…

*2000*

* * *

Прайшла, мінула маладосць.
Патушана агнёўе.
І мудрасць ёсць,
І хата ёсць,
Але няма здароўя.

І лёс ужо не б’е пад дых,
Не сыпле соль пагарды.
Але памкненняў маладых
Няма і за мільярды.

Прыгнута клопатам спіна.
Не спакушае брага…
Жыццём аплочаны спаўна
І воля,
І павага.

І колецца грахоў асцё.
І сэрца цісне стома…
Так і павінна быць усё.
Хоць і шкада,
Вядома…

*2000*

* * *

Калі з начных дарог прыходзіш
У бацькаў двор
Пасля бяды,
З вадой крынічнаю калодзеж
Цябе сустрэне
Як заўжды.

І сонца выкаціць з-за гаю
Сваё чырвонае ядро.
І з неба зорка,
Хоць якая,
Зляціць у поўнае вядро.

Дык не дазволь,
Каб нехта іншы,
Хто пот не ліў
І гразь не тоўк,
Аб зорку вусны апаліўшы,
Зрабіў тут ранішні глыток…

*2000*

* * *

Чакання час паўзе старым смаўжом.
Без шумнай грамады
І без прыстанку,
Пад дробным надакучлівым дажджом
Стаю адзін на восеньскім паўстанку.

Ну што ж,
Калі я ад жыцця адстаў,
Нямодны,
І нямоглы,
І нягеглы.
Адгрукатаў па рэйках мой састаў,
І ўдаль вагоны весела прабеглі.

Лісты злятаюць на мае сляды.
Ля ног маіх —
І хлюпатна,
І чорна…

Дарэмна так спяшаўся я сюды —
Былы расклад перамяніўся ўчора…

*2000*

* * *

Першым у вёсцы ў цябе пад акном
Бэз загарэўся ліловым агнём.

Быццам бы лёг на знаёмы паркан
Ранішні дым ці вячэрні туман…

Горка ўздыхаюць суседкі твае,
Ранняя квецень ім спаць не дае.

Бэзавым водарам вецер прапах.
Бэзу пялёсткі ў цябе на губах…

*2000*

* * *

Калі на раздарожжах крыжавых
Дагоняць і мяне чужыя коні,
— Перажыві мяне,
Перажыві! —
Я папрашу каханую спакойна.

Хоць вусны зачарсцвеюць ад крыві
І мне ніхто не забінтуе раны,
— Перажыві мяне,
Перажыві! —
Як запавет,
Я прашапчу каханай.

Нявесела ўсміхнуся:
— Сэ ля ві, —
І апушчуся на прывялы верас.
— Перажыві мяне,
Перажыві! —
Я папрашу каханую яшчэ раз.

*2000*

* * *

Тонкая рабіна,
Што ж ты нарабіла?
Лёгкаю хусцінкай
Мне акно закрыла.

Свет мне засланіла
Пышнымі лістамі.

Калі пойдзе мілы,
Мне махаць не стане.

Не зірне з паклонам
На маё аконца.
Ты зялёнай кронай
Патушыла сонца.

Як сустрэцца з любым —
Думаю нясмела.
Ты ж таксама з дубам
Разам быць хацела…

*2000*

* * *

Я даўно жыву не па Карану:
П'ю жыццё,
Нібыта д'яблаў трунак.
Кожная зіма —
Як пакаранне.
Кожная вясна —
Як падарунак.

Я зусім не супраць гэткай долі
З познім громам
І з паводкай ранняй.
Хоць грахоў і не пераадолеў,
А не маю ў сэрцы шкадавання.

Не было ніколі мне задужа
Рызыкі,
Адвагі
І спакусы…
Ну і што,
Калі часамі сцюжа
Мне раўніва ледзяніла вусны?

Мне яшчэ цікава,
Нібы змею,
Цікавацъ за скрынкаю Пандоры…

Колькі зімаў я стрываць сумею?
Колькі вёснаў мне жыццё падорыць?..

*2000*

* * *

Я не стану ўжо ні прынцам Дацкім,
Ні — тым больш — іспанскім каралём.
Мне б за ранг паэта апраўдацца
У сваёй Радзімы пад крылом,

Каб яна мяне не адпусціла
З той дарогі,
На якой стаю,
І прыадчыніла літасціва
Мне душу збалелую сваю.

Я прашу ў яе зусім нямала —
Каб не праганяла з-пад крыла,
І маю ляноту даравала,
І маю няўмеласць не кляла.

А яшчэ
Разлічваю нясмела,
Каб яна ў бясконцай гамане
І мае ўсе словы зразумела,
І не пасмяялася з мяне…

*2000*

# ПАЭМЫ

## ХАТЫНСКІ СНЕГ

«Імем расстраляных,
закатаваных,
паўшых
Мы вам свет завяшчаем
без слёз і вайны.
Толькі ў вашых сэрцах,
у памяці вашай
Хай ніколі не моўкнуць нашы званы!»

### I

***22 сакавіка 1943 года...***

Жураўлём сакавіцкая раніца зарыпела.
Бухнула ў студні аб лядок вядро.
Крактануў пад нагою снег белы,
Грымнула каля прыпечка бярэмя бярозавых дроў.

Нясмела кукарэкнуў певень прастуджаны.
Дзвынкнула аб даёнку тугое малако.
Высока ўзнімаючы лапы,
прабег па ўчарашняй лужыне
Худы і ахрыплы кот.

Дымком над вёскай запахла смачна.
Шкрэбнуў па поснай патэльні шчарбаты нож.
Атрымаў першую аплявуху матчыну
Мурзаты падшыванец,
што выбег на вуліцу басанож.

Мужыкі пойла ў хлявы цягалі.
Гаспадыні няньчылі ў далонях праснакі…
А вёску сціскалі ўжо абцугамі
Карнікаў чорныя грузавікі.

І вось чорным колам, тупым і грузным,
Раструшчана ранішняя маўклівая стынь.
Закусіла пабялелыя вусны,
Сцялася ў страху Хатынь.

З ганкаў сонныя дзеці злятаюць гракамі.
Маткі на іх спяшаюцца хоць пінжакі надзець.
Ад кулі засланяецца высахлымі рукамі
Сівабароды нямоглы дзед.

Немаўляты заходзяцца плачам.
Цягнуць з печы бабулю сляпую,
Прыкладам — у плечы,
Кулаком — пад дых.
З двароў зганяюць на ўскраек,
у пуню
Усіх — і старых, і маладых.

Выкацілася круглае сонца.
На дыбачкі ўстала над гаем.
Пад промнямі першыя вясновыя кроплі ўпалі са стрэх…
Застагнаў,
загаласіў пад нагамі
Б е л ы снег.

## II

…карнікі сагналі ў пуню ўсіх жыхароў Хатыні…

У шэрым змроку шапталіся ціха мужчыны.
Бліжэй адно да другога тулілася радня.
Над галовамі скупа прабівалася праз шчыліны
Вясёлае святло сакавіцкага дня.

Людзі яшчэ ў збавенне верылі,
Хоць і калола пад сэрцам здагадак асцё.
Але калі пачалі цвікамі забіваць дзверы
І дыхнула бензінам — стала ясна ўсё.

І людзі сцяліся.
І здавалася:
Гэта іх да сцен прыбіваюць цвікамі,
Гэта для іх труну збіваюць са старых трухлявых сцен.
І маці спалоханымі рукамі
Да сябе прыціскалі галовы дзяцей.

Карнікі
          бензінам
                    апошнюю свечку надзеі згасілі.
У шчыліны
          полымя
                    пачало ўтыкаць чырвоныя крывыя нажы.
І бабы загаласілі:
— А дзеткі,
А вы ж не паспелі пажыць!
А вашы ж ногі не паспелі нахадзіцца.
А вашы ж рукі не паспелі напрацавацца.
А вашы ж вочы не паспелі наглядзецца.
А вы ж не паспелі ўнукамі парадаваць нас.
Крывіначкі нашы!
Сонейкі нашы!
Дзеці!
За што ж яны вас?!

І мужчыны ўскінулі кулакі ў бяссіллі
І выдыхнулі хрыпла,
Як запавет:
— Сонцам паўдзённым,
                              небам сінім,
Кожнай вячэрняю зоркай,
                              кожнай ранішняю расінкай,
На вашай магіле калом асінавым
Вас,
     забойцы,
               праклінаем навек!
Высечанымі лясамі,
                              абгарэлымі камінамі,
Нівамі, свінцом засеянымі,
                              пакутамі калек,
Нашымі недагледжанымі снамі,
                              нашымі ненароджанымі сынамі
Адпомсціць

Вас,
нашчадкі,
заклінаем навек!..

Ужо не іскры,
а снапы пякельнага полымя
На галовы абрынуліся са страхі.
І людзі ад іх адбіваліся рукамі голымі.
І засквірчэлі на плячах кажухі.

Ад немага крыку абвалілася пуня.
Грымнулі вобзем дзверы.
І ўпала,
як чырвоны куль,
Халоднага снегу шукала сляпая бабуля,
А знайшла толькі жменю гарачых куль.

Страчылі кулямёты
па агню,
па стогнах і плачу.
Радзеў і падаў
ахрыплы пакутны крык.
І вось застаўся адзін толькі енк дзіцячы.
Але і ён
пахіснуўся
І знік.

Тады апусціла вінтоўкі чорнашынельнае войска.
Хоць бы дзе бразнулі веснічкі.
Хоць бы заскуголіла шчаня.
Кроў астывала.
Хаты дагаралі.
Над вёскай
Вісела мёртвая цішыня.

І карнікі глядзелі вачамі пустымі,
Як ашалелы кот па вуліцы бег,
Як ляжаў,
не таючы,
у Хатыні
Ч ы р в о н ы снег.

III

> …забілі і спалілі 149 чалавек, у тым ліку 76 дзяцей, спалілі ўсе 26 хат…

Датлявалі галавешкі,
адсвечвалі варанёнай сінявою метала,
То зусім патухалі, то ўспыхвалі зноў.
У нізкае неба Хатынь узнімала
Абгарэлыя кульці камiноў.

Валяліся ходзікі з бляшанай зязюляй.
На іхніх стрэлках навекі спыніўся час.
Мядзведзем пад ліпай асунуўся спалены вулей.
Як растаптаны месяц,
вытыркаўся з попелу медны таз.

Нібы на чорным абрусе ў жалобным застоллі
Вялізны жоўты пірог,
Ляжалі жорны,
што партызанам ячмень малолі
І пасля вайны ў новай хаце хацелі падперці парог.

Хмары і дрэвы чадам густым прагорклі.
Угары —
хоць бы зорка,
Хоць бы крупінка святла.
А самае жудаснае —
там,
на ўзгорку,
Дзе пуня была.

Там
яшчэ ўспыхвалі вугольчыкі цёплыя,
Там,
на залітай крывёю зямлі,
Маці — прыгаршчамі,
А сын — жменькаю попелу
Побач ляглі.

Там
яшчэ лавілі абгарэлыя пальцы
Апошняга дыхання сін准ваты дым

І сажаю
ў прастрэленыя далоні асыпаліся
Хаты,
шпакоўні,
сады.

І раты абвугленыя крычалі нема.
І, нібы ў жахлівым дзіцячым сне,
Падаў з чорнага начнога неба
Ч о р н ы снег.

…Зрываецца звонкі капеж са стрэх.
Разгойдвае неба дзіцячы смех.
А ў памяці
вечна
стыне
Белы снег,
Чырвоны снег,
Чорны снег
Нашай святыні —
Х а т ы н і.

*1969*

## ПАЭМА РАССТАННЯ

*Памяці Юрыя Гагарына*

### I

Раставаў сакавік,
як апошняя снежка.
На асфальт выскоквалі яшчаркі раўчукоў.
І,
нібыта люцікі на заўтрашніх узмежках,
Зацвіталі вяснушкі на насах хлапчукоў.

Маладая вясна пазвоньвала ўладна
Ключамі сасулек у зацішку стрэх.
Шустрымі апалонікамі кроплі падалі
У пацямнелы наздраваты снег.

Знямоглымі інфарктнікамі няўклюдна асунуліся
Забытыя снегавікі ў дварах.
Дамы́ скідалі з уздыхам сумным
Парудзелую аўчыну белых папах.

Сонца ламілася ў вокны гарэзна,
На пятакі «зайчыкаў» разменьвала золата свайго рубля.
І шпачыная нота раптам прарэзалася
У маладога нахохленага вераб'я.

Чакала высокае неба бясхмарнае
Гулкага жаўруковага гімна…
А радыё
хрыпла
аб'явіла:
«Юрый…
Гагарын…
Загінуў…»

І здаецца —
горла раўчукоў прыдушылі сумёты,
Яшчэ цясней прымёрзлі да стрэх ледзяшы.
Замятала чорная мяцеліца самоты
Вясновую радасць душы.

Надзея ўспыхнула —
Радыё магло памыліцца
(Хіба яно толькі праўду гаворыць запар столькі гадзін?),
І цэлы свет гатовы быў памаліцца,
Хаця на свеце багоў — многа,
А ён быў адзін.

Роспачна ў сэрца ламілася думка трывожная,
Як вавёрка ў коле,
Шукала выйсця то там,
то тут.
А можа?
А можа?
Бывае ж цуд…

Але радыё
паўтарала
словы
панура.
І былі бяссільныя ўсе багі.
Юра-а-а!
Юра!
Не зберагл…

II

Ён любіў сонца.
Ён сам быў падобны да сонца,
Якім яго дзеці малююць, —
З шырокай усмешкай
І вачамі, поўнымі святла.
Ён яго бачыў
і далёка-далёка —
За вёскай,
Над соснамі,
І блізка-блізка —
Ля самага крыла.

Ён бачыў яго і маленькім, лагодным —
Вяснушкаю на Валіным твары,
І вялікім і грозным —
За ілюмінатарам касмічнага карабля.

Яно
        то каціласся
Святочным доччыным шарам па тратуары,
То вячэрнім матчыным акном
Міргала здаля.

Яно
        то распускалася цюльпанамі Байканура,
То загаралася крамлёўскімі рубінамі ўначы,
То раптам над хваляй марской падскоквала:
— Юра! —
І рассыпалася на тысячу сонцаў,
Пругкіх,
                як баскетбольныя мячы.

Яно з ім было і тады,
Калі ён адлятаў у бяссмерце,
Разламаўшы зямнога прыцягнення абручы,
І тады,
Як вярнуўся,
Сухімі вуснамі хапаючы волжскі вецер,
І расінка зоркаю ўспыхнула на плячы.

І тады —
Было неба
                    і шчодрае сонца,
Якое павольна над лёгкімі аблачынамі ўсплыло,
Нібы апельсін пераспелы —
І ягоным сокам
Заліло самалёта халоднае крыло.

А потым
                пачала зямля набліжацца,
Закруціўся шалёны калейдаскоп:
Белавежская пушча.
Вулачкі Гжацка.
Волга.
Зорны гарадок.
Перакоп.
Вагоны.
Пероны.
Трыбуны.
Турбіны.

Каралёў.
Камароў.
Узлётнай пляцоўкі бетон.
Сігналілі «МАЗы».
Алені трубілі.
Гул…
Звон…
Звон…

Сонца
          пахіснулася
І змяншацца стала.
Вось яно ўжо,
                          як мячык,
Якім у дзяцінстве гулялі ў лапту —
Чорны,
            з гумы, здзёртай з фашысцкага танка.
Удар!
Мячык паляцеў.
І патух.

Неадкрытая зорка
                              на халоднае дрэва
Упала самлелаю страказой.
Па сінім воку неба
Самалёт скаціўся слязой…

III

Чорныя стужкі звісалі хмура.
На ветры пальцы ззалелі.
Плыла абвітая вянкамі урна
Каля Маўзалея.

Маўчала Чырвоная плошча ў знямозе.
Як затрыманае рыданне —
                                        ціша ў Крамлі.
Плыла
           над зямлёй
                              па апошняй дарозе
Жменька сплаўленай з небам зямлі.

Жахліва цяжкая ноша гэта,
Над плячамі ўзнятая ў сіняву…
Стаіла дыханне планета.
Чалавецтва схіліла галаву.

Устаньце,
Усе імператары і прэм’еры!
Выньце рукі з кішэняў,
Усе прэзідэнты і каралі!
Здыміце
                кароны,
                               шляпы,
                                             самбрэра
Перад прахам вялікага сына Зямлі.

Вы,
       самі сабе начапляўшыя ордэнаў на лацканы,
Аблізаныя падхалімамі з галавы да пят,
Да апусцелага «трона» смаленскага хлопца сялянскага
Нават і ў сне не зможаце дапяць.
Вас,
        ад прамоў і паседжанняў асавелых,
Можна тасаваць,
Перамяшчаць,
Прывозіць з-за граніц.
А простага маёра савецкага
Нельга
              ні скінуць,
                                 ні замяніць.

І калі Час зоймецца гісторыяй сённяшняй
І вызначыць цану
                                 вашых спраў
І напісаных бойкімі памочнікамі слоў,
Юра
Праз пыл,
                   што ад вас застанецца,
Будзе ўсміхацца сонечна.
Так што,
                панове,
                              шапкі далоў!..

Развітальныя словы закамянелі на губах.
А стрэлкі Спаскай вежы пасоўваліся няўмольна і ўпарта.
І вось —
Адгрымелі залпы.
Замоўклі Моцарт і Бах.
Яліны сталі ў ганаровую жалобную варту.

IV

Расцяклася па вуліцах прыглушаная гамана.
На Чырвонай плошчы —
Бязлюдна і ціха.
Асталіся з Юрам
Крамлёўская сцяна
                    і яна —
Валя,
Валянціна.

О, як ёй зайздросцілі жанчыны ўсіх мацерыкоў —
Шчасцю яе
І зямной жаночай уладзе,
Калі можна яму валасы ўскудлаціць рукой
І халоднымі пальцамі
Шчаку непаголеную пагладзіць.

О, як цяпер яна зайздросціць усім жанчынам зямлі,
Што чакаюць дадому мужоў,
Бягуць да сваіх нарачоных!
Юравы плечы сягоння
Не рукі яе абвілі —
Рамка чорная.

Акуляры шэрым туманам завалакло.
Знаёмы шрам над ягоным брывом
Шукаюць яе сляпыя пальцы —
І
  на шкло,
На халоднае шкло
Натыкаюцца.

Ён і на гэтым партрэце не здолеў усмешку схаваць.
Так і не навучыўся выглядаць паважна і хмура.
Хлапчук.

Лейтэнант.
Адчайная галава.
Юра!..

Ганаровая варта ідзе да Маўзалея,
Крокамі ламае немату.
Куранты прывычна звоняць…
Больш, чым Млечны Шлях,
Ён хацеў пабачыць дачок вясельную фату.
І хацеў пацалаваць
Першую серабрынку ў яе на скронях.

Там,
        дзе ўпаў самалёт,
Прарасце трава.
Другога маёра
Закалыша волжская хваля…
Не плач,
Валянціна!
Трывай!
Трымайся,
Валя!
Стогн свой роспачны прыдушы,
Над вянкамі ўзніміся.
Не скора
Зарубцуецца ў чалавецтва ў душы
Тваё ціхае жаночае гора…

V

Адкаласяцца гады.
Дні праляцяць заклапочаным роем.
Неба прашыюць новымі трасамі караблі.
А ў нас
Будзе біцца сумленне,
Як жылка на скроні:
«Не зберaглі».

Адкінуць здагадкі і адгаворкі,
Не звернуць увагі на помнікі і вянкі,
Калі не віной,

Дык папрокам горкім
Гэтую смерць нам прыпомняць вякі.

Можа, за клопатнасцю і тлумнасцю,
Што перапоўнілі жыцця берагі,
А можа, за чэрствасцю і бяздумнасцю —
Не зберaглі.

Мы грэліся мілаю ўсмешкай ягонаю,
Букетамі сцежкі яму мялі,
Сыпалі зоркі на грудзі і на пагоны
І —
Не зберaглі…

Так,
Гора сціхае,
І боль атухае,
І роспач перастае шчымець.
Мінае,
          канае
Часіна ліхая.
І радасць усмешку раскатурхае,
І новымі маршамі выбухне медзь.
І сонца затопіць лугі заліўныя,
І мільёны зялёных ракет ірвануцца з раллі…
А сэрца
            раптам
                      заные,
                               заные:
«Не зберaглі.
Не зберaглі».

VI

А ці захацеў бы ён,
Ці дазволіў
Сябе ад будзённых клапот берагчы,
Узбіць на жаданні свае і волю
Абмежаванняў крутых абручы?

Хіба ён бы змог стаць
                                жывым экспанатам,
Музейным дзівам, цацкай для новых эпох,

Калі быў
чалавекам,
касманаўтам
І быць інакшым
Не мог?

Яго аблытвалі серпанцінам парадаў,
Аглушалі тостамі,
Абклейвалі ўсмешкамі каралёў.
А ён
стамлёна закрываў вочы —
І бачыў
Ладагу
І цесныя кабіны касмічных караблёў.

І яму хацелася
саскочыць з партрэтаў,
Уцячы ад эскортаў —
Імчаць басанож па лугах,
Галёкаць па лесе —
Каб каціўся трэтар —
І заснуць сярод поля,
У стогадовага дуба ў нагах.

Ён хацеў
карабкацца па скалах стромых,
Па гулкім стэпе ганяць шалёны табун,
А не толькі раскланьвацца ветліва на прыёмах
Ды махаць рукою з трыбун.

Ён дазволіць не мог,
Каб славай
закрылі
Ад яго
Неразведаны небасхіл.
Калі ў чалавека вырастаюць крылы,
Ён павінен лятаць,
Не складаючы крыл.

І, пэўна, гэтакі лёс у сапраўднага сокала —
Не паспеўшы стаміцца і пастарэць,
Узляцець над зямлёю высока-высока,
У разбуджаным небе сустрэць сваю смерць.

І нікольki не крыўдзячы жальбы нашай,
Затрымаўшы ў грудзях развітальны крык,
Можа, ён і не марыў аб смерці інакшай,
Чым такая —
У небе,
Не складаючы крыл…

*1970–1971*

# ПЕСНІ

## НЕПАГАСНАЕ СОНЦА МАЁ

Ёсць на свеце нямала прыгожых узлессяў,
Ёсць на свеце нямала чароўных дарог,
Толькі самыя лепшыя словы і песні
Для цябе я навекі збярог.

У маўчанні стаю ля тваіх абеліскаў,
Бачу новага дня маладую зару,
Маёй песні калыска,
Майго шчасця калыска,
Непагаснае сонца маё, Беларусь!

Як гаючы бальзам, п’ю твой вецер ласкавы
І шапчу табе словы адданай любві.
І не трэба ў жыцці мне пашаны і славы, —
Толькі сынам сваім назаві.

Да цябе я прыйду і здалёку і зблізку,
Васількоў і рамонкаў табе сабяру.
Маёй песні калыска,
Майго шчасця калыска,
Непагаснае сонца маё, Беларусь!

Ёсць на свеце нямала прыгожых узлессяў,
Ёсць на свеце нямала чароўных дарог,
Толькі самыя лепшыя словы і песні
Для цябе я, Радзіма, збярог.

*1972*

## ПЕСНЯ ПРА МАЦІ

Помню кожную рыску
І маршчынку тваю.
Над маёю калыскай
Помню ўсмешку тваю.

Ад няшчасця ўратуе,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

Праз гады і разлукі
Помню песні твае.
Помню цёплыя рукі,
Помню косы твае.

Скажа праўду святую,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

Толькі ўдачу прарочаць
Пажаданні твае.
Помню родныя вочы,
Помню вусны твае.

Шчыра ласкай атуліць,
Добра ведаю я,
Маці, мама, матуля
Дарагая мая.

***1972***

## ПЕСНЯ ПРА МІНСК

Над зялёнай тваёй галавой
Нетаропка плывуць аблокі.
Ля паўдзённага сонца б'юць
Жаўрукі трапяткім крылом.
Я шчаслівую песню нясу
Па праспектах тваіх шырокіх,

Мой любімы, мой родны Мінск,
Мой прасторны і светлы дом.

Мой родны Мінск,
Чароўны Мінск,
Мая сталіца,
Табой заўсёды
Мне ганарыцца.
Мой родны Мінск —
Натхнёнасці крыніца.
Жыві, і слаўся,
І красуйся,
Горад мой!

Поўняць ціхія паркі твае
Закаханых нясмелыя крокі.
Задуменныя плошчы ад сну
Будзіць мірны ласкавы гром.
Не змаўкае дзіцячы смех
На праспектах тваіх шырокіх,
Мой любімы, мой родны Мінск,
Мой прасторны і светлы дом.

Мой родны Мінск,
Чароўны Мінск,
Мая сталіца,
Табой заўсёды
Мне ганарыцца.
Мой родны Мінск —
Натхнёнасці крыніца.
Жыві, і слаўся,
І красуйся,
Горад мой!
Хай вечна свеціць
Сонца над табой!

***1974***

## МАТЫЛІ

Толькі першыя пралескі
На палянах узышлі —
Над разбуджаным узлескам
Закружылі матылі.
Закружылі, закружылі,
Закружылі матылі.

Сонца промні веснавыя
Раскідала па зямлі.
Пад вятрамі б'юць крыламі
Маладыя матылі,
Маладыя матылі,
Маладыя матылі.

А дзяўчаты на вяселле
З васількоў вянок сплялі —
Быццам стомлена прыселі
Ім на рукі матылі.
Ім на рукі, ім на рукі,
Ім на рукі матылі.

Як дадому к маладому
Маладую павялі,
Навакол сваты віліся,
Як ля вішні матылі,
Маладыя матылі,
Маладыя матылі.

Вось і восень залатая.
Клёны сцежкі замялі.
Адлятаюць, адлятаюць
Жураўлі і матылі.
Адлятаюць, адлятаюць
Жураўлі і матылі.

Не навечна, не навечна
Дні юнацтва адплылі.
Зноў агеньчыкамі ўспыхнуць
Веснавыя матылі,
Непаседы-матылі,
Маладыя матылі…

*1976*

## Я — ТВОЙ ЖАЎРУК

*Ігару Лучанку*

Калі вясны паводка залатая
Змяце з палёў зімовую тугу,
Я да цябе, Радзіма, прылятаю,
Бо пець не ў родным краі не магу.

І радасна ўзлятаю ў паднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

Твае сасонкі і твае бярозы
Душу раскалыхалі мне даўно.
Маё гняздо — там, дзе твае баразны,
Дзе матчына вячэрняе акно.

Я радасна ўзлятаю ў паднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

З дарог не збіцца мне і не стаміцца
І не схіліць бяссільна галавы,
Пакуль я п’ю ваду з тваёй крыніцы,
Пакуль я п’ю твой вецер баравы.

Я радасна ўзлятаю ў паднябессе
З натомленых тваіх ласкавых рук
І захлынаюся шчаслівай песняй,
Твой трапяткі, вясновы твой жаўрук.

*1981*

## КАХАННЕ ПЕРШАЕ ПОМНІЦЦА

Адзвінела жаўранкам нам дзяцінства смешнае.
І рукой махнула мне ты, мая свавольніца.
А каханне першае,
А каханне першае,
А каханне першае
Помніцца.

І лугі дакошаны, і стагі завершаны.
І гады праносяцца, як ліхая конніца.
А каханне першае,
А каханне першае,
А каханне першае
Помніцца.

Ад былога-даўняга застанецца лепшае.
І душа трывогаю і святлом напоўніцца.
І каханне першае,
І каханне першае
Помніцца,
Помніцца,
Помніцца…

*1982*

## КАЛЫХАНКА

Доўгі дзень,
Цёплы дзень
Адплывае за аблокі.
Сіні цень,
Сонны цень
Адпаўзае ў кут далёкі.
Збеглі зайкі ўсе ў лясы.
Змоўклі птушак галасы.
І буслы ў гняздо схавалі
Свае доўгія насы.
  Баю-бай, баю-бай,
  Вачаняты закрывай.
  Баю-бай, баю-бай,
  Вачаняты закрывай.

Пакрысе
На расе
Патухаюць зоркі-сплюшкі.
Гулі ўсе,
Казкі ўсе
Пахаваны пад падушкі.
Спяць і мышкі, і стрыжы.
Спяць машыны ў гаражы.

Ты таксама
Каля мамы
Ціха-ціхенька ляжы.
        Баю-бай, баю-бай,
        Вачаняты закрывай,
        Баю-бай, баю-бай,
        Разам з намі засынай…

*1983*

## ПРЫЗНАННЕ

Пад спакойнаю поўняй наш сад шапаткі заціхае,
І паўночная зорка заснула ў цябе на плячы.
Я шапчу табе ціхае-ціхае слова «кахаю».
Ты яму не пярэч і ў адказ мне яго прашапчы.

На сляды нашы ляжа блакітная ціша глухая,
Нам нясмела падорыць маўчанне адно на дваіх.
Я гляджу на цябе — і шчаслівае слова «кахаю»,
Нібы яснае сонца, ўзыходзіць на вуснах тваіх.

Нам не страшна цяпер ні бяда, ні часіна ліхая.
Мы ў разлуках цяпер не баімся ніякіх трывог.
Будзе з намі заўсёды пяшчотнае слова «кахаю».
Мы пачуем яго і за тысячы дальніх дарог…

*1983*

## СПАТКАННЕ З ДАЎНЯЙ ВЯСНОЙ

Там, дзе ўсё дыханнем памяці сагрэта,
Ты спатканне зноў прызначыла са мной —
Можа, каб сустрэцца з невядомым летам,
Можа, развітацца з даўняю вясной.
        Зноў спыніўся час для нас.
        Зноў шуміць над намі вяз.
        Зноў гучыць забыты вальс,
        Можа быць, апошні раз.

Мы з табой мінулі сотні паваротаў,
Нам з табой хапіла снегу і дажджу.

Толькі я з ранейшай ласкай і пяшчотай
З той вясны далёкай на цябе гляджу.
Зноў спыніўся час для нас.
Зноў шуміць над намі вяз.
Зноў гучыць забыты вальс,
Можа быць, апошні раз.

Я сабе не веру, што ты ўжо не тая.
Не відна ў тумане наша сівізна.
І ў душы з гадамі ўсё не адцвітае
Першае каханне, даўняя вясна.
Зноў спыніўся час для нас.
Зноў шуміць над намі вяз.
Зноў гучыць забыты вальс,
Можа, не апошні раз…

*1983*

## ПЕСЕНЬКА ПРА СОНЕЧНАГА ЗАЙЧЫКА

Як з-за хмаркі сонца выйшла,
Ён уміг залез на вішню,
Між лістоў зусім не лішні,
Хітрым вокам падміргнуў.
І пабег па тратуары,
Запаліў машынам фары,
На тваім задумным твары
Яснай зоркай прамільгнуў.
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной гарэзна скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей.

Ён не ведае спакою:
Мітусіцца па пакою,
З матылькамі і з ракою
Забаўляецца ў цішы.
Ён жыве ў цяністых парках,

На старых мастах і арках,
У малых расінках яркіх
І яшчэ ў маёй душы.
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной гарэзна скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей.

І ярчэй палаюць стужкі,
І званчэй спяваюць птушкі,
І цвітуць твае вяснушкі,
І смяецца неба сінь.
Дык няхай на белым свеце
Вечна з ім гуляюць дзеці
І няхай заўсёды свеціць
Залатога сонца сын!
Ах, сонечны вясёлы зайчык,
Святла вясновага акрайчык,
Як залацісты лёгкі мячык,
Не прыпыняецца нідзе.
Перада мной гарэзна скача —
І мне ўсміхаецца удача,
І радасць хваляю гарачай
На волю просіцца з грудзей…

*1983*

## СВЕТ МОЙ АДЗІНЫ…

Заўсёды мне вочы слязою замглёны,
Калі зажурацца і глянуць услед
Высокія клёны,
Шумлівыя кроны
І свет наш зялёны,
Зялёны мой свет.

Зязюлямі кліча мой край незабыты.
Здаўна берагуць ад нягодаў і бед

Густыя ракіты,
Гасцінец разбіты
І свет наш блакітны,
Блакітны мой свет.

Па даўніх сцяжынках вядуць успаміны.
І ў сэрцы нясу я, нібы запавет,
Старыя рабіны,
І клін жураўліны,
І свет наш адзіны,
Адзіны мой свет…

*1984*

## БАЛАДА ПАМЯЦІ

Ты быў адзіны —
Мой лёс непаўторны,
Незаручоны мой,
Мой нарачоны.
Я цябе моўчкі праводзіла ў бой,
Аж да дарогі ішла за табой,
Мой дарагі, ненаглядны ты мой.

Ты ад мяне аддаляўся паволі.
Вецер прагорклы імчаўся па полі.
Боты табе разрывалі драты.
Дымам цябе закрывалі франты.
Не азірнуўся,
Не адгукнуўся
І не вярнуўся
З той далечы ты.

Стаў ля дарогі ты,
З бронзы адліты,
Недацалованы мой,
Незабыты.
Каска.
Шынель.
Аўтамат.
Патранташ.
Болей не мой.
Ты цяпер ужо — наш.

Наш пераможца.
І наш абаронца.
Вечна на варце ў радзімай старонцы.
Мужны салдат.
І бясстрашны герой…
Мілы ты мой!..

*1984*

## БЕЛЫЯ КРЫЛЫ

Толькі зноў на дзяцінства сваё азірнуся —
І ўзляціш ты, мой бусел, вястун дарагі.
У задымленым небе над зямлёй Беларусі,
Над маёй галавою ты робіш кругі.
Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце
Плешча ціхая Друць,
Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць.
Наша доля на радасць была небагатай.
Мы раслі сярод горкіх ваенных атаў.
Ды з высокай буслянкі над бацькоўскаю хатай
Аб надзеі на свята ты мне клекатаў.
Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце
Плешча ціхая Друць,
Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць.
Колькі я ў родны кут свой цяпер ні вярнуся —
Мірным ветрам абдымуць палі і лугі,
Над маёй галавою, над зямлёй Беларусі
Каля самага сонца ты робіш кругі.
Там, дзе светла кахалі,
Дзе аб шчасці гадалі,
Дзе ў вячэрнім чароце
Плешча ціхая Друць,

Над маімі шляхамі,
Над маімі гадамі
Твае белыя-белыя крылы плывуць…

*1984*

## СЛАВА ТВАЯ, БЕЛАРУСЬ

З далёкай дарогі і з доўгай разлукі
Нас дома чакаюць
гасцінны абрус,
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І шчодрае сэрца тваё, Беларусь.
Бацькоўскія рукі
І шчодрае сэрца тваё, Беларусь.

Пачуем цымбалаў чароўныя гукі —
І светла прысняцца,
дзе б мы ні былі,
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І вецер жытнёвы любімай зямлі.
Матуліны вочы
І вецер жытнёвы любімай зямлі.

Пранеслі святло праз нягоды і мукі,
Высока ўзнялі нашай долі зару
Матуліны вочы,
Бацькоўскія рукі
І гордая слава твая, Беларусь.
Матуліны вочы
І гордая слава твая, Беларусь…

*1984*

## ПЕРШАЕ СПАТКАННЕ

Я не магу
Стрымаць у сэрцы хваляванне.
І я бягу.

І я бягу
На наша першае спатканне.
І я бягу…
Я праміну агні, шляхі і перашкоды.
Я праміну гады
І прыбягу на ціхі голас твой.
Сам я прынёс
Усе былыя спадзяванні,
Свой светлы лёс,
І летуценні, і прызнанні.
Сам я прынёс
Усё табе адной.

І мы спляцём
У добрай згодзе нашы рукі
Нашым жыццём.
Нашым жыццём
Закрэслім беды і разлукі.
Нашым жыццём.
Я прынясу
Табе здалёк крыло вясёлкі
І у касу ўпляту,
Толькі каб ты была заўжды са мной.
Я аддаю
Табе альтанкі ўсе і скверы
І ўсю сваю
Любоў, даверлівасць і веру.
Я аддаю
Навек табе адной.

Хай на зямлі
Заціхнуць буры-навальніцы.
На ўсёй зямлі.
Каб мы змаглі
Удосталь радасці напіцца.
Каб мы змаглі.
Хай ні на міг
Не адцвітаюць нашы кветкі
І для усіх цвітуць
І салаўі ляцяць на голас твой.
Сам я прынёс
Усе былыя спадзяванні,
Свой светлы лёс,

І летуценні, і прызнанні.
Сам я прынёс
Усё табе адной…

*1984*

## КОНЬ НЕЗАЦУГЛЯНЫ

Там, дзе вечар на зямлю
Сыпле зор маністы,
Я злаўлю цябе, злаўлю,
Конь мой наравісты.

Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Азірнуся ля сяла,
Падлячу да ганка,
Дзе чаромха расцвіла,
Дзе жыве каханка.

Да расплеценай касы
І да губ румяных
Ты нясі мяне, нясі,
Конь незацугляны.

Капытом каля вакон
Сон разбіць дазволю
І пасля цябе, мой конь,
Адпушчу на волю.

Праз палеткі і лясы,
Праз лугі, паляны
Ты ляці, мой конь, ляці,
Конь незацугляны.

*1984*

## ЗАВУШНІЦА ВЕЧНАСЦІ

На зямлі такое ўжо было —
Ахінула двух вясны крыло.
Пад сівой ракітаю
У трысці забытае
Паплыло блакітнае вясло.
  Адкіпелі квеценню сады.
  Кветкамі замецены сляды.
  І над лесам свеціцца
  Завушніца вечнасці —
  Месяц малады.

Светлая, чароўная пара.
Поўны свет кахання і дабра.
Там, дзе клёны-ясені,
Нас чакае ясная
Шчасця непагасная зара.
  Адкіпелі квеценню сады.
  Кветкамі замецены сляды.
  А над лесам свеціцца
  Завушніца вечнасці —
  Месяц малады.

Дзве дажджынкі ўпалі на чало.
Дзве сцяжынкі у адну звяло.
Хоць вясна не вернецца,
Не астыне ў верасе
Нашай ціхай вернасці цяпло.
  Адкіпелі квеценню сады.
  Кветкамі замецены сляды.
  А над лесам свеціцца
  Завушніца вечнасці —
  Месяц малады…

*1985*

## ШУМІ, МОЙ ЛЕС!

Пад засенню тваёй і рос я, і мудрэў,
І бестурботна нёс гадоў цяжкую ношу.
І вось стаю цяпер сярод высокіх дрэў,
Твой пілігрым, твой родны брат малодшы.

Сплылі за небасхіл ваенныя дымы.
Запоўнены абшар птушыным звонам.
Шумі, мой лес, шумі!
Шумі, мой лес, шумі!
Мой вечны, мой дрымучы, мой зялёны.

Удзячнасць і любоў я да цябе прынёс.
Дзялюся, як раней, даверам і журбою.
У нас з табой, мой лес, такі падобны лёс.
І ворагі адны у нас з табою.

Пакуль спяваем мы,
Пакуль смяёмся мы,
Пакуль глытаем пыл і пот салёны,
Шумі, мой лес, шумі,
Шумі, мой лес, шумі,
Мой вечны, мой дрымучы, мой зялёны!

Я час не папракну, калі мой спеў і гнеў
У мітусні гадоў навек забудуць людзі.
Каб толькі ты стаяў, каб толькі ты шумеў
Пасля таго, калі мяне не будзе.

Хай над табой гудуць вясновыя грамы
І мые дождж твае густыя кроны!
Шумі, мой лес, шумі!
Шумі, мой лес, шумі!
Мой вечны, мой дрымучы, мой зялёны…

*1986*

## КУРАПАТЫ

Аплывае жывіца
Да карэнняў шурпатых.
Я прыйшоў пакланіцца
Да вас, Курапаты.
Сосны, нібы званіцы,
Над палянамі ўзняты.
Дайце ж мне памаліцца
На вас, Курапаты.
Дайце мне павініцца,
Курапаты.

А над вечным спакоем
У густой сіняве,
Як дыханне людское,
Аблачынка плыве.
Тут палеглі бязвінна
Песняры і салдаты.
Не ўтравеюць сцяжыны
Да вас, Курапаты.
Распіналі Айчыну
Дрот калючы і краты.
Дараваць не павінны
Мы вас, Курапаты.
Боль не знойдзе спачыну,
Курапаты.

Час мінулы, пракляты…
Сэрца горам працята…
Праклінаем вас, каты!..
Курапаты…
Курапаты…
А над вечным спакоем
У густой сіняве,
Як дыханне людское,
Аблачынка плыве…
Курапаты…

*1987*

## МАЦІ-ЗЯМЛЯ

Узлятае ў прастор
Твая песня лясная
Над шатрамі дубоў,
Над кастрамі рабін.
І ўрываецца ў сны,
І душу напаўняе
Жураўліная высь,
Жаўруковая сінь.

Клічуць здаля,
Свецяць здаля
Зоры, азёры і рэкі.
Наша зямля,

Маці-зямля,
Будзеш ты з намі навекі.

Прашуміць праз гады
Твая памяць жывая
У вясновых садах,
У высокай траве.
Ва ўспамінах сівых
Цэлы свет захавае
Перамогі твае
І пакуты твае.

Хай шчасліва ляціць
Твая песня лясная
Над шатрамі дубоў,
Над кастрамі рабін!
Хай прыходзіць у сны
І душу напаўняе
Жураўліная высь,
Жаўруковая сінь!

Клічуць здаля,
Свецяць здаля
Зоры, азёры і рэкі.
Наша зямля,
Маці-зямля,
Будзеш ты з намі навекі.

*1987*

## ВЯРТАННЕ

З перапоўненых дарог
Я прыйшоў на твой парог.
Я забыць яго не мог.
Не мог я забыць тваё акно,
Што здалёку мне відно
З усіх дарог.
Мне відно
Тваё акно.
Адно.

Ні бураны, ні снягі
Не змялі маёй тугі.

Я прынёс свае даўгі.
Даўгі я свае прынёс сюды,
Дзе цвілі і ў халады
Твае сады.
Там відны
Мае сляды.
Сляды.

Я вярнуўся ў родны край,
Дзе шуміць лагодны гай,
Дзе грыміць вясновы грай,
Дзе зноў мне гарыць тваё акно,
Што заўсёды мне відно
З усіх дарог.
Не карай,
Мой родны край.
Мой край…

*1989*

## ТЫ ПАЧУЙ МАІХ ВЯСНОВЫХ ЖУРАВОЎ

Як напоўняцца блакітам у лясах густыя цені
І вясна сыпне пралескі з рукавоў,
Пасярод зямлі спыніся —
І ў зялёным шапаценні
Ты пачуй маіх залётных жураўоў.

Як над пыльнаю дарогай, над рамонкамі і жытам
Пранясецца цёплы вецер лугавы,
Аб далёкім-незабытым,
Аб нялёгкім-перажытым
Нам з табою пракурлычуць жураўвы.

Як у гордай адзіноце і табе нялёгка стане,
З сіняй высі і з далёкіх астравоў
На кароткае спатканне,
На самотнае расстанне
Ты пакліч маіх вясновых жураўоў.

Ты пачуй маіх вясновых жураўоў…

*1989*

## МОЙ!

У самотны міг
І ў салодкім сне
Я шапчу даверлівыя словы.
Я знайшла цябе,
Ты знайшоў мяне
На зямлі разбуджанай вясновай.

«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Песня, як шчасце, старая.
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Сэрца ўвесь час паўтарае.
Раніцай і днём,
Летам і зімой —
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!».

Развітальны гул гаманы зямной
Прынясуць вятры з далёкіх станцый.
Толькі б мне з табой
І табе са мной
На шляхах жыццёвых не расстацца.

«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Песня, як шчасце, старая.
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Сэрца ўвесь час паўтарае.
Раніцай і днём,
Летам і зімой —
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!»

Зорачку надзей я не патушу.
Памяць праз гады не пасівее.
Ні тваю душу,
Ні маю душу
Не астудзіць злосная завея.

«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Песня, як шчасце, старая.
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!» —
Сэрца ўвесь час паўтарае.
Раніцай і днём,
Летам і зімой —
«Мой!»,
«Мой!»,
«Мой!».

*1994*

## САПЕРНІЦА

За начной ваколіцай зноў чаромха пеніцца.
Адцвітае сіняя сон-трава.
І майго абранніка
Ты, мая саперніца,
Клічаш на аб'яўлены белы вальс.

Ад вясёлай музыкі галава захмеліцца.
І туга дзявочая — не бяда.
Я табе, саперніца,
Я табе, саперніца,
Любага, каханага не аддам.

А калі мой суджаны да мяне зноў вернецца,
Пакладзе на косы мне даланю,
Я цябе, саперніца,
Я цябе, саперніца,
Ад папроку злоснага засланю.

Музыка закончыцца, і пласцінка зменіцца.
Ён са мной да раніцы будзе зноў.
І, слязу хаваючы,
Ты, мая саперніца,
Пазайздросціш мне яшчэ сто разоў.

*1995*

## СУСТРЭНЕМСЯ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

Калі павее вечаровай свежасцю
І загарацца ліхтароў агні,
Прыходзь тады на плошчу Незалежнасці,
Каб разам пастаяць у цішыні.

Бульвар прасторны дзённай стомай дыхае.
У небе стынуць зоркі-спарышы.
А над зямлёй плыве лагода ціхая
І роздум пасяляецца ў душы.

Нам ёсць што ўспомніць,
Ёсць аб чым параіцца
Каля старых задумлівых муроў.
Мы зможам дачакацца светлай раніцы
Сярод надзейных маладых сяброў.

Не бойся ні туманнасці, ні снежнасці,
Хай дождж сячэ або пячэ мароз.
Сустрэнемся на плошчы Незалежнасці
Дакладна ў час, які прызначыў лёс.

Па вечнаму закону непазбежнасці
Разлучымся з адчаем і журбой.
Сустрэнемся на плошчы Незалежнасці
І болей не расстанемся з табой.

*1997*

## ХАТЫНЬ

Ён такі адзін на свеце, гэты жалобны ўзгорак з чорнага мармуру. Тры бярозкі ўскінулі над ім сваё зялёнае вецце. А на тым месцы, дзе магла б весела шалясцець чацвёртая, моўчкі шугаюць барвовыя языкі полымя. І заўсёды побач з беластволымі сімваламі жыцця будзе гарэць вечны агонь. У памяць аб кожным чацвёртым — загінуўшым.

Ён такі адзін на свеце, гэты жахлівы могільнік вёсак. 186 прыгаршчаў перасыпанай попелам жвірыстай зямлі — балючая памяць аб беларускіх вёсках, спаленых разам з жыхарамі. Дзеці і жанчыны, нямоглыя дзяды і нецалаваныя дзяўчаты — усе, хто мог праклінаць ці плакаць, смяяцца ці спяваць, былі прастрэлены навылёт і спалены. Памяць аб іх берагуць 186 трагічных урнаў. І несціхана гудуць над імі хатынскія званы…

Хатынь — адна з гэтых вогненных вёсак, якія сёння не пазначаны на карце: не было каму адбудаваць яе, не было каму вяртацца да абгарэлых ліп і таполяў…

А яна ж была, гэтая вёска. І жылі ў ёй людзі. Да 22 сакавіка 1943 года. Раніцай гэтага прадвесняга дня яе акружылі машыны эсэсаўцаў оберштурмбанфюрэра Аскара Дзірлевангера. Чорныя мундзіры гітлераўскіх галаварэзаў вароніным крылом засланілі сляпучае сонца, а горкі дым пажару і халодны, бязлітасны свінец навекі патушылі яго ў вачах 149 чалавек. Попелам сталі 76 дзяцей. Сцёпу Іотку было тады чатыры гады, Мішу Жалабковічу — два, а Толіку Яскевічу — усяго сем тыдняў. Яны так і не паспелі зразумець, навошта зганяюць усіх у гэтую цёмную адрыну, навошта забіваюць шырокія вароты… І ляжыць цяпер на тым самым месцы двухскатны дах з чорнага лабрадору, ірванаю ранай ззяе ў ім крывавы пралом. Гэта праз яго выскаквалі людзі, каб абгарэлымі грудзямі ўпасці на кулямётную чаргу…

Па вышэйшаму закону справядлівасці гісторыя паклапацілася аб сведках хатынскай трагедыі — яна зберагла жыццё Іосіфа Камінскага, каб ён пра ўсё расказаў людзям. Калгасны каваль на трыццаць год перажыў сваіх дзяцей і аднавяскоўцаў. Трыццаць год у ягонай памяці гарэла родная Хатынь, пакуль не спынілася і ягонае знясіленае сэрца… Гнеўны і няскораны, роспачны і мужны, з мёртвым сынам на руках, стаіць ён на хатынскай зямлі. У бронзе застыў. Навекі.

На белым мармуровым зрубе, што вырас над магілаю хатынцаў, сімвалам несканчонасці жыцця — простыя словы: «Людзі добрыя, помніце: мы любілі жыццё, і Радзіму, і вас, дарагія. Мы згарэлі жывымі ў агні…».

Глуха гудзе пад нагамі шэрая, нібы попелам зацярушаная, бетонная сцяжына, і не крыкам, а стогнам плывуць над цішай журботныя ўдары званоў. Іх 26 — цяжкіх медных слязін на комінах-стэлах. І стаяць яны там, дзе былі калісьці хаты. А ў нішах гэтых комінаў высечаны на метале прозвішчы і імёны, прозвішчы і імёны…

Са схіленымі галовамі чытаем мы сумныя спісы загінуўшых людзей. Няшмат сцяжын на зямлі, па якіх так цяжка, так самотна ступаць, як па гэтай, хатынскай, — быццам ідзеш па гарачым прыску. І гора і жалоба Беларусі-партызанкі глядзяць табе проста ў душу вачамі бронзавага Камінскага, акенцамі пустых калодзежаў, жудаснымі лічбамі Сцяны памяці. Жалезабетонная, доўгая і высокая сцяна… У ёй — закратаваныя надмагільныя пліты. І няма на іх ні імён, ні прозвішчаў — толькі лічбы. 206 500… 150 000… 100 000… Столькі жыццяў было растаптана і загублена ў Трасцянцы, Полацку, Гомелі… А былі ж яшчэ Азарычы, Віцебск, Масюкоўшчына — 260 «камбінатаў смерці». Клеймаваныя свастыкай варвары тупа і спрактыкавана вынішчалі тут людзей. За тры гады акупацыі ў Беларусі загінула 2 мільёны 230 тысяч савецкіх грамадзян… 209 зруйнаваных гарадоў і гарадскіх пасёлкаў, 9200 спаленых сёл і вёсак… «Мёртвая зона» Асвейшчыны і Расоншчыны. Халодныя папялішчы Лагойшчыны і Дзятлаўшчыны… Знявечаная, гордая і нязломная Беларусь, рэспубліка-пакутніца, рэспубліка-партызанка. Усё перажыла і паднялася да сонца, як тыя 433 яе вёскі, што былі спалены, а сёння, адноўленыя і шчаслівыя, шумяць маладымі садамі і звоняць вясельнымі бубнамі… І на самай справе, цяперашні дзень рэспублікі — гэта велічныя завадскія карпусы, гэта абшары палеткаў, гэта ўтульныя катэджы дзіцячых садоў і ясляў, асветленыя сонцам Палацы культуры і тэатры, шырокія магістралі дарог і паток магутных аўтамашын, стрэлы вежавых

кранаў і цяністыя паркі… Але каб і ў шчасці не забывалі людзі аб тых, хто загінуў, узведзены ў Хатыні велічны мемарыяльны комплекс.

…Ён адзін такі ў свеце, чорны мармуровы ўзгорак з трыма бярозкамі і вечным агнём…

…Ён адзін такі ў свеце, жалобны могільнік вёсак… Хай не будзе такіх нідзе і ніколі!

*1974*

## НЕВЫЧЭРПНАСЦЬ

Пісаць пра вялікага паэта (а якраз такім я даўно ўжо лічу Аркадзя Куляшова) заўсёды боязна. Нават тады, калі ты не толькі напамяць ведаеш яшчэ са школы яго чаканныя радкі, а і карыстаешся рэдкім шчасцем чуць яго вершы задоўга да надрукавання, зблізку бачыць яго хітра прыжмуранае вока і адчуваць на плячы цяпло яго далоні. Боязна, што ты сваім словам не ахопіш усёй той таямніцы і відавочнасці, якая называецца сапраўднай паэзіяй, што ў захапленні і радасці абмінеш нешта вельмі істотнае і непаўторнае. А тут яшчэ навальнічнаю хмараю вісяць над табою тамы мудрых даследаванняў і прывычных акадэмічных фармуліровак. Вытыркнешся залішне — і ўдарыць вогненная маланка навукі…

Восем дзесяткаў кніг. Тытанічная работа думкі, душы, тысячы і тысячы тон здабытай, абмацанай пальцамі, перамытай слоўнай руды!.. Што ж тут дзіўнага, калі самародкі і залацінкі ўбачаны і ўзважаны на чуйных шалях памяці вунь як далёка ад Бесядзі, калі беражна і ўдзячна пакладзены яны ў самы дарагі фонд савецкай паэзіі!..

Кожнаму вучню цяжка вызначаць у сваім настаўніку самае адметнае, самае галоўнае. Усё здаецца важным, усё звініць такой самабытнасцю, што святая разгубленасць не можа ніяк вылавіць з глыбінь пачуцця дакладнае азначэнне. І ўсё ж рызыкну… Для мяне самае дарагое ў Аркадзя Куляшова — невычэрпнасць яго таленту. Не проста шматграннасць, не, а якраз невычэрпнасць.

Паглядзіце, падзівіцеся і парадуйцеся, які ён розны, гэты выдатны майстар. Поўны святла, прастору, трымцення і парывання «Юначы свет», дзе ўсё, як песня жаўранка, напоена пахам і звонам маладой роднай зямлі. І стрыманая, горкая сіла «Сцяга брыгады», лірыкі Вялікай Айчыннай вайны — рытм

перарывісты і нетаропкі, як дыханне бежанцаў на пыльных дарогах лета 1941 года, як цяжкі крок салдат, нагружаных зброяй і помстай, як мужчынская клятва скрозь сцятыя зубы. А потым чаканныя строфы «Камуністаў» і «Коласа», трыбунная медзь «Слова да Аб'яднаных Нацый» — як ранішні ўпэўнены гул мірнага дня з перастукам сякер і цэглы на новабудоўлях, як пафасная споведзь пераможцы. І — новы час, новы крок: філасафічнасць, «касмічнасць» «Новай кнігі», «Цунамі», дзе ўладнай рукой мастака і мысліцеля суровымі вузламі павязана мінулае, сучаснае і будучае, дзе людское каханне і зямны лёс бяссонна і балюча варочаюцца ў сэрцы, поўным роздуму і трывог за наш дваццаты век. А за імі — спакойная, бытавая, нават наўмысна аб'ектывізаваная «Далёка да акіяна», своеасаблівы раман у вершах, сталы і трохі засмучаны пагляд на мінулае, на сябе былога. І — да канца пранізлівы, бескампрамісны да сябе і часу, нервовы, заклапочаны і перабалелы «Варшаўскі шлях» (а трохі раней — «Маналог»). І нізкі вершаў, зусім новых, настолькі выспеленых па думках і майстэрству, што пісаць пра іх прывычнымі пахвальнымі словамі няёмка. Сам Аркадзь Куляшоў некаторыя з іх («Мой новы год», «Запісная кніжка») надзяліў ёмістым народным азначэннем «думы». Думы, дзе перапляліся радасць і гора, шкадаванне і надзея, вясновая ўсмешка і горкі дымок асенніх вогнішчаў.

Дык дзе ж ён, самы «куляшоўскі», гэты розны, такі часам нечаканы Куляшоў? Усюды! Адкрываючы новае ў жыцці, у людскіх душах, ён кожны раз адкрывае новае і ў сабе, у сваім таленце, у сваёй паэзіі. І я ўпэўнены, што ён не раз яшчэ прынясе шчаслівую нечаканку, што з яго мудрай шасцідзесяцігадовай вяршыні відно яму тое, чаго мы не заўважаем, чаму проста не знаходзім слоў.

***1974***

## МОЙ ПОЛАЦК

Ён быў першым горадам, які я ўбачыў сваімі вачамі. І мяне, пасляваеннага вясковага хлапчука, які разам з аднакласнікамі пехатою дабіраўся да яго два летнія спякотныя дні, ён тады ўразіў надзвычайна. Не, не сваёй гісторыяй — гэта прыйшло пазней, — а сваімі дамамі ажно ў тры паверхі, машынамі на вуліцах і плошчамі з мноствам людзей. Потым (так наканаваў

мне лёс) ён стаў маім родным горадам, куды я хадзіў у школу, дзе з плытоў даваў нырца ў Заходнюю Дзвіну, дзе па разбітых фашысцкімі снарадамі лесвіцах спрабаваў дабрацца да званіцы Сафійкі…

Ад заводскага пасёлка, куды пераехала з Расонаў наша сям'я, да пахіленых хат ускраіны Полацка было пяць кіламетраў, а да першай школы, дзе я вучыўся, яшчэ два, — і штодзень мне хапала часу зводдаль налюбавацца камяніцамі горада, трохі патаўчыся ў кнігарнях, а летам палазіць у падзямеллі велічнага нават сваімі руінамі гмаху былога кадэцкага корпуса. Я шчыра верыў у прыгожую легенду аб тунелях пад Дзвіною, аб казачных скляпеннях і скарбах і хацеў стаць тым шчасліўчыкам, што аднойчы знойдзе ўсё гэта. Як нас, наіўных і бясстрашных падшыванцаў, не заваліла ў тых норах, куды мы залазілі, як мы не напароліся на міны, якімі начыніла зямлю вайна, не ведае нават сам Бог, але якраз тады маё сэрца часцей забілася ад дакранання да нязведанай, маўклівай і агромністай гісторыі. Тады ўва мне затрапяталася, а потым і прачнулася разуменне таго, што жыццё маё — толькі імгненне ў бясконцасці людскога быцця, толькі пясчынка на дарозе майго народа…

У гарадоў, як і ў людзей, — у кожнага свой лёс, з узлётамі і выпрабаваннямі, з гучнай славаю і ціхімі крыўдамі забытасці. Я думаю аб гэтым усё часцей, прыязджаючы ў Полацк. Колькі яму выпала «перападаў», як гайдала і кідала яго на крутых паваротах гісторыі!.. Адзін з самых слаўных і магутных гарадоў Кіеўскай Русі, цэнтр асветы і гандлю і — заштатны «павятовы» гарадок царскай Расіі. Радзіма Францыска Скарыны і Сімяона Полацкага і — чатыры пятых палачан непісьменныя… Як на сённяшнія звычкі, дзіўна і незразумела… Але ўсё гэта было, і не так ужо даўно, калі мераць вякамі, усё гэта перажыта — і смешна было б думаць, што не пакінула следу. Хапала ахвотнікаў, у сутанах і рызах, з шаблямі і скіпетрамі, аксельбантамі і пагонамі, патаптацца па душы Полацка, па яго святынях і набытках. Палілі людзей і кнігі, узрывалі храмы і масты, кралі дыяменты і мову — здзекаваліся ўдосталь, радуючыся, што гэта ж не абыякі горад, спадзеючыся, што не ўваскрэсне ён і не страсе з сябе спалох і запусценне. Сляпыя, бяссільныя краты, раздушаныя колам гісторыі, бязмозглыя варвары, — усе гэтыя захопнікі і акупанты кладліся пяском і попелам да тысячагадовых полацкіх муроў. І заставаліся яны толькі ў праклёнах языкастых цётак ды ў брудзе апаганеных дымам сцен…

Як і народам, гарадам сапраўдную славу прыносяць не ўдалае геаграфічнае размяшчэнне, нават не дзівосы прыроды, а людзі. У Полацка заўсёды хапала сыноў і дачок, чые розум і рукі выклікалі захапленне і павагу. Калі стаю перад Спаса-Еўфрасіньеўскай царквой, любуючыся яе хараством, думаю я не толькі пра Бога, пра біблейскія казкі і наіўную веру далёкіх продкаў у нязведаны рай, а і пра тых крывічоў, што мясілі гліну, абпальвалі цэглу, кацілі валуны ў падмурак, вялі сцены і ладкавалі купалы, мудрым вокам знаходзячы меру і прыгажосць у працы сваёй… Акіяны вады сплылі па шырокай Дзвіне за вякі, няўмольная Лета пахавала ў сваіх вірах і грозныя загады князёў, а не скрануліся і не рассыпаліся камяні, на якіх невядомы палачанін высек стараславянскія літары… Колькі іх, выдатных самародкаў — мастакоў, інжынераў, архітэктараў, сяброў і памочнікаў Іаана і Богшы, на плячах сваіх у высокі блакіт узнімалі акрасу і славу Полацка! Каго вінаваціць, што не засталіся іх імёны ў летапісах, што не ведаем мы іх сялянскіх аблiччаў, іх кароткіх жыццяпісанняў? Не любілі валадары дзяліць вядомасць з прасталюдзінамі, сваёй уласнасцю лічылі не толькі землі і бары, але і таленты людскія…

Нашэсці і войны вогненнай і свінцовай завірухай не раз нахабна пакруціліся па Полацку і павымяталі з яго нямала ўнікальных сведчанняў старажытнай гісторыі беларусаў. Немагчыма прачытаць попел летапісаў з рэдкага збору кніг Сафійскага сабора, спаленага езуітамі. Немагчыма палюбавацца роспісамі сцен, раструшчаных мечаносцамі. Але можна яшчэ і сёння крануцца рукою цаглін XI стагоддзя, пастаяць на вале Івана Грознага і палюбавацца Дзвіною ад доміка Пятра Першага. На старых вуліцах яшчэ і сёння можна памяццю сваёй пачуць плёск ад вёслаў стругаў, што плылі з варагаў у грэкі, і песні плытагонаў, якія слухаў вешчы Алег, цокат капытоў баявых коней, што скакалі пад Грунвальдам, і рыпенне калёсаў паўстанцаў 1633 года…

Часта ў горкім роздуме дакараю я сам сябе і сяброў-літаратараў за рэдкае лайдацтва наша, за незразумелае раўнадушша да сівой даўніны і забытай славы. У адным маім Полацку «спіць» цэлая бібліятэка гістарычных раманаў. Ды якіх!.. Ці не першаю на Русі смела ўзняла свой голас у абарону жаночай годнасці, у абарону права самой выбіраць каханага і мужа князёўна Рагнеда, дачка Рагвалода… А ці так ужо часта бывала, каб гараджане выкідалі з ганьбаю за вароты свайго князя, як зрабілі гэта палачане са Скіргайлам?.. І хіба не песняю мужнасці прагучаў бы расказ аб

тых, хто ў час нашэсця караля Баторыя зачыніліся ў Сафійскім саборы і загінулі ўсе, не папрасіўшы літасці ў ворага?.. Гартаць і гартаць нам яшчэ старонкі гісторыі Полацка, на першай з якіх у далёкім 862 годзе ў «Аповесці мінулых часоў» запісана: «…И прия Рюрик власть всю один… И роздая мужам своим волости и города рубити овому Полтеск, овому Ростов, другому Белоозеро, вервим насельници в Полтеске кривичи…»

Нядаўна ў родны Полацк прыйшоў бронзавы Скарына.

У цэнтры горада, недалёка ад Дзвіны на высокім п’едэстале ўзняўся велічны помнік аднаму з выдатнейшых сыноў Беларусі. Мудры і засяроджаны, чыёй вучонасці дзівіліся ў Падуі і Празе, наш першадрукар спыніўся ў роздуме сярод сучасных дамоў і маладых ліп, каля вясёлай гаманы плошчы. І тое, што якраз тут штогод праводзяцца гарадскія кніжныя кірмашы, на якія прыязджаюць і былы супрацоўнік «Чырвонай Полаччыны», лаўрэат Ленінскай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы, народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, і былы юнкор Полацкай газеты, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы Рыгор Барадулін, — найлепшае сведчанне бессмяротнасці справы сумленнага служэння роднаму народу. Пра Скарыну напісаны кнігі, зняты кінафільмы (праўда, яшчэ не такія, як хацелася, як ён заслугоўвае), яго жыццё і дзейнасць вывучаюць даследчыкі не толькі нашай рэспублікі, яго выданні, якім больш за 450 гадоў, зберагаюцца сярод самых дарагіх рэліквій у бібліятэках свету, яго тытанічная постаць стаіць у адным шэрагу з найлепшымі дзеячамі Адраджэння — і праз гады, не слабеючы, гучыць яго голас: «Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птици, летающие по возъдуху, ведають гнезды своя; рыбы, плавающие по морю и реках, чуют виры своя; пчелы и тым падобная боронят ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають». Ніколі не забываў ён накрэсліць на кнігах сваіх, што родам «из славного града Полоцька».

І яшчэ адзін славуты сын Полацка ўсюды нёс з сабою назву роднага горада — паэт і асветнік Самуіл Пятроўскі-Сітняковіч — Сімяон Полацкі. Гэта яго славуты пратапоп Авакум назваў «мудроным філосафам» і прызнаўся, што не змог адолець яго ў спрэчках. Гэта ён вучыў Пятра І. Гэта яго творы Сабор 1690 года прызнаў ерэтычнымі і забараніў… Цудам ацалеў дом, дзе жыў некалі Сімяон Полацкі, і, як даўным-даўно, слухае ён ціхія ўдары хваляў Дзвіны аб пясчаны бераг.

Паўнаводнай і шырокай была, напэўна, калісьці Палата, сёння падобная на жвавы ручай, заціснуты высокімі берагамі. Іначай чаму якраз у яе, а не ў спакойнай Дзвіны, узялі крывічы назву для свайго горада. Але і цяпер, калі льды няўмольна скоўваюць яго больш магутную і вядомую сястру, усё вакол усцілае снег, яна весела булькоча, не паддаючыся марозу. Пояць яе чыстыя, глыбінныя крыніцы. А легенды нашэптваюць зусім іншае тлумачэнне. Тут, дзе звычайны мост называецца дзіўна для выпадковага турыста — Чырвоны, пралілося залішне многа крыві, і так яна сагрэла ваду, што ніякая сцюжа не можа ўжо зледзяніць яе. Мост жа стаў Чырвоным 7 кастрычніка 1812 года, пасля жорсткай бітвы з напалеонаўскімі войскамі…

Паданні ў Полацку чароўна і натуральна перапляліся з былямі, і ў смузе стагоддзяў нялёгка ўгледзець мяжу між імі. А хто ведае, якімі легендамі прыйдзе праз гады да нашых будучых нашчадкаў сённяшні наш будзень, найноўшая гісторыя Прыдзвінскага краю…

Няпраўда, што вялікае бачыцца толькі на адлегласці. Хіба нельга ўжо сёння назваць подзвігам жыццё Зінаіды Міхайлаўны Тусналобавай-Марчанкі? Болей за 120 параненых вынесла яна за восем месяцаў з поля бою ў крывавых 1942–1943 гадах. І была сама зрашэчана кулямі, прымарожана да выстылай, засыпанай асколкамі і гільзамі курскай зямлі. Два гады барацьбы за жыццё, восем складаных аперацый, ампутацыя… У маі 1944 яна напісала пісьмо: «Салдаты! Я была вашым таварышам, ішла з вамі ў адным шэрагу. Цяпер я не магу болей змагацца… У мяне няма цяпер ні ног, ні рук… Я прашу вас, адпомсціце! Адпомсціце за мяне, за мой родны Полацк!» І ўздымаліся ў неба самалёты з надпісам «За Зіну Тусналобаву!», і імчалі па зямлі танкі — «За Зіну!», і ішлі ў бой салдаты з абяцаннем: «Мы вызвалім твой Полацк!» Яна жыве цяпер у родным, мірным Полацку — Герой Савецкага Саюза, кавалер вышэйшай узнагароды Міжнароднага Камітэта Чырвонага Крыжа. І дочкі яе ганарацца не толькі маці, а і бацькам, што таксама выйшаў з пекла вайны і застаўся верным свайму юнацкаму каханню, без слова папроку і скаргі пранёс яго праз гады як светлае, нялёгкае і рэдкае шчасце…

Я трохі помню пасляваенны Полацк. Помню тую пыльную груду руін, якую, здавалася, немагчыма расчысціць, разраўняць, не тое што забудаваць. Гітлераўцы ўмелі пакідаць пасля сябе пустэльні — гэта праўда. З халодным разлікам сучасных камп’ютараў яны «выдаткоўвалі» на кожны дом роўна столькі ўзрыўчаткі, колькі трэба было, каб стаў ён друзам, каб бездапа-

можна асунуўся побач з суседам. Фотаздымкі таго Полацка ёсць у мясцовым краязнаўчым музеі, але ж ніякая фатаграфія не можа ні паказаць жахлівых маштабаў разбурэння, ні даць дыхнуць куродыму папялішчаў, ні параніць ногі вострымі аскабалкамі цэглы. Яна можа толькі параніць уяўленне большасці палачан. І гэта добра. Добра, што побач з прыземленым будынкам маёй роднай школы вырас прыгажун-корпус з прасторнымі класамі і вялізнай спартыўнай залай, што на Дзвіне паявілася лодачная станцыя, а за валам Івана Грознага — стадыён. Добра, што любы і родны мой горад расце, прыгажэе, набірае моцы…

У полацкіх хлапчукоў куды часцей, чым у іх аднагодкаў з Гомеля, Брэста ці Мінска, у бяздонных, вечна поўных кішэнях можна знайсці зграбненькія зеленаватыя шкляныя шарыкі. Пры бязмежнай дзіцячай фантазіі яны бываюць то ядрамі часоў лівонскай вайны, то штучнымі спадарожнікамі Зямлі, то мячыкамі для пінг-понгу. А на самой справе гэта — зыходны прадукт для Полацкага завода шкловалакна. Тысячы ледзь бачных воку ніцяў выцягваюць з празрыстых шарыкаў маладыя дзяўчаты-аператары, што стаяць ля электрычных печаў, у чэраве якіх бушуе пякельная гарачыня. І коціцца па дзесятку краін свету полацкі шкляны калабок, прапануючы тканіну, якая не гарыць і не камечыцца, ніткі, якія не рвуцца, пластыкі, якія служаць вечна. Кажуць, і ў касмічных караблях аж да зор узлятае вытканае над Дзвіною цудадзейнае палатно…

7 чэрвеня 1958 года ў старога Полацка паявіўся сусед — каля вёсак Плаксы і Слабада, на левабярэжжы Дзвіны былі забіты першыя калкі Нафтабуда, залапаталі пад ветрам парусінавыя палаткі маладых добраахвотнікаў. Нарадзіўся горад беларускіх нафтахімікаў — Наваполацк. Рос ён небывалымі нават для нашых дзён тэмпамі — волат і прыгажун. І да яго спяшаліся карэспандэнты і кінааператары, паэты і кампазітары, абмінаючы тысячастогадовы Полацк, стараючыся не спазніцца на першы беларускі бензін, на першы поліэтылен, першы нітрон. Можа, трохі і раўнаваў тады Полацк да малодшага брата, але без злосці, па-добраму. Колькі навапалачан прытуліў ён, колькі ласкі і песень падарыў ім!..

Сёння паміж гарадамі ўсяго сем кіламетраў. Не за гарамі дзень, калі сыдуцца, абдымуцца яны: сівабароды, умудроны вопытам ветэран і бадзёры юнак, па-маладому няўрымслівы і модны.

Я думаю, не памылюся, калі скажу, што ў Полацка наперадзе новы ўзлёт, новая слаўная старонка гісторыі…

Тады, калі з расонскімі хлапчукамі хадзіў я, трохі спалоханы і шчасліва ашаломлены, па цэнтры Полацка, я думаў, што трапіў у адзін з найвялікшых гарадоў на зямлі. Пабываўшы ў Маскве і Нью-Йорку, Кіеве і Сан-Францыска, Лондане і Варшаве, я цяпер ведаю, што гэта не так — ён зусім не вялікі, родны мой Полацк. Але калі я пад'язджаю да яго і здалёк бачу купал Сафіі і блакітны выгіб Дзвіны, — сэрца ў мяне б'ецца так соладка і радасна, як нідзе болей. Гэта ж Полацк. Мой Полацк.

***1977***

## ТРЫ ДНІ РАЗВІТАННЯ З КРЫМАМ

Мне і цяпер часам здаецца, калі позна вечарам вяртаюся з працы, што ў двары нашага дома на вуліцы Янкі Купалы вырастае раптам у прыцемку знаёмая постаць з прыгнутым плячом і схіленай задумліва галавой. Вось ён павольна і самотна ідзе насустрач, дарагі Іван Паўлавіч, незабыўны Мележ. Зараз ускіне ў прывітанні руку, стомлена ўсміхнецца, моўчкі пакліча ў свой ціхі, цеснаваты кабінет… Але міг — і ён нібы адплывае, растае ў вячэрнім змроку, у вузкім халодным двары. Няма яго болей тут. І пустуе кабінет. І не свеціцца бяссоннае акно…

Суседства падарыла мне рэдкую, толькі цяпер — і то, відаць, з большага — усвядомленую і ацэненую радасць частых сустрэч з Мележам, шчырых і доўгіх гаворак з ім, шчаслівую магчымасць хоць зрэдку, хоць краёчкам вока зазіраць у ягоную «творчую лабараторыю». Не прыйшла яшчэ пара расказаць аб усіх з тых сустрэч і гаворак, бо быў Іван Паўлавіч чалавекам адкрытым і бескампрамісным, але і тонкім і далікатным, не раз пакутаваў ад чужой бястактнасці і чэрствасці — і з імем ягоным трэба абыходзіцца вельмі асцярожна і беражна. Але аб апошніх нашых сустрэчах, аб трох днях, праведзеных разам у Крыме, раскажу.

Тое лета 1976 года было спякотным. І калі мы з жонкай ліпеньскім днём прыехалі ў санаторый «Беларусь» у Місхоры, адзінае жаданне ў нас было — схавацца ў цень ці кінуцца пад халодны душ. А тут — заўсёдная, традыцыйная, на жаль, неразбярыха з пасяленнем, з афармленнем усялякіх папер і паперак, цяганнем чамаданаў па паверхах. Дзяжурная ж сястра сказала, што пра нас пытаўся Мележ і прасіў абавязкова да яго зайсці.

Так-сяк уладкаваліся мы толькі пад вечар і не надта вясёлымі падняліся ў новы корпус санаторыя, дзе разам з жонкай

Лідзіяй Якаўлеўнай і малодшай дачкой Ларысай займаў люкс Іван Паўлавіч. Быў ён у добрым настроі, нават узбуджаны. Адразу ён раскрыў сакрэт усхваляванасці: днём яго наведаў Ціхан Якаўлевіч Кісялёў, які тады працаваў старшынёй Савета Міністраў рэспублікі, з жонкаю Нінай Фёдараўнай. Не толькі сам гэты знак увагі і павагі, а і цёплая, сяброўская гутарка з Кісялёвым усхвалявала Івана Паўлавіча — і ён адкрыта дзяліўся радасцю, разліваючы ў чаркі густое крымскае віно («хоць ацаніце, а то я ўжо і ад смаку адвык»), настойліва прапануючы нам вінаград, персікі і раннія яблыкі.

За расчыненымі дзвярамі балкона плыла ўжо душная паўднёвая ноч, пабегла некуды Ларыса, раз-пораз пакідала нас, выходзячы ў суседні пакой, Лідзія Якаўлеўна, а гаспадар усё распытваў пра Мінск, пра надвор'е ў Беларусі, пра справы ў Саюзе пісьменнікаў. Зноў і зноў успамінаўся нам усесаюзны пісьменніцкі з'езд у Маскве, ягоная трохі тлумная работа, непрывычнае размежаванне па секцыях, ад чаго не ўдалося пачуць некаторыя цікавыя прамовы вядомых празаікаў і паэтаў і давялося адседжваць нудныя справаздачы цэлай плоймы літаратурных чыноўнікаў.

Пасля з'езда не мінула яшчэ і месяца, уражанні не паспелі астыць, і хацелася яшчэ раз праверыць іх нечужою разумнаю думкаю. Іван Паўлавіч некалькі разоў вяртаўся да выступлення Фёдара Абрамава, зацікаўлена і занепакоена разважаў пра лёс сучаснай вёскі, прыгадваў некаторыя думкі Юрыя Бондарава, Канстанціна Сіманава, з трывогай і нават болем гаварыў, што часта пісьменніцкія прамовы і на сваім прафесіянальным форуме напоўнены не пакутлівым роздумам над часам і творчасцю, а ваяўнічай кан'юнктурай і сытай самаздаволенасцю. Яго заўсёды мучыла раўнадушша таго-сяго з калег да галоўнай справы, якою была для яго літаратура, іх празмерная меркантыльнасць і паспешлівасць, хваравітае самасцверджанне пры дапамозе пасад і рэгалій. Ён не быў «наіўным дзіваком», поспех і слава прыемна грэлі і ягонае сэрца, узнагароды прыносілі і яму зямную чалавечую радасць, але толькі тады, калі суседнічалі з сумленна выкананым абавязкам, з самаахвярным служэннем абранай мэце.

На ўсесаюзным з'ездзе, асабліва ў канцы яго, Мележ быў хмуры, не надта гаваркі — і большасць пісьменнікаў звязвалі гэта з ягонай хваробай, з пагаршэннем стану здароўя, на што скардзіўся і ён сам. Нават у шумных кулуарных дэбатах трымаўся ён неяк збоку, з патрыяршай засяроджанасцю і не-

прывычнай замкнутасцю. Імя яго гучала ў дакладах, з любоўю і павагай упаміналася ў выступленнях, паціснуць руку яму спяшаліся ўсе зоркі савецкай прозы, а ён быццам быў чымсьці незадаволены, і толькі мілая ягоная ўсмешка свяцілася па-ранейшаму прывабна і адкрыта. Я таксама заўважыў ягоную невясёласць і палічыў яе за прыкмету нездароўя. Але ў той крымскі вечар зразумеў, што хвароба была прычынаю толькі часткі незадаволенасці, што больш мудры і больш строгі, чым мы, Іван Паўлавіч не мог змірыцца ні з кампліментарнасцю крытыкі, якая нахабна распаўзалася па старонках выданняў, ні з бойкай балбатнёю не дужа таленавітых, але затое бязмежна прабіўных «дзеячоў», водгулле якой дакацілася і да трыбуны з'езда. Ён з горкай іроніяй жартаваў, што ў нас для таго, каб стаць вядомым пісьменнікам, ужо часам не абавязкова добра пісаць — дастаткова ўмела і гучна выступаць, быць дасціпным субяседнікам і сімпатычным хлопцам. А літаратура, як разумная жанчына, выбірае не самых прыгожых і абыходлівых, а самых сумленных і таленавітых…

У тую першую нашу крымскую сустрэчу болей за гадзіну, відаць, мы гаварылі пра аднаго маладога раманіста, выбранага ў кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі. Разумны і яршысты хлопец, якому ў свой час нямала даставалася ад несправядлівай крытыкі, ён дужа хутка прыцёрся да службовага крэсла і пачаў дэманстраваць таварышам сваю «вышэйшасць», нават хадзіць стаў іначай, усёй паставаю дэманструючы важнасць сваёй персоны і прыналежнасць да кіраўнічага рангу. Спярша гэта ўспрымалася ўсімі як дзівацтва таленавітага чалавека, як не зусім умелае «ўжыванне» ў новае становішча, але паступова рабілася відавочным, што гэта няўмольна вылазіла наверх сапраўдная натура, што ў словах пра ўласную выключнасць толькі форма была жартоўная, а сэнс — зусім сур'ёзны. Ад нечаканага здзіўлення і разгубленасці нават сябры яго перайшлі да асуджэння, амаль аднадушнага, але, на жаль, не заўсёды адкрытага. Мележ, які сам некалькі гадоў працаваў сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, нязлосна пасміхаўся з новага «князька»: ведаў ён і ўсю адноснасць улады ў творчай арганізацыі, і цану пахвал апаратных падхалімаў. Баяўся ж ён аднаго — каб горкае пахмелле, якое абавязкова прыйдзе пасля чыноўнага ачмурэння, не зламала чалавека, каб на творчасці не адбіліся пустая амбіцыёзнасць і самаздаволеная пыха. Толькі наіўныя або недасведчаныя людзі, казаў ён, могуць паверыць, што асоба аўтара не ўплывае на ўзровень твора, што спосаб яго

жыцця і паводзін нічога не значаць для літаратуры. Умельства ці нават, калі хочаце, майстэрства можа многае прыкрыць — гэта праўда, але схаваць характар пісьменніка і яму не пад сілу. Пакрыкванне на таварышаў, безагляднае самасцверджанне не могуць прайсці бясследна, прывычка да ўсёдазволенасці непазбежна пацягне за сабой заніжаныя крытэрыі ў ацэнцы ўласных спраў, паспешлівасць і павярхоўнасць… З трывогай, нават з абурэннем гаварыў Іван Паўлавіч, і ўсё ж, не хочучы рабіць катэгарычнага прысуду, песціў у душы надзею на лепшае, уздыхнуў пад канец: «Давай пачакаем яго новага рамана. Ён многае праясніць…» Пры ўсёй бескампраміснасці і жорсткасці ў маральных ацэнках ён хацеў ад людзей добрага, верыў у высакародства і духоўную прыгажосць таленту.

Назаўтра Мележ з самай раніцы запрасіў нас праехаць над морам — «пакажу вам мой Крым». Машыну даў галоўурач «Беларусі», і наш сямейны экіпаж — Іван Паўлавіч з Лідзіяй Якаўлеўнай і мы з Юляй — рушыў па вузкіх крымскіх дарогах. Ехалі мы не спяшаючыся, бо Мележ з выглядам і веданнем старажыла то паказваў нам славутасці, то прыгадваў старыя легенды. Прывёз ён нас у Фарос і павёў па сваіх даўніх сцяжынках. Праўда, гэта быў не зусім той Фарос, які ён так любіў, — набудавалі новых карпусоў, з'явіліся новыя агароджы і кіёскі, але крочыў ён упэўнена, і было відаць, як усцешаны ён гэтым спатканнем з мінулым. Нідзе ў Крыме, казаў ён, не працавалася яму так плённа і нястомна, як тут, у непрыкметным старэнькім корпусе між дрэў. Якраз тут нарадзіліся многія апавяданні, тут напісаліся многія старонкі «Мінскага напрамку». Толькі прыязджаць у Фарос трэба восенню, калі яшчэ трымаецца лагоднае чарнаморскае цяпло і знікае — ад'язджае і адлятае — бестурботны і шумны курортны люд. Настае пара прасветленасці і сцішанасці, а найлепшай для творчасці прыдумаць нельга.

Непрыкметна, але неадступна наплывала душная гарачыня — і Іван Паўлавіч змарыўся, прысеў у цяньку на лавачку. Нам загадаў не спяшацца, абавязкова яшчэ пахадзіць і палюбавацца райскім куточкам. Сам жа сцішыўся, схаваўшы вочы за цёмнымі акулярамі, — і хто ведае, што яму бачылася і чулася ў буянні яркіх садовых кветак і аддаленым шуме прыбою. Можа, не толькі таму, што не хацеў, каб мы заўважалі ягоную слабасць, адагнаў ён нас падалей, а і для таго, каб не заміналі ва ўспамінах, у апошняй споведзі дарагому яго сэрцу месцу…

Калі ехалі назад, Мележ спярша маўчаў, стомлены і засяроджаны, потым, нібы адагнаўшы лёгкі сон, усміхнуўся і загаварыў

пра любімых сваіх Льва Талстога, Чэхава, Горкага, чые імёны самі сабою ўсплывалі між крымскіх кіпарысаў. Здзіўляўся ён і папракаў даследчыкаў і літаратараў, што да гэтага часу ўсур'ёз не прасочана гісторыя станаўлення вялікіх майстроў слова як асоб. Складзены цэлыя тамы, вельмі цікавыя і патрэбныя, дзе зафіксаваны іх сустрэчы, хваробы, нават сямейныя спрэчкі, а вось біяграфіі душы — няма. Знешні жыццяпіс амаль не суаднесены з унутраным светам, яго рухам, зменамі. Хіба бясследна праходзілі захапленні вялікіх, іх расчараванні, узрушэнні? Хіба не прынесла ва ўсё жыццё Горкага, а не толькі на пэўны час, штосьці непаўторнае і важнае Марыя Фёдараўна Андрэева? Хіба сярод мноства выдатных людзей, што перабывалі ў Льва Талстога, ніхто не прымусіў яго нешта ў сабе перагледзець, а можа, і пераацаніць? І няўжо гэта не адгукнулася ў творах? Як, дзе?.. Чым болей мінае часу, тым менш дакладным будзе адказ. Калі значэнне пісьменніка не заўсёды правільна могуць вызначыць сучаснікі, то вось пра станаўленне яго як асобы найбольш могуць сказаць якраз яны. Боязь велічы і няпраўды скоўвае, напэўна, даследчыкаў, а так хацелася б прачытаць пра глыбінныя буры ў душы Талстога і Горкага — былі яны, ды яшчэ якія, калі меркаваць па творах, па крутых паваротах лёсаў… Гаварыў усё гэта Мележ горача, усхвалявана, нібы зусім адступілася фізічная слабасць і ён збіраўся кінуцца ў доўгую маладую спрэчку.

Цяпер я разумею, што то было не проста жаданне выказаць раптоўна навеяныя дарогай думкі, — то быў працяг няспыннага мележаўскага роздуму над суаднесенасцю рэчаіснасці і літаратуры, вопыту асабістага і вопыту агульнага, было імкненне ў жыцці настаўнікаў знайсці пацвярджэнне ўласным прынцыпам і высновам. Аўтар «Палескай хронікі» як бы прымяраўся сваёю практыкай да тых вяршынь, якія вызначаюць сутнасць і аўтарытэт сапраўднай літаратуры…

Вечарам мы нечакана сутыкнуліся каля помніка Максіму Багдановічу — Мележ звычайна не хадзіў у сталоўку, наогул рэдка паяўляўся «на вуліцы», а тут выйшаў на невялікі пляц. Якраз патрапіўся нам малады празаік Уладзімір Кузьмянкоў — і Іван Паўлавіч сагітаваў нас не ісці глядзець нейкі стары фільм, а «пасядзець з Максімам». Быў ён ужо не такім гаваркім, як раніцой, але вочы свяціліся надзвычайнай дабрынёй і нават гарэзнасцю. Зручна ўсеўшыся на лаўку, ён расказваў нам, як прывозілі сюды бюст Багдановіча, адкрывалі яго, як многа абудзіў і сцвердзіў у ім у свой час і рэдкі талент, і чалавечы подзвіг выдатнага паэта, чыя адданасць радзіме, матчынай песні і ў самых неспрыяльных

умовах жыцця не толькі надавала сілы і стойкасці, а і нараджала шэдэўры агульначалавечага значэння.

Якраз у тыя гады ў друку (і «Маладосці», якую я рэдагаваў) з'явіўся цэлы шэраг публікацый пра Багдановіча — А. Бачылы, Н. Ватацы — і мы прыпаміналі іх, жыва абмяркоўваючы здагадкі і гіпотэзы, падоўгу цешачыся раней не вядомымі фактамі з кароткай біяграфіі аўтара «Вянка». Мележ гаварыў пра Багдановіча з надзвычайным замілаваннем і ўлюбёнасцю, па-юнацку глыбокай і чыстай. Ён марыў пра дні, калі паэту будзе ўстаноўлены вялікі помнік — і вядомая скульптура Сяргея Вакара бачылася яму вартай гэтага, пра мастацкую кнігу аб цяжкім і слаўным лёсе класіка беларускай літаратуры, які свае апошнія радкі напісаў тут, у Ялце, «ля сіняй бухты»… А пасля, нібы зусім без унутранай логікі, стаў гаварыць аб тым, якое гэта неацэннае шчасце — маладыя гады, і як трэба даражыць магчымасцю атрымліваць радасці жыцця. Напаўжартам, а то і ўсур'ёз ён стаў агітаваць Кузьмянкова (той быў у санаторыі адзін, без жонкі) хадзіць на танцы і пазнаёміцца з вясёлымі курортніцамі. Мяне тады гэта вельмі здзівіла: Мележ заўсёды быў адным з самых вялікіх рыцараў у адносінах да жанчын, не толькі не дазваляў сабе нетактоўнага, двухсэнсоўнага слова ў іх адрас, а і не любіў чужых анекдотаў і «мужчынскіх» вольнасцяў. І вось — такія «банальныя» парады… Пасля ўжо я зразумеў, што горка было яму прадчуваць хуткае развітанне з жывым нашым светам, дзе ёсць, акрамя іншага, і бесклапотная музыка, і смяшлівыя загарэлыя дзяўчаты, і проста ціхі цёплы вечар.

Будзённым зямным быццём мы часта зусім не даражым і над непаўторнасцю яго не задумваемся. Паўната жыцця — вось што, відаць, ясна і мудра бачылася Івану Паўлавічу ў час той нашай нетаропкай гаворкі, а можа, яшчэ было ў яго і самотнае шкадаванне, што вайна, раненне і хвароба назаўсёды забралі ад яго многія з тых простых і натуральных уцех і забаў, якія выпадаюць чалавеку ў юнацтве. Хто ведае. Толькі тая гарэзлівая парада маладому празаіку падацца ў «донжуаны» чамусьці не здалася мне проста жартам.

Назаўтра Іван Паўлавіч ад'язджаў — і ранічкай раптам прыйшоў да нас у пакой. Жонка мая была недзе на працэдурах, і мы з ім добра «пасакрэтнічалі». Без дыпламатыі, вельмі прама і рэзка, ён мне сказаў, што пакрыўджаны і абражаны тым, як з ім абышліся ў ягоную адсутнасць у Мінску. Якраз у тыя дні ў рэспубліканскай прэсе з'явіліся спісы кандыдатур, вылучаных на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР. Дык вось сярод іх Мележ

сябе не знайшоў, хоць прэзідыум праўлення Саюза пісьменнікаў вылучыў на прэмію імя Якуба Коласа кнігу яго публіцыстыкі і крытыкі «Жыццёвыя клопаты». Не тое, што яго не было сярод прэтэндэнтаў (у яго ўжо былі адзнакі і вышэйшыя), абурыла Івана Паўлавіча, а тое, што за нейкі месяц да гэтага яго, хворага, занятага чалавека, прымусілі запаўняць анкеты, хадзіць фатаграфавацца, шукаць два экземпляры кнігі, каб пасля адным росчыркам раўнадушнага пяра выкінуць прозвішча са спісу.

Я і зараз помню і хваляванне, і разгубленасць, і нават гнеў выдатнага пісьменніка — і не магу пазбыцца адчування нейкай і сваёй віны, бо і я быў на тым пасяджэнні, дзе вылучалася кніга, і я галасаваў за, а вось не мог растлумачыць, у чым жа справа. Як высветлілася пазней, пры афармленні дакументаў у Саюзе пісьменнікаў проста ніхто не звярнуў увагі на некаторыя пункты Палажэння аб прэміях, а ў Камітэце па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры падышлі фармальна — раз парушаны нейкі пункт, няма чаго і разбірацца. Вось так элементарнае службовае нядбальства, бяздумная чэрствасць калег балюча паранілі сэрца аднаго з найлепшых майстроў слова, сціплага, тонкага і высакароднага чалавека. Не ведаю, ці стала гэтая гісторыя жыццёвым урокам для шматлікіх кіраўнікоў пісьменніцкага саюза, а ў мяне яна надоўга горыччу асела ў памяці. І тое, што дзяржаўныя органы выправілі памылку літаратурных чыноўнікаў і Мележу была пасмяротна прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР за кнігу «Жыццёвыя клопаты», не праганяе з душы адчування вінаватасці…

Была ў нас тады і яшчэ адна гаворка — аб рамане «Завеі, снежань», які толькі нядаўна з’явіўся ў часопісе «Полымя» і вакол якога ішла ў пісьменніцкім асяроддзі ажыўленая дыскусія. Часопіс «Литературное обозрение» заказаў мне рэцэнзію на раман, і я з радасцю згадзіўся, але мяне непакоіла прыпіска ў публікацыі — «Працяг будзе». Калі будзе гэты працяг, якім ён будзе? Як быць з рэцэнзіяй на незакончаную рэч? Я задаў Івану Паўлавічу гэтыя пытанні. Ён паглядзеў на мяне сваімі добрымі, яснымі вачамі, паклаў руку на плячо і катэгарычна заключыў: «Адпачывай. Вернешся дадому — тады і пагаворым аб усім…»

Праз пару гадзін ён паехаў у Сімферопаль, каб ляцець у родны Мінск. А праз некалькі дзён яго не стала.

Я не паспеў развітацца з Іванам Паўлавічам: самалёт, у які мы з жонкай змаглі ўбіцца, прыляцеў у Мінск праз дзве гадзіны пасля таго, як беларуская зямля прыняла ў сябе аднаго

з самых выдатных сваіх сыноў. Тады ж, у дзень яго пахавання, нарадзіліся ў мяне вось гэтыя радкі:

Не можа быць!
Не веру!
Не хачу!..
Адкіну прэч жалобную паперу.
Ні ворагу,
Ні сябру,
Ні ўрачу
Ніколі не паверу.
Не паверу.

Не могуць
Ні хвароба,
Ні вайна
Яго ад нас забраць,
Не маюць права.
Навекі з ім турбота ў нас адна,
Адна ў нас недавершаная справа.

Зямліцы роднай ён так шмат аддаў
Крыві,
Здароўя,
Таленту
І працы,
Што забіраць яго ад ніў і траў
Яна — матуля — не магла спяшацца.

Не веру я бязлітаснай жарстве,
Што холадам магільным рукі коле.
Ён ёсць.
Ён ёсць!
Ён з намі.
Ён жыве…
Ён нежывым не можа быць ніколі!

*1981*

## БЫЦЬ СУДДЗЯМІ ЧАСУ

*Выступленне на VIII з’ездзе пісьменнікаў Беларусі*

За многія гады нашых тлумных з’ездаў і пасяджэнняў мы з вамі прывыклі да фармуліроўкі, якую, амаль не задумваючыся, часта паўтараем у дакладах і выступленнях: «Жыццё патрабуе ад літаратуры… Час патрабуе ад пісьменніка…», і чамусьці амаль не ўспамінаем пра дыялектычна заканамернае права, няпросты абавязак літаратуры і пісьменніка самім прад’яўляць патрабаванні да жыцця і часу. Сапраўдны літаратар (а несапраўдныя не патрэбны грамадству) не можа быць гэткім расчуленым апалагетам усяго, што вакол яго, з чым ён штодзённа сутыкаецца. Ён павінен бачыць, думаць, аналізаваць, а значыць — суадносіць жыццё з гістарычнымі ідэаламі і магчымасцямі і нешта ў ім сцвярджаць і падтрымліваць, а нешта адвяргаць і асуджаць. Безумоўна, гэта нялёгка, для гэтага патрэбны і талент, і не абы-якая грамадзянская мужнасць. Куды прасцей гаварыць рэчаіснасці прыгожыя кампліменты, не без падстаў разлічваючы на імгненную і шчодрую ўзаемнасць.

Я кожны раз з вялікай радасцю і добраю творчаю зайздрасцю чытаю і перачытваю бескампрамісныя вершы Пімена Панчанкі, накіраваныя супраць шматаблічнага і шматлікага сучаснага мяшчанства, суровыя і часта бязлітасныя аповесці Васіля Быкава, якія нікому і ніколі не даруюць здрады прынцыпам дабра і справядлівасці, шчырыя, адкрыта палемічныя і таму часам рэзкія мініяцюры Янкі Брыля. Думаю, што такія творцы разам з іншымі — а ў іх не можа не быць паплечнікаў і аднадумцаў — патрэбны ўсім нам не толькі як яркія зоркі прозы і паэзіі, але і як важныя з’явы духоўнага жыцця. Яны не даюць заснуць сэрцу чытача, не даюць самаздаволена супакоіцца на пакручастай і доўгай дарозе ўдасканалення грамадства.

На жаль, адказную місію літаратуры быць не толькі летапісцам, а і суддзёй часу могуць і хочуць прыняць на свае плечы далёка не ўсе члены нашага саюза, нават таленавітыя і адукаваныя. З гэтай трыбуны прагучала даволі аптымістычная ацэнка сённяшняга стану нашай публіцыстыкі. Заява, памойму, і залішне галаслоўная, і празмерна смелая. Варта пагартаць газеты і часопісы, паслухаць радыё і тэлебачанне, каб, памятаючы пра ўзровень сучаснай прозы, паэзіі, драматургіі і крытыкі, сказаць без дыпламатыі, што сур’ёзнай літаратурнай публіцыстыкі ў нас проста няма. За рэдкім выключэннем уся так званая пісьменніцкая публіцыстыка не ўзнімаецца вышэй

паспешлівых газетных замалёвак ці бадзёрых водгукаў на актуальныя падзеі. Асобныя выступленні Ігната Дуброўскага, Валянціна Панамарова, Васіля Якавенкі, яшчэ двух-трох таварышаў толькі падкрэсліваюць глухое зацішша на гэтай важнай дзялянцы. Нясмела, з нейкай палахлівай аглядкай ідуць сюды і маладыя. Быццам няма ў жыцці цяжкасцяў, быццам вырашаны ўсе эканамічныя і гаспадарчыя праблемы, быццам зніклі з тэрыторыі нашай рэспублікі бюракраты і дэмагогі і ніхто не пакутуе нават ад неразздзеленага кахання. А хіба не варта задумацца над лёсам нашых вёсак і рэчак? Хіба не прымушае ўжо шукаць нейкіх межаў і рамак «разгул» (даруйце мне такое слова) залішне шырокага матэрыяльнага стымулявання, якое разбэшчвае людзей у самым прамым сэнсе гэтага слова?.. Здавалася б, каму, як не маладым, кінуцца ў пошукі ісціны, у складаны вір жыцця. А яны ўсё прыцэньваюцца, усё чакаюць. І ці не мы самі, стаміўшыся або разленаваўшыся, навучылі іх быць такімі ціхманымі і паблажлівымі?

У літаратуры, магчыма, больш чым дзе значыць асабісты прыклад майстра і ў плане майстэрства, і ў плане маралі. Не хачу штучна рабіць вывады, але не магу ніяк пазбыцца адчування ўнутранай сувязі паміж двума выступленнямі прадстаўнікоў розных пакаленняў у нас на тэлебачанні і радыё. Вядомага раманіста мы сяк-так угаварылі выказацца ў сувязі з нялёгкім жнівом, ці як мы тады гаварылі зусім правільна — усенароднай бітвай за хлеб пазамінулага года, а маладога паэта папрасілі выступіць па выніках дзесятай пяцігодкі. Дык вось знакаміты празаік і па часе, і па душэўнай занепакоенасці больш гаварыў пра свае даўнавата ўжо напісаныя раманы, а таленавіты вершатворац пачаў вымяраць значэнне пяцігодкі колькасцю сімпозіумаў і сустрэч, на якіх яму пашанцавала прысутнічаць. Дзе ўжо тут прад'яўляць высокія патрабаванні да жыцця, калі і да сябе практычна няма ніякіх прэтэнзій.

Залішняя, часта ваяўніча адкрытая ўвага да сябе, на жаль (і пра гэта тут ужо гаварылася), робіцца заразнай сярод некаторых кіраўнікоў нашай пісьменніцкай сям'і — і ад гэтага непапраўная шкода наносіцца і выхаванню творчай моладзі, і аўтарытэту нашай арганізацыі. Неяк непрыкметна з этычнага кодэксу таго-сяго з нерадавых інжынераў чалавечых душ знікла сарамлівасць, няёмкасць за сваю, скажам мякка, нетактоўнасць і неаб'ектыўнасць ва ўзаемаадносінах з таварышамі і літаратурай. Нават па знешняму выгляду кніжак можна беспамылкова ўгадаць, дзе выдадзены сакратар праўлення, а дзе проста Панчанка

ці Быкаў. Не толькі Кузьма Чорны і Максім Гарэцкі, а хутка ўжо і Якуб Колас будзе зайздросціць колькасці перавыданняў некаторых самакаранаваных класікаў. Для іх, відаць, смешныя «цыгарэтныя» разлікі Аляксея Карпюка — у іх вострай праблемы паперы няма. Ад іх энергіі, прабіўной здольнасці не ўдаецца ўберагчы не толькі скупыя фонды, а і не ўсім вядомыя рэзервы. Праўда, чамусьці энергіі гэтай не хапае не толькі на тое, каб дабіцца, напрыклад, стварэння паўнацэнных падручнікаў па літаратуры, выхаду штогод дастатковай колькасці назваў у «Школьнай бібліятэцы», а нават на тое, каб у Доме літаратара зрабіць мемарыяльную дошку з імёнамі склаўшых свае маладыя галовы па палях Вялікай Айчыннай вайны празаікаў і паэтаў. Як тут не ўспомніць горкі запіс Івана Паўлавіча Мележа: «І ў літаратуры можна цягнуць цяжкі груз на поўную сілу, а можна крактаць ад натугі, трымаючы за плячыма пусты папяровы мяшок».

Рыгор Васільевіч Шкраба ўчора гаварыў аб тым, што ўсе пісьменніцкія пакаленні павінны быць філалагічнымі ў прафесійным сэнсе гэтага слова. Я ж хачу яшчэ раз звярнуць увагу на слабую моўную культуру нашай моладзі, на занядбанне работы ў гэтым кірунку ў школах і вышэйшых навучальных установах. У «ЛіМе» і ў час сустрэч з гледачамі і слухачамі наша тэлебачанне і радыё, бывае, папракаюць за дрэннае валоданне дыктарамі і вядучымі беларускай мовай, за беднасць і казённасць іх слоўніка, канцылярскі сінтаксіс і немілагучнае вымаўленне. У большасці выпадкаў крытыка, як гэта ні сумна прызнаваць, слушная. Але ж экран і эфір толькі выяўляюць нашу бяду — слабую філалагічную падрыхтоўку выпускнікоў журфака універсітэта і тэатральна-мастацкага інстытута. А калі дакопвацца да прычын, то прыйдзем мы ў школу, дзе жалезныя ветры НТР даволі хутка вымятаюць з праграм астаткі гуманітарных гаёў. І ўсё гэта прыкрываецца і абгрунтоўваецца бояззю адстаць ад часу. Паслухаць некаторых вучоных педагогаў і лоцманаў навучальнага працэсу, дык навука і тэхніка ў нас імкнуць наперад сямімільнымі крокамі, а літаратура, мастацтва, духоўнае жыццё даўно і трывала стаяць на месцы. Калі гэта сапраўды так, дык жа крычаць трэба і прымаць неадкладныя меры. Не буду далей прыводзіць довады і доказы — працытую настаўніка Васіля Аляксандравіча Сухамлінскага, вопыту якога можна верыць: «Эмацыянальная таўстаскурасць, душэўная чэрствасць і раўнадушша адным са сваіх карэнняў маюць моўнае бескультур'е». Лёс мовы, культура мовы неадрыўныя ад лёсу і

культуры роднага народа — і каму ж, як не майстрам слова, як не Саюзу пісьменнікаў, заўсёды думаць і турбавацца аб іх?!

На вялікіх прафесійных сходах, а наш з’езд — адзін з такіх вялікіх прафесійных сходаў, — заўсёды гучаць так званыя рапарты з месцаў. Не абышлося без іх і ў нас — мы праслухалі рапарты з цэхаў прозы, паэзіі, дзіцячай літаратуры, драматургіі, крытыкі, перакладу. У большасці сваёй былі яны, на маю думку, грунтоўныя і разумныя, хоць і магла ў іх з большай выразнасцю і трывогай прагучаць праблема якасці. Колькасць у літаратуры проста не можа існаваць без якасці. Навошта нам сотні слабых, шэрых кніг? Хапіла б і адной, калі ўжо ніяк немагчыма абысціся зусім без пасрэднасці: як кажуць некаторыя хітраватыя практыкі, тады б цяжка было заўважыць добрае. На жаль, мнагавата развялося творцаў, якія дапамагаюць нам заўважаць добрае. Рэзка ўзняўшы якасць нашай з вамі працы, мы не толькі ўзнялі б яшчэ вышэй аўтарытэт літаратуры, а і атрымалі б поўнае права на большае наша патрабаванне да жыцця. А ад узаемна строгіх патрабаванняў жыцця да літаратуры і літаратуры да жыцця толькі выйграе наша вялікая, наша галоўная справа — будаўніцтва будучыні.

*1981*

## ПЕРАЗОВЫ МАЙСТРА

Больш чым пятнаццаць гадоў назад Ніл Гілевіч напісаў разважлівыя і па-мужчынску стрыманыя радкі:

Вось і прыйшла пара для справаздач:
Авансу больш не выдаюць, хоць плач.
Усё, што браў гадамі напавер,
Я мушу цалкам выплаціць цяпер…

Ужо тады, задоўга да юбілейных падрахункаў, з цвярозай адказнасцю і строгасцю сталага майстра азірнуўся ён на свой немалы і плённы літаратурны шлях і тады ўжо яму не сорамна было трымаць справаздачу перад таварышамі па пяру і чытачамі. Тым больш радасная гэта справаздача цяпер, на высокім перавале жыцця, калі за плячамі больш чым паўсотні арыгінальных і перакладных кніжак, дзесяцігоддзі сумленнага і актыўнага служэння роднай культуры.

Перагортваю любоўна выдадзены сёлета двухтомнік паэзіі Ніла Гілевіча (а для мяне ён перш за ўсё і больш за ўсё — паэт) — і нібы іду па гарачай жарстве беларускіх палявых дарог то ўслед за хлапчуком з Лагойшчыны, то побач з юнаком з Белдзяржуніверсітэта, а потым імчуся цягнікам, лячу самалётам, шыбую папутнай машынай разам са знакамітым вершатворцам і прафесарам філалогіі, надзіва лёгка і дакладна пазнаючы час і геаграфію ягоных выпрабаванняў, вандраванняў, пакут і развагаў, захапленняў і расчараванняў. Будучы адным з самых адкрытых і паўнамоцных песняроў свайго хрышчонага вялікай вайной пакалення, паэт надзвычай моцна прывязаны да асабістай біяграфіі і бацькоўскіх мясцін. І яго адзінкавы, непаўторны чалавечы вопыт ніколькі не замінае шырокім грамадскім абагульненням, а яго плыткая Гайна раўнапраўна і натуральна ўпадае ў неспакойны акіян сучаснай беларускай паэзіі.

Верш, які адкрывае выбраныя творы, пазначаны 1946 годам. Апошняя дата ў двухтомніку — год 1980. Амаль тры з паловай дзесяцігоддзі жыцця паэта, краіны, свету… Колькі яны ўмясцілі гістарычных падзей, якія ўзрушэнні і перамогі, якія ўзлёты розуму і працы, перыяды прыдзірлівага самааналізу і нават пераацэнак! І можна смела сказаць, што ні адзін са зрухаў часу не абмінуў сэрца Ніла Гілевіча, не прайшоў бясследна для развіцця яго асобы і творчасці. Больш таго, Гілевіч заўсёды лічыў сваім абавязкам быць удзельнікам падзей, спадзеючыся, што яго слова не лішняе ў страі змаганцаў і стваральнікаў. Хоць крытыкі і папракалі яго за свядомую прывязанасць да так званай «патрэбы дня», за публіцыстычную завостранасць, але ўжо з самага пачатку літаратурнай працы яны не маглі ў яго знайсці і ценю сацыяльнай аморфнасці і фармальнага штукарства. Ясна заяўленая і таленавіта сцверджаная грамадзянская пазіцыя — вось што заўсёды вызначала творчасць і дзейнасць Ніла Гілевіча.

На мой погляд, наша літаратурная крытыка недастаткова ўважліва і беражна прачытала напісанае паэтам. У яго багатым і шматгранным творчым набытку недаацэненымі засталіся цэлыя раздзелы. Нават у грунтоўных акадэмічных даследаваннях сучаснай беларускай паэмы, напрыклад, аб рабоце Н. Гілевіча ў гэтым жанры ўпамінаецца толькі мімаходзь, а між тым і «Сто вузлоў памяці», і «Гарыць, гарыць мая Лагойшчына», і «Недзяленя», і «А дзе ж тая крынічанька?», і «Заручыны» робяць гонар не толькі самому аўтару. Гэта ўсё праўдзівыя і арыгінальныя рэчы з глыбокім пранікненнем у балючую народную памяць і тонкую чалавечую псіхалогію, дарэчы, самабытныя па форме.

Манера іх— сапраўды эпічная, з элементамі той спакойнай апавядальнасці, якой так не хапае часам сённяшняй нашай паэме. Нефарсіраванасць прамаўлення, бытавая дакладнасць не зніжаюць нікольki іх пафасу і трагічнага — што бывае даволі часта — гучання, а прыватнае і агульнае паядноўваюцца ў жыццёвай праўдзівасці і пераканаўчасці. Традыцыйныя ў некаторых знешніх прыкметах, творы гэтыя яркія і сучасныя сваімі думкамі і праблемамі, канцэпцыяй чалавечнага ў вірлівым акіяне дваццатага веку. Характары, выведзеныя ў іх, вельмі натуральныя і душэўныя, не спрошчаныя ні ў сваім горы, ні ў сваім шчасці.

Не разумею таксама, чаму дасюль не сказана на поўны голас і аб тым, што гумар і сатыра Ніла Гілевіча — прыкметная з’ява ў нашым не такім ужо багатым на дасягненні вясёлым цэху літаратуры. Ад мяккай, нават сарамяжлівай усмешкі да здзеклівай іроніі і бязлітаснага сарказму — такі арсенал «зброі» паэта. Злоснае ягонае слова, як правіла, бярэ на прыцэл не выпадковую драбязу побыту, а балючыя з’явы і праблемы нашага агульнажыцця, выносячы ім прысуд суровы па сутнасці і бліскучы па форме. Агромністая папулярнасць такіх сатыр, як «Сучасныя замовы», «Футбол», «Кузьма», «Як я рашыў набыць машыну», «Кантора», — найлепшае сведчанне і сацыяльнай важнасці, і высокай мастацкай вартасці гэтай дзялянкі творчасці Н. Гілевіча. Пры гэтым хачу адзначыць, так сказаць, зыходныя пазіцыі ўсіх гэтых рэчаў: народную, а дакладней — сялянскую філасофію жыцця з яе непахіснай верай у чалавека, з рашучым адмаўленнем і асуджэннем зла ва ўсіх яго праявах, але абавязкова асветленым мудраю дабрынёю, памяркоўнасцю і нават літасцю да тых, хто памыліўся ці нават збочыў. Сатыра і гумар тут найчасцей разлічаны не на «забойства» вінаватага, а на «вылячэнне» яго. Адсюль і «вясковая» няспешнасць апавядання, і — звычайна — не адна, а некалькі сітуацый, што выкрываюць «падсуднага», і прысутнасць «я», калі з-пад «абстрэлу» не выводзіцца і лірычны герой. І ўсё гэта пазначана бясспрэчнай індывідуальнасцю паэта, непаўторнасцю яго асобы, урэшце, калі хочаце, характэрнымі толькі для яго родных мясцін прыёмамі смеху.

Лірыка Ніла Гілевіча даўно і высока ацэнена, яна заняла адметнае месца не толькі ў таленавітым страі равеснікаў — Сцяпана Гаўрусёва, Еўдакіі Лось, Петруся Макаля, Уладзіслава Нядзведскага, — але і ва ўсім гулкім паэтычным цэху беларускай літаратуры з яго старэйшымі і маладзейшымі майстрамі. Прыцягнула яна ўвагу ўжо сваімі першымі ўзлётамі, калі ўзнёсла і

нястрымна зазвінела ў ёй шчасце вернутага да міру і радасці юнацтва. Тады нарадзілася, напрыклад, цэлая «студэнцкая» нізка вершаў, вельмі сардэчных і светлых («Дзяўчына з хімфака», «На трамвайным прыпынку», «Матрос з эсмінца», «Пасылка» і інш.), настрой якіх можна выказаць радкамі з «Маёвага»: «А ў душы — прасторна, лёгка, весела…». Тады ўжо праявілася ўмельства Гілевіча некалькімі штрыхамі акрэсліць запамінальны малюнак, даць пачуццю магчымасць поўна і непасрэдна выліцца ў вершы. Пазней з гэтым шчырым пачуццём надзейна паяднаецца неспакойная думка і глыбокая жыццёвая дасведчанасць. А тады разгортваўся, дужэў і шырока выяўляўся не абы-які паэтычны тэмперамент, што дазволіла таму-сяму з крытыкаў назваць Ніла Гілевіча трыбунным і публіцыстычным.

Трыбуннасць паэзіі для мяне ніколі не была азначэннем яе слабасці або ніжэйшасці. Як смешна прызнавацца ў каханні на ўсю магутнасць свайго голасу, так і недарэчна будзіць і клікаць да дзейнасці стоеным шэптам — усяму, як кажуць, сваё месца і свой час. Напружаны, мускулісты верш, дзе відны і жывая страсць, і рашучы жэст, і бескампрамісная пазіцыя, верш, выкліканы сапраўдным узрушэннем і жаданнем неадкладна падзяліцца з іншымі чымсьці вельмі важным і хвалюючым, не можа не абудзіць у душы чытача гарачага і ўдзячнага водгуку. Хіба не трыбунная вось гэтая страфа:

Вядзі ж мяне ўдалеч —
За ўсе гарызонты, бальшак!
Праз будні імчы
І праз святы,
Праз дні і праз ночы —
Каб вецер Радзімы
Гудзеў несціхана ў вушах,
Каб дых захліпаўся,
Каб слёзы ўзбягалі на вочы!

Сапраўдная гэта паэзія? Бясспрэчна.

Удача Ніла Гілевіча ў тым, што ў лепшых вершах (дарэчы, і ў паэмах таксама) ён, нікольки не баючыся так званай гучнасці, узнімаецца да вышынь пафаснасці, да трыбуннай публіцыстыкі, не зрываючы голасу і не губляючы пры гэтым паэтычнай вобразнасці. Таму, відаць, яго творы часта дэкламуюць са сцэны, уключаюць у школьныя хрэстаматыі.

Найлюбімейшая, найдаражэйшая тэма паэзіі Гілевіча — Айчына, бацькоўскі край і, значыць, родная мова, матчына песня,

гісторыя Беларусі. «Край мой беларускі, край!» — гэта не проста верш 1966 года, гэта найшчырэйшы выдых усёй творчай істоты паэта, ускрык любові, захаплення і спадзявання.

Зноў і зноў паўтараю,
Нібы клятву, імя:
Даражэйшага краю
Мне на свеце няма!

Гэта 1958 год.

Я хаджу, закаханы
У твае краявіды,
І шапчу як прызнанне:
О, мой край дарагі!
Зноў нясу табе ў споведзь
І трывогі, і крыўды,
І надзеі, і ўцехі,
І любоў, і грахі…

Гэта год 1962-і.

За хлеб, што ем, за песні, што спяваю,
За шчасце звацца іменем тваім —
Паклон, паклон табе, мой родны краю!
Ты — мой, я — твой, усюды і ва ўсім!

Гэта 1973 год…

Цытаты можна працягваць, адзначаючы ўзнёсласць і мілагучнасць радкоў, выверанасць думкі, непадробленасць пачуцця і паслядоўнасць у сыноўскім прызнанні. І не хочацца (ва ўсякім разе, мне) шукаць тыя літаратуразнаўчыя палічкі, на якія трэба раскласці гэтыя высока публіцыстычныя і глыбока лірычныя вершы. Яны — пра самае запаветнае, яны — паэзія.

Адзначу тут жа, што Ніл Гілевіч умее быць не толькі дакладным «графікам», а і тонкім «акварэлістам». Перачытайце «Цуд тварыўся…», «Вы шуміце, шуміце…», «Бярозы ў яркай стыні…», «Далёка ў полі, на пагорках варненскіх…», «Ах, якая над Гайнай купальская ноч!..» — і вы ўбачыце і мяккі малюнак прыроды, і паўтоны адчуванняў, і трымценне павуцінкі суму. Урэшце найлепшае пацвярджэнне гэтай здольнасці паэта — цэлая кніга васьмірадкоўяў, якая стала прыкметнай з’явай у нашай лірычнай паэзіі. У ёй, па-мойму, найбольш паядналі гілевічаўскі тэмперамент і немалы ўжо жыццёвы вопыт, сур’ёзнасць зместу

і добрая недасказанасць, мудрая ўсмешка і светлая элегічнасць. Я не люблю пераказваць, каменціраваць вершы, бо верш — гэта найлепшым і найкарацейшым чынам выказаная думка або настрой, і таму, разлічваючы на чуйны душэўны слых чытачоў, проста нагадаю два васьмірадкоўі з найбольш любімых і блізкіх мне:

Сцюдзёнага квасу мне гляк падала,
Сказала: «Прабуйце, пітво неблагое…»
А доле — блізняты: адно і другое
Ляпечуць і тузаюць край падала.

На рукі схапіла абодвух зараз —
Цалуе і кружыцца з імі па хаце…
Шчаслівыя дзеці.
Шчаслівая маці.
І смачны на дзіва бярозавы квас!

І яшчэ адно:

Як сумна-тужліва зязюля кукуе ў бары,
На познім змярканні, насупраць мядункавай ночы!
Адкуль гэта жальба — у розгар маёвай пары?
Адкуль гэты смутак — такі непрытворна сірочы?

Вячэрайце ў хаце, а я пастаю на двары.
Па мне не турбуйцеся — піце, гуляйце шчасліва.
Павінен жа нехта паслухаць, як сумна-тужліва
Зязюля кукуе на познім змярканні ў бары.

Пасля такіх вершаў не хочацца кідацца ў разважанні, хочацца проста ўдзячна памаўчаць, спрабуючы і ў сабе пачуць тую тужлівую зязюлю…

Азіраючыся сёння на паўвекавы жыццёвы шлях Ніла Гілевіча, не магу не сказаць яшчэ пра адну вельмі важную асаблівасць яго натуры, яго штодзённых турботаў. Ён — актыўны дзеяч нацыянальнай культуры. І гэта я кажу, адклаўшы ўбок яго паэтычны набытак, без якога наша беларуская духоўная скарбонка была б відавочна бяднейшая, — я маю на ўвазе яго выдатную перакладчыцкую дзейнасць, шматгадовую працу па выданні збораў песеннага фальклору, грунтоўныя навуковыя даследаванні, выкладчыцка-выхаваўчую работу ва універсітэце, нарэшце, яго палымяную публіцыстыку…

З лёгкай рукі павярхоўных рагатуноў у інтэлігенцкім асяроддзі да слова «дзеяч» прыклеілася адценне іранічнасці. А між тым сам ягоны корань паходзіць ад актыўнага дзеяслова «дзейнічаць» — працаваць, рабіць. І як нам яшчэ не хапае самаахвярных, дасведчаных работнікаў культуры, якія абсягам і значнасцю здзейсненага маглі б узняцца да ўзроўню дзеячаў! Ніл Гілевіч даўно адчуў гэта і (часам, можа, на шкоду галоўнаму свайму прызванню і абавязку — літаратурнай дзейнасці) самааддана працуе на родную культуру, жывучы яе праблемамі, дапамагаючы яе росквіту. Не па службовым абавязку, а па закліку нераўнадушнага сэрца ён, напрыклад, не прапускае ніводнага рэспубліканскага агляду мастацкай самадзейнасці, выступаючы пасля з яркімі артыкуламі. Не раз устрывожана і нават запальчыва пісаў ён аб халтуры ў так званых «песенных тэкстах». А колькі душэўнай энергіі і палемічных стрэл патрачана ім пры абмеркаванні праблем выхавання моладзі!..

Словам, і гэтую немалаважную частку жыцця і дзейнасці паэта мы сёння павінны абавязкова ўспомніць з павагай і ўдзячнасцю.

…У адным з вершаў Ніл Гілевіч прыгадаў старажытны беларускі звычай — перазовы, калі ў канцы вяселля малады кліча ў свой дом самых блізкіх, а перш за ўсё бацькоў «княгіні», каб паказаць ім сваю гаспадарку, падзяліцца самымі важнымі справамі і клопатамі. Думаючы пра сваю творчасць, дзе «танцавалі п’яна рытмы, закіпалі хмельна словы, ды нарэшце ўсё аціхла, уляглося, адшумела», паэт сам у сябе пытаўся:

Ці не час гасцей мне мілых
Запрасіць на перазовы?

І вось пара такіх «перазоваў» настала. І мы прыйшлі на іх — яго настаўнікі і старэйшыя таварышы, яго паплечнікі і вучні, тысячы і тысячы ягоных чытачоў. І я спадзяюся, што, як і мне, усім святочна і хораша на паэтычных перазовах майго даўняга блізкага сябра, знанага майстра беларускага мастацкага слова.

*1981*

# КРЫНІЧКА ПАД ВЕЧНЫМІ ЗОРКАМІ

Дарога, якой я езджу з Мінска на Полаччыну, да бацькоў, здаецца мне адной з самых прыгожых не толькі ў нашым краі, а і наогул на зямлі. Нідзе болей так соладка не тахкае маё сэрца, як тут, калі па баках асфальтавай стужкі выносна і спакойна стаяць бары, або калышуцца няроўнай цяжкою хваляю жыты, ці блішчаць сярод някошаных траў чыстыя люстэркі азёр. Нідзе болей так лёгка не сграюцца летуценнаю ўсмешкаю мае вочы, як тут, калі ўгледжу здалёк купчастую балацявіну, ці каржакаваты дуб на глiністым узгорку, або жвавую рачулку ў густым лазняку. І нідзе болей няма такой смачнай і халоднай вады, як у «броўкавай» крынічцы пад Лепелем.

А стала «броўкаваю» яна для мяне пятнаццаць гадоў назад, у незабыўную летнюю паездку з Петрусём Усцінавічам на радзіму, у ягоныя Пуцілкавічы, барадулінскія Ушачы і мой Полацк. Арганізатарам і «фундатарам» таго падарожжа па праву старэйшага і мудрэйшага сярод нас быў Броўка. Гэта ён некалькі тыдняў перад тым настойліва агітаваў нас з Рыгорам Барадуліным і Алесем Савіцкім, які загадваў у той час сектарам літаратуры ў аддзеле культуры ЦК КП Беларусі, кінуць свае журналісцкія і кабінетныя справы і паехаць «дадому». Загадзя нарыхтаваў ён неабходны «рыштунак» і сонечнаю раніцай весела і рашуча скамандаваў: «У дарогу!»

Як на першы, недасведчаны погляд, дык час тады быў у нашых узаемаадносінах не самы спрыяльны для сяброўскіх паездак. Яшчэ не забыліся баталіі бурнага пятага з'езда пісьменнікаў рэспублікі, дзе мы, маладзейшыя, з юначым максімалізмам і бескампраміснай рашучасцю ваявалі супроць літаратурнага бюракратызму і залішняй асцярожнасці, за грамадзянскую смеласць ва ўсім. Неяк само сабою атрымалася (а можа, той-сёй з тагачасных хітрых нашых дарадцаў і дапамог гэтаму), што ўвасабленнем ці, ва ўсякім разе, абаронцам усяго старога, «несучаснага» стаў для нас перш за ўсё кіраўнік пісьменніцкага Саюза, удастоены ўсіх магчымых узнагарод і званняў, упэўнены і дзелавіты Пятрусь Усцінавіч. Супроць яго пасыпаліся нашы самыя адточаныя стрэлы, супроць яго прагаласавалі многія з нас. Вядома, тады па сваёй мілай недасведчанасці мы не маглі ведаць, які гэта няпросты хлеб — кіраўніцтва творчай арганізацыяй, не маглі нават здагадвацца, як цяжка ў гэтай «скуры» быць абсалютна аб'ектыўным, як многа значаць пры гэтым не толькі талент, аўтарытэт, характар, а і дысцыпліна, а то і неабходнасць. Мы

хацелі праўды і справядлівасці ў чыстым выглядзе, без скідак на складанасць часу, без дыпламатыі і нейкіх адступленняў. Як і ўсе маладыя (і дзякуй за гэта маладосці!), мы былі непапраўнымі ідэалістамі і патрабавалі ад старэйшых больш, чым ад сябе.

Пасля, з гадамі, з надыходам сталасці прыходзілі да нас і спакойная развага, і непазбежнае прыняцце жыцця ва ўсёй яго шматабліччасці, і здольнасць дараваць не толькі сабе, і права на літасцівасць, і цвярозае ўменне вызначаць галоўнае і адкідаць неістотнае. Пасля адбыўся яшчэ адзін наш «суд» над Броўкам, які адкінуў нямала ранейшых абвінавачанняў і перагледзеў нашы суровыя ацэнкі. Але то было пасля. А тады, у майскія дні 1966 года, з трыбуны і ў кулуарах з'езда мы горача і нават зацята «чысцілі» Броўку і кідалі ў ягоны дагледжаны агарод не толькі каменьчыкі, а і ладныя валуны. У сваёй жорсткай патрабавальнасці і бязлітаснай прамаце мы не думалі тады, які боль, якія раны наносілі сэрцу славутага паэта, на якія пакутныя дні і ночы роздуму асуджалі яго душу…

Дык вось пасля таго памятнага мая прайшло не так і багата часу, калі — ужо не кіраўнік Саюза пісьменнікаў рэспублікі, а галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі — сівы, але рухавы і гаманлівы Пятрусь Усцінавіч запрасіў нас, трох землякоў-палачан, у падарожжа на радзіму. Ехалі мы ўзбуджаныя і шчаслівыя, з жартамі і нават прыпеўкамі. І хоць на Броўку быў пінжак з ягонымі высокімі рэгаліямі, быў ён сярод нас ці не самы шумлівы і радасны, быццам не існавала ні таго бурнага з'езда, ні доўгіх хвілін роздуму, ні горкай крыўды. Зрэшты, Алесь Савіцкі быў тут, як кажуць, ні пры чым — у маі 1966 года ён выступаў зусім не ў падтрымку нашай шчырай гарачнасці. Але гэта не мела цяпер значэння, і ягоныя празаічная маўклівасць і задумлівасць ніколькі не замінаалі нашай узнёсласці і нават святочнасці.

Мільгалі па баках дарогі сосны, вецер даносіў у адчыненыя вокны машыны густы водар летняга лугу, звінелі пад лёгкімі хмаркамі нястомныя жаўранкі, — і здаваліся мы адзін аднаму такімі блізкімі і роднымі, як болей ніхто і нідзе на свеце. Ва ўсякім разе маё сэрца поўнілася лагоднасцю і замілаваннем. Гаварылі аб усім, дэмакратычна перабіваючы адзін аднаго, падхопліваючы чужую думку і галасна рагочучы з удалага жарту. Паміж намі ўсталяваліся тыя прастата і даверлівасць, якія бываюць толькі сярод невыпадковых і з'яднаных аднымі інтарэсамі людзей.

Ва Ушачах Петруся Усцінавіча ўрачыста і трохі афіцыйна сустракала раённае начальства, паказвала яму (а разам з ім і

нам) свае нешматлікія, часцей за ўсё правінцыйныя, нямодныя новабудоўлі, густа сыпала пры гэтым не надта высокімі паказчыкамі і з імпэтам дзялілася эканамічнымі планамі. Броўка слухаў усё з вялікай увагай, удакладняў, перапытваў, радасна ківаў галавой і, калі выехалі з мястэчка і па пыльнай палявой дарозе падаліся на Новыя Дольцы, уздыхнуў:

— Небагаты край наш, хлопцы. Пясочак, лясы ды балоты. Чым тут здзівіш свет? Ураджаі слабыя, надоі не вышэй сярэднерэспубліканскіх. Але якія людзі, хлопчыкі, якія людзі! Мала іх засталося, пабіў, папаліў іх фашыст, але якой душы людзі! Вось пазнаёмлю вас з сястрычкай маёй, Настачкай, з мужам яе, партызанскім кавалём Пярэднем, пабачыце…

Пуцілкавічы аказаліся невялікай вёскай з небагатымі, але акуратнымі хатамі, з некалькімі маленькімі садкамі і жвавай рэчачкай, падобнай на вясновы ручай, дзе заўсёды лавіліся, як весела паведаміў нам Пётр Усцінавіч, печкуры і ракі. Настачка выявілася прыземістай, рухаваю жанчынай, а яе муж — спакойным дзедам з пышнымі рыжаватымі вусамі і добрымі стомленымі вачамі. Абняліся яны з чаканым дарагім госцем перад ганкам — і партызанскі каваль змахнуў са шчакі няпрошаную слязу, а цётка Насця (па ўсім відно было і адчувалася, што безумоўны камандзір тут — яна) закамандавала ўсімі намі.

Вячэралі на ўскрайку гарода, паставіўшы доўгі стол (прыехалі ж пабачыцца з Броўкам і з раёна, і з сельсавета) проста ў бульбяныя баразны. Пятрусь Усцінавіч быў нястомны і несціханы, кожнаму знайшоў сваё добрае слова, з кожным пасядзеў, кожнага распытаў. У скупым святле прымацаванай недзе збоку электралямпачкі і высокага бледнага месяца здаваўся ён мажным і высокім, а голас ягоны, упэўнены і імпэтны, гучаў у цішыні асабліва вольна і пpасторна. Стомленая беганінай гаспадыня, шчаслівая цётка Насця, тая адзіная сваячка, што жывой вярнулася са страшнага далёкага Асвенціма, дзе разам з тысячамі іншых спалілі і маці Броўкі, глядзела на свайго стрыечнага брата з такім захапленнем і замілаваннем, што, здавалася, бачыць і чуе ў дружнай гамане яна толькі яго аднаго, дарагога і любімага, гонар і славу не толькі ўсёй радні, не толькі сваёй Ушаччыны, а і цэлай краіны. Такой дабрынёй і такой расчуленасцю свяціўся яе сялянскі твар, што толькі тут і можна было лёгка і проста зразумець і неабходнасць паэзіі ў жыцці, і злучанасць людзей у адным лёсе, і высокі сэнс слоў аб духоўным багацці народа.

У той вечар Броўка мяне ўразіў унікальнай здольнасцю ўмець быць нароўні з самымі рознымі людзьмі — калгаснікамі,

партыйнымі работнікамі, вайскоўцамі. Ён не ўзнімаўся пад імі, але і не апускаўся спецыяльна — быў абаяльным і даступным, натуральным і непаўторным, не трацячы пры гэтым ні годнасці свайго афіцыйнага становішча, ні мудрасці свайго жыццёвага вопыту. Скажу адразу, што гэткі зайздросны, рэдкі дар я пасля амаль не сустракаў…

Спалі мы (вядома ж!) на сене ў новай пуні, пасярод чароўнай вясковай цішыні, супакоеныя чыстым водарам сухой травы і абвялых красак. Броўка таксама лёг з намі і ранічкай пабудзіў мяне:

— Хай хлопцы яшчэ паспяць, а я табе хачу паказаць маю дарогу.

І вывеў за вёску, да блізкага лесу, дзе ў густым маленніку ўжо дзумкалі пчолы, дзе аб вузлякі каранёў спатыкалася нешырокая сцяжына.

— Гэта мая дарога ў жыццё, — ён не хаваў расчуленасці. — Па ёй я ажно да Барысава хадзіў, адносіў сельсавецкія справаздачы, прыносіў кніжкі… Колькі перадумаў тут, колькі мар выспеліў, колькі радкоў знайшоў!..

Мы прыселі на ўзгрэйку на старыя пні, падставілі яшчэ ласкаваму сонцу твары і надоўга замоўклі. Я не ведаю, аб чым думаў, што ўспамінаў Броўка, а вось мне тады востра і ясна адчулася прывязанасць яго да роднага кутка, непарыўная еднасць ягонай паэзіі з біяграфіяй і яго самога, і ягоных пуцілкавіцкіх рэчак і сцежак, і ягоных ссівелых ужо равеснікаў. Здавалася, гэта тут самі сосны нашапталі яму: «Лясы наддзвінскія, лясы! Не знаю большае красы…» І яшчэ захацелася мне шчыра выкласці яму матывы і прычыны нашай з’ездаўскай «бітвы», у якой быў я адным з самых актыўных і адкрытых. Але не асмеліўся…

Прыпякло сонца, мы ўзняліся, няспешна пратупалі ў засені некалькі кіламетраў і, амаль нічога не кажучы адзін аднаму, вярнуліся да ранішняга гасціннага стала. На першы погляд, дзіўная, неабавязковая прагулка, а вось у памяці маёй засталася яна назаўсёды: лясная сцяжынка, старыя сосны, сонца над вершалінамі, звонкі гуд у малінніку і супакоенае маўчанне, поўнае глыбокага сэнсу і ўзаемаразумення. Можа, якраз тады, хоць і не сказалі адзін аднаму нічога, мы паразумеліся і «памірыліся»…

Пасля мы сядзелі з землякамі на партызанскіх могілках каля Пуцілкавіч, доўга гаварылі ва Ушачах з ласкаваю Кулінай Андрэеўнай — маці Рыгора Барадуліна, завіталі і да маіх бацькоў, у цесны дом у сямі кіламетрах ад Полацка. Мой бацька,

стары камуніст, цяжка паранены пад Ржэвам, адразу знайшоў у Броўку не проста цікавага субяседніка, а надзіва блізкага яму па духу і лёсу чалавека. Яны з Петрусём Усцінавічам амаль з ходу закідалі адзін аднаго ўспамінамі аб першых вясковых партыйных ячэйках, аб калектывізацыі, аб горкіх днях былой вайны. Мне падалося, што нават знешне яны былі вельмі падобныя, вылепленыя адным полацкім краем, адным гарачым часам, — абодва хударлявыя, з уважлівымі вачамі і мясістым носам, з рашучымі жэстамі рук і імклівай хадой. Спадабаліся яны адзін аднаму — гэта было відно адразу — і развітваліся доўга, як даўнія сябры. Бацька мой, звычайна суровы і негаваркі, расчуліўся, расцалаваў Броўку, усё прасіў астацца начаваць. Але мы спяшаліся — і з першымі начнымі зоркамі рушылі ў дарогу.

Недзе за Полацкам Пятрусь Усцінавіч павярнуўся да мяне з пярэдняга сядзення і сказаў:

— Добры ў цябе бацька, Генадзь, неспакойны і нераўнадушны. Вось цяпер я зразумеў цябе, і гарачнасць, і задзірыстасць тваю зразумеў. Гэта ў цябе ад бацькі… — І раптам радасна засмяяўся: — А і я такі быў — калючы, рызыкоўны. Са мною, брат, таксама ў свой час клопату хапала. — На хвілінку змоўк і ці то наказаў, ці то папрасіў ціха: — Беражы бацьку…

Далей ехалі моўчкі, дружна драмалі пасля клопатнага дня і шчодрага застолля. А можа, Броўка і не драмаў, бо гэта ён спыніў машыну і паклікаў нас:

— Выходзьце, хлопцы, — мая крынічка…

Ён упэўнена спусціўся з абочыны, нахіліўся да зямлі і набраў поўныя прыгаршчы крынічнай вады. Мы з Рыгорам таксама зачэрпнулі далонямі — вада была сцюдзёная, чыстая, вельмі смачная.

— Тут у мяне заўсёды прыпынак быў, — растлумачыў Броўка. — Бягу ў Барысаў ці Бягомль напрасткі, дык тут перадыхну, нап’юся, твар спаласну… Я во старэю, слабею, а яна ўсё булькоча, як вечная…

Ён абняў нас з Рыгорам за плечы, хацеў клікнуць Алеся Савіцкага, які празаічна пасопваў у машыне, але перадумаў, махнуў рукой і неяк па-змоўніцку сцішана сказаў:

— Вам аддаю яе, хлопцы… Вам яшчэ вунь колькі дадому ездзіць — не забывайцеся пакланіцца ёй.

Мы з Рыгорам дружна запярэчылі: будзем ездзіць разам, толькі разам… Пятрусь Усцінавіч не перабіваў, але настрою не памяняў:

— Гэта, хлопчыкі, апошняя мая «гусарская» паездка на радзіму. Чуе маё сэрца, што болей такога не будзе. Ні такой ночы, ні такіх зорак, ні такой цішыні…

Вось тады нарэшце і пагаварылі мы пра пяты пісьменніцкі з'езд, пра нашу маладую «апазіцыю», пра няспраўджаныя пасляз'ездаўскія надзеі.

— Адразу пасля з'езда я перажываў, — прызнаўся Броўка. — Не разумеў нават спярша, чаму так адбылося. Хацеў заўсёды, як лепей, а тут столькі галасоў супраць… Пасля разабраўся ва ўсім, пашкадаваў, што не дужа блізкі быў з маладымі, што пазнавата адчуў, як рэзка змянілася жыццё ў апошнія гады. І пайшоў прасіцца з Саюза… — Ён памаўчаў, уздыхнуў. — Цяпер я на вас не злуюся. Нават удзячны вам. — Мы хмыкнулі. — А вы не смейцеся. Каб не той з'езд, так бы і сядзеў у пісьменніцкай канторы. А я энцыклапедыю раблю, першую ў гісторыі беларускага народа. Гэта вам не жартачкі. Гэта, хлопчыкі, помнік нерукатворны, не абы-які. І зраблю! — ён нават голас павысіў, быццам хтосьці засумняваўся. — Пабачыце, зраблю. Не горшую за іншыя. Няма чаго нам прыбядняцца… Вось толькі б дажыць, каб усе дванаццаць тамоў на стол пакласці…

Пасля шмат разоў я пераконваўся, якая зоркая ў таленавітых людзей інтуіцыя, як тонка прадчуваюць яны сваю будучыню. А тады, прызнацца шчыра, рашыў, што песімістычныя ноткі ў настроі Броўкі ідуць трохі ад старэчага кволення, трохі ад залішняй расхваляванасці…

Праз некалькі месяцаў Петрусю Усцінавічу ў Маскве зрабілі надзвычай складаную, цяжкую аперацыю — выразалі дзве трэці страўніка. І яшчэ адна наша сумесная паездка на Полаччыну, якая ўсё ж адбылася, сапраўды ўжо не была «гусарскай»…

Пасля той доўгай размовы пад высокімі зоркамі ля жвірыстай крынічкі адносіны з Петрусём Усцінавічам у мяне і ў Рыгора Барадуліна сталі вельмі блізкімі і шчырымі. Ён чытаў нам дома свае вершы, напісаныя ў падмаскоўнай бальніцы, клікаў на сямейныя застоллі ў дні нараджэння, пры любым выпадку праяўляў увагу і падтрымку. Помню, як ён да слёз крануў мяне, калі пасля размоў аб маім пераходзе з галоўнага рэдактара «Маладосці» на пасаду старшыні рэспубліканскага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні пайшоў да першага сакратара ЦК КПБ Пятра Міронавіча Машэрава і прасіў яго даць мне магчымасць цалкам прысвяціць сябе літаратурнай творчасці, паэзіі.

— Нічога, Генадзь, не выйшла, — пазваніў ён мне пасля гутаркі з П. М. Машэравым. — Трэба ісці. Культуру нашу за

нас ніхто рабіць не будзе. А тэлебачанне цяпер — вялізная сіла. Адкладзі вершы… на час… Я дамовіўся, каб доўга цябе там не трымалі, не болей трох гадоў… — І пажартаваў: — Калі раней не здымуць…

І ўсё гэта гаварылася і рабілася так натуральна, так лёгка, нібыта не забірала ні часу, ні сіл, ні нерваў. Чалавекам рэдкай справядлівасці і абавязковасці быў Броўка.

Пэўны час працуючы карэспандэнтам «Праўды» па Беларусі, я не раз пераконваўся ў гэтым.

Вось, напрыклад, такая невялічкая «дэталь». Бывала, закажаш каму-небудзь з пісьменнікаў артыкул ці проста водгук на важную падзею — і «выбіваеш» яго тыднямі, ледзь не пад прымусам. А Броўка, калі абяцаў, прыносіў спісаныя прыгожым почыркам старонкі дакладна ў тэрмін. Раней прынесці мог, а вось каб са спазненнем — ніколі. Дарэчы, такімі ж былі Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў — людзі рэдкай дысцыпліны і абавязку…

Апошняя сустрэча з Петрусём Усцінавічам была ў мяне роўна за тыдзень да яго смерці.

Ляжаў ён у лечкамісіі, рабілася яму ўсё горш і горш, — і да яго ўжо нікога не пускалі. Было ясна, што гэты рэдкі жыццялюб, неўтаймоўны і мужны чалавек, як тая тоненькая свечка, памалу згасае. Мне хацелася развітацца з ім жывым — і я пазваніў Броўкаваму сыну, папытаўся, ці не можна было б парушыць забарону дактароў. На маю радасць, Юрый Пятровіч не толькі падтрымаў маё жаданне, а і параіў, калі лепш пайсці ў бальніцу.

Броўка быў відавочна слабы, ушчэнт выпетраны ненажэрнай хваробай. Патухалі ягоныя добрыя, даверлівыя вочы, і стаў ён непрывычна ціхім і прыгорбленым. Убачыўшы мяне, узрадаваўся, успыхнуў, усхапіўся з ложка, як раней, але тут жа прысеў і запрасіў мяне:

— Сядай побач. Раскажы, што там, на волі…

У вокны біла зыркае сакавіцкае сонца, на двары ўладарыла вясна — і я, стараючыся быць вясёлым, адказаў:

— Зіма канчаткова здае пазіцыі…

Броўка хуценька падхапіў:

— Ага. Зямля адтае, цяплее… Клопатаў дабаўляецца… — І настойліва папытаў: — Як з сяўбой будзе? Што там на Віцебшчыне нашай, можа, чуў?.. Як жывёла з зімоўкі выходзіць?

Я, як мог, расказаў, што ведаў: і што старыя прадказваюць вясну дружную і цёплую, і што пагалоўе ўдалося захаваць, і што лета павінна быць спрыяльным для ўраджаю…

Ён слухаў, бледны твар яго святлеў, а рукі на каленях неяк спакайнелі, пальцы перасталі нервова церабіць край прасціны.

— А я во слухаю перадачы вашы. — І ўсміхнуўся больш сабе, чым мне: — Можна сказаць, стаў заслужаным радыёслухачом рэспублікі. Калі не сплю ды не чытаю, дык вушы абуваю «слухаўкамі» (гэта так старыя некалі навушнікі называлі). — Многае падабаецца. І накірунак перадач, і падбор вершаў і песень. Але глядзі, браце, за мовай. Так ужо яе калечаць некаторыя, што крычаць хочацца. Газеты даўно аканцылярыліся, кальку перажоўваюць, як жвачку. Нават у прозу лезе гэты канцылярыт. А наша жывое слова такое ж мілагучнае, такое дакладнае і вобразнае!

Я памкнуўся паскардзіцца, што і школа, і журфак БДУ зусім мала звяртаюць увагі на вывучэнне роднай мовы, але ён толькі кіўнуў са згодай і пасьпяшаўся закончыць думку:

— Калі мы не зберажом, не захаваем яе, дзецям нашым ва ўсёй красе не перададзім, не будзе каму і не будзе чаго берагчы і развіваць. — І зноў паўтарыў ужо чутае раней: — Культуру нашу за нас ніхто рабіць не будзе.

Пятрусь Усцінавіч перадыхнуў, бо маналог гэты, відаць, забраў у яго нямала сіл, і папытаўся, ці даўно бачыў я Рыгора Барадуліна і што ён робіць. Да Рыгора ў Броўкі былі асабліва прыязныя адносіны. Ён шчыра любіў свайго ўшацкага земляка, высока цаніў яго рэдкі паэтычны талент і па-бацькоўску бурчаў, папракаючы за бытавую раскіданасць і неарганізаванасць.

— Перадай гэтаму баламуту прывітанне. — І зноў аб нечым задумаўся: — Пішыце, хлопцы, чэсна і многа пішыце. Час пасля разбярэцца, дзе добрае, а дзе не вельмі. Але трэба, каб было з чаго выбіраць. Пішыце…

Ён памкнуўся мяне правесці да дзвярэй і пахіснуўся. Я падхапіў яго, абняў — і рукі мае жахнуліся ад таго, які худы і амаль бязважкі быў Броўка. Але ён не даў мне падтрымаць сябе, горда і рашуча адвёў мае рукі і сказаў:

— Я сам. Не крыўдзі, Генадзь.

Ён правёў мяне да дзвярэй. І абняў на развітанне. Цяпер ужо ў апошні раз…

…Хоць не так часта, як хацелася б, але кожны год я езджу дадому па самай любімай і самай прыгожай у свеце дарозе.

І заўсёды спыняюся непадалёк ад ціхай, схаванай у лазняку і алешніку рэчкі Эса, каля «броўкавай» крынічкі. Нехта ўзяў яе ў бетон, зрабіў акуратныя сходцы да яе. Праз дарогу вырас даволі прыгожы церамок дарожнага кафэ. Але вада ў крынічцы засталася такой жа чыстай і смачнай.

П'ю яе з далоні і ўспамінаю:

Калі надыдзе час спачыну,
Адна ёсць просьба да зямлі:
Накрый мяне крылом арліным,
Крыло галубкі пасцялі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Я ведаю, час прыйдзе гэткі —
Усё прачнецца пры вясне,
Як матылі, успыхнуць кветкі…
І нехта ўспомніць пра мяне.

Не ведаю, чаму мне заўсёды здаецца, што гэтыя выдатныя радкі нарадзіліся тут, на лясной дарозе, ля непрыкметнай беларускай крынічкі. І яшчэ здаецца мне такой вось чыстай і гаючай крынічкай паэзія Броўкі. Крынічкай пад вечнымі зоркамі.

*1985*

## НА ШАЛЯХ ГОРКІХ РАЗВАГ

*Выступленне на пленуме Праўлення СП БССР*

За той даволі доўгі, на жаль, перыяд нашай айчыннай гісторыі, які бескампрамісна названы «застойным», паўсюдна, і ў нашым творчым саюзе таксама, буйна ўзнялася і ўпэўнена набрала сілы цэлая кагорта паважных маўчуноў, якія па-філасофску ўсміхаюцца збоку ад гарачых дыскусій, з матэматычнай дакладнасцю вылічаюць так званы канчатковы вынік (цяпер гэта так модна гучыць!) і сваю сытую мяшчанскую раўнадушнасць аб'яўляюць жыццёвай мудрасцю. Можа, і цяпер у некаторых кабінетах іх пазіцыя здаецца патрыятычнай і разумнай, хаця, акрамя хітрасці і ўласнай выгоды, за ёй практычна нічога не стаіць, але як добра, што ў пераважнай большасці людзей яна ўжо не выклікае ні павагі, ні жадання да яе далучыцца. Гаварыць па сутнасці, адкрыта і, калі трэба, рэзка становіцца правілам — і я хачу пакарыстацца гэтым правілам разам з вамі.

Закрануць я збіраюся той бок нашага жыцця, які раней, нібы па ўсеагульнай джэнтльменскай дамоўленасці, быў абнесены высокім плотам невядома чыёй забароны і адно ўпамінанне якога выклікала ў таго-сяго сумненне ў «благонадежности» і балючым рэхам памяці кацілася на паўвека назад, да горкіх лёсаў Максіма Гарэцкага, Уладзіслава Галубка, Уладзіміра Хадыкі і дзесятка іх маладых паплечнікаў і таварышаў. А хачу падзяліцца няпростымі думкамі па так званаму нацыянальнаму пытанню, абнадзеены і заахвочаны словамі Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова: «Трэба прызнаць, што памылкі, дапускаемыя ў сферы нацыянальных адносін, іх праяўленні заставаліся ў цяні і гаварыць аб іх было не прынята. Гэта прывяло да адмоўных вынікаў, з якімі цяпер прыходзіцца мець справу».

У сваіх неспакойных, у выніку не аднаго дня і не адной ночы, развагах я не буду прыводзіць цытат славутых і любімых мною і вамі людзей, пастараюся (хаця мне з маім характарам гэта і дужа нялёгка зрабіць) стрымаць эмоцыі, якіх, дарэчы, было дастаткова і ў вядомай лімаўскай дыскусіі, і ў кулуарных ды інструктыўных каментарыях да яе. Вазьму сабе ў памочніка лічбы. Пры тым не так званыя «вывадныя», якія дазвалялі пры ўмелым жангліраванні імі рапартаваць аб неіснуючых манбланах першаякаснай бавоўны і ненароджаных атарах шашлычных ягнят. Вазьму лічбы ў іх натуральным выглядзе, змешчаныя ў агульнадаступных статыстычных даведніках, і пакладу іх на шалі спрэчкі, напрыклад, аб тым, што трывогі аб развіцці беларускай нацыянальнай культуры дарэмныя, і выступленні некаторых інтэлігентаў на гэтую тэму, мякка кажучы, прадыктаваны нядобрымі намерамі. Вось некалькі лічбаў.

Выданне кніг і брашур на нацыянальных мовах — сярэдні гадавы тыраж у мільёнах экземпляраў: на рускай мове — 1940 год — 345,7, 1981 год — 1565,8; украінцы — 1940 год — 41,3, 1981 год — 99,2; латышы — 1940 год — 2,4, 1981 год — 12,9; эстонцы — 1940 год — 2,2, 1981 год — 13,3 і г. д. Беларусь: 1940 год — 7,8, 1981 год — 7,9. Мы адзіная ў Савецкім Саюзе рэспубліка, дзе за 40 год практычна няма росту выпуску кніг і брашур на нацыянальнай мове.

Яшчэ адзін цікавы паказчык: колькасць выдання на кожнага прадстаўніка данай нацыянальнасці. Дадзеныя на 1981 год. Рускія — 11,4; эстонцы — 13,0; латышы — 9; літоўцы — 3,3; украінцы — 2,3; беларусы — 0,8. Мы адзіная ў Савецкім Саюзе рэспубліка, дзе на прадстаўніка карэннай нацыянальнасці не прыпадае нават аднаго выдання.

Яшчэ адна лічба, ужо цалкам тутэйшая. Тыраж беларускамоўнага «Буквара» (дарэчы, аўтар яго — наш калега Анатоль Клышка): 1972 год — 135 тысяч; 1980 год — 62,2 тысячы; 1986 год — 37,0 тысяч; 1987 год — 33,0 тысячы. Дарэчы, гэта дакладны паказчык таго, як скарачаецца колькасць першакласнікаў у беларускіх школах.

У сувязі з гэтым яшчэ адна лічба. Прырост насельніцтва і прырост людзей, што гавораць на нацыянальнай мове. Мы адзіная ў Савецкім Саюзе рэспубліка, якая за 1970–1979 гады дала пры прыросце насельніцтва 411 тысяч чалавек мінус 274 тысячы чалавек у валоданні нацыянальнай мовай…

Словам, ідзе відавочная, цяжка вытлумачальная агульнасаюзнай нашай логікай, тэндэнцыя на звужэнне ўжывання беларускай мовы, а значыць і на згортванне развіцця нацыянальнай культуры. А нам кажуць не хваляваца, нас пераконваюць, што ўсё ідзе нармальна, хаця пры перапісах 1959 года роднай мовай беларускую назвалі 84,2 % беларусаў, у 1970 годзе — 80,6 %, а ў 1979 годзе — 74,2 %. Бачыце, якія сучасныя тэмпы. Уяўляеце, якая была б узнята трывога, каб падобнае здарылася з надоямі малака ці прывагамі мяса… У рэспубліцы беларускай мовы не ведаюць 6,5 % беларусаў. Гэта таксама самы горшы паказчык сярод саюзных рэспублік краіны.

Мне могуць сказаць: а што вы хочаце, права кожнага чалавека — выбіраць сабе месца жыхарства і мову. Калі народ адмаўляецца ад сваёй мовы — значыць, яна яму не патрэбна. Давайце не будзем спяшацца з прысудам і зноў звернемся да лічбаў.

Перапіс 1979 года. У рэспубліцы роднай мовай лічаць беларускую 69,8 % усяго насельніцтва, рускую — 28,3 %. Роднай мовай беларускую назвалі 83,5 % беларусаў і 16,6 % рускіх (за што мы шчыра ўдзячны рускім). Валодаюць беларускай мовай 82,6 % усіх жыхароў рэспублікі, рускай — 81,9 %.

Ці не ранавата залічаць беларускую мову ў «неперспектыўныя»?

Тым болей, што мы добра помнім бойкіх пражэкцёраў, якія склалі доўгі спіс так званых «неперспектыўных» вёсак, ведаем, што, акрамя запусцення і чалавечых крыўд, нічога яны не далі ні полю, ні людзям. Дык ці варта гэты сумніцельны вопыт спрабаваць перанесці на такі тонкі інструмент гісторыі і культуры, як мова? Як можна не разумець відавочнага: «выключэнне» аднаго з элементаў шматнацыянальнай савецкай культуры — гэта збядненне яе, а значыць удар па агульнапралетарскай справе?

Кастрычнік даў нашай мілай старажытнай мове новы ўзлёт. Вялікі рускі народ велікадушна і высакародна даў нам сваю магутную, багатую і прыгожую мову як сродак сувязі і паразумення ў агромністай шматнацыянальнай сям'і. І як сардэчны старэйшы брат ён не папрасіў нічога ўзамен. Гэта нашы порсткія дамарослыя мяшчане і малапісьменныя чыноўнікі па сваёй гандлярскай і халуйскай логіцы вырашылі аддзячыць за гэта адмаўленнем ад сваёй, як ім здаецца, вясковай і замшэлай мовы. Вялікі народ і вялікую мову такі «падарунак» можа толькі абразіць. Сапраўдныя інтэрнацыяналісты не могуць паважаць і лічыць надзейнымі сябрамі тых, у каго няма пачуцця ўласнай годнасці, хто не адчувае сваіх каранёў, хто не хоча прадоўжыць лепшае, што выпеставана і перададзена нам продкамі. Я думаю, усе мы разам са з'ездам камсамолу Казахстана апладзіравалі словам таварыша Колбіна, што ён вучыць казахскую мову і праз год будзе гаварыць па-казахску. Вось гэта сапраўдны прадстаўнік вялікага рускага народа і сапраўдны сучасны партыйны кіраўнік.

Ёсць у нас факты адмаўлення ад роднай мовы? Ёсць. Не трэба рабіць выгляд, што іх няма або што яны зусім рэдкія. Гаворка ідзе пра тое, як ацэньваць гэтыя факты. Калі адмаўленне, адрачэнне ад старых бацькоў або няўцямных немаўлят мы дружна і гнеўна асуджаем у прэсе і на сходах як недаравальнае адступленне ад сацыялістычнай маралі, дык ці варта хаця б і ў падтэксце выдаваць за прагрэсіўнае адцуранне ад роднага слова?

Калі ў некаторых рэспубліках апошнім часам, на вялікі жаль, праявіліся вельмі небяспечныя спробы выдаваць нацыяналістычнае за нацыянальнае, то ў нас, як мне здаецца, ёсць неадольнае жаданне некаторых таварышаў усё нацыянальнае аб'явіць нацыяналістычным. Па сваёй неадукаванасці, малой духоўнай культуры, няўменні працаваць з людзьмі чыноўнікі ад ідэалогіі і педагогікі многія гады ў рэспубліцы не ўдзялялі неабходнай увагі нацыянальным адносінам, сваю бездапаможнасць у гэтых пытаннях прыкрывалі гучнымі лозунгамі і рапартамі. Спробы ж вучоных, пісьменнікаў, мастакоў зрабіць ім заўвагі, пакрытыкаваць іх практыку аб'яўлялі наскокамі нацыяналістаў. І калі не яны самі, то іх нашчадкі дажылі да нашых дзён. Заканамерны гістарычны працэс росквіту, узаемаўздзеяння, узаемаўзбагачэння і зліцця культур яны пачынаюць з канца — са зліцця, забываючы, што тое, што не расцвіло, не можа даць пладоў. Але ж хіба іх плады цікавяць? Ім карціць першымі адрапартаваць. Як тут не ўспомніць перасцярогу Уладзіміра Ільіча Леніна: «…трэба ўвесці найстражэйшыя правілы ад-

носна ўжывання нацыянальнай мовы ў іншанацыянальных рэспубліках, якія ўваходзяць у наш саюз, і праверыць гэтыя правілы асабліва старанна. Няма сумнення, што пад выглядам адзінства чыгуначнай службы, пад выглядам адзінства фіскальнага і т. п. у нас, пры сучасным нашым апараце, будзе пранікаць мноства злоўжыванняў… Для барацьбы з гэтымі злоўжываннямі неабходна асаблівая вынаходлівасць, не гаворачы ўжо аб асаблівай шчырасці тых, якія за такую барацьбу возьмуцца». Гэта з апошніх пісем і артыкулаў Ільіча, з яго палітычнага завяшчання. Калі не нада слухаюць самога Леніна, дык чаго тады чакаць?..

У заключэнне прашу вас не сумнявацца, што выдатныя дасягненні беларускай літаратуры, беларускай школы, беларускай навукі і мастацтва мне добра вядомыя і вельмі дарагія. Мне толькі дужа хочацца, каб яны былі яшчэ большымі, у што я веру.

*1987*

## КАЛІ Я ЎСВЯДОМІЎ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ…

Я дакладна не памятаю, калі ўпершыню адчуў сябе беларусам. Можа, тады, калі прыйшоў у школу і даведаўся, што тая мова, на якой вечарамі спявала маці, на якой злосна кляў фашыстаў дзед і малілася за наша здароўе бабуля, — беларуская. А можа, тады, калі настаўніца ажно за семдзесят кіламетраў пехатою прывяла нас, пяцікласнікаў, у Полацк і мы стаялі, узрушаныя, перад яшчэ не адноўленай, закапцелай, разбітай і ўсё роўна прыгожай Сафійкай і слухалі падобныя на казку апавяданні пра Францыска Скарыну і святую Еўфрасінню. А можа, тады, калі ў восьмым класе тры дзесяткі маладых глотак рагаталі з мяне на ўроку геаметрыі, бо я, наіўны вясковец, пачаў адказваць па-беларуску. Я і сёння ўдзячны таму старому настаўніку з першай полацкай школы, які не далучыўся да маіх аднакласнікаў (многія з якіх, дарэчы, былі дзецьмі вайскоўцаў, што з’ехаліся з розных куткоў Расіі і Украіны), а сумна пахітаў сівою галавою і ціха сказаў ім: «Вось ён гаворыць нязвычна для вас, а прадмет ведае, а вы не ведаеце і рагочаце…»

Калі я ўсвядоміў сябе беларусам, магу вызначыць больш-менш дакладна. Гэта адбылося пасля заканчэння універсітэта, пасля таго, як самахоць і з дапамогай сяброў зацікавіўся я

жывой гісторыяй роднай зямлі і адкрыў у ёй такія радовішчы славы, трагізму, розуму, дабрачыннасці, што цёпла сціснулася маё сэрца ад гонару і зашчымела ад болю, як позна ўсё гэта прыйшло да мяне. А потым яшчэ лёс падараваў мне дзесяткі дарог па далёкім і блізкім свеце, паглядзеў я на многія вялікія і малыя народы, паслухаў іх дзеячаў і пісьменнікаў — і ўпэўніўся, што, як любіў паўтараць Броўка, нам «няма чаго прыбядняцца» і мы даўно маем права на сваё законнае месца сярод роўных і паважаных. І разам з радасным усведамленнем сябе беларусам прыйшоў тады і нялёгкі ўнутраны абавязак не проста мець сваю нацыянальную годнасць, а і ваяваць за яе. Ваяваць часцей за ўсё не з нейкімі заморскімі ці заезджымі зласліўцамі і невукамі, а са сваімі чыноўнымі землякамі, якія з фанатычнай асалодай пісьмова і вусна лямантавалі аб унікальнай, нечуванай і нябачанай забітасці і цёмнасці свайго краю ў мінулым і аб яго уніфікаваным, «як і ва ўсіх», сучасным росквіце.

Памятаю, летам 1962 года на VIII Сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у Хельсінкі ўпершыню сустрэўся я з так званымі беларускімі нацыяналістамі. Былі гэта старэйшыя за мяне хлопец і дзяўчына, дзецьмі вывезеныя з нашай пакутнай неперaward зямлі ў абозах адступаючых акупантаў. Для мяне, сына камуніста з Расонскага партызанскага раёна, былі яны глыбока падазроныя і нават варожыя, хаця і праяўлялі ненасытную цікавасць да адбудаванага Мінска і навінак нашай прозы і паэзіі. Паміж намі ляжала вайна, і я не ўмеў, ды і не хацеў тады разбірацца ў заблытаных тонкасцях чалавечых лёсаў і супярэчлівых паваротах жыццёвых каляін. І калі ў час развітальнага абеду хлопец прапанаваў узняць чарку за Беларусь, я рашуча ўдакладніў: «За Савецкую Беларусь!» Усчалася яшчэ адна нервовая ідэалагічная дыскусія, у якой я даволі хутка перамог, папрасіўшы паказаць мне на карце ці ў міжнародным дакуменце, дзе ёсць яшчэ нейкая Беларусь, апроч той, што знаходзіцца ў поймах Прыпяці, Дняпра і Дзвіны і называецца Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай.

Хельсінкаўская спрэчка не была для мяне нечаканасцю ці дзівам. Дзівам было, калі і ў Мінску ў маладых гарачых прызнаннях у любові да маці-Беларусі пачыналі таксама шукаць нейкую іншую Беларусь, а не нашу адзіную, што мае прадстаўніка ў Арганізацыі Аб’яднаных Нацый.

Гісторыю перарабіць нельга — гэта даказана ўсімі народамі і ўсімі прарокамі, яе трэба дакладна ведаць, спакойна аналізаваць,

і яшчэ — бясстрашна браць у яе ўрокі. Баіцца гісторыі толькі той, хто не ўпэўнены ў справядлівасці свайго часу і сваёй пазіцыі.

У дачыненні да нашай беларускай гісторыі мяне заўсёды абражала фанабэрыстая (хай і хітра схаваная) перакананасць недавучаных кабінетчыкаў, што нічога сапраўды выдатнага, вартага еўрапейскай увагі, у ёй няма, усё добрае прынесена ці падказана некім і аднекуль збоку, а сваё (балоты, камары, каўтун, лучына) вартае хіба што спачування і жалю, і наогул, калі ўжо весці гаворку, дык пачынаць яе трэба з 1917 года…

Савецкі перыяд гісторыі Беларусі, бясспрэчна, даў ёй многа: зноў прыйшла такая жаданая і за стагоддзі забытая ўжо дзяржаўнасць; нарадзілася і па-волатаўску развярнулася найноўшая прамысловасць; зусім нечакана абудзіліся нетры і раскрылі цэлую кладоўку каштоўнейшых выкапняў; сфарміравалася сучасная па ўсіх сусветных мерках навука; закаласіліся багатымі ўраджаямі ўмела дагледжаныя нівы; сотнямі выбухнулі бліскучыя таленты пісьменнікаў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў… О, якімі сонечна яркімі і зайздросна шчаслівымі засталіся б навечна ва ўсіх летапісах гэтыя дзесяцігоддзі, па значнасці сапраўды роўныя вякам, каб нахабна не ляглі на іх чорны вусаты цень Сталіна і шэры брываcты цень Брэжнева! Не выкінеш з памяці (а так хацелася б!) выпеставаных імі орд дысцыплінаваных катаў і малапісьменных функцыянераў, што подласцю і рэпрэсіямі выбівалі мазгі і мужнасць краіны, а пасля самазадаволена плявалі ў распятыя спалохам душы, аб’явіўшы палітычным злачынствам нават натуральную ва ўсім цывілізаваным свеце чалавечую любоў да роднай мінуўшчыны, культуры і мовы!..

Нам, беларусам, яшчэ трэба ўсё гэта да канца асэнсаваць, нарэшце ўсёю грамадой усвядоміць сябе нацыяй, народам, дзяржавай — з даўняй і новай гісторыяй, з векавымі традыцыямі і даўгачаснымі перспектывамі, з уласнымі песнямі і годнасцю, каб з поўным правам сказаць сваёй роднай зямлі, як гаварылі ёй да нас, як павінны сказаць і пасля нас: дзякуй, што ты ёсць на свеце, жыві вечна!

*1988*

# НА СЛУЖБЕ ДАБРЫНІ І СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Не сумняваюся, што жыхары ціхіх пасляваенных Расонаў памятаюць прасторны па тагачасных уяўленнях раённы Дом культуры і самадзейныя спектаклі на прапахлай сасновымі дошкамі сцэне. Я і сёння, зусім без іроніі, называю тыя вечары ў цёмнай перапоўненай зале сапраўднымі святамі мастацтва. Гэта былі адзіна магчымыя тады шчаслівыя выпадкі сустрэч з «жывым тэатрам», бо па разбітых, гразкіх дарогах партызанскага краю часта не маглі прабіцца нават спрытныя «палутаркі», каб прывезці сталічных ці абласных артыстаў. Дык вось на той любімай усімі расонцамі сцэне трыумфаваў зусім малады яшчэ супрацоўнік раённай рэдакцыі з не па гадах рэдкай чупрынай і ўдумлівымі, трошкі сумнымі вачамі. Асабліва запомніўся мне ягоны Чычыкаў, дужа ж ужо хітры і самавіты. Усе мы, малыя і дарослыя местачковыя «тэатралы», верылі, што побач з намі вырастае выдатны актор — і, калі ён перабраўся ў Мінск, успрынялі гэта як заканамерны шлях абранніка Мельпамены.

Але ён артыстам не стаў. Ён выбраў сабе лёс журналіста, дарэчы, наколькі нялёгкі, настолькі і шчаслівы. І сцэна пры гэтым ад яго нікуды не ўцякла — вось ужо не адзін дзесятак гадоў, прыходзячы ў многія тэатры краіны, гледачы сустракаюцца з ім, саркастычным і ласкавым, суровым і расчуленым, заўсёды ваяўнічым і даверлівым.

Я кажу ўсё гэта пра знакамітага нашага драматурга Міколу Матукоўскага.

Мы нарадзіліся з ім на адной зямлі, у лясным, знявечаным вайною Расонскім раёне. Мы надыхаліся ўдосталь і мядункавым водарам лугоў і баравін, і горкім дымам пажараў і перастрэлак, і нагледзеліся ў дзяцінстве такіх пакут і жахаў, што да канца дзён сваіх і час, і людзей будзем судзіць меркамі таго жыццёвага вопыту. Недарма ж героі ягоных п’ес (ды і газетных публікацый таксама) у самым страшным праведным гневе, калі ўсё цямнее ў вачах і, здаецца, немагчыма знайсці патрэбнае слова, кідаюць у твар непрыяцелю: «Фашыст!» і як вышэйшую атэстацыю добрасумленнасці і надзейнасці паўтараюць строгую ацэнку бацькоў і старэйшых братоў: «Я з ім пайшоў бы ў разведку». Усё гэта настолькі арганічная асабістая пазіцыя М. Матукоўскага, што ён міжволі аддае яе дзейным асобам сваіх твораў, як правіла, надзённых і бескампрамісных.

У многіх інтэрв’ю пісьменнікі нярэдка гавораць пра адмоўны ўплыў доўгай журналісцкай практыкі на літаратурную

творчасць. І доля праўды, пэўна, у гэтым ёсць: газетныя законы злабадзённасці, аператыўнасці не могуць не абсякаць, не «габляваць» бязлітасна разгалінаванае, зялёнае дрэва мастацтва. Дык вось, успамінаючы выдатную журналісцкую работу карэспандэнта «Известий» Міколы Матукоўскага і ягоныя шырока вядомыя п’есы, я не магу не пазайздросціць радасна таму рэдкаму «кампрамісу», які яму ўдалося знайсці. Праз усё сваё творчае жыццё ён умела і беражна нясе кволыя сазлучаныя сасуды журналістыкі і літаратуры. Ніводзін яго карэспандэнцкі матэрыял не напісаны халоднай рукой бойкага інфарматара — у ім абавязкова адчуваюцца і трапяткая душа мастака, і чуйнае стаўленне да слова, і імкненне знайсці ўнутраную «драматургію», інтрыгу. І ні ў адной ягонай п’есе няма хітрага аб’ектывісцкага погляду «збоку», з адлегласці часу — яны дакладна выходзяць на самыя балючыя праблемы жыцця, рашуча ўмешваюцца ў вострыя грамадскія дыскусіі, адкрыта і горача даказваюць, сцвярджаюць, папярэджваюць. Нават па нашых сённяшніх «перабудоўных» крытэрыях і «Амністыя», і «Апошняя інстанцыя», і «Мудрамер» — творы па-сапраўднаму смелыя і мужныя…

У гісторыі савецкай прэсы не так ужо і багата выпадкаў, калі пасля крытычных публікацый здымалі з важных пасад высокіх чыноўнікаў. Часцей усё заканчваецца даволі памяркоўна — «указаць», «звярнуць увагу», «запатрабаваць», у крайнім выпадку — «аб’явіць вымову». А вось пасля артыкула «Цень адной памылкі» былі зняты міністр унутраных спраў, пракурор рэспублікі і іх першыя намеснікі. Думаю, што гэты прыклад дзейснасці друку доўга яшчэ будзе адным з надзвычайных. І не сам сенсацыйны факт мне хацелася б падкрэсліць, а тую рэальную адказнасць і мужнасць, якія браў на сябе журналіст, рыхтуючы матэрыял. Акрамя гранічнай дасведчанасці і дакладнасці, тут патрабаваліся яшчэ сумленнасць і прынцыповасць. І яны ў М. Матукоўскага былі.

Калі я пытаюся ў сябе, чаму ўсё-такі знаны драматург не кідае сваю турботную газетную справу, сярод многіх адказаў не на апошняе месца стаўлю асязальнасць канкрэтных жыццёвых сітуацый і канкрэтных чалавечых лёсаў, якую дае журналісцкая работа. Добра ведаючы Міколу Ягоравіча як вельмі спагадлівага, уражлівага і энергічнага, я разумею, наколькі важна яму бачыць «персаніфікаванымі» дабро і зло, розум і невуцтва, працавітасць і безгаспадарчасць, наколькі неадольная ў яго прага неадкладна ўмяшацца ў іх барацьбу і дабівацца найхутчэйшай перамогі

справядлівасці не ў прынцыпе, а «датычна» пэўнага выпадку і пэўнага чалавека. Ён — не з назіральнікаў сучаснасці, ён — з яе актыўных удзельнікаў і стваральнікаў.

І ўсё ж я думаю, што спектаклі па яго п’есах даюць не меншую выхаваўчую карысць, чым тэмпераментныя газетныя выступленні. Я не раз бачыў, як з рук у рукі перадавалі «Известия» з ягонымі артыкуламі, але з яшчэ большай гордасцю я чуў і як пыталіся пра лішні білецік каля тэатральных афіш з «Амністыяй», «Мудрамерам», «Апошняй інстанцыяй». Дык ці варта вылічаць меру ўздзеяння журналіста на драматурга і наадварот? Калі яны так добра дапамагаюць адзін аднаму, калі яны патрэбны адзін аднаму, не будзем расхістваць іх суладны палюбоўны саюз сваімі здагадкамі і літаратуразнаўчымі пошукамі. Але адну цікавую асаблівасць Матукоўскага-драматурга абавязкова хачу адзначыць. Зусім не спецыялізуючыся на фельетонах і будучы па натуры сваёй чалавекам разважлівым, інтэлігентным і мяккім, ён найбольшага прызнання дасягнуў сатырычнымі камедыямі. Парадокс? Не. Выпадковасць? Не. Сапраўды чулы і добры, ён ваяўнічы ў сваёй чуласці і дабрыні. Таму і выбраў для ідэйных баёў, разам з іншаю, і такую вострую, такую «забойную» зброю, як сатыра. І не ягоная віна, што і пасля здзеклівага рогату перапоўненай залы, пасля дружных апладысментаў асуджэння побач з намі ўсё яшчэ даволі ўпэўнена працягваюць жыць і дзейнічаць салавейчыкі і залівакі, божашуткавы і папсуевы, кічкайлы і вяршылы. Перамагчы іх на сцэне нярэдка куды лягчэй, чым у рэчаіснасці.

Што забяспечыла п’есам М. Матукоўскага такі бясспрэчны, такі працяглы і шырокі поспех («Амністыю», напрыклад, паставілі больш за сто тэатраў краіны, «Мудрамер» ідзе ўжо ў дваццаці)? Думаю, што перш за ўсё іх сацыяльная значнасць, іх абвостраная непрымірымасць да ўсялякай бездухоўнасці і несумленнасці, іх яркая сцэнічнасць. І яшчэ тое, што густа населены яны не пацешнымі дзівакамі і блазнамі, а рэальнымі грамадскімі тыпамі. Можа, часамі ім не хапае differentiation… 

…Часта, калі праходжу па ціхім Бранявым завулку Мінска, у туманнай раніцы ці ў вячэрнім змроку бачу ў знаёмым доме

асветленае яркай настольнай лямпай акно на другім паверсе і за ім — схіленага над пісьмовым сталом засяроджанага чалавека. Мікола Матукоўскі працуе. Можа, заканчвае свой чарговы праблемны артыкул для родных «Известий». Можа, складае пісьмо ў высокія інстанцыі з просьбай дапамагчы ў бядзе адзінокай удаве ці зняверанаму вынаходніку. Можа, рыхтуецца да інтэрв'ю з Васілём Быкавым ці Міхасём Савіцкім. Можа, занатоўвае ўражанні пасля цяжкой замежнай паездкі (а пабываў ён больш чым у пятнаццаці далёкіх краінах). А можа, пачаў сваю новую п'есу, самую запаветную, самую галоўную…

Што б ён ні рабіў, я ведаю: ён па-ранейшаму на службе дабра і справядлівасці. І я адчуваю сябе больш упэўнена на нашай неспакойнай зямлі.

*1988*

## ЛЮБІМЫ СЫН НАЦЫІ

*Слова пра Максіма Багдановіча ў бібліятэцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Нью-Йорку*

Усяго 25 свечак адпалала на зямным бяседным стале Максіма Багдановіча. Калі ў маі 1917 года пагасла апошняя, тоненькая і пахілая, побач не было ні сваякоў, ні сяброў, і выпадковыя людзі, якія паклалі ў камяністую крымскую зямлю высушанае туберкулёзам маладое цела, не здагадваліся нават, што хавалі аднаго з выдатнейшых беларускіх паэтаў, аднаго з самых любімых сыноў нацыі.

За 25 гадоў жыцця большасць з людзей паспяваюць толькі закончыць адукацыю ды яшчэ ажаніцца або сустрэць сваю нарачоную. А Максім Багдановіч за гэтыя кароткія імгненні вечнасці паспеў стаць адным з самых дасведчаных мужоў свайго часу, класікам роднай літаратуры. Народжаны ў Менску, асірацелы ў Гродне, вывезены пяцігадовым з Беларусі, ён на доўгія гады быў адарваны ад роднай зямлі, ад матчынай мовы і бабуліных казак, ад пошуму наднёманскіх бароў і вясёлага булькатання крынічак. Вучыўся ён у Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі, каханне сваё напаткаў над матухнай Волгай, а ўсе сілы і магутны талент аддаў да астатку, да апошняй хмельнай кроплі, «краіне-браначчы» — Беларусі. Маці перадала яму не толькі невылечную хваробу, а і нязломную адданасць нацыянальнаму духу.

Склаў М. Багдановіч свае першыя вершы ў пару ўздыму шырокай адраджэнскай хвалі, калі ад мужычых палеткаў, з нізін народнага жыцця ўзнімалася да вышыняў сусветнай культуры сакаліная сям’я маладых валадароў і выказнікаў думак беларусаў — Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун. Як і яны, ён быў дэмакратам і рамантыкам. Як і яны, ён пакутаваў ад галечы і несправядлівасці, якія панавалі ў родным краі. Але, у адрозненне ад сваіх выдатных паплечнікаў — дзяцей вёскі, ён быў выхаванцам горада і сынам інтэлігентаў. Таму і выпала яму першаму ў нашай літаратуры прынесці ў яе індустрыяльныя матывы і адчуванні гараджаніна, натуральную знітаванасць з шматграннай агульначалавечай культурай. Менавіта ў Багдановічавых строфах годна і вольна пасялілася айчынная гісторыя з яе помнікамі архітэктуры, з летапісамі і слуцкімі паясамі, з постацямі Скарыны і ваяроў-змаганцаў. Не выпадковымі падарожнымі, не экзатычнымі гасцямі, а ўдзельнікамі агульнажыцця выглядаюць у ягоных творах Рафаэль і Рэмбрант, Геракл і Антэй, Дантэ і Моцарт. Рэцэнзія на кнігу Рабіндраната Тагора, вольнае перайманне японскіх, іспанскіх, сербскіх, персідскіх, фінскіх народных песень, пераклады Авідзія, Гарацыя, Шылера, Гейнэ, Верхарна, Верлена, Пушкіна, Шаўчэнкі былі для зусім маладога Багдановіча надзейнымі нітамі, што дапамагалі ткаць непаўторны ўзор сваіх уласных скарбаў. І тая мова, якую дзяржаўнымі актамі забаранялі магутныя паланізатары і русіфікатары, у ягоных вуснах аказвалася надзіва мілагучнай і інтэлігентнай пры пераспеве з французскай, грэчаскай, нямецкай. Якраз на ёй ён даў бліскучыя ўзоры практычна ўсіх лірычных жанраў і форм — балады, элегіі, рамансы, эпіграмы, рандо, санеты, тэрцыны, актавы, трыялеты, скерца…

Будучы да танчэйшага нерва беларусам, Максім Багдановіч заўсёды пачуваў сябе часткаю чалавецтва, часцінкаю Сусвету.

Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы
У ціхую сінюю ноч
І сказаць:
Бачыце гэтыя буйныя зоркі,
Ясныя зоркі Геркулеса?
Да іх ляціць наша Сонца,
І нясецца за Сонцам Зямля.
Хто мы такія?
Толькі падарожныя — папутнікі сярод нябёс.

Нашто ж на Зямлі
Сваркі і звадкі, боль і горыч,
Калі ўсе мы разам ляцім
Да зор?

Гэта напісана ў 1915 годзе. Але хіба гэта не адчуванне нашага сучасніка, які зведаў радасці і цяжкасці касмічных палётаў, які жахнуўся бездані атамных катастроф і па-новаму ацаніў чалавечую дабрыню і спагаднасць?..

Так ужо здарылася, што ў Максіма Багдановіча не было кахання ў тым зямным шчаслівым разуменні гэтага слова, да якога мы прывыклі. Відаць, выбранніцы, якіх ён сустракаў на сваёй жыццёвай сцяжыне, не паспелі ў свой час ацаніць і ягонай тонкай душы, і ягонага высокага чыстага пачуцця. Але затое якія бясцэнныя пярліны любоўнай лірыкі пакінуў ён нам, каб многія і многія пакаленні беларусаў шапталі іх сваім каханкам як уласныя словы прызнання! Ён і ў гэтым абсягу творчасці быў майстрам, які яднаў годнасць і прыгажосць.

Мне доўгае расстанне з вамі
Чарней ад вашых чорных кос.
Чаму ж нядобры час прынёс
Мне доўгае расстанне з вамі?
Я пабляднеў ад горкіх слёз
І трыялет пачаў славамі:
«Мне доўгае расстанне з вамі
Чарней ад вашых чорных кос».

І ўсё ж самым гарачым, самым трапяткім, самым святым пачуццём Максіма была любоў да Радзімы, да маці-Беларусі. Яна зрабіла яго паэтам, яна дала сэнс ягонаму самаахвярнаму жыццю, яна пакінула яго ў памяці нашчадкаў. І менавіта яна, як гэта ні дзіўна на першы погляд, выклікала нянавісць у ворагаў. Хаця, здавалася б, якія ворагі маглі быць у прыгожага, стройнага, сарамлівага, невылечна хворага юнака з задумнымі шэрымі вачамі? Гэта былі ворагі ягонай Бацькаўшчыны — а значыць, і ягоныя. Яны спярша замоўчвалі і ўсяляк прыніжалі ягоны дар. Яны пасля валасатымі пальцамі сталінскіх інквізітараў вырывалі ягоны партрэт і ягоныя вершы са школьных падручнікаў. Яны пяліся нацягнуць на ягоныя худыя плечы суконную робу нацыяналіста. Але ён перамог, выстаяў, вытрымаў суд часу і жыве сёння з намі, малады, разумны, пявучы, сумленны, несмяротны…

Сябры пры жыцці называлі яго між сабой Максімам-кніжнікам. І думаю, у вышэйшай ступені справядліва, што ягоны соты дзень нараджэння мы адзначаем у бібліятэцы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дзе плячо да пляча на паліцах сышліся кнігі з усіх кантынентаў. Па праву займае тут годнае месца томік Максіма Багдановіча, у якім, як ён пісаў,

Засушыў я на паперы
Краскі, свежыя калісьці,
Думак шчырых і чуцця…

Максім Багдановіч марыў, што беларуская культура панясе нарэшце свой дар усяму свету. Час гэты настаў. Мы з паклонам перадаём людству свае духоўныя набыткі — і сярод іх чыстую Максімаву песню. Бярыце — яна і ваша.

*1991*

## У СУЗОР'І ПУШКІНА, ШАЎЧЭНКІ, МІЦКЕВІЧА, УІТМЭНА

*Слова, сказанае на вечары ў бібліятэцы ААН, прысвечаным 110-годзю Янкі Купалы і Якуба Коласа*

Кожнаму з нас лёс адводзіць свой зямны куток, дзе дае бясцэнны дар жыцця і непаўторную матчыну ласку, родную мову і святое адчуванне ўласнай годнасці. А вось неба над намі дае на ўсіх адно, неабдымнае і загадкавае, глыбокае і неспазнанае, адкуль зоркі свецяць, не зважаючы на дзяржаўныя межы і розніцу ў людскіх характарах, не слухаючыся грозных валадароў і не заўважаючы хуткаплынных змен.

Нібы адчуваючы нейкую віну за шматвяковую цяжкую і маркотную долю Беларусі, 110 гадоў назад Бог шчодра кінуў сваю зыркую іскру адразу ў дзве душы сялянскіх сыноў — і ў свет прыйшлі два нацыянальныя геніі, а на небасхіле культуры людства ўспыхнулі дзве найярчэйшыя зоркі беларускай літаратуры.

Людвіг Феербах некалі пісаў, што таленты заўсёды з'яўляюцца тады, калі ў іх ёсць гістарычная патрэба. Янка Купала і Якуб Колас і творчасцю, і ўсім сваім жыццём пацвердзілі гэта. Яны ўзнялі паходню свайго мудрага слова на пераломе сацыяльных эпох, у перыяд, названы першай рускай рэвалюцыяй,

калі той-сёй з цароў і царанят ставіў смешнае, як на сённяшняе разуменне, пытанне: а ці ёсць такі народ — беларускі, а ці патрэбна такая мова — беларуская? Ёсць! Патрэбна! — разам з Максімам Багдановічам, Цёткай, Алесем Гаруном адказалі Купала і Колас і даказалі гэта перш за ўсё самім беларусам, а пасля і ўсяму свету. Ёсць народ, калі ён нараджае такіх геніяў! Патрэбна мова, калі на ёй можна ствараць шэдэўры!

Яны розныя, заснавальнікі беларускай літаратуры, і як асобы, і як творцы: парывісты, тэмпераментны, узнёслы Янка Купала; ураўнаважаны, дыхтоўны, падкрэслена рэалістычны Якуб Колас. Адзін вястун і прарок, другі — летапісец і філосаф. І калі ў шчаслівым яднанні духоўнага і матэрыяльнага, што, дарэчы, дадзена зразумець, асэнсаваць і выказаць толькі нямногім, у першага наперадзе звычайна ідзе духоўнае, то ў другога — матэрыяльнае. Але ў абодвух пры гэтым пульсуе тонкае адчуванне душы чалавека і дакладнае веданне ягонага побыту, працы, узаемадачыненняў і ўзаемадзеяння з прыродай і зямлёй. Як і ва ўсіх геніяў, часовае ў іх зліта з вечным, нацыянальнае — з агульначалавечым, асабістае — з усялюдскім.

Зямны шлях свой яны завяршылі па-рознаму: адзін трагічна загінуў удалечыні ад роднай зямлі літаральна за два дні да ўрачыстага вечара, прысвечанага сталаму 60-годдзю; а другі адплыў у бяссмерце на плячах сяброў і правадыроў, трохі не дажыўшы да салідных 75 год. Але колькі ў іх было роднаснага і аднолькавага і ў трывогах, і ў парываннях, і ў горкіх развагах! Горача і самаахвярна любілі яны і пясчаную сваю зямельку, і цягавітага ды маўклівага братку-беларуса, і поўную хараства і замілавання матчыну песню.

Дзеля гэтай любові спазналі і перажывалі яны і крывавыя пісягі царскай цэнзуры, і абразлівыя здзекі сталінскіх катаў, і палыновую гаркоту расчараванняў і адчаю. Бог даў ім рэдкі талент, але і дастаткова выпрабаванняў на трывушчасць і на адданасць Бацькаўшчыне. Можа, таму часам і здаюцца іх чыстыя зоркі дзвюма яснымі слязінамі.

Геніі могуць быць незразуметымі або недаацэненымі пры жыцці, але шчасце народнага прызнання і пакланення ніколі не абмінае іх, бо ёсць жа і ў свеце, у якім мы жывём, найвышэйшая справядлівасць. Яна можа запазніцца, але яна ёсць. І тады шчасце паэтаў становіцца шчасцем Радзімы, якой яны аддалі ўсё, што мелі, і нават болей таго.

Янка Купала і Якуб Колас пры жыцці паспелі адчуць народную любоў і ўдзячнасць. Ім пашанцавала: іх асабістае шчасце

ўжо тады станавілася шчасцем Радзімы. Але толькі з гадамі пачынаем мы разумець усю глыбіню іх азарэння і вышыню іх узлёту…

І калі вам захочацца паўзірацца ў прасторнае неба духоўнасці, якое атуляе ўсіх нас і кліча да вышыні, успомніце, што ў сузор’і Аляксандра Пушкіна, Тараса Шаўчэнкі, Адама Міцкевіча, Уолта Уітмэна ёсць і зоркі з простымі беларускімі імёнамі — Янка і Якуб. Пакланіцеся ім. Яны вартыя таго…

*1992*

## ЗАЛЕЖЫЦЬ АД НАС

Зусім нямнога часу засталося да таго нядзельнага дня, калі разам з бюлетэнямі для галасавання на выбарчых участках нам уручаць і лісткі ўсенароднага апытання. Не будзем сёння ўспамінаць, як прымалася рашэнне аб гэтым, як нашы дэпутаты, нібы напалоханыя зайцы пад дажджом, што перабягаюць ад аднаго кусціка да другога, шукаючы больш зацішнага месца, лёгка мянялі свае думкі і пазіцыі, не надта клапоцячыся пра дзяржаўны аўтарытэт, — рэферэндум будзе. І вынікі яго залежаць цяпер толькі ад нас, грамадзян суверэннай Беларусі. Тут ужо не кіўнеш на няўступчывасць Прэзідэнта, на беспрынцыпнасць парламенцкай большасці, на радыкалізм апазіцыі — кожны павінен прыняць рашэнне сам, памятаючы, што і ад яго ў значнай ступені залежыць многае ў далейшым гістарычным лёсе Радзімы.

Перш за ўсё, відаць, варта задумацца, каму і навошта патрэбен гэты рэферэндум, чаму на яго вынесены менавіта тыя пытанні, што прадыктаваны Прэзідэнтам, і ці сапраўды яны самыя балючыя і самыя галоўныя ў нашым сённяшнім грамадстве.

Ва ўсіх прамовах, пастановах, артыкулах высокіх кіраўнікоў і дасведчаных спецыялістаў самай вялікай сучаснай бядой і праблемай дружна называюцца эканамічны крызіс, інфляцыя, катастрафічнае падзенне жыццёвага ўзроўню людзей. Вось бы над імі ўсім агулам і падумаць. А тут — мова, сімволіка. Што — цяперашні сцяг сур’ёзна замінае прадуманым глыбокім рэформам нашай гаспадаркі? Што — сённяшні герб непераадольна лёг на дарозе да росквіту краіны і народнага дабрабыту? Чаму Прэзідэнт і яго каманда не хочуць параіцца з намі наконт таго, якія меры прыняць, каб чэсны заробак даваў магчымасць кожнаму жыць па-людску, каб не пакутавалі без лекаў інваліды

і ветэраны, каб дзеці ў школах не трацілі прытомнасць ад недаядання і авітамінозу, каб прадукцыя нашых заводаў і фабрык давала дзяржаве валютны прыбытак?..

Успомнім, за што найперш галасавалі выбаршчыкі на нядаўніх прэзідэнцкіх выбарах, аддаючы перавагу сённяшняму нашаму лідэру, — далёка не за змену сімволікі і новы статус рускай мовы, бо і ў Кебіча тут пазіцыі былі практычна такія ж, а за жорсткую барацьбу з раскраданнем народнага багацця, за рэзкае паляпшэнне дабрабыту, за ўключэнне ў працу прадпрыемстваў, што пачалі прастойваць, за спыненне шалёнага росту цэн і г. д. Хіба гэтыя ўсе абяцанні ажыццёўлены ўжо? Хіба не працягваецца нахабнае будаўніцтва шыкоўных катэджаў і самаўпраўства чынавенства? Хіба спынены вал злачыннасці? Хіба ломяцца паліцы магазінаў ад высакаякасных і даступных прадуктаў і тавараў? Дык чаму трэба шукаць агромністыя сродкі на правядзенне ідэалагізаваных апытанняў, а не на павелічэнне пенсій, стыпендый, дапамогі абяздоленым? Пра гэта сарамліва і хітра маўчаць і маладыя дзеячы «вертыкалі», і шматслоўныя, самаздаволеныя дэпутаты. Няўжо і тым, хто стаіць ля станка, хто працуе на трактары, хто выхоўвае дзетак, хто будуе дамы, гэта ўсё роўна?..

Давайце разам паразважаем над пытаннямі, унесенымі ў бюлетэні рэферэндуму. Пры гэтым, я думаю, няма патрэбы дэталёва закранаць трэцяе, звязанае з эканамічнымі адносінамі Беларусі з братняй Расіяй, асабліва пасля таго, як зусім нядаўна падпісаны і паспяхова ратыфікаваны цэлы пакет грунтоўных і канкрэтных пагадненняў. Няма і не можа быць на нашай зямлі разумных людзей, якія не хацелі б цеснага і раўнапраўнага, узаемавыгаднага супрацоўніцтва з нашым вялікім усходнім суседам. І не вельмі зразумела, на якіх падставах і дзеля чаго ў гэтым быццам бы сумняваюцца ініцыятары ўсенароднага апытання.

Пытанне першае: «Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статусу з беларускай?» Паколькі не ўдакладняецца, што маецца на ўвазе пад роўным статусам, звернемся да нашага будзённага жыцця.

Зайдзіце ў любую кнігарню Мінска ці, скажам, Віцебска альбо Брэста і падлічыце, колькі там кніг выкладзена на паліцах на рускай і беларускай мове — суадносіны будуць 100:1, а то і больш, не на карысць дзяржаўнай мовы. Зазірніце ў любы кіёск «Саюздруку» і пацікаўцеся свежымі газетамі і штотыднёвікамі — тое ж. Уключыце тэлевізар — на кожнае

беларускае слова з нашага экрана вы пачуеце сотню, а то і тысячу рускіх слоў. Папрысутнічайце на рабочых нарадах у Адміністрацыі Прэзідэнта ці Кабінеце Міністраў — калі там загучыць беларуская мова, вы станеце сведкамі надзвычай рэдкага выпадку… Дык дзе тут, скажам так, непаважлівыя адносіны да мовы нашага вялікага суседа, што ў падтэксце відавочна гучыць у прапанаваным пытанні? Мне здаецца, калі быць дакладнымі і шчырымі, трэба гаварыць аб неабходнасці «выроўнівання» ненармальнага становішча з беларускай мовай у беларускай дзяржаве. І той, хто фармуляваў «моўнае» пытанне на рэферэндуме, або зусім адарваны ад рэальнага жыцця, або хітруе і хоча нас уцягнуць у несумленныя палітычныя гульні, якія ўсчынаюць розныя «саборы» і «марыністы-баталісты» (дарэчы, не ведаю, як каму, а мне кашчунна гучыць сама назва СС «Белая Русь» — «эсэсаўцы» пакінулі пра сябе ў партызанскай пакутнай Беларусі зусім пэўную памяць).

Калі ж гаворка ідзе пра наданне рускай мове статуса дзяржаўнай, то гэта тэрмінова і пільна патрэбна ў асноўным толькі некаторым чыноўнікам ды розным порсткім дзеячам, што карыстаюцца дабрынёй беларускага народа і хочуць вярнуць у поўнай забытай красе і моцы былую расійскую імперыю, дзе ў свой час было афіцыйна забаронена наша матчына слова. Чыноўнікі проста не хочуць браць на сябе лішнія турботы і вучыць мову таго краю, дзе прэтэндуюць на прывычнае для іх кіраўніцтва, а паплечнікі Жырыноўскага і завадатары казацкіх фарміраванняў (як быццам па нашай зямлі цякуць Дон і Урал) бачаць у гэтым прыступку да каланізацыі паслухмяных беларусаў. Ім хочацца ўжо ў блізкім будучым «мяккага» паглынання Расіяй нашай краіны: вось, маўляў, у нас і мова адна, і адны палітычныя сілы, і адзіны народнагаспадарчы комплекс… Так званае двухмоўе — гэта проста пераходны этап да знішчэння самабытнасці і незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Невыпадкова ніхто (уключаючы самых высокіх асоб дзяржавы) нідзе нават не заікнуўся аб тым, што пры афіцыйным двухмоўі для прадстаўнікоў і служачых краіны абавязковае свабоднае валоданне дзвюма мовамі. Калі адкінуць гучную дэмагогію, дык усё вельмі проста: яны хочуць займець законнае права не ведаць і не карыстацца беларускай мовай, бо ў прававой дзяржаве, якой мы можам стаць, дэманстратыўнае невыкананне законаў (а між іх і Закон аб мовах) можа прывесці да развітання з цёплым кабінетам.

Тым жа, хто бачыць у так званай беларусізацыі ледзь не прычыну нашых эканамічных цяжкасцяў, я раю з’ездзіць у

вёскі Валагодскай ці Яраслаўскай абласцей або яшчэ бліжэй — на Пскоўшчыну і Смаленшчыну і на свае вочы паглядзець, як нішчымна там жывуць людзі, а там жа няма дзяржаўнай беларускай мовы. Дык хіба ў мове справа? Можа, яна ў эканамічных законах, да якіх мы не прывыклі, і ў тых кіраўніках, якія дужа смела ўзяліся выводзіць народ з бяды?

Лямант аб нібыта ледзь ці не ўсенародным патрабаванні ўвядзення ў нас двухмоўя, па маім глыбокім перакананні, узняты штучна і не мае пад сабою сур'ёзнага грунту. Прывяду ўсяго адзін факт.

Я ўваходзіў у калектыў, які працаваў над падрыхтоўкай Закона аб мовах у Беларусі, і захаваў красамоўны дакумент таго часу. На 15 студзеня 1990 года ў рэдакцыі рэспубліканскіх газет, радыё і тэлебачання, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам паступіла 47 пісем ад грамадзян Беларускай ССР у парадку абмеркавання праекта Закона. Прапанова аб двухмоўі была толькі ў 10. Наогул па рэспубліцы за прыняцце Закона аб мовах выказалася ў ходзе абмеркавання яго праекта 13527 чалавек. Ідэю двухмоўя падтрымлівалі толькі 979 чалавек. Не думаю, што гады незалежнасці Беларусі, калі на дзяржаўным узроўні былі зроблены першыя крокі па ўсталяванні дэмакратыі і суверэнітэту, унеслі рэзкія змены ў настроі людзей адносна двухмоўя. Так што крыкі так званых рускамоўных актывістаў зусім не з'яўляюцца голасам народным.

Я ўжо не кажу тут, што без росквіту нацыянальнай мовы не можа быць росквіту нацыянальнай культуры, што нямы, неадукаваны народ наўрад ці зойме вартае месца ў свеце. Урэшце, а дзе ж быць паўнапраўнай (а не палавіннай, як нам прапануецца) дзяржаўнай мовай нашай роднай мове, як не ў Беларусі? Для рускай мовы дзяржаўны абсяг і статус — у Расіі, для польскай — у Польшчы, для французскай — у Францыі, для нямецкай — у Германіі… Чаму ж наша пявучая, мяккая, багатая славянская мова не можа быць гаспадыняй на сваёй зямлі? У рускай мовы выдатны статус мовы міжнацыянальных стасункаў і куды якія спрыяльныя мажлівасці бытавання і развіцця. Навошта ж сутыкаць ілбамі дзве братнія мовы, груба ўлазіць у вельмі далікатнае, складзенае вякамі і пакаленнямі іх суіснаванне? Можа, хай само жыццё, а не імгненныя (па гістарычных мерках) палітычныя і асабістыя інтарэсы ўносяць у нацыянальную справу карэктывы і ўдакладненні?..

Пытанне другое: «Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленні новых Дзяржаўнага сцяга і Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь?»

Не хачу вяртацца да дыскусій пра бел-чырвона-белы і чырвона-зялёны сцягі, пра «Пагоню» і «вянок» каласоў з сярпом і молатам. Перакананы, што самае важкае права на высновы тут трэба аддаць вучоным-гісторыкам. Яны павінны праз глыбіні стагоддзяў прасачыць і асаблівасці нашай дзяржаўнасці, і вытокі нашай сімволікі, і непаўторныя рысы нашага характару. І пры гэтым не забыцца, што народнае жыццё ладкуецца не адным пакаленнем і вымяраецца не адным векам і не адным рэвалюцыйным узрушэннем.

Мяне вельмі турбуе іншае — у што выльецца для працоўнага люду змена дзяржаўнай сімволікі (калі будзе прынята такое рашэнне). Хіба мы такія багатыя, каб, напрыклад, лёгка кінуць пад нож ці ў касцёр аддрукаваныя, але не ўручаныя нам пашпарты — збаёдаць агромністыя сумы ў валюце? І трэба ж будзе друкаваць новыя — зноў давядзецца траціць мільёны долараў. А бланкі, пячаткі, пасведчанні, шыльды, кукарды, значкі, плакаты, буклеты, паштоўкі, маркі і г. д. і да т. п. — грошы, грошы, грошы, грошы… І ўсё з кішэні грамадзян, з таго небагатага заробку падаткаплацельшчыкаў, якога ледзьве хапае на хлеб і цукар. Незразумелая палітычная логіка: просім людзей пацярпець недахоп цяпла ў кватэрах, электрасвятла на начных вуліцах і не просім пацярпець сцяг і герб, пад якімі наш першы Прэзідэнт кляўся дбаць аб дабрабыце народа. Чаму такая нервовая спешка?.. Заўважце, лічбы выдаткаў, якія пацягне за сабой змена сімвалаў, нікім не называюцца, нідзе не публікуюцца. Відаць, каб не выклікаць у людзей яшчэ адзін шок. Дык ці варта падтрымліваць няўзважаныя і, як кажуць фінансісты, непралічаныя прапановы?

І чацвёртае пытанне: «Ці згодны Вы з неабходнасцю ўнясення змяненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, якія прадугледжваюць магчымасць датэрміновага спынення паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь у выпадках сістэматычнага або грубага парушэння Канстытуцыі?»

Адразу хачу звярнуць вашу ўвагу на этычны момант. Выбіраючы новы склад Вярхоўнага Савета, мы загадзя ўжо намякаем нашым абраннікам на магчымасць спынення іх дзейнасці Прэзідэнтам. Так сказаць, ківаем на іх пальчыкам і заклікаем быць паслухмянымі перад «бацькам». Неяк, па-мойму, не надта тактоўна.

Ёсць і яшчэ адна, так бы мовіць, жыццёвая тонкасць. І Прэзідэнта, і дэпутатаў выбірае народ — у прынцыпе адны і тыя ж людзі. А давер атрымліваецца як быццам і не роўны: многія

дзесяткі парламентарыяў, выходзіць, могуць і памыліцца, а вось Прэзідэнт (адзін) — не. Нейкія неаднолькавыя адносіны да нашага выбару: то мы мудрыя, то не вельмі.

Самае ж галоўнае, што ўсе мы мелі мноства магчымасцяў пераканацца, як нашы недасканалыя законы амаль супрацьлегла трактуюць розныя галіны ўлады, як нават Канстытуцыю яны чытаюць кожная па-свойму. У такіх умовах, думаецца, не «дабаўленне» ўлады патрэбна ім, а ўменне захоўваць законы і несці адказнасць перад народам.

Таму і па чацвёртаму пытанню, як кажуць, ёсць пытанні. Напрыклад, што такое сістэматычнае або грубае парушэнне Канстытуцыі, хто будзе вызначаць, парушана Канстытуцыя ці не, як пры гэтым будзе ўлічвацца думка народа?..

Дык ці варта без грунтоўнага абмеркавання грамадскасці, без тлумачэнняў спецыялістаў, без высвятлення адносін палітычных партый спяшацца ставіць сваё «так» ці «не»?..

Год назад, на прэзідэнцкіх выбарах наш народ паказаў, што ён не хоча ўжо бяздумна падпарадкоўвацца няпрошаным ідэалагічным настаўнікам і начальнікам і дружна «заваліў» кандыдатуру «рэальнага кіраўніка», «выратавальніка Беларусі», «бліскучага эканаміста», «сусветна вядомага палітыка». Цяпер практычна тыя ж нахабныя гарластыя прыблуды спрабуюць дыктаваць нам, як адказваць на пытанні рэферэндуму. Цану іх «дасведчанасці» і «сумленнасці» мы ўжо ведаем, бачылі, як лёгка і хутка памянялі яны «шэфа», перафарбаваліся ў барацьбітоў з карупцыяй і народных заступнікаў. Няўжо ж мы іх паслухаемся?..

У кожнага з нас ёсць галава на плячах. І ёсць яшчэ час усё ўзважыць і прааналізаваць; каб не памыліцца. Давайце будзем думаць!

***1995***

## ПАЭТ

Паэтамі не выбіраюцца, не прызначаюцца і не зацвярджаюцца — імі нараджаюцца па Божай міласці і карануюцца народнай любоўю. Таму іх заўсёды так нямнога. Таму ў іх часта такія няпростыя стасункі з уладамі і грамадствам: першым хочацца мець іх паслухмянымі сваімі чыноўнікамі, якія да ўсяго іншага яшчэ здольны і рыфмаваць, а другому не падабаецца, калі яны

«вытыркаюцца», апярэджваюць час і жывуць горкім дакорам яго недасканаласці і затурканасці. Але мінаюць гады, змяняюцца ўлады, сталее грамадства — і ў памяці вякоў цэлыя перыяды звязваюцца з імёнамі паэтаў і ўсё новыя і новыя пакаленні ў цяжкі ці радасны міг узрушана паўтараюць некалі напісаныя імі радкі.

Рыгор Барадулін — Паэт. І ўсе астатнія ягоныя званні проста ў той ці іншай ступені фармальна пацвярджаюць прызнанне яго выключнага таленту. Ужо сёння можна з усёй адказнасцю сцвярджаць, што яго творчасць унесена ў літаратурны пантэон Беларусі і стала неад'емнаю часткаю яе душы.

Крытыкі любяць усё глыбакадумна і лагічна раскладваць па навуковых палічках — і яны ўжо даўно прымерваюцца, куды ж паставіць Рыгора Барадуліна: пасля Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова, а можа, пасля Якуба Коласа, Алеся Гаруна, Пімена Панчанкі, Максіма Танка… А хіба гэта так важна — пасля каго? Галоўнае, што — поруч, разам з найвышэйшымі вяршынямі паэтычнага Алімпа, дзе сэрца саграває незакатнае сонца азарэння і галаву халодзіць ціхі ветрык вечнасці…

Я памятаю самыя першыя публікацыі Рыгора Барадуліна. Было гэта ў тыя гады, калі толькі ўгадвалася так званая «адліга», калі паэзія толькі пачынала здзіраць з сябе заношаныя шэрыя фрэнчы афіцыйнасці і прымяраць стракатыя каўбойкі маладой адкрытасці. Цяжка, з глухім крэктам узломліваліся ільдзіны ўсеагульнай аднастайнасці, нястрымна і непрадказальна вышыбоўвалі на ўезджаныя дарогі напорыстыя раўчукі пошукаў і эксперыментаў, новае дыханне прыходзіла да найбольш мудрых і ўмелых сейбітаў. Вось тады ранішнім жаўранкам і ўзляцела над вясновай зямлёй барадулінская песня. Яна не была яшчэ такой высокай і звонкай, як цяпер, ёй не хапала яшчэ ведання і адчування тых прастораў, якія падставілі пад яе крылы свае магутныя, напоеныя пахам смалы і жытнёвым водарам, густыя плыні роднага паветра, але яна была ўжо відавочна адметнай. Было ўпэўненае валоданне жывым словам, была яркая вобразнасць, была вясковая хітрынка і даверлівая разняволенасць лірычнага выказвання. Іх адразу прыкмецілі, гэтыя надзіва свежыя, некрыклівыя вершы. На іх тут жа радасна адгукнуліся такія строгія і аўтарытэтныя знаўцы паэзіі, як Анатоль Вялюгін і Рыгор Бярозкін. І пачалося шчаслівае, упэўненае шэсце аднаго з лепшых майстроў пявучага беларускага слова па літаратурных бальшаках і магістралях.

Што значыць сёння ў нашай культуры творчасць народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна?

Значыць надзвычай многа — і хутчэй за ўсё мы яшчэ не гатовы цалкам асэнсаваць гэтае значэнне і справядліва ацаніць усе аспекты ўплыву яе на духоўнае развіццё і нацыянальнае адраджэнне народа. Яна настолькі яркая і нават непрывычная для «сярэдняга» чытача, што патрэбен час, каб «прызвычаіцца» і да гэтай яркасці, і да навізны, і да эстэтычнага ўзроўню іх, каб адолець прыступку ўнутранага росту, на якую нас кліча Барадулін.

Слова ніколі не бывае пустым, тым больш таленавітае слова. Яно ж таму і нарадзілася, таму і засталося ў памяці людской, што азначыла нешта рэальнае ў зямным быцці, аб нечым істотным папярэдзіла, нешта важнае завяшчала. Трэба толькі пачуць закладзенае вякамі і прашчурамі ў слове, «расшыфраваць» яго, магчыма, нешта дадаць з вопыту свайго пакалення і перадаць, шматграннае і першароднае, сучаснікам і нашчадкам. Недарма ж гісторыя фіксуецца ў слове, а мова з’яўляецца асноўным і трывушчым фундаментам нацыі.

Барадулінскае слова прагна чэрпае з народных скарбаў. Яно нясе ў сабе і мудрасць, і памяркоўны беларускі характар, і шматзначнасць, і гуллівасць, і вуглаватую калючасць, і пяшчотную мяккасць, і далучанасць да сучаснай сусветнай культуры. І звычайна яно вельмі да месца, натуральнае і мускулістае, у добрым паяднанні з небудзённаю думкаю. Яно неадольна вабіць да сябе непакалечаную душу і чуйнае вуха, гарэзна смеючыся з той поснай і даўкай «трасянкі», што нахабна захапіла апошнім часам тэлевізійны і радыёэфір і якой той-сёй з недавучаных палітыкаў гатовы надаць амаль дзяржаўны ранг.

Рыгор Барадулін — надзвычайны, апантаны працаўнік. Мне нават здаецца часам, што ён не дае сваёй музе ні хвілінкі спачыну, не прыпыняе «творчы працэс» і ў сне, прывычна перакочваючы на языку гарачыя кроплі слоў і нястомна размінаючы ўчэпістымі мужыцкімі пальцамі цяжкую паэтычную гліну. Калі сабраць разам усе ягоныя кніжкі, выдадзеныя ў Мінску і ў перакладзе на розныя мовы далёка ад дому, атрымаецца салідная бібліятэка, напэўна, большая за тую ўшацкую, дзе ён дапытлівым хлапчуком шукаў адказы на балючыя пытанні быцця і сугучнасць патаемным думкам і летуценням. Гэта сапраўды выдатны набытак, варты павагі і захаплення, — дзесяткі гожых тамоў узораў «прыгожага пісьменства», высненых і складзеных бліскучым майстрам.

На пачатку творчай дарогі Рыгора Барадуліна некаторыя крытыкі папракалі ў пэўнай раскіданасці, у неашчадным, на іх думку, «выдаткаванні» таленту. Сапраўды, паэт адгукаўся практычна на кожную важную падзею ў родным краі, на доўгія і кароткія замежныя вандроўкі, на сяброўскія сустрэчы з цікавымі і славутымі людзьмі. Для яго не было і няма нязначных дробязяў ні ў складаным свеце грамадскіх узаемадачыненняў, ні ў спакойнай засяроджанасці прыроды, ні ў шэрай цякучцы побыту. Ягоны талент з усяго выкрасае зыркую іскру натхнення, ва ўсім знаходзіць штосьці, нікім раней не заўважанае. І не раскіданасць гэта, а рэдкая, унікальная шчодрасць і невычэрпнасць паэтычнага дару. Нібы з казачнага меху, сыплюцца ў яго, ашаламляючы і радуючы, лірычныя экспромты, здзеклівыя эпіграмы, хітраватыя прытчы, гарэзлівы пацешкі, споведныя прысвячэнні, зажураныя літанні. І ўсё — найвышэйшай літаратурнай якасці, усё — нязмушанае і непаўторнае. Ідуць дні, мільгаюць, як у калейдаскопе, рэаліі часу, а звонкая барадулінская крынічка не плытчэе і не мутнее, усё болей набіраючы моцы і красы.

У першым нумары гэтага года часопіс «Полымя» надрукаваў вялікую нізку новых вершаў Р. Барадуліна — і, Божа мой, якой мудрасцю, якім майстэрствам пазначаны яны! Паэт вяртаецца своеасаблівым летапісцам і пракам у пасляваеннае сваё маленства, зноў прыгадвае горкі лёс і святыя запаветы матулі — мілай, незабыўнай Куліны Андрэеўны, нястомна шукае на глухіх жвірыстых сцяжынках сляды дарагіх яму людзей і падзей, даверліва расхінаючы пры гэтым натомленую чуйную душу, якая спазнала ўжо глыбінны сэнс усяго існага і вечную цану кожнага зямнога імгнення. Да яго прыйшла тая вышыня жыццёвага і літаратурнага вопыту, калі, здаецца, самі сабою паядноўваюцца ў слове канкрэтнае і агульнае, вясёлае і самотнае, інтымнае і ўсёчалавечае, калі падуладнымі робяцца ўсе прафесійныя сакрэты і настае рэдкае паразуменне з гісторыяй і народам, з Радзімай і будучыняй.

Рыгор Барадулін рашуча і лёгка акрэсліў на паэтычнай карце свету сваю зялёную і ручаістую Ушаччыну, заваяваўшы ёй месца недалёка ад Міхайлаўскага і Канстанцінава, надзяліўшы чутным голасам у радаснай бяседзе славянскага творчага супольніцтва. Адкрывалі для чытачоў гэты цудоўны куток Полаччыны Пятрусь Броўка і Еўдакія Лось, але сапраўдным песняром і вяшчальнікам яго стаў Барадулін, яркім паэтычным радком азначыўшы на маршрутах памяці родныя азёры і гаі, хаты і студні, зімы і вёсны, сцвердзіўшы права сваёй малой радзімы прадстаўляць перад людствам і Радзіму вялікую з гордым імем — Беларусь.

Выдатнага паэта заўсёды хочацца цытаваць, яшчэ і яшчэ раз здзіўляючыся нечаканаму адкрыццю ў сабе і ў свеце, захлынаючыся ад асалоды чароўнага гучання роднага слова. Я не раблю гэтага толькі таму, што не хопіць газетнай плошчы для многіх і многіх барадулінскіх радкоў, якія даўно ўскалыхнулі маю душу і засталіся ў ёй шчаслівым і запаветным набыткам. Ды ўрэшце хай кожны, каму неабходныя і дарагія сяброўскія сустрэчы з рэдкім талентам, сам выбірае з залатых россыпаў найбольш блізкае і жаданае.

Я ж хачу шчыра прынародна парадавацца, што на цёплай і грэшнай зямлі нашай жыву разам з Рыгорам Барадуліным, што Бог адмераў яму не кароткую пуцявіну і тая іскра, якую ён кінуў у ягонае сэрца, выпраменьвае святло, без якога можна было б і заблудзіцца ў сённяшнім зняверааным і пахмурным свеце.

*1995*

## ЗНАК БЯДЫ

У жыцці кожнага народа ёсць падзеі і даты, якія робяцца своеасаблівымі каардынатамі агульнай памяці, гістарычнымі вехамі, «пунктамі адліку» для многіх пакаленняў. Ёсць такія лёсавызначальныя падзеі, незабыўныя даты і ў майго роднага беларускага народа. Доўгія гады, напрыклад, гэта была другая сусветная вайна (Вялікая Айчынная, як мы прывыклі яе называць). Зусім нядаўна такім верставым знакам у нашым нацыянальным лёсе стаў Чарнобыль.

Я добра памятаю тую раннюю, спякотную вясну 1986 года, калі ўвесь свет раптам скалануўся ад выбуху каварнага мірнага атама. Я быў у зоне (слова гэтае тады набыло імгненна новы, не менш пагрозлівы, чым пры напаміне пра сібірскія задратаваныя канцлагеры, сэнс) у сярэдзіне мая. Навокал вольна раскашавала жыццё — ярка свяціла ў высокім бясхмарным небе сонца, дружна цвілі сады, на палетках, узнімаючы за сабою слупы густога шэрага пылу, шчыравалі трактары. Нідзе і не праглядвалася нават малога звыклага знаку бяды, калі трэба некуды ўцякаць, неяк хаваць у бяспечнае месца дзяцей і сябе. Не падалі бомбы, не свісталі кулі, не лізаў сцены хат агонь, не заходзіліся ў адчайным галашэнні жанчыны, не лілася кроў — і генная памяць беларусаў, за многія гады абсмаленая тратылам войнаў і спаласаваная балючымі пісягамі варожых здзекаў, бес-

клапотна спала. І калі мы, трое журналістаў, злосна крычалі на распранутых да пояса маладых трактарыстаў, тыцкаючы ім пад нос дазіметры, якіх, дарэчы, тады было недаравальна мала, яны толькі паблажліва смяяліся… Ці ёсць яны сёння на зямлі, тыя дужыя і прыгожыя хлопцы?..

А болей за ўсё мяне тады ўразіў прыдарожны лес каля Брагіна. Ён стаяў, па-вясноваму зялёны і кучаравы, зусім… нямы. У ім не спявалі птушкі, не шасталі ў вершалінах вавёркі. Мы спынілі на ўзлессі машыну, ступілі на ўзбочыну і ўбачылі ў высокай траве мёртвую зязюлю (не забітую — проста мёртвую). У руках у нас нямоўчна стракатаў дазіметр. І маё сэрца востра скалануў нейкі незямны страх ад таго, што ў гэтай роднай, непаўторнай прыгажосці на гэты раз не было жывой душы, яна не магла ні гукнуць цябе, ні прашаптаць табе нешта птушыным голасам, ці звярыным крыкам, ці проста ціхім вершалінным пошумам. Нябачная, загадкавая смерць распаўзалася па дрэвах, палянах, камянях і красках…

Асабліва ж жахлівым было для мяне тое, што гэткае ж маўчанне, недаравальнае, злачыннае, панавала ў тыя дні і ў высокіх партыйных і дзяржаўных кабінетах, прадыктаванае яшчэ не ўсвядомленым спалохам і прадчуваннем немінучага краху. Памятаю, як на закрытых нарадах і ў тэлефонных трубках грозна і амаль істэрычна паўтаралася адно і тое ж: «Толькі без панікі! Толькі без панікі!» Не пра здароўе людзей, не пра экстраныя меры ўсеагульнай бяспекі, не пра лекі і выратаванне дзяцей думалі перш за ўсё «бацькі» рэспублікі, а пра захаванне ўлады. І весела спявалі на плошчах і вуліцах арганізаваныя па старых сцэнарыях першамайскія дэманстрацыі, і лілося ў бітоны і цыстэрны малако, ужо атручанае цэзіем і стронцыем, і штатныя прапагандысты гнеўна выкрывалі і абвяргалі паведамленні «варожых радыёстанцый» пра аварыю на ЧАЭС.

Пазней, праз пяць-шэсць гадоў, калі я працаваў у Нью-Йорку ў ААН, са здзіўленнем назіраў я, як гэтыя ж нашы кіраўнікі голасна і настырна не прасілі — патрабавалі ад міжнароднай супольнасці тэрміновай дапамогі на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы, на поўным сур'ёзе, злосна папракалі «багаты Захад» за малыя, на іх погляд, грошы, якія той даваў на гэтыя патрэбы. Яны чамусьці лёгка і нашчэнт забыліся пры гэтым, хто ж быў вінаваты ў трагедыі і хто столькі часу ўсімі магчымымі высілкамі і спосабамі замоўчваў сапраўдныя маштабы і наследкі бяды.

Думаю, што якраз Чарнобыль грозна скалануў тады маналітнае, як здавалася, згуртаванае грамадства. І не толькі чорная паводка радыяцыі, а і бязмежны паток відавочнай, бессаромнай афіцыйнай хлусні і дэмагогіі канчаткова падмыў падваліны магутнай імперыі, «апоры міру і сацыялізму» — СССР. Той сапраўды тэктанічны зрух у душах і перакананнях мільёнаў ужо нельга было не заўважаць, на яго нельга было не рэагаваць. Таму так радасна і трыумфальна прынята была паўсюдна так званая перабудова, таму так хутка і проста нават у сталічных палітычных храмах нарэшце асыпалася заплеснелая ідэалагічная тынкоўка.

Ах, як верылася тады, што трагічныя ўрокі Чарнобыля не забудуцца ніколі, што горкі вопыт, у мірны час аплочаны незлічонымі чалавечымі пакутамі і жыццямі, не дасць ужо нікому бяздумна эксперыментаваць не толькі з магутнай тэхнікай, а і з рэальнай палітыкай! Але ішоў час, зацягваліся на целах і на зямлі свежыя раны і апёкі, укручвалі нас у свой імклівы вір новыя неадкладныя справы і турботы — і непрыкметна, спакваля цішэў і затухаў несціханы чарнобыльскі боль. Усё радзей пра яго ўзгадвалі чыноўнікі, усё меней бюджэтных грошай упісвалі ў спецыяльны «чарнобыльскі радок» дэпутаты. І з'явіўся сумна вядомы, неверагодны ў беларускіх умовах (але ён рэальна ёсць і дзейнічае) указ «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян», які ў адзін момант, ціхенька забраў у пакалечаных атамнай трагедыяй людзей не такія ўжо і вялікія кампенсацыі і льготы. І пачалі засяваць пасыпаныя атрутным попелам палі. І цяжкімі дубінкамі натрэніраваных ахоўнікаў парадку пачалі разганяць удзельнікаў жалобных «Чарнобыльскіх шляхоў». І з самых высокіх трыбун сталі заклікаць даверлівых дзядзькоў і цётак вяртацца ў свае пакінутыя вёскі. І скарацілі высокаю воляй спецыяльны дзяржаўны чарнобыльскі камітэт…

Пайшоў жахлівы маральны распад маладой дзяржавы, разрастаецца, разгаліноўвае свае бязлітасныя метастазы ракавая пухліна таталітарызму і страху… Дык ці варта здзіўляцца, што гаспадары цёплых мінскіх кабінетаў гатовы сёння здаць у нябыт родную мову хойніцкіх, брагінскіх ды нараўлянскіх пакутнікаў і па сходнай (для іх!) цане спіхнуць дужаму суседу суверэнітэт знясіленай, пакалечанай Чарнобылем краіны? Подлая радыяцыя бяспамяцтва, невуцтва, хлусні, беспакаранасці і безадказнасці няўмольна і непазбежна разбурае і нявечыць дух і душу не толькі асобных людзей, а і цэлага народа…

Кожнага трэцяга жыхара Беларусі знішчыла другая сусветная вайна. Амаль трэцюю частку беларускай зямлі накрыла смяротная чарнобыльская хмара. Усё часцей ад радыяцыі Чарнобыля паміраюць нашы дзеці і ўнукі. Усё меней застаецца на планеце беларусаў. І хто ведае, ці так ужо многа часу запатрабуецца, каб іх не стала зусім, каб ціха і непрыкметна, на вачах у занятага ўласнымі праблемамі чалавецтва знік працавіты і гасцінны, таленавіты і цярплівы старажытны славянскі народ. Мы ўжо ўступілі ў страшную стадыю яго паўраспаду. Калі надыдзе поўны распад, адзін Бог ведае. А ён непазбежны, калі не прачнецца ў нас тысячагадовая памяць, калі не ўздыме нас з каленяў нацыянальная годнасць, калі не скінем мы з нашых рук і душ путы пакорлівасці і асуджанасці, калі на наш стрыманы крык аб небяспецы не адгукнуцца разам усе добрыя людзі ў свеце, калі не навучымся нарэшце засвойваць галоўныя ўрокі сівой і мудрай настаўніцы — Гісторыі…

У вясновыя дні 1986 года ў аглухлым лесе каля Брагіна ў мяне нарадзіліся такія сумныя радкі:

Ад Чарнобыля ў небе плыве аблачынка.
А па лузе ідуць хлапчанё і дзяўчынка.
Вецер шастае колкі.
Ліпкі дождждык імжыць…
І хто ведае,
Колькі
Засталося ім жыць.

Дзеўчанё яснавокае
І хлапчук светла-русы —
Па вясновай зямлі ідуць беларусы.
Узіраюцца ў неба зусім без апаскі,
Каля сцежкі зрываюць паніклыя краскі.
І прагрэс перад позіркам іхнім дрыжыць.
«А ці будзем мы жыць?»
«А ці будзем мы жыць?!»

І яшчэ там напісалася:

Бліскавіцай урана
Можна свет спапяліць.
І пякельнаю ранай
Мне Чарнобыль баліць.

Баліць ён і сёння. І не толькі мне. І балець будзе вечна. Павінен балець вечна.

*1996*

## ДУМАЙЦЕ!

Ну хто ж супраць рэферэндумаў у прынцыпе? Чаму б, сапраўды, не параіцца па важнейшых і вострых праблемах жыцця краіны з суайчыннікамі, выслухаць іх думкі, уведаць іх волю?..

Справа ўся ў іншым: *калі*, *як* і *з якою мэтай* наладжваць плебісцыт. Наўрад ці будзе хто спрачацца (і гэта пацверджана сусветным вопытам), што праводзіць народнае апытанне па складаных палітычных і тым больш прававых, юрыдычных стасунках у разгар эканамічнага крызісу, у час ідэалагічнага супрацьстаяння ў грамадстве па меншай меры рызыкоўна і неразумна. Хіба можна ўсур'ёз спадзявацца на тое, што скажам, заводскі слесар ці сельскі механізатар будзе ўнікліва ўчытвацца ў навуковыя тонкасці праектаў новых законаў, калі ўсе ягоныя думкі заняты горкім клопатам пра кавалак хлеба надзённага для сям'і і пра страшную перспектыву вось-вось папоўніць армію беспрацоўных? Хіба можна гаварыць пра свабоднае, усвядомленае волевыяўленне людзей, калі тэлебачаннем і радыё з сатанінскай настойлівасцю і нахабнасцю ад раніцы да самай начы ўбіваецца ў вушы і галовы толькі адна думка, толькі адзін варыянт рашэння? Хіба можна сходу падтрымаць ініцыятыву вышэйшага кіраўніцтва дзяржавы, калі яе мэтай адкрыта заяўляецца прэтэнзія на узурпацыю і бескантрольнасць улады?.. Таму немае галашэнне тлустых кабінетных катоў і замораных экранных канарэек аб тым, што так званыя, па іх словах, дэмакраты і апазіцыянеры супраць рэферэндуму, — бессаромная хлусня і шулерская падтасоўка. Апаненты прапагандысцкіх баевікоў — супраць *гэткага* рэферэндуму.

Думаю, няма патрэбы яшчэ раз прыводзіць тут пацверджанні цяжкога становішча нашай эканомікі, хранічнай хваробы нашай фінансавай сістэмы, схаванага, але няспыннага росту цэн, няўмольнага павелічэння даўгоў за энерганосьбіты. Што павінны б былі ў гэтай сітуацыі рабіць шматлікія чыноўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, Кабінета Міністраў, мясцовых органаў, уся шумлівая і паслухмяная «вертыкаль», якая, калі ве-

рыць гучным запэўніваннем, забыўшыся пра сон і адпачынак, турбуецца аб народным дабрабыце і росквіце рэспублікі? Адкінуць рашуча ўсе палітычныя «разборкі» і ідэалагічныя дыскусіі і заняцца рэфармаваннем гаспадаркі, пошукамі рэструктурызацыі прамысловасці, рэарганізацыі сельскай вытворчасці, наладжваннем выгадных гандлёвых і тэхналагічных сувязяў з партнёрамі на Усходзе і Захадзе. Дык жа не — яны ахвотна і натхнёна ўцягваюцца ў розныя «міжнародныя» шоў і фестывалі, у дзяржаўныя юбілеі з верталётамі, лістоўкамі, феерверкамі і канцэртамі дарагіх заезджых «зорак» не першай велічыні і якасці (і адкуль толькі грошы бяруцца?). За гэтым малаэфектыўным, але даволі эфектным заняткам лёгка забываецца настойлівая неабходнасць падрыхтоўкі праектаў эканамічных законаў, выпрацоўкі канкрэтнага механізму стварэння сучаснага рынку, кантролю за абнаўленнем прадукцыі і сацыяльнай абароненасці працоўных. Ад кіруючага бяссілля, відаць, вяртаюцца з нябліzкай ужо і састарэлай памяці «партыйна-гаспадарчыя» актывы, селектарныя нарады і агульнарэспубліканскія з’езды з загадзя зацверджанымі прамовамі і строга адабранымі ўдзельнікамі. Вяршыняй гэтай чынавенскай «творчасці» сталі, на мой погляд, Усебеларускі сход і прапагандысцкая вакханалія вакол прэзідэнцкага праекта, вынесенага на рэферэндум 24 лістапада, з масавым «датэрміновым» галасаваннем (як не прыгадаць модны некалі лозунг: «Пяцігодку — за чатыры гады!»).

Слухаючы штодзённыя аднастайныя (дарэчы, вельмі часта адных і тых жа адыёзных асоб) выступленні з гарачай падтрымкай усёй дзейнасці і ўсіх прапаноў Прэзідэнта, я міжволі задаю сабе «крамольнае» пытанне: а, уласна кажучы, навошта праводзіць рэферэндум, траціць вялікія грошы на нейкае ўсенароднае галасаванне, калі і з экрана, і ў эфіры не прагучала ніводнага слова супраць, калі ў нас пануе ўсеагульная рэкордная аднадушнасць і згода?

Мне бойкія журналісты могуць напомніць, што на забеспячэнне плебісцыту ідуць добраахвотныя «ахвяраванні» прадпрыемстваў, калгасаў, устаноў, грамадскіх арганізацыі, аб чым не раз апавяшчалі ўсіх і сам кіраўнік дзяржавы, і ягоныя нястомныя памочнікі і агітатары. А чаму б не аддаць гэтыя «плебісцытныя» грошы шпіталям інвалідаў, дамам ветэранаў, аптэкам, дзіцячым садкам, хворым чарнобыльцам? Ох, як часта ім не хапае тых тысяч і мільёнаў, якія так шчодра дораць сённяшняй грознай уладзе дысцыплінаваныя кіраўнікі калектываў!

Некаторыя пытанні рэферэндуму мне, скажу шчыра, здаюцца проста выпадковымі і несвоечасовымі. Ну чым, напрыклад, правінаваціўся перад мудрымі рэвізорамі нашага чырвонага календара Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, што ўжо сам па сабе ён не цягне на самастойнае свята і яго трэба «ўзбуйняць» Днём незалежнасці? Чаму ветэраны, героі франтавых атак і партызанскіх рэйдаў павінны мяняць крывёю заваяваную назву на зусім іншую, хай сабе і прыгожую і важную, — Дзень рэспублікі?.. Тады, можа, ёсць сэнс «зліць» Восьмае сакавіка з Першамаем, Сусветны дзень турызму з Днём рыбака і г. д.? Адкуль гэтае навязлівае жаданне ўсё мяняць (сцягі, святы, назвы), усё перарабляць па-свойму, бесцырымонна «падпраўляючы» і «рэдагуючы» нашу гісторыю, прызнаную ўжо ў свеце? Няўжо не даспадобы камусьці такія дарагія для кожнага беларуса паняцці, як «вызваленне» і «незалежнасць»?!

А цэлы вадаспад паправак у Канстытуцыю 1994 года, які робіць яе практычна новай…

Трэба ўдасканальваць, удакладняць наш Асноўны закон? Безумоўна. Ён зусім не ідэальны. Неабходна ўзняць ролю Кабінета Міністраў. Варта ўзмацніць сацыяльную абароненасць грамадзян. Трэба больш дэталёва акрэсліць механізмы ўзаемадзеяння і ўзаемакантролю галін улады. Хто ж супраць? Канстытуцыйных магчымасцяў для гэтага дастаткова. Але чаму так шмат правоў збіраецца забраць сабе Прэзідэнт — ажно да прызначэння членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі? І чаму ён — па праекту — не будзе несці ніякай адказнасці за парушэнне Канстытуцыі і законаў краіны? Няўжо — урэшце! — уся бяда і праблема ў тым, што сёння ў Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі мала ўлады?

Скажам шчыра: калі б наш прэзідэнт быў дастаткова самакрытычны і разважлівы, ён бы за два гады сваёй дзейнасці зразумеў, што не хапае яму, як гэта ні горка прызнаваць, не ўлады («царскай», як ён сам вызначыў), а ведаў, вопыту і кампетэнтнай каманды. І яшчэ не хапае строгага захавання дзяржаўнай і грамадскай дысцыпліны, калі Канстытуцыя і законы абавязковыя для выканання ўсімі грамадзянамі, і перш за ўсё — Прэзідэнтам краіны. Закон, а не начальнік павінен кіраваць усім — толькі так можна сцвердзіць сапраўдную дэмакратыю і сацыяльную справядлівасць. Крыўдна і небяспечна, што наш эмацыянальны лідэр ахвотна слухае сваіх агрэсіўных дарадцаў і інфарматараў, для якіх прынцыпам служэння ўладзе было і засталося бяз-

думнае халуйства перад «гаспадаром» і пагардлівае, барскае стаўленне да так званых народных мас, у вернасці якім яны так часта і так гучна клянуцца.

Сутнасць галоўнай задачы новай («маёй», як шчыра заявіў сам Лукашэнка) Канстытуцыі, калі адкінуць шматслоўную эквілібрыстыку дыпламаваных «вертыкальных» юрыстаў і бессаромную дэмагогію тэлевізійных інтэлектуальных дыстрофікаў, — у тым, каб Прэзідэнт (сённяшні!) атрымаў пацверджанае выбаршчыкамі права прымаць *любое* рашэнне. У яго ёсць шырокае і законнае права прымаць *канстытуцыйныя* рашэнні, але ён (а можа, той, хто змрочна стаіць за ягонай спіной) хоча займець права на *любыя* рашэнні. Менавіта для гэтага задуманы рэферэндум, менавіта дзеля гэтага ідзе нябывалы прапагандысцкі і адміністрацыйны націск на грамадзян Беларусі. Выканаўчая ўлада на чале з «бацькам»-«ствалом» не хоча мець побач з сабой ніякіх іншых «галін», ёй няймецца вярнуць звыклую камандна-размеркавальную сістэму. Таму так бесцырымонна паводзяць сябе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, таму так рашуча ідзе ў наступ кансерватыўнае чынавенства.

Безумоўна, ва ўсякай справе многае залежыць яшчэ і ад асабістых якасцяў пэўных асоб, тым больш — першых асоб краіны. Спадзяюся, многія, асабліва людзі сталага веку, добра памятаюць так званае «завяшчанне» Леніна, у якім ён папярэджваў сваю партыю аб небяспецы канцэнтрацыі агромністай улады ў руках Сталіна, аб тым, што грубасць, фанабэрыстасць генсека, яго нецярпімасць у адносінах да таварышаў могуць прывесці да сумных наступстваў. Партыя тады не прыслухалася да свайго правадыра і тэарэтыка — і на грамадства абрынуліся прымусовая калектывізацыя, а потым і масавае знішчэнне інтэлігенцыі, военачальнікаў, былых паплечнікаў і проста ўсіх «недастаткова паслухмяных». Не толькі трагічнай пошасцю, а і жорсткай дзяржаўнай палітыкай сталі пошукі разнастайных ворагаў народа…

Я разумею, наколькі небяспечная рэч — гістарычныя аналогіі, але ж і ігнараванне ўрокаў мінулага ніколі да дабра не прыводзіла.Трэба вельмі сур'ёзна і нават прыдзірліва думаць, каму канкрэтна аддаецца ў рукі абсалютная дзяржаўная ўлада.

Я не магу не адзначыць з балючым шкадаваннем канфліктнасць характару, катэгарычнасць, залішнюю імпульсіўнасць

таго, «пад каго» напісаны ў нас праект новай Канстытуцыі. Бескантрольная ўлада ў ягоных руках і пры ягоным «палкоўніцкім» атачэнні можа прывесці да канчатковага расколу разважлівага беларускага грамадства, да анархіі ў эканоміцы і поўнай міжнароднай ізаляцыі нашай краіны.

Прэзідэнту сёння шчыра вераць многія так званыя простыя людзі, прадстаўніком якіх усюды атэстуе сябе Аляксандр Рыгоравіч. Але ці заўсёды *гранічна* праўдзівы з імі наш «бацька» (менавіта такім ён абавязаны быць!)? Ці не наводзіць на няпросты роздум ягонае памкненне, мякка кажучы, запазычыць чужую прынцыповасць (як пры галасаванні ў былым Вярхоўным Савеце па віскулёўскіх дакументах), чужую ініцыятыву (як з прапановай аб стварэнні ў Еўропе «бяз'ядзернага поясу»), чужых часовых поспехаў (як пры «ўтрыманні» курсу валюты) і ўмела перакінуць на іншых свае прамашкі і пралікі (як, у прыватнасці, пры адмене льгот для ветэранаў ці ў гісторыі са славутымі «белымі плямамі» ў газетах)?

Давайце не забываць і аб тым, як нашы ўлады здольны па-свойму вытлумачыць афіцыйна зафіксаваную думку людзей. Успомнім майскі рэферэндум мінулага года. Пыталіся ў любімага народа аб эканамічнай інтэграцыі з братняй Расіяй, а найбольшую актыўнасць і настойлівасць, ківаючы на рэферэндум, праяўляюць, што мы відавочна бачылі ў самыя апошнія дні, якраз у *палітычнай* інтэграцыі. Атрымалі падтрымку ў сцверджанні *роўнасці* беларускай і рускай моў, а на афіцыйным Усебеларускім народным сходзе не прагучала ніводнага роднага слова (выключэнне — выступленне земляка, грамадзяніна Казахстана — толькі падкрэсліла гэтую нацыянальную ганьбу), а з вуснаў Прэзідэнта па-ранейшаму матчына гаворка злятае адно тады, калі яму трэба некага груба зняважыць ці гнеўна заклеймаваць. Гэткая ў нас усенародна ўхваленая роўнасць!

Вось я і задаю сабе і ўсім вам пытанне: а як могуць быць вытлумачаны вынікі цяперашняга рэферэндуму, сапраўды лёсавызначальнага і для Прэзідэнта, і для роднай Беларусі?

Думайце, паважаныя суайчыннікі! Думайце!

І яшчэ адно: калі пасля 24 лістапада на ўсіх вас (нас) — спярша нясмела, асцярожна, а пасля нахабна і бязлітасна — уздзенуць кайданы дыктатуры, не будзе ў гэтым віны ні Расіі, ні Вашынгтона, ні Шушкевіча з Багданкевічам. Галасаваць жа будзем мы самі, выбіраючы лёс не толькі для сябе, а і для дзяцей і ўнукаў. Так што, шаноўныя суайчыннікі, не спяшайцеся апусціць бюлетэнь у урну, паразважайце, парайцеся са сваім

жыццёвым вопытам і чыстым сумленнем — каб пасля не шкадаваць і не каяцца.

Думайце!

*1996*

## СПАДАРЫНЯ НАТАЛЛЯ

*Некалькі прыватных згадак*

Доўгія гады яна была для мяне своеасаблівай легендай, калі цяжка зразумець, дзе канкрэтны, рэальны чалавек, а дзе — рамантычны вымысел ці хітрая плётка. Адны гаварылі пра яе як пра выдатную паэтку, прыгожую, інтэлігентную жанчыну. Іншыя ж з адкрытай нянавісцю называлі яе прыслужніцай гітлераўскіх акупантаў і здрадніцай. І цяжка, амаль немагчыма было разабрацца, колькі праўды ў гэтых афіцыйна ці неафіцыйна прызнаных меркаваннях. Нават заўсёды дэмакратычны і шчыры Максім Танк і той толькі напусціў туману, аднойчы з мілаю сваёй усмешкаю і гарэзінкаю ў сініх вачах адказаўшы на мае роспыты: «О-о, Арсеннева — асоба няпростая…».

І вось так здарылася, што мой службовы лёс, нечакана перакінуўшы мяне праз акіян, даў магчымасць не толькі начытацца вершаў Наталлі Арсенневай, а і сустрэцца з ёю самою.

Першы раз я пабачыў яе ранняй восенню 1990 года на традыцыйнай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі непадалёк ад Кліўленда, у толькі што пабудаваным культурным цэнтры «Полацак». Быў цёплы сонечны дзень. Была святочная гамана даўніх знаёмцаў-эмігрантаў. Была радасная ўзрушанасць ад таго, што ўпершыню на сустрэчу прыехала вялікая маладая грамада з Беларусі. І было агульнае прадчуванне блізкіх і жаданых перамен у выстылым ад доўгага ідэалагічнага супрацьстаяння свеце…

Як нядаўна прызначаны пастаянны прадстаўнік БССР пры Арганізацыі Аб’яднаных Нацый я з пэўнай асцярогай азіраўся па баках, каб не натрапіць на якога-небудзь вядомага паліцая ці запіснога варожага «прапагандыста», і заўважыў, як каля некаторых людзей цеснымі купкамі збіраліся своеасаблівыя «клубы». У цэнтры аднаго з іх была чарнявая, сярэдняга росту жанчына ў белай вышыванай блузцы з гордай, яшчэ даволі стройнай паставай. Па ўсім было відно, што яна тут — знакамітасць, славутасць і звыкла прымаць знакі ўвагі і захаплення.

«Ці не Арсеннева?» — падумалася адразу ж, і я ўжо не выпускаў яе постаць з поля зроку ў віратлівым бязладдзі і мітусні першых хвілін арганізацыйнага ўладкавання ў зале.

Да таго часу я ўважліва прачытаў салідны том яе вершаў у цвёрдай сіняй вокладцы, выдадзены ў 1979 годзе нью-йоркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, і можна сказаць, няблага ведаў Арсенневу як паэта, паэта глыбокага і цэльнага. Аднак маё ўяўленне аб яе зямным «партрэце» было яшчэ залішне расплывістым, каб з ходу сцвярджаць, што ўгледжаная мною жанчына і ёсць славутая паэтка.

Але гэта была яна. Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель, з якімі я паспеў скантактавацца ў першыя месяцы сваёй дыпламатычнай працы, пацвердзілі мне гэта і пазнаёмілі нас. Пагутарыць толкам тады так і не ўдалося, бо безупынку да яе падыходзілі даўнія прыяцелі, цягнулі ўбок журналісты, ды і асаблівай адкрытасці ў нораве Н. Арсенневай, як я пасля пераканаўся, не было. Доўгае і цяжкае жыццё навучыла яе насцярожана ставіцца да новых людзей, тым больш калі яны маюць афіцыйны статус і прадстаўляюць дзяржаву, якая не хоча ведаць ні яе лёсу, ні яе твораў. Мы перакінуліся некалькімі ветлівымі словамі, усміхнуліся адзін аднаму і ціха разышліся без дамоўленасці аб будучых сустрэчах. Я паспеў разгледзець яе ўжо не малады твар, уважлівыя, разумныя вочы, сурова сцятыя вусны, дужыя, працавітыя рукі. І — адчуў моцную волю і па-мужчынску ўладарны характар. Такім было першае, абсалютна відавочнае ўражанне.

У многім пацвердзілі яго, хаця і тое-сёе папправілі, удакладнілі нашы наступныя сустрэчы, калі можна было, дзякуючы гасціннаму дому Бартулёў, няспешна пагаварыць, распытаць адзін аднаго, паразважаць. Зноў мяне ўразілі ясны, халодны розум Арсенневай, яе стрыманасць і пэўная дыпламатычнасць у ацэнках, што на першы погляд не надта паядноўвалася з яе маляўнічымі, настраёвымі вершамі. Але ў поўнай меры адкрыліся і тонкае пачуццё гумару ды бязлітасная самаіронія. Спадарыня Наталля (так прасіла яна называць сябе) любіла вострае слова, ахвотна пакеплівала са свайго ўзросту і творчай неактыўнасці. Яна даволі добра ведала беларускую паэзію 60–70-х гадоў, прыгадвала некаторыя імёны, як кажуць крытыкі, маладых на той час паэтаў — Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль, Анатоля Вярцінскага… Найноўшых аўтараў яна ўжо амаль не называла і шкадавала, што не мае магчымасці ўважліва сачыць

за літаратурным працэсам у Беларусі. Пра Танка гаварыла неахвотна, хаця з павагаю і прыязнасцю.

Я, безумоўна, пацікавіўся яе маладымі віленскімі гадамі, узаемаадносінамі з Максімам Гарэцкім. Вочы Арсенневай імгненна загарэліся, яна хораша, светла ўсміхнулася і глыбока ўздыхнула:

— Гэта быў выдатны чалавек ва ўсіх адносінах. Ён, можна сказаць, вызначыў маю паэтычную дарогу. Яго лічу сваім настаўнікам… А ўзаемаадносіны… Мы абодва былі маладыя, рамантычныя. Ён мне падабаўся. А я яму? Не ведаю. Я была залішне маладая і наіўная, каб асмеліцца на нешта большае, чым павага і сімпатыя. Ды і хлопцаў каля мяне круцілася многа…

Пра мужа свайго, Францішка Кушаля, прафесійнага вайскоўца і палітыка, пасады і выступленні якога непрымірымыя савецкія прапагандысты ахвотна прыпаміналі і ёй, Арсеннева старалася амаль не ўспамінаць. Магчыма, не сумнявалася, што тое-сёе са зласлівых публікацый пра яго было вядома і мне, а хоць неяк апраўдвацца — не ў яе характары. А магчыма, лічыла ўсё, звязанае з гэтым чалавекам, настолькі асабістым, інтымным, што не хацела дапускаць да яго мала знаёмага чалавека. Наогул у мяне склалася ўражанне, што Арсеннева вельмі многае хавала ў сабе і не любіла выпускаць на людзі. Пра свайго абранніка яна сказала толькі, зноў жа па-маладому ўсміхнуўшыся:

— Стройны быў, абыходлівы, у прыгожай вайсковай форме. Чаго ж болей хацець дзяўчыне?..

Пра высылку ў Казахстан не распавядала зусім, а пра жыццё ў акупаваным фашыстамі Мінску ўспамінала скупа і неахвотна. Гітлераўцаў не любіла і не пускала іх не толькі ў сваю душу, а і ў вершы. (Гэта я магу засведчыць: услаўлення захопнікаў, прыняцця іх рэпрэсій у творах яе я не знайшоў.) Пра адну трагедыю тых ваенных часоў яна ўспомніла літаральна некалькімі сказамі і пасля надоўга горка замоўкла.

Гаворка ішла пра гібель яе старэйшага сына Яраслава пры выбуху ў Мінскім тэатры 22 чэрвеня 1943 года. Міну заклалі партызаны, водгулле выбуху было гучным — і ніхто з нашых суровых летапісцаў народнага змагання з ворагам не захацеў хоць на хвілю ўбачыць жаночую, матчыну роспач. Сямейная бяда таксама была запісана ў чорны абвінаваўчы прысуд Арсенневай. Не хачу нікога папракаць — часы былі жорсткія, змаганне было смяротнае, — але зразумець гора маці магу і ацаніць тое, што яна ў сваіх вершах так і не паслала праклёнаў «лясным салдатам», — таксама.

Сам я, у свае шэсць гадоў, пабыў на роднай Расоншчыне ў акупацыю і малым заложнікам эсэсаўцаў, і галодным бежанцам, і напалоханым падлеткам з цёмнай сырой зямлянкі і нагледзеўся рознага… Былі мы тады воляю лёсу па розны бок «барыкад», але зразумець пачуццё няшчаснай маці я здольны…

Жыццё са сваёй сявенькі ўдосталь адсыпала Наталлі Арсенневай і чыстых зярнят радасці і ўдач, і сухой гірсы бяды і выпрабаванняў. Пражытага ёю хапіла б на дзесятак зямных лёсаў — і дзіву даешся, як гэта ўсё не зламала, не сагнула яе, не патушыла ў вачах вясёлага агню надзеі і спагаднасці. Атожылак таленавітага лермантаўскага роду (бацька яе — з тых Арсенневых, што па жаночай лініі далі свету геніяльнага рускага паэта), яна праз гады захавала шляхетную годнасць і нават велічнасць. На жывапісных партрэтах у яе паставе недарма ёсць нешта ад «царскасці» Ахматавай і «значнасці» велікасвецкіх прыгажунь. Яна ніколі не дазваляла сабе быць ці выглядаць слабай, залежнай, разгубленай.

Калі на вечарыне, прысвечанай яе дзевяностагоддзю, яе запрасілі на сцэну і я паспрабаваў дапамагчы ёй узняцца з-за стала, яна горда адвяла маю руку і сказала нават пакрыўджана:

— Вы што, Генадзь? Я сама…

І пайшла пад воплескамі, прамая, элегантная і годная. І бліскуча чытала на памяць свае даўнія вершы. І нізка кланялася бяседзе з падкрэсленым высакародствам і артыстызмам… А ўсяго за нейкі год перад тым яна перанесла цяжкую, складаную аперацыю.

Я, безумоўна ж, запытаўся ў Арсенневай, ці збіраецца яна наведаць родную Беларусь, Валожыншчыну, вёску Доры, прырода і людзі якой на доўгія гады нашапталі ёй так многа выдатных паэтычных радкоў. Яна пахітала сумна галавою і спакойна, як даўно абдуманае, сказала:

— Хацела б. Вельмі. Ды не змагу. Фізічна. Позна…

На сваёй кніжцы «Між берагамі» яшчэ пры першай нашай сустрэчы яна напісала мне: «Хай жа ж нішто не дзеліць больш нашы берагі!».

І я рады, што яна сёння стаіць на высокім беразе нашай літаратуры, знакамітая паэтэса Арсеннева, гожая і мужная спадарыня Наталля…

*1996*

## «ЗЕРНЕМ ВЕРЫ, НАДЗЕІ, ЛЮБОВІ»

Божа мой, Сяргею Законнікаву — пяцьдзесят!

Здаецца, толькі ўчора хударлявы вясковы хлопец з густым чубам і яснымі ўсмешлівымі вачамі нясмела пераступаў рэдакцыйны парог і аддаваў на суд першыя юнацкія вершы, а сёння ўжо на паэтычных паліцах у яго дзесятак салідных кніжак і сталае прыкметнае месца, а на рабочым стале — пісьмы ўсхваляваных чытачоў і сур'ёзныя дзяржаўныя адзнакі прызнання. Пройдзены традыцыйныя літаратурныя этапы ад асцярожнага, можа, нават крыўднаватага азначэння «пачынаючы», праз абнадзейваючае, але ўсё ж паблажлівае «малады» да спакойнага, упэўненага «паэт» і рэдкага, высокага — «майстар».

Чым жа і сёння помніцца, чым застаўся ў вершах той рамантычны юнак з Ушаччыны, які аднойчы асмеліўся не толькі рашуча ўзяць у душу загадкавае і пявучае матчына слова, а і выдыхнуць яго да ўсіх прызнаннем у любові і нянавісці?

Як для мяне, дык з першых публікацый Сяргей Законнікаў быў *сур'ёзным*. Паэзія ніколі, на мой погляд, не была для яго забаўкай, гульнёй, хай і цікавай, хай і прыемнай. Не была яна для яго і проста маладым, прыгожым захапленнем. Была яна адразу — справай. І хаця слова спярша яшчэ не дужа слухалася, не ішло само сабою, напоўненае глыбокай думкай і пачуццём, у радок, але Сяргей не дазваляў яму быць «недагружаным» жыццёвым вопытам, першародным узрушэннем, споведным прызнаннем.

Пазней — ужо маючы на гэта права — ён упэўнена напіша:

Засяваю свой сціплы аблог
Зернем
    веры,
  надзеі,
      любові.

Свой родны лясны куток, старажытны, партызанскі край С. Законнікаў з малых гадоў любіў некрыкліва, аддана і асязальна. Ягоная песня веры і любові пры гэтым не паўтарала хрэстаматыйных ужо вершаў зусім блізкіх славутых землякоў — Петруся Броўкі, Рыгора Барадуліна, Еўдакіі Лось, бо ў яго быў свой, адметны характар як у чалавека і паэта. На першым часе, вядома, ап'яняла захапленне цудоўнай прыродай Полаччыны,

яе «беларускасцю» — цяністымі лясамі, ціхімі азёрамі, жытамі каля вузкіх сцяжынак, — потым прыйшло ўдумнае адчуванне далучанасці ўласнага лёсу да гэтай зямлі, да негаваркіх людзей, якія штодзённа робяць на ёй цяжкую сялянскую справу, а пасля ўжо назаўсёды пасялілася ў душы і думках грунтоўнае веданне і разуменне і гістарычных каранёў, і будучыні — адвечнасці і вечнасці — Бацькаўшчыны. І ад вобразных імпрэсій, ад маляўнічых эскізаў натуральна прыйшоў Сяргей Законнікаў да балад і паэм, да цыклаў вершаў, дзе праглядваюцца філасафічнасць і шырыня сучаснага роздуму, якія дадалі творам не толькі панарамнасці, а і аналітычнасці.

Ці мяняўся з гадамі паэт і чалавек Сяргей Законнікаў?

Не сумняваюся, што мяняўся, і даволі прыкметна.

У адным са сваіх ранніх вершаў ён шчыра прызнаўся:

Ціхі голас аклікнуў,
Абступілі камлі…
Я ніяк не прывыкну,
Што жыву на зямлі.

Вось гэтая «непрывыкласць» да жыцця і будзіла ў ім новыя сілы, новыя памкненні, новыя зацікаўленні. Вабіў да сябе неабдымны зямны абсяг, на службовых і чалавечых пуцявінах траплялісія добрыя, разумныя людзі — і чалавек і паэт С. Законнікаў «развіваўся», мудрэў і дабрэў.

Наогул, як мне здаецца, дабрыня — адна з самых адметных рысаў Сяргея. З якой цеплынёй піша ён пра сваіх бацькоў! Як часта і замілавана ўспамінае ў вершах дочак! Якія прачулыя радкі прысвячае сябрам!.. Не так часта робім мы падобнае, з-за наіўнай сціпласці ці вясковай сарамлівасці пакідаючы за межамі творчасці прызнанні да блізкіх людзей…

Думаю, што якраз гэтай вось дабрынёю прадыктаваны і горкія, суровыя старонкі выдатнай паэмы Сяргея Законнікава «Зязюля». Чалавек нядобры, раўнадушны не ўбачыў бы на засыпанай чорным чарнобыльскім попелам зямлі дзяціных слядоў і мёртвых птушак, вялікай бяды маленькіх людзей і тоненькай свечкі душы ў халодных руках Сусвету. Збалелае сэрца паэта ў парыве адкрытасці і адчаю «выдыхнула» такія раздзелы, як «Гняздо», «Ку-ку!», «Калыханка». Як сталы, мудры чалавек, сын пасляваеннага часу і бацька акселератак-дзяўчатак, пабачыўшы слязу на шчацэ малой паляшучкі, без надрыву і гучных слоў ён сцішана прамаўляе:

Каб нашага гора глыбіні спазнаць
Паміж мітусні, драбязы,
Не трэба ўсе слёзы Айчыны збіраць…
Мне досыць і гэтай слязы.

Па маім перакананні, «Зязюля» — адзін з лепшых твораў у нашым журботным чарнобыльскім паэтычным летапісе…

У гэтым артыкульчыку я не стаўлю перад сабой задачу рабіць літаратуразнаўчае даследаванне напісанага Сяргеем Законнікавым — гэта справа прафесіяналаў-крытыкаў, і ім, як кажуць, пёры ў рукі. Але на некалькі заўваг асмелюся.

Перш за ўсё хачу адзначыць прадметнасць вершаў паэта. Яны вельмі натуральна і цесна «заселены» фактамі і рэаліямі жыцця, «відушчыя» і шчодрыя на маляўнічыя дэталі.

Прайдзі праз бор па леташняй ігліцы
І ўбачыш, — толькі ціхенька пастой,
Як жарабя цікаўнае ў крыніцы
На месяц наступае капытом.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
За акном у нераце галля
Месяц маладым ляшчом заб'ецца.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Бор ззелянелым крысом
Заслоніць сонцаву ўсмешку.
Валюхнецца ў рэчцы сом
Чорнаю галавешкай.

Усё гэта трэба было і зорка ўбачыць, і дакладна пакласці ў радок, што для мяне з'яўляецца бясспрэчнай адзнакай сапраўднага таленту.

Падабаецца мне ў вершах С. Законнікава і іх задушэўнасць, даверлівасць, маральная строгасць, беражнае стаўленне да слова, «заземленасць», якая, на шчасце, не прыводзіць да прыземленасці. Ён у добрым сэнсе слова традыцыйны — не крыклівы, не павярхоўны, не бяздумна-асляпляльны, піша так, як адчувае, як думае — і тым цікавы і дарагі.

Не магу не сказаць і яшчэ пра адну выдатную рысу Сяргея Законнікава — ягоную грамадзянскую актыўнасць, гарачы ўдзел у Беларускім Адраджэнні. Тэмпераментны прамоўца, нястомны арганізатар, бліскучы публіцыст — гэта таксама ён, адзін з тых, пра каго калісьці напісаў:

Дзеці чорнай раллі і высокага неба,
Спадзяванняў і веры людской кавалі…
Ёсць,
        відаць,
                у зямлі на паэтаў патрэба,
Бо ніхто іх не сеяў,
                а шчодра ўзышлі…

І ўрэшце, пяцьдзесят гадоў — хіба гэта многа?

Такая ж густая, як і была, чупрына, толькі з уплеценай павуцінкай жыццёвага зазімку. Такія ж ясныя і ўсмешлівыя, як і былі, вочы, толькі злёгку затуманеныя сумам страт і расчараванняў. Але ж — і больш умелая і ўпэўненая рука, і больш паслухмянае і важкае слова, і больш цвёрдыя прынцыпы, і больш блізкія сябры…

Дык — наперад, да новых яснот і ўдач, шаноўны наш паэт, дарагі мой зямляк!

***1996***

## НАВОШТА?!

Перачытваю праект Статута Саюза Беларусі і Расіі — і ніяк не магу пазбыцца адчування, што з’яднаная маскоўска-мінская (ці мінска-маскоўская) група амбіцыйных палітыкаў настойліва імкнецца ўцягнуць тысячы грамадзян дзвюх братніх краін у дужа хітрыя бюракратычна-кабінетныя гульні. Мноства агульных слоў, прапагандысцкіх фармулёвак, заштампаваных лозунгаў даўняга і навейшага часу, наспех занатаваных пажаданняў і ідэалагічных летуценняў і амаль поўная адсутнасць дакладнага, абгрунтаванага эканамічнымі разлікамі і дзяржаўным аналізам механізму ажыццяўлення гучна заяўленай на ўвесь свет небывалай у гісторыі чалавецтва інтэграцыі. Чым болей удумваюся ў трыццаць дзевяць прапанаваных артыкулаў падпісанага (ужо!) прэзідэнтамі Беларусі і Расіі дакумента, тым больш узнікае пытанняў.

Навошта спатрэбілася, напрыклад, так званае ўсенароднае абмеркаванне Статута, калі пад ім стаяць подпісы вышэйшых кіраўнікоў дзяржаў? Няўжо для таго, каб яны (пры пэўных абставінах) маглі раптам зняць свае аўтографы і прызнаць паспешнасць прапанаваных рашэнняў? Гэта, безумоўна, было

б выдатным праяўленнем дэмакратыі, але мне асабіста ў такі паварот падзей не верыцца.

А навошта мне яшчэ і грамадзянства Саюза? Мяне абсалютна задавальняе грамадзянства маёй роднай Рэспублікі Беларусь, як і маіх расійскіх сяброў — грамадзянства вялікай Расійскай Федэрацыі. Калі ж ёсць жаданне і патрэба забяспечыць больш шырокія правы прадстаўнікам братніх дзяржаў на сваёй тэрыторыі, дык гэта можна замацаваць адпаведнымі двухбаковымі пагадненнямі.

Навошта патрэбен Старшыня Вышэйшага Савета, які будзе прадстаўляць Саюз «у адносінах з дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі»? Няўжо Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка і Барыс Мікалаевіч Ельцын не здольныя «без падпоркі» дастойна абараняць у свеце інтарэсы сваіх народаў?

Навошта Выканаўчаму Камітэту надаецца права «прымаць рашэнні прамога дзеяння, абавязковыя для ўсіх галіновых і іншых органаў Саюза»? Няўжо для таго, каб ліквідаваць «лішнія» міністэрствы і ведамствы ў Расіі і Беларусі?

Навошта, урэшце, прыдумваць і ўводзіць у суверэнных дзяржавах яшчэ адну — саюзаўскую — сімволіку? І дзе мяркуецца яе размяшчаць: вышэй ці ніжэй, справа ці злева ад сённяшняй афіцыйнай?

Пытанні, пытанні, пытанні..

Тулееўска-чыкінскія ці сяроўска-посахаўскія мнагадумныя тэарэтыкі (хай самі разбіраюцца, чыіх заслуг болей), відаць, дужа задаволены ўласнай працай, напускаючы на даверлівых людзей сваім «лёсавызначальным» творам вялікадзяржаўнага настальгічнага туману. Яшчэ б: успомнена векавая дружба, запланавана зліццё інтэлектуальнага патэнцыялу, гарантаваны сумесны кардон супраць ненавісных натаўскіх генералаў, паабяцана выраўноўванне ўзроўню жыцця насельніцтва — і пры гэтым заяўлена захаванне поўнай самастойнасці дзяржаўудзельніц. Не толькі здорава, а нават і надзвычай прыгожа!

Праўда, рэальныя намеры, рэальныя мэты міжвольна, між радкоў, а то і скупымі, някідкімі словамі ўсё-такі прабіваюцца праз стракаты дыпламатычна-юрыдычны камуфляж. «Перспектыва развіцця Саюза накіравана на паслядоўны рух да добраахвотнага аб’яднання дзвюх дзяржаў…», «…Стварэнне неабходных умоў для ўвядзення адзінай валюты», «Аб’яднанне грашовых сістэм дзяржаў-удзельніц ажыццяўляецца шляхам фарміравання адзінага эмісійнага цэнтра». Вось так! Вось у чым справа! Ніякая тут не інтэграцыя задумваецца, а самае звычайнае

аб’яднанне (зліццё) у адну дзяржаву, толькі не імгненнае (перад светам жа няёмка за імперскія памкненні), а паступовае, скажам, на працягу адной пяцігодкі, а можа, узяўшы павышаныя абавязацельствы, і раней, датэрмінова — шматвопытным савецкім чыноўнікам да такога не прывыкаць. Словы пра суверэнітэт, пра дзяржаўную самастойнасць у Статуце — не больш чым непазбежны рытуал, вымушаны рэверанс. Бо калі казаць прама, без ідэалагічнай дэмагогіі, аб’яднанне Беларусі і Расіі бачыцца ягоным «бацькам» і трубадурам як першы крок да вяртання «магутнага Савецкага Саюза», а то і «вялікай Расійскай імперыі». Размова пра суверэнітэт Расіі, вядома ж, не ідзе. Аб гэтым смешна нават і заікацца. Запланавана «ўсячэнне», а потым, з цягам часу, і скасаванне суверэнітэту Беларусі. Аб гэтым адкрыта і настойліва па тэлебачанні і ў газетах гавораць многія вядомыя расійскія палітыкі — ад апантанага змагара за славянскую ідэю Амана Тулеева да «прагматычнага» Мікалая Ганчара. Вучоныпалітолаг Аляксандр Цыпко дык з радасцю ўжо абвясціў, што беларусы «ў імя яднання, выратавання дзяржавы расійскай самі добраахвотна вырашылі адмовіцца ад многіх атрыбутаў незалежнасці». Ні больш, ні менш! Так што можна аб’яўляць конкурс на новае імя плошчы Незалежнасці ў Мінску.

Неадольнае імкненне кіраўнікоў Беларусі ў дужыя абдымкі Расіі і ў Маскве, і ў Мінску галасна абгрунтоўваецца вынікамі ажно двух рэферэндумаў у нашай краіне. Пры гэтым дапускаецца (думаю, што свядома) маленькая, на першы погляд, «недакладнасць»: пры ўсенародным апытанні гаворка ішла пра эканамічную інтэграцыю, а прапануемы Саюз — аб’яднанне перш за ўсе і больш за ўсе палітычнае. Розніца істотная і відавочная. І таму запэўніванні ў тым, што беларускі народ ужо выказаўся наконт аб’яднання дзвюх дзяржаў, па меншай меры некарэктныя з юрыдычнага пункту гледжання. Не пыталіся ў беларусаў (і як відаць з прамоў палкіх «інтэгратараў» — і не збіраюцца пытацца) аб стварэнні «міні-СССР».

Яшчэ адзін «ударны» аргумент «аб’яднальнікаў»: рускія і беларусы — з адной славянскай сям’і. Так, але ж у славянскай сям’і есць яшчэ і ўкраінцы, і палякі, і балгары, і чэхі, і славакі, і славенцы, і сербы. Чаму ж мы іх не клічам у сямейны «інтэрнат»? Баімся, што яны ў яго не пойдуць? Дык, пэўна, варта задумацца: чаму. І хіба, калі браты жывуць у розных хатах, яны перастаюць быць братамі?

Палітычна-бюракратычныя гульні вакол Саюза, як мне здаецца, хутчэй за ўсё народжаны непамернымі асабістымі амбіцыямі

і далёкімі планамі некаторых высокіх дзяржаўных мужоў. Таму-сяму хочацца працягнуць сваё знаходжанне ва ўладзе як мага даўжэй, таму-сяму робіцца цесна ў межах роднай краіны, той-сёй хоча пагрэць валасатыя рукі каля суседскіх газавых факелаў. Вось і спяшаюцца выкарыстаць у сваіх авантурных мэтах сённяшнія пасады, людскі давер, цяжкую эканамічную сітуацыю, настальгію ветэранаў. Хіба дрэнныя дакументы прыняты ў рамках СНД? Хіба выканала свае задачы Супольнасць? Хіба працуе ўсур'ёз пагадненне паміж Беларуссю, Казахстанам, Кіргізіяй і Расіяй? Дык адкуль пільная патрэба ствараць яшчэ і Саюз? Навошта? Будуць падпісаны яшчэ адны дэкларацыі, створаны яшчэ бюракратычныя высокааплачваемыя структуры — гэта можна лёгка прадбачыць. А ці будзе, так сказаць, будзённая, адчувальная карысць грамадзянам Беларусі і Расіі ад яднання чыноўнікаў і дэпутатаў? Адказаць на гэта (акрамя агульных запэўненняў і спадзяванняў) пакуль што ніхто з палітыкаў так і не змог як з расійскага, так і з нашага боку.

Дзяржаўны суверэнітэт для беларускіх чыноўнікаў аказаўся непамерна цяжкою ношай. Няма на каго спісваць свае грахі, няма з кім дзяліць сваю адказнасць, няма дзе браць гатовыя рэцэпты для лячэння зацяжных хвароб грамадства. Вось і хочацца зноў займець Цэнтр, дзе ўсё будуць вырашаць, на які заўсёды можна спаслацца, які ў рэшце рэшт «падкіне» рэсурсаў і грошай. А самастойнасць, суверэнітэт, незалежнасць — іх жа на хлеб не намажаш, у шклянку не нальеш. Ды і лёс Беларусі гістарычна склаўся так, што вопыту дзяржаўнасці ў апошнія стагоддзі ў яе практычна не было.

У складзе Савецкага Саюза нашай Радзіме на словах гарантавалася і Канстытуцыяй, і законамі вунь колькі правоў, а рэальнай свабоды, рэальнай самастойнасці не было: кіраўнікоў для рэспублікі вызначалі і зацвярджалі ў Маскве; было Міністэрства замежных спраў, але не было ніводнага пасла Беларусі ў далёкіх і блізкіх краінах, як не было ніякіх пасольстваў у Мінску; найбольш таленавітых і вопытных арганізатараў, вучоных, архітэктараў хуценька забіралі «на павышэнне» ў «белакаменную»… І вось — паявілася рэдкая магчымасць у самым канцы бурнага дваццатага стагоддзя пабудаваць уласную нацыянальную дзяржаву. І, хоць марудна, але пачалася ў імя гэтага праца — складаная, цяжкая, часам навобмацак, часам няўдзячная. Працягваць бы яе, паглыбляць, паляпшаць, набываць вопыт, пракладваць уласны, непаўторны шлях. Усё для гэтага быццам бы ёсць — працавіты, добры народ, выдатнае геапалітычнае

становішча, неблагія тэхналогіі, даволі высокі ўзровень навукі. Набірайцеся, браткі-беларусы, мудрасці, умельства, годнасці! Дык не — не паспеўшы на поўныя грудзі ўдыхнуць свежага ветру дэмакратыі і незалежнасці, заявіць аб сабе ў свеце, зноў ціснемся пад чужое крыло, зноў бездапаможна разводзім рукамі: «Адным нам не пражыць, адным нам не справіцца…» А чаму? Што, у дзесяцімільённага народа няма адукаваных спецыялістаў, няма талентаў, няма аўтарытэтаў? Чаму мы не шукаем, не вылучаем, не падтрымліваем іх? Чаму ўвесь час азіраемся: а што нам скажуць, што нам параяць у Маскве ці Пекіне, у Парыжы ці Сеуле? І пры гэтым у патрыятычным запале з высокай трыбуны той-сёй абвяшчае, што беларускі народ — самы лепшы, самы мудры ў свеце.

Ледзь не з набатным біццём у грудзі афіцыёзныя агітатары са Статутам у мазолістых руках даказваюць, што ў яднанні Расіі і Беларусі ва ўсім і ўсюды будзе абсалютная роўнасць («адна краіна — адзін голас»!). І можна было б толькі парадавацца за светлую будучыню, калі б я не ведаў на горкім айчынным вопыце, як часам інтэрпрэтуецца паняцце роўнасці ў нашых высокіх палітычных сферах.

У маі 1995 года на вядомым рэферэндуме электарат адназначна выказаўся за роўнасць беларускай і рускай моў (заўважце: гаворкі пра статус рускай мовы як дзяржаўнай не было) і ў выніку — руская мова стала ў Рэспубліцы Беларусь другой дзяржаўнай, пачалі зачыняцца беларускія класы, рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных школ, перасталі выступаць па-беларуску дэпутаты, паступова выцясняецца нацыянальнае слова з тэлевізійных і радыёперадач. А зазірніце ў любую кнігарню ці газетны кіёск — і не трэба ніякіх даследаванняў і падлікаў: усе ясна. Пявучая, старажытная, багатая славянская мова — беларуская — ціха канае пад напорам канцылярскай абяскроўленай «рабочай» расійскай мовы, якая, згодна з праектам Статута, стане адзінай афіцыйнай у новым Саюзе і якая, прызнаемся шчыра, знаходзіцца ў вельмі аддаленым сваяцтве з цудоўнай мовай Пушкіна, Талстога, Чэхава, Дастаеўскага, Твардоўскага, Астаф’ева. Ці не падобную «роўнасць» рыхтуюць для Беларусі зацятыя «інтэгратары» і «збіральнікі рускіх земляў» і ва ўсіх іншых стасунках аб’яднання?

І яшчэ хачу сказаць пра адну асаблівасць шумнай палітычна-прапагандысцкай «саюзнай» кампаніі, на якую з-за традыцыйнай сціпласці ці з-за страху атрымаць ліпкі ярлык нацыяналіста не звярнулі ўвагі нашы ўдзельнікі «ўсенароднага абмеркавання».

Сярод самых актыўных, самых галасістых прыхільнікаў неадкладнага і поўнага аб’яднання Беларусі і Расіі большасць складаюць некарэнныя беларусы. Між іх не відно пакуль што ні Жукавых (а легендарны Георгій Канстанцінавіч чытаў у свой час лекцыі ў Белдзяржуніверсітэце на беларускай мове), ні Пічэтаў (а шырокадасведчаны Уладзімір Іванавіч стаў адным са знакамітых дзеячаў нацыянальнай навукі і адукацыі), ні Глебавых (а непаўторны Глеб Паўлавіч быў адным з самых любімых беларусамі артыстаў-купалаўцаў), але настырнасці і смеласці ў абвяшчэнні сябе паўнамоцнымі прадстаўнікамі Беларускай дзяржавы, чыю мову і гісторыю за дзесяткі гадоў службы ці працы на братняй славянскай зямлі яны так і не захацелі вывучыць, ім, як кажуць, не пазычаць. Пра такіх некалі вельмі дакладна напісаў геніяльны расіянін Міхаіл Лермантаў: «Смеясь, он дерзко презирал земли чужой язык и нравы, не мог щадить он нашей славы». Для такіх Беларусь часцей за ўсё — чарговае месца службы, ці камандзіроўкі, ці «лоўлі шчасця і чыноў». Для нас жа гэта Радзіма, лёс, роднае гняздо. І мы (ва ўсякім разе большасць беларусаў) хацелі б, каб у нас быў свой, асобны, утульны, бацькоўскі дом, у які мы заўсёды гатовы запрасіць і кроўных братоў, і дарагіх сяброў, і добрых суседзяў. Не хочам мы жыць у прыбудове да нейчага палаца ці ў бакавушцы ў багатага гаспадара. Нашы дзеці, нашы ўнукі не даруюць нам, калі мы не здолеем зберагчы і ўладкаваць сваю незалежную дзяржаву — наш беларускі дом. Пра гэта трэба памятаць і нашым лідэрам, і нашым «дабрадзеям», бо вельмі ж ужо смела збіраюцца яны абыходзіцца з гісторыяй і лёсам цэлага народа.

Разумею, як накінуцца на мяне апалагеты «Славянскага сабора» ці макашоўска-баркашоўскія падпявалы ды і залішне «разважлівыя» згоднікі і прагматыкі. Калі з першымі спрачацца няма сэнсу, то другім на іх довады пра плённасць аб’яднання хачу нагадаць вядомы анекдот. Да славутага, але не дужа сімпатычнага Бернарда Шоу прыйшла аднойчы прыгажуня-актрыса і прапанавала заключыць шлюб. «Уяўляеце, — сказала яна, — якія ў нас будуць дзеці: таленавітыя і разумныя, як Вы, і прыгожыя, як я». На што вялікі драматург адказаў: «А што калі яны пойдуць тварам — на мяне, а розумам — на Вас?..» Ці змогуць паручыцца нашы кіраўнікі, што ў новы дзяржаўны саюз не аб’ядналоцца недэмакратызм Беларусі і мафіёзнасць Расіі?..

Дык навошта спяшацца? Навошта зноў замест эвалюцыйнага шляху развіцця выбіраць рэвалюцыйны? Хіба гэта мала — усебаковае ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва і шчырая векавая дружба самастойных, годных народаў?

Няўжо зноў ёсць жаданне выцягнуць з царскіх пражавелых сундукоў шавіністычную бязглуздзіцу аб несамастойнасці беларускай нацыі і няздольнасці беларусаў да незалежнай дзяржаўнай дзейнасці?

Навошта?!

*1997*

## АБАРОНІМ НАШУ РОДНУЮ МОВУ!

*Выступленне на Другім з'ездзе беларусаў свету*

Так склаліся ў мяне абставіны жыцця, што я не быў на Першым з'ездзе беларусаў свету. Але сродкі масавай інфармацыі, жывыя ўражанні яго ўдзельнікаў данеслі і да мяне шчаслівую атмасферу радасці і яднання, якая панавала тады і ў зале, і ў кулуарах. Я вельмі чакаў сённяшняй, другой сустрэчы. Я спадзяваўся, што яна будзе і яшчэ больш урачыстай, і яшчэ больш дзелавой, і яшчэ больш плённай. Але атмасфера ў нас — ва ўсякім разе, у многім — невясёлая.

Што ж адбылося за гады паміж першай і другой сустрэчамі? Змяніўся характар беларуса? Высахлі нашы бары і рэкі, перасталі расці жыта і лён, замоўклі над нівамі і сенажацямі жаўранкі і кнігаўкі?.. Не, змянілася ўлада, змянілася дзяржаўная палітыка. Ды так крута, так нечакана, так нахабна, што мову адымае.

Вось пра мову я і хачу сёння гаварыць, наколькі дазволіць рэгламент і паколькі я прадстаўляю тут Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, грамадскую, некамерцыйную, непалітычную арганізацыю, створаную для спрыяння роднаму матчынаму слову, а цяпер — адпаведна з нашымі рэаліямі — для нялёгкай абароны яго. Паколькі не сумняваюся ў вашай дасведчанасці ў нацыянальнай беларускай гісторыі, не буду зазіраць далёка ў мінулае, не буду клікаць у сведкі святыя цені нашых геніяльных землякоў і пастараюся нават не захапляцца залішне каментарыямі. Прывяду для вашага роздуму факты, найбольш звязаныя са школьніцтвам, з навучаннем і выхаваннем нашых мілых дзетак.

Да пачатку 1994/1995 навучальнага года ў сталіцы нашай краіны — Мінску было 130 школ са статусам беларускіх (па некаторых іншых дакументах — 110). Не будзем дужа строга разглядаць поўную ці не адпаведнасць іх канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, адзначым як факт — 110. І заўважым, што ў маі

1995 года адбыўся вядомы рэферэндум, дзе, між іншым, стаяла пытанне аб наданні рускай мове статусу, роўнага са статусам беларускай мовы. Падкрэсліваю: не статусу дзяржаўнай мовы, не асаблівага, а роўнага. І вось 1996/1997 навучальны год. Беларускіх школ у Мінску — 17. У Гродне, дзе ў 1995/1996 навучальным годзе было 27 беларускамоўных школ, свой статус захавалі толькі 3 школы. Рэзка ўзрасла колькасць рускамоўных школ і класаў. Праз год пасля абрання першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь колькасць школ з рускай мовай навучання павялічылася, напрыклад, у Гомельскай вобласці з 14,5 % да 60,3 %, Віцебскай — з 18,3 % да 42,9 %, Магілёўскай — з 17,2 % да 42,9 %. І гэтая тэндэнцыя, гэты працэс усё больш набіраюць сілу. Калі б у мяне былі сённяшнія лічбы, яны б былі яшчэ больш непрыемныя. Таму я хацеў бы папрасіць паважанага Аляксандра Рыгоравіча, калі яму ягоныя памочнікі кладуць на стол паперы з чуллівымі словамі старой прапаганды аб шчаслівым жыцці і росквіце беларускай мовы, даражыць сваёй пасадай прэзідэнта і не падпісваць нахабную, відавочную хлусню.

Смешна выглядаюць пры тлумачэнні такіх з'яў спасылкі на аб'ектыўныя заканамернасці развіцця, на глабальныя інтарэсы. Дзе «геапалітычныя карані» таго, што кіраўнікі парламента нядаўніх часоў Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Сямён Шарэцкі вялі пасяджэнні па-беларуску, а сённяшнія старшыні так званых палат Анатоль Малафееў і Павел Шыпук не дазваляюць сабе апусціцца да «мужычай» мовы таго народа, які яны так смела збіраюцца весці да дабрабыту і росквіту? Што, беларусы ўсе раптам адмовіліся ад матчынай песні, ад бацькоўскіх казак? Што, сапраўды, «вялікі славянін» сучаснасці Аман Тулееў лепей ведае нас, сцвярджаючы, што 80 % беларусаў лічаць роднай рускую мову, хаця па афіцыйных дадзеных апошняга перапісу насельніцтва 1979 года 74,5 % грамадзян нашай Радзімы назвалі роднай мову беларускую? Чаму тыя дзяржаўныя служачыя, якія свабодна валодаюць дзяржаўнай беларускай мовай, як, напрыклад, міністр замежных спраў Іван Антановіч, дэманстратыўна перасталі карыстацца ёю ў сваіх выступленнях і на прэс-канферэнцыях у Мінску?.. Дзе тут вялікі розум і вялікая культура, дзе тут урэшце элементарная павага да аднаго са старажытнейшых славянскіх народаў?..

Да чаго прыводзіць сённяшняя нацыянальная палітыка — назавём гэта так — вышэйшых эшалонаў беларускай улады, відно на прыкладзе, які, можа быць, для таго-сяго здаецца дробным. Я маю на ўвазе загад № 135 ад 16 красавіка 1997 года дырэктара

Наваполацкай ЦЭЦ У. А. Лебедзева, які тут ужо цытаваў паважаны Радзім Гарэцкі: «В связи с тем, что большинство работников ТЭЦ не владеет з совершенстве белорусским языком и в соответствии со ст. 17 Конституции Республики Беларусь, которая определяет Государственными языками в РБ белорусский и русский, приказываю: 1. Всему руководящему составу управления ТЭЦ, начальникам цехов, отделов и служб оперативную и техническую документацию вести только на русском языке. 2. Зам. директора по кадрам Дятлову В. В. внести соответствующие изменения в инструкцию по делопроизводству. 3. Приказ объявить всем работникам ТЭЦ». Вось такі братэрскі клопат ураджэнца Іванаўскай вобласці Расіі аб культуры нашай мовы, аб захаванні Канстытуцыі. Вось такая роўнасць, сцверджаная ўсенародным рэферэндумам…

Той-сёй можа мне сказаць: ну чаго не бывае ў жыцці, хапае яшчэ ў нас і бяздумных бюракратаў, не дужа адукаваных адміністратараў. Так. Але ж ніхто з прадстаўнікоў улады, якія так аберагаюць у нас вынікі розных апытанняў і пагадненняў, не толькі не спагнаў з гэтага шавініста-дзяржыморды (дарэчы, гэтае азначэнне не маё, а Уладзіміра Ільіча Леніна), а нават не даў ацэнкі гэтаму грубейшаму парушэнню Канстытуцыі і правоў чалавека. Чаго маўчаць? Чаго ім вочы засланіла — гэта ж надрукавана ў многіх тысячах экземпляраў?..

Беларускае слова чыноўнікамі розных узроўняў паслядоўна выганяецца з выдавецтваў, бібліятэк, тэле- і радыёперадач, з лепшых памяшканняў сталіцы. Прайдзіцеся па кнігарнях, пагаварыце з выкладчыкамі і навучэнцамі Беларускага гуманітарнага ліцэя, паглядзіце тэлепраграмы і паслухайце радыёперадачы — і вы зразумееце, як няўтульна апошнім часам у роднай Беларусі ўсяму беларускаму. Хіба можа яшчэ ў якой краіне быць заключны канцэрт міжнароднага фестывалю (маю на ўвазе «Славянскі базар»), дзе ніводнай песні не прагучала на мове гаспадароў фестывалю? Хіба ёсць яшчэ ў свеце краіна, дзе кіраўнік дзяржаўную мову яе называе беднай і неразвітай і выкарыстоўвае з мэтай зневажання сваіх апанентаў? Хіба ёсць яшчэ дзе краіна, дзе кіраваць навукаю і культураю ставяць чалавека, які не толькі не ведае гэтай культуры, а і адкрыта не паважае яе?..

Таму не дзіўна і лагічна, у якіх цяжкіх умовах даводзіцца працаваць Таварыству беларускай мовы. Спынена фінансаванне газеты «Наша слова». Павялічана ў 70 разоў арэндная плата за офіс. У нас няма сродкаў на выданне матэрыялаў навуковых

канферэнцый па праблемах развіцця беларускай мовы. На шыі Таварыства ў сувязі з усім гэтым вісяць шматмільённыя даўгі, хаця кошту ўсяго аднаго залпа нядаўняга святочнага феерверка хапіла б, каб мы з імі разлічыліся. Але дзяржаву лёс беларускай мовы, яе прыхільнікаў і працаўнікоў, як кажуць, мала турбуе. У яе, відаць, іншыя задачы і намеры. Вось я і звяртаюся, як гэта мне ні горка і сорамна рабіць, да ўсіх вас з просьбай падтрымаць Таварыства беларускай мовы, аказаць яму пасільную матэрыяльную дапамогу. Іначай непазбежна паўстане пытанне аб роспуску ці самаліквідацыі нашай арганізацыі…

Я пачуў нядаўна, што наш з’езд — гэта палітыканства і яшчэ трэба падумаць, ці пускаць нас сюды. Вельмі цікава атрымліваецца: калі тыя факты, якія я прыводзіў, — гэта, аказваецца, правільная, дзяржаўная палітыка, а тое, што мы крыкам крычым часам (можа, сапраўды, форма залішне эмацыянальная) у абарону беларускасці, у абарону мовы, у абарону дзяржаўнасці, у абарону роднай зямлі — крытыканства, дык да якога ж маральнага падзення трэба дайсці, знаходзячыся вельмі высока ў дзяржаве, каб так гаварыць, так думаць, у гэткім пераконваць іншых?!.

Урэшце ў канцы можна спытаць: дык што ж, нічога вясёлага нас не чакае? Я не хацеў бы так заканчваць сваё выступленне.

Нам Бог — не прэзідэнт, не братнія народы, не Арганізацыя Аб’яднаных Нацый — даў гэтую зямлю. І няма больш нідзе ў свеце Беларусі, акрамя гэтай зямлі.

Нам Бог даў нашу беларускую мову, родную з многімі, не падобную на многіх.

І мы, беларусы, калі маем годнасць і калі мы сапраўдныя беларусы, не павінны нікому аддаць ні нашай зямлі, ні нашай мовы, ні нашай дзяржавы.

Будзем мы, беларусы, жыць на Зямлі — будзе жыць наша Беларусь!

*1997*

## З ЖАЎРАНКАМ У ДУШЫ

Паэты такой арганічнасці таленту і такога ўзроўню майстэрства, як Пімен Панчанка, нараджаюцца не часта. І нямногім на зямлі выпадае шчасце жыць з імі ў адзін час, чуць іх голас, яшчэ ў рукапісе чытаць іх вершы, дзяліць сяброўскае застолле

і споведную гамонку. Мяне такая рэдкая ўдача не абышла — я сябраваў з Піменам Панчанкам, я і сёння не ўяўляю жыцця без яго па-народнаму мудрага і пявучага слова.

Помню сваё першае ўражанне ад вершаў Панчанкі. Яны мне спадабаліся, а дакладней — леглі на душу адразу. Як бывае каханне з першага позірку, так і бывае давер і захапленне з першых пачутых ці прачытаных радкоў.

Гэта былі зусім не сытыя, але вельмі радасныя пасляваенныя гады. Хмяліла вялікая Перамога, патроху зарубцоўваліся абвугленыя раны на роднай зямлі, аціхаў, наколькі гэта магчыма, боль ад страт і пакут. І ажно захлыналася ад афіцыйнага барабаннага бою савецкая паэзія. Наіўнаму расонскаму хлапчуку, мне здавалася тады, што так і павінна быць, што ўсе доўгія оды шчасцю і багаццю сярод нястач і незабытых трагедый — магістральны шлях літаратуры. А тут — даволі сціплая кніжка з чырвоным надпісам на вокладцы «Далёкія станцыі», дзе быў і патрыятызм, і высокі пафас, і ўслаўленне неўміручага подзвігу герояў Вялікай Айчыннай вайны, але было яшчэ і непаўторнае, магічнае дыханне праўды і шчырага пачуцця, дакладнае і вельмі натуральнае слова. І на ўсе сто старонак зборніка, які і дагэтуль з’яўляецца адной з рэліквій маёй бібліятэкі, усяго тры (гэта я падлічыў значна пазней) упамінанні імя «арганізатара і натхняльніка ўсіх нашых перамог» — генералісімуса Сталіна. Было непрывычна і радасна чытаць вершы без пустой палітычнай траскатні і шаблонных гучных лозунгаў. Да глыбіні юнай душы кранала «Коні», «Мая геаграфія». Ашаламілі «Герой», «Вока снайпера». Зачараваў «Іранскі дзённік».

Васіль Быкаў ва ўступным артыкуле да чатырохтомнага збору твораў Пімена Панчанкі адносна верша «Герой» зазначыў: «Думаецца, калі б ён пра фронт не напісаў болей нічога, дык адных гэтых радкоў хапіла, каб з такой яркай канкрэтнасцю выразіць усю пакутніцка-гераічную сутнасць мінулай вайны».

Дарэчы, ваенная памяць Пімена Панчанкі бяссонна жыла ў ім усё яго творчае жыццё, нараджаючы такія паэтычныя шэдэўры, як «Незакапаныя дамавіны», «Апельсіны», «Кавуны», зноў і зноў бязлітаснаю мераю дабра і зла вымяраючы чалавечыя прынцыпы і дзяржаўныя рашэнні. Аддана і беражна пранёс паэт па ўсіх сваіх пуцявінах святую і сумленную выснову:

А хто не паспрыяў людскому шчасцю,
Каго і сёння гне халуйскі страх,

Дык той не франтавік, не нашай часці,
А недзе акалачваўся ў тылах.

Як і многія літаратурныя равеснікі, Пімен Панчанка, будучы ўсёю сваёю сутнасцю грамадска-актыўнай і шчыра-даверлівай асобай, адгукаўся і на сацыяльны заказ часу, і на настойлівыя заклікі ідэалагічных камісараў. З імпэтам, а то і з замілаванасцю пісаў ён і пра грандыёзныя пасляваенныя будоўлі, і пра гучныя антываенныя акцыі, і пра адважны прарыў у космас. І паколькі было гэта ўсё ў яго сагрэта арганічным унутраным хваляваннем, адухоўлена выдатным талентам, дык і вершы «на надзённую тэму» нярэдка атрымліваліся па-сапраўднаму прачулымі і засталіся жыць, натуральна і лёгка пазбыўшыся прывязанасці да канкрэтнай падзеі ці даты («Беларусі», «Белыя яблыні», «Размова з наследнікамі» і г. д.)

Але самыя высокія ўзлёты панчанкаўскага натхнення прыпадалі на перыяды гістарычных духоўных узрушэнняў роднага краю, калі да мастака сама сабою прыходзіла надзвычайная свабода выказвання, калі ў адно цэлае шчасліва зліваліся думкі творцы і памкненні народа. Гэта вельмі выразна праглядваецца ў датах пад вершамі. Вялікая Айчынная вайна. Славутая хрушчоўская «адліга». Гады так званай «перабудовы»… Тады нараджаліся самыя споведныя, самыя шчымлівыя і самыя звонкія радкі, без якіх немагчыма ўявіць сабе беларускую паэзію. Назаву толькі некалькі вельмі дарагіх і важных для мяне твораў: «Сінія касачы», «Прыстасаванцы», «Паэма майго лесу», «Родная мова», «Край паэтаў», «Дзе начуе жаўранак…», «Развітанне»… Унікальная чуйнасць да вызначальнага, запаветнага менавіта тады, калі ў людзях выпростваецца іх годнасць і непаўторнасць, дыктавала Панчанку такія словы, на якія адгукаліся збалелыя душы сучаснікаў і па якіх будуць судзіць цэлыя пакаленні беларусаў строгія нашы нашчадкі. Гэты феномен, я думаю, яшчэ будуць разгадваць і даследаваць крытыкі і псіхолагі, а сам паэт у канцы жыцця горка і чэсна прызнаваўся:

Даруй, зямля мая, за дробныя грахі,
А буйных я не меў:
Адданым быў салдатам.
Я часам быў сляпы,
А часам быў глухі
І пеў хвалу
Усім чырвоным датам.

Не, не вымушаная хвала, а выпакутаваная, часам шчымліва-бязлітасная споведзь — галоўнае ў тым звонкім даробку, які падарыў народу пясняр.

Мы рэдка задумваемся, як многа значыць у духоўным жыцці праўдзівае і таленавітае слова. А хіба была б такою, як ёсць, наша Беларусь без творчасці Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча? Хіба былі б такімі, як ёсць, беларусы, калі б не прачыталі ў свой час кніг Кузьмы Чорнага, Максіма Гарэцкага, Кандрата Крапівы, Аркадзя Куляшова, Івана Мележа, Максіма Танка? Якія б радкі цытавалі мы нашым шаноўным гасцям, калі б Пімен Панчанка не выгукнуў вось гэтыя, непаўторныя:

Тут у Лельчыцах сэрцы лечацца,
І у Добрушы добра жыць.
Задушэўная песня Рэчыцы
Можа кожнага заваражыць…

Ці:

Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз…

Ці:

Дзе ж той край залатакосы, край зялёны —
Рык ласіны,
Звон пчаліны,
Мора лёну?

Там, дзе Свіцязь, там, дзе Прыпяць і Ясельда,
Дзе танцуюць пад цымбалы на вяселлях;

Дзе жанчына, сінявокая і ласкавая,
Звонка чаравічкамі паляскавала.

Ці маглі б мы ў свеце пачуваць сябе вартымі ўвагі і павагі, каб не мелі неацэнных (і, на жаль, самімі яшчэ не да канца ацэненых) скарбаў чарадзеяў нашай старажытнай крынічнай мовы? Упаўне магчыма, што той-сёй з порсткіх сённяшніх чыноўнікаў рашуча абвесціць, што маглі б, бо па дрымучасці сваёй лічаць развітымі і самабытнымі з сотні жывых моў свету ад сілы дзве

(безумоўна, не ўключаючы беларускую), — і выстраяць для доказу доўгія калоны аўтамабіляў і трактароў ды саставы з калійнымі ўгнаеннямі і смалістымі бярвеннямі. Наіўна было б чытаць вершы глухім душам гэтых бязродных дзяржаўных авантурыстаў і ўсемагутных палітычных халуёў. Іх нікольки не бянтэжыць відавочная ісціна, што не горшыя трактары і сосны ёсць і ў іншых краінах, а вось ні Купалы, ні Мележа, ні Панчанкі нідзе няма і не будзе. О, калі наш народ прымусіць усвядоміць гэта так званых сваіх кіраўнікоў і прадстаўнікоў! Калі ўрэшце і сам ён засвоіць гэта?!.

Пімен Емяльянавіч Панчанка нёс жыццядайнае святло і цяпло не толькі сваімі творамі. Ён быў, паверце мне, надзіва, рэдка абаяльны, добры чалавек з сінімі смяшлівымі вачамі, мяккімі «беларускімі» валасамі, глухаватым, зусім не трыбунным голасам. Ён вельмі любіў вандроўкі, сяброўскія застоллі, вясёлыя прыгоды, дзяцей. Настаўнікам ён быў не столькі па сваёй першай прафесіі, колькі па жыццёвым прызванні. З яго блаславеннем, з ягонай добразычлівай дапамогай прыйшлі ў літаратуру дзесяткі сённяшніх бліскучых майстроў паэзіі і прозы — Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Янка Сіпакоў… Ён і сёння прыкладам сваім вучыць «паэтычных унукаў» сумленнасці, прынцыповасці, патрабавальнасці, закаханасці ў Бацькаўшчыну.

На першы погляд, афіцыйныя ўлады не абыходзілі Панчанку знакамі прыхільнасці і падтрымкі. Былі на ягоных грудзях і высокія ордэны, і лаўрэацкія ды дэпутацкія значкі, і атрымаў ён ганаровае званне народнага паэта. Усё заслужана, усё, як кажуць, правільна. Вось толькі далёка не ўсе ведаюць ці памятаюць, што многае прыходзіла да Пімена Емяльянавіча, як па законах тых часоў, дык з відавочным спазненнем і, акрамя медалёў і прэмій, былі ў яго (за творчасць!) і партыйныя вымовы, і грозныя «прачуханцы» ў адказных кабінетах, і зласлівыя ўшчуванні залішне «прававерных» крытыкаў. Праўда, амаль усе — і тыя, хто сапраўды любіў і цаніў яго, і тыя, хто з зайздрасцю і нават нянавісцю сыкаў на яго, — урэшце сыходзіліся ў адным, неаспрэчным: талент рэдкі.

Мудры час усё расстаўляе па сваіх месцах. Радасна, што з паэзіяй Панчанкі ён, як кажуць, вызначыўся ўжо даўно: яна па безумоўнаму праву стаіць побач з творчасцю Купалы, Куляшова, Танка. Нешта з напісанага ім пераасэнсуецца, загучыць зусім па-іншаму, нібы народзіцца нанова, але бясспрэчна адно: пакуль будзе жыць душа Беларусі, будзе жыць і слова Пімена

Панчанкі, бо ў ім непаўторна, даверліва і незабыўна выразілася і выказалася гэтая душа…

У адным з маіх любімых вершаў Панчанкі паэт на наіўнае і нечаканае пытанне, а дзе ж начуе жаваранак, амаль сур'ёзна адказаў: магчыма, у ягонай душы.

Ён і сёння звініць над намі, панчанкаўскі жаваранак, якому так добра і так далёка відно ўсё зверху і які так шчодра і так проста раздае свае песні ўсяму адвечнаму — і жыту ў полі, і крынічцы ў лузе, і сцяжынцы ў лесе, і матулінай слязе, і дзяцінай усмешцы. Ён не можа, не павінен змоўкнуць!

*1997*

## КАБ ПАЧУЛІ!..

Мінула ўжо некалькі месяцаў пасля першага з'езда настаўнікаў, а памяць яшчэ і яшчэ раз вяртае мяне ў канцэртную залу «Мінск», дзе на працягу двух кастрычніцкіх дзён ішло абмеркаванне становішча і перспектыў беларускага школьніцтва. Не сказаў бы, што было там вельмі ўжо сумна слухаць загадзя вызначаных прамоўцаў, што зусім не кранала атмасфера пэўнай урачыстасці і святочнасці, што не цяплела на сэрцы ад згадак уласных школьных гадоў. Але засталося ў душы і торгае, як вярэдлівая стрэмка, неадчэпнае адчуванне незадаволенасці і трывогі.

І даклад міністра В. Стражава быў дзелавы і спакойны, і дакументы прапаноўваліся дастаткова надзённыя і канкрэтныя, і на трыбуне былі прадстаўлены ўсе вобласці краіны, і афіцыйных глупстваў, як бывала раней, у застойныя часы, амаль не гучала, а вось не хоча рука пісаць, што адбылася прыкметная падзея ў духоўным жыцці Беларусі. Не таму нават, што ва ўсім была відна жорсткая заангажаванасць, не таму, што зноў — і недарэчы — грымела барабанамі напісанае па канонах хрушчоўскіх партыйных з'ездаў прывітанне школьнікаў, складзенае, як гэта было відавочна, не надта ўмелымі трубадурамі піянерскага руху, не таму, што зала бяздумна пляскала некаторым злосным эмацыянальным «пераборам», а больш за ўсё і перш за ўсё таму, што, на жаль, мала было на з'ездзе аналітычнасці, роздуму, суаднесенасці з даўняй і блізкай гісторыяй, урэшце — прафесійнай споведзі. Усё хутчэй нагадвала вытворчую нараду, дзе асноўная ўвага лагічна ўдзялялася пытанням фінансавым і

гаспадарчым, праблемам арганізацыйным і спецыяльным. Ці не таму найчасцей слова бралі большыя ці меншыя педагагічныя кіраўнікі: загадчыкі райана і дзіцячага садзіка, дырэктары школы і інстытута ўдасканалення, рэктар універсітэта… І калі раптам выходзілі на трыбуну так званыя «радавыя» — настаўнік матэматыкі 168-й мінскай школы У. Мартысюк і настаўнік гісторыі са Смалявіцкага раёна А. Шаўлюкевіч, — адразу мяняўся тон размовы і, акрамя дасведчанасці і заклапочанасці, гучалі яшчэ востры боль за сённяшні духоўны стан грамадства, шчымлівая занепакоенасць будучыняй наступных пакаленняў, якія павінны быць лепшымі і мудрэйшымі за нас. Малавата было такіх прамоў і такіх прамоўцаў. А так хацелася (ва ўсякім разе — мне), каб мілыя нашы настаўнікі высока ўзняліся над запушчаным школьным палеткам, на які штодзённа з надзеяй кідаюць яны зярняты разумнага, добрага, вечнага, агледзелі яго строга і прыдзірліва і вызначылі, дзе і якую зрабіць «праполку», а дзе і «пераараць» забытыя, здзірванелыя ўзмежкі. Не змаглі, а можа, не захацелі, а можа, не для гэтага клікалі іх у сталіцу мажныя бацькі беларускай педагогікі…

Неўразуменне выклікала ў мяне тое, што ні ў шчырых абмеркаваннях, ні ў шумных кулуарах не сустрэў я ніводнага беларускага пісьменніка (Уладзімір Ліпскі і я прадстаўлялі на з’ездзе не літаратуру, а Дзіцячы фонд і Таварыства беларускай мовы). Было проста ніякавата не бачыць у агромністай зале тых, з чыім мастацкім словам заслужана звязваецца выхаванне любові да Радзімы, адчуванне непаўторнай прыгажосці роднай прыроды, разуменне святла кахання і сяброўства, асалоды матчынай мовы. Уяўляю, якой рэдкай радасцю была б для пасланцаў з Палесся ці Прыдзвіння, хай і выпадковая, кароткая, гутарка з «жывымі» Янкам Брылём, Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Іванам Шамякіным, Нілам Гілевічам! А хіба не хацелася і з трыбуны паслухаць іхнія развагі і парады, іхнія ацэнкі і прадказанні ў пару сённяшняй грамадскай няпэўнасці і сумятні? Няўжо больш цікава і карысна для іх было шукаць хоць нейкага сэнсу ў пафаснай дэмагогіі юнага правадыра БПСМ У. Янчэўскага ці ў блытаных заклінаннях прэзідэнта славутага «Атланта» Л. Калугіна? Ды шматвопытныя арганізатары з’езда не палічылі патрэбным запрашаць на свой гучна абвешчаны форум майстроў слова, з чыіх твораў, дарэчы, складзены амаль усе школьныя хрэстаматыі. Што ж, як кажуць, ім відней. А я, між тым, добра памятаю, якой агульнасаюзнай з’явай у свой час стала выступленне Аляксандра Твардоўскага на Усерасійскім

з'ездзе настаўнікаў, як доўга потым звярталіся да яго і ў навуковых даследаваннях, і ў публіцыстычных артыкулах прызнаныя нашчадкі і паслядоўнікі Ушынскага. Думка ж выдатнага паэта аб тым, што родная літаратура «мае ключавое значэнне ва ўсім працэсе навучання і выхавання», што яна «фарміруе чалавечую свядомасць, светаразуменне, асобу чалавека ў пару яго найбольшай успрымальнасці, найбольшай уражлівасці і нават проста памятлівасці», па-мойму, была б — не як цытата, а як выснова — вельмі да месца на з'ездзе, дзе пра літаратуру чамусьці практычна не было ўспомнена наогул… Дай Божа, каб гэта была толькі прыкрая выпадковасць ці звычайны чыноўніцкі недагляд!..

Як заканамернасць успрыняў я ў гэтай сітуацыі дэманстратыўнае замоўчванне на з'ездзе балючых праблем, звязаных з месцам і роляй беларускай мовы ў сённяшняй школе. Нельга сказаць, што аб іх не гаварылася, але яны толькі подбегам згадваліся, так сказаць, абазначаліся — без даследавання сацыяльных і палітычных каранёў негатыўных працэсаў, без прасочвання прычын і механізмаў паўсюднага выцяснення роднага слова з практыкі навучання і выхавання дзетак. Быццам бы і пагаджаліся некаторыя прамоўцы, што адбываецца штосьці ненармальнае, але тут жа з палахлівай аглядкай ківалі на «аб'ектыўныя працэсы» і выяўленую на майскім рэферэндуме 1995 года волю «большасці насельніцтва». А горкая ж рэчаіснасць, па-мойму, патрабавала зусім іншых слоў і куды гарчэйшых эмоцый.

Калі яшчэ нядаўна ў Мінску было 130 школ са статусам беларускамоўных, дык зараз іх засталося 17. За тры апошнія гады, па падліках актывістаў Таварыства беларускай мовы, на рускую мову навучання пераведзена каля 27 тысяч юных мінчан, а гэта значыць — у сталіцы знікла тысяча беларускіх класаў. У Савецкім раёне няма ніводнай беларускамоўнай школы, а ў першы клас увосень мінулага года тут прыняты ўсяго 32 вучні. На радзіме выдатнага пісьменніка, усенародна любімага Уладзіміра Караткевіча няма ніводнага беларускамоўнага вучня ў першым класе… І гэта — не сумныя выключэнні, гэта, на жаль, тыповая з'ява ў нашай суверэннай дзяржаве.

Госць з суседняй краіны М. Лукашэвіч, дарэчы, паведаміў з трыбуны з'езда, што ў іх 65 працэнтаў школ — украінскія і ва ўкраінскія класы ў гэтым навучальным годзе прыйшоў 71 працэнт усіх першакласнікаў… У прэзідыуме хутчэй за ўсё абыякава прапусцілі гэтую інфармацыю міма закладзеных інтэграцыйнай ватай вушэй схіленыя над салíднымі стосамі неадкладных па-

пер, перапоўненыя ўласнай значнасцю і занятасцю прадстаўнікі ўладных структур, а было над чым задумацца і ім, і ўраду, і Міністэрству адукацыі, і сацыёлагам з палітолагамі…

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны афіцыйна прасіла арганізатараў настаўніцкага з’езда даць і мне магчымасць выступіць, але такое ласкі я не дачакаўся. Скажу шчыра, мяне гэта ніколькі не здзівіла, бо лёгка было здагадацца, пра што я буду гаварыць, як і відавочныя для ўсіх практычна непрыхаваныя раўнадушныя, а то і грэблівыя дзяржаўныя адносіны да матчынай нашай мовы. А я, прынамсі, не збіраўся адкрываць Амерыку ці клікаць на барыкады. Я проста хацеў падзяліцца з блізкімі людзьмі, якімі заўсёды лічыў настаўнікаў, нялёгкімі сваімі развагамі і практычнымі прапановамі.

Што я меў намер сказаць?

Па-першае, я хацеў заклікаць вышэйшае кіраўніцтва Беларусі адпаведным дзяржаўным актам — дэкрэтам Прэзідэнта ці рашэннем парламента або ўрада — ацаніць нарэшце становішча беларускай мовы ў жыцці краіны, прызнаць яго па меншай меры ненармальным і акрэсліць канкрэтныя захады па кардынальнаму выпраўленню сітуацыі. Для гэтага, на маю думку, неабходна запатрабаваць ад усіх падраздзяленняў «вертыкалі», ад усіх чыноўнікаў у цэнтры і ў рэгіёнах забяспечыць, як мінімум, рэальную роўнасць беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах дзейнасці грамадства — ад справаводства і заканадаўчай творчасці да навуковых даследаванняў і бытавога абслугоўвання (як, прынамсі, і патрабуюць вынікі рэферэндуму). І асабісты прыклад у гэтым павінны паказаць найвышэйшыя асобы дзяржавы. Першым жа практычным крокам мне бачыцца ўвядзенне ўжо з гэтага года патрабавання свабоднага валодання дзвюма дзяржаўнымі мовамі ўсіх дзяржаўных служачых, абавязковых уступных экзаменаў ва ўсе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы па беларускай і рускай мовах, даплаты выкладчыкам школ, тэхнікумаў і ВНУ, якія чытаюць свае дысцыпліны па-беларуску. Гэта, безумоўна, запатрабуе сродкаў, але хіба зберажэнне душы народа, якой з’яўляецца яго мова, — менш значная патрэба, чым развіццё спартыўных баз і правядзенне фестываляў і святаў?..

Востра неабходна ў самыя сціслыя тэрміны распрацаваць і зацвердзіць жорсткую дзяржаўную праграму па падрыхтоўцы кадраў і падручнікаў для беларускіх школ.

Адным з самых сур’ёзных і найчасцей агучваемых пры расфарміраванні беларускамоўных класаў аргументаў прыводзіцца сапраўды відавочны факт: не хапае настаўнікаў, якія маглі б выкладаць па-беларуску, не хапае беларускіх падручнікаў.

Зняць гэтую застарэлую праблему — святы абавязак дзяржавы, абавязак тых вучылішчаў, універсітэтаў, метадычных цэнтраў і выдавецтваў, якія фінансуе і кантралюе дзяржава. Калі ў нашай роднай Рэспубліцы Беларусь сапраўды ёсць нацыянальная палітыка і калі яна не антыбеларуская, зрабіць гэта можна і трэба. Бо што ж дзіўнага ў скарачэнні нацыянальных школ у Мінску, калі толькі за апошні час, напрыклад, у беларускія школы № 198, 37 дырэктарамі прызначаны людзі, якія не карыстаюцца беларускай мовай, а дырэктар школы № 202 Р. Саўчук не саромеецца бацькам чацвёртакласнікаў адкрыта гаварыць, што калі яны перавядуць сваіх дзяцей на рускую мову навучання, ім будуць створаны найлепшыя ўмовы, а калі застануцца вернымі матчынай мове, — добрай якасці вучобы не будзе?!

Я разумею, што вялікія, складаныя справы не вырашаюцца наскокам, аднымі адміністрацыйнымі мерамі, што патрэбны час, цярпенне і будзённая карпатлівая праца ўсіх грамадзян. Але ж хоць нешта трэба рабіць, а не глядзець раўнадушна, як ціха канае адна з самых мілагучных і багатых славянскіх моў. У сённяшніх айчынных абставінах мне здаецца лагічным, у прыватнасці, перагляд навучальных праграм.

Штодзённая практыка адназначна сведчыць, што руская мова непадзельна пануе ў школьных класах — не толькі на ўроках рускай мовы і літаратуры, але і на занятках па фізіцы, хіміі, матэматыцы, біялогіі. Дык вось, каб ураўняць правы беларускай мовы, каб яна гучала ў навучальным працэсе столькі ж, як і руская, варта значна павялічыць гадзіны, адведзеныя на выкладанне беларускай мовы і літаратуры, гісторыі Беларусі. Калі ўжо нашы дзеці не маюць магчымасці засвойваць на роднай мове асновы алгебры, астраноміі, экалогіі, дык хай дасканала ўведаюць герояў і прарокаў Бацькаўшчыны, шырока пазнаёмяцца з усімі скарбамі нашага прыгожага пісьменства. Хай падрабязна вывучаць і летапісы Полацкага княства, і жыццё Кірылы Тураўскага, і рэвалюцыйную спадчыну Кастуся Каліноўскага, і ахвярную працу братоў Луцкевічаў, і дзяржаўную дзейнасць Аляксандра Чарвякова… Хай запомняць пявучыя радкі не толькі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Танка і Пімена Панчанкі, але і Аляксея Пысіна, Анатоля Вялюгіна, Васіля Віткі, Еўдакіі Лось, Сцяпана Гаўрусёва, Яўгеніі Янішчыц… Хай у доўгую жыццёвую дарогу возьмуць раманы і аповесці не толькі Кузьмы Чорнага і Максіма Гарэцкага, Івана Мележа і Уладзіміра Караткевіча, але і Міхася Зарэцкага, Андрэя Мрыя, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Лобана, Яна Скрыгана, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава,

Барыса Сачанкі. Як гэта ўсё ўзбагаціць і ўзвысіць маладыя душы, дапаможа ім прасякнуцца пачуццём любові да роднай зямлі, адчуваннем уласнай годнасці і заканамернасці і адметнасці сваёй прысутнасці ў цывілізаваным свеце!.. Тут вам і натуральная лучнасць з рэформай і гуманізацыяй школьнай адукацыі, аб чым так многа і горача гаварылася на з’ездзе, і адзін з самых эфектыўных падыходаў у патрыятычным выхаванні моладзі, на недахопы якога так часта скардзяцца нашы ідэалагічныя кіраўнікі…

Думаю, пры жаданні можна аператыўна вырашыць і пытанні з камплектнасцю беларускамоўных класаў, з папаўненнем школьных бібліятэк выданнямі нашых класікаў і сучасных таленавітых пісьменнікаў, з забеспячэннем настаўнікаў метадычнай літаратурай… Усё гэта «рабочыя моманты», якія самі сабою страцяць вастрыню, як толькі дзяржава прама і сумленна прызнае: стаўленне да беларускай мовы ў Беларусі ненармальнае, заяўлены ў Канстытуцыі яе статус павінен штодзённа і паўсюдна пацвярджацца рэальнымі справамі і рашэннямі.

Але хіба не пра адваротнае сведчыць, напрыклад, такі быццам бы прыватны факт: за тры апошнія гады са сцен Міністэрства адукацыі не выйшла ніводнай грунтоўнай пастановы, накіраванай на падтрымку беларускага школьніцтва, затое больш года таму з’явіўся загад, у якім патрабавалася павялічыць увагу да вывучэння нямецкай, іспанскай і французскай моў? Загад, вядома ж, правільны, і выкладанне замежных моў трэба паляпшаць, але чаму не баліць душа ў педагагічных чыноўнікаў за родную мову, якую робяць на Радзіме падчаркай і гатовы выцурыць з бацькоўскай хаты? Дайшло ўжо да таго, што 10 красавіка мінулага года ў прамы эфір Беларускага тэлебачання адзін з гледачоў задаў надзвычай «актуальнае» пытанне: «Ці можна ў школе замяніць вывучэнне беларускай мовы на любую замежную?» і адзін з кіраўнікоў рэспублікі… падзякаваў яму за тое, што «ў такім плане паставілі пытанне». Гэта не кашмарны сон, не выдумкі ворагаў прэзідэнта, гэта горкая рэальнасць, як і загад № 135 дырэктара Наваполацкай ЦЭЦ У. Лебедзева аб забароне на тэрыторыі даверанага яму прадпрыемства ўжываць беларускую мову ў аператыўнай і тэхнічнай дакументацыі.

Давайце не будзем хітрыць і прызнаемся сабе і іншым, што ў нашай краіне ўжо амаль няма дзяржаўнага двухмоўя. Па-сапраўднаму дзяржаўная мова ў нас практычна адна — на ёй гаворыць прэзідэнт, на ёй ідуць пасяджэнні Нацыянальнага сходу, на ёй вядуцца судовыя працэсы, на ёй выдаецца боль-

шасць афіцыйных газет. Найбольш здагадлівыя і кан'юнктурныя палітычныя дзеячы добра ўлавілі настрой вярхоўных уладаў — і членскія дакументы БПСМ, напрыклад, афармляюцца ўжо толькі на адной мове, рускай, — эканомія сродкаў, сведчанне сапраўднага інтэрнацыяналізму і амаль гарантаваны льготны пропуск у новы Савецкі Саюз. Забыліся нават і пра мудрага бацьку ўсіх часоў і народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, які з характэрнай для яго дакладнасцю і лаканічнасцю аднойчы заявіў: «…Існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай мове».

У гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» з наіўнай шчырасцю і непахіснай перакананасцю пазіцыю многіх чыноўнікаў ад педагогікі выклаў начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі В. Дабранскі. Спярша ён як адсек: «Згодна з законам, беларускай і рускай мовам нададзены статус дзяржаўных. Значыць студэнт мае права вывучаць любую з гэтых дзвюх». Вось так: не абедзве павінен ведаць і вывучаць, а адну — вядома ж, якую. А вы лямантуеце: двухмоўе, роўныя правы!.. Далей яшчэ цікавей: «…У Міністэрства асветы (так надрукавана. — *Г. Б.*) планаў стварэння нацыянальнага універсітэта няма». Дык навошта тады, як ясна кожнаму даросламу чалавеку, нацыянальныя школы, уся гэтая смешная валтузня з беларускамоўнымі класамі, садзікамі? — роднае слова на парог універсітэта вырашана не пушчаць!..

Вельмі цікава выказаўся В. Дабранскі і трошкі раней: «Увогуле, я думаю, што ідэя стварэння нацыянальнага універсітэта — яна надуманая. Уявіце, а раптам яўрэі пажадаюць мець свой універсітэт, ці палякі, ці татары?» Сапраўды: гэта ж проста жах, асабліва калі яўрэі захочуць мець нацыянальны універсітэт у Тэль-Авіве, палякі — у Варшаве, а татары — у Казані!.. Ад такой перспектывы можна не толькі сон страціць, але і напрымаць столькі грозных ведамасных рашэнняў, што на свеце застанецца толькі адна нацыя і толькі адна мова…

Папярэдзіць аб небяспецы падобных настрояў усёмагутных апаратчыкаў я і хацеў глыбокапаважаных удзельнікаў настаўніцкага з'езда ў прасторнай канцэртнай зале «Мінск». Не далі магчымасці. Вось я і вырашыў выказацца праз газету.

Можа, сябры-настаўнікі (ды і не толькі яны) пачуюць? Спадзяюся, што пачуюць.

*1998*

# ВЯЛІКІ

*Да 75-годдзя Васіля Быкава*

Сяргей Ясенін сказаў аднойчы, што вялікае бачыцца на адлегласці, што цяжка зблізку разгледзець нават знаёмы твар.

Паэты такога таленту і такой інтуіцыі, як Ясенін, звычайна не памыляюцца. Але мне здаецца, што вялікі разанец на гэты раз перабольшыў. У гісторыі народаў, у гісторыі літаратуры ёсць выдатныя постаці, сапраўдную маштабнасць якіх беспамылкова вызначылі ўжо сучаснікі. Геніяльнасць Пушкіна і пры жыцці была відавочнай не толькі для Дзяржавіна і Жукоўскага. Ужо ў маладыя гады нацыянальным прарокам назвалі Янку Купалу нашаніўскія адраджэнцы. Думаю, што сёння і мы маем усе падставы лічыць вялікім Васіля Быкава, чыю бліскучую прозу даўно прынялі ў шаноўную сусветную бібліятэку яго строгія калегі і чытачы.

Відаць, невыпадкова адным з самых сумленных і дасведчаных летапісцаў крывавага змагання з гітлераўскім фашызмам стаў зусім малады радавы ўдзельнік гэтай гістарычнай вайны, вясковы хлопец з пакутнай і нішчымнай Ушаччыны. Доўгімі гадамі і вёрстамі прайшоў, прапоўз, праехаў ён па пагорках і раўнінах, па друзе і попеле Украіны Расіі, Румыніі і Венгрыі, Чэхіі і Германіі, глытаючы пыл і дым, хаваючы сяброў і наспех гоячы раны. Сціплы абеліск на Кіраваградчыне над братняю магілай, на якім высечана і прозвішча лейтэнанта Быкава, — унікальная, а можа быць, і самая высокая адзнака ягонай мужнасці і салдацкага самаахвяравання. На шчасце, ён застаўся жыць, вайна нібы спецыяльна захавала яго, каб ён паспеў расказаць усё, што ведаў пра герояў і здраднікаў, пра адвагу і палахлівасць, пра прыгожыя легенды і суровую рэальнасць. І мне нават не крыўдна, а проста смешна, калі атлусцелыя ад штабных харчоў адстаўныя генералы, што ніяк не стамляюцца зычна камандаваць, патрабуюць сёння для Быкава ледзь не штрафнога батальёна. За што? За тое, што паказвае Вялікую Айчынную не такой, якой яны падалі яе ў сваіх рапартах вышэйшаму начальству? За тое, што не хоча аддаваць за Перамогу любую, нават непрымальную цану, бо ўласным лёсам і вопытам памятае, што вымяраецца яна не лічбамі і салютамі, а пакутамі, крывёю, калецтвамі і ўрэшце — жыццём, якое даецца чалавеку адно?.. Сівыя, стамлёныя ветэраны добра ведаюць, што ўсё, пра што апавядае Быкаў, было, праз усё гэта цярпліва і да канца прайшлі іх сябры і аднапалчанцы. Толькі вось піша ён не халодныя рэляцыі аб перамяшчэнні войскаў,

не раўнадушныя справаздачы аб расходаванні боезапасу і не аналітычныя даведкі для кабінетных стратэгаў, а балючую споведзь салдацкай душы, трагічную аповесць пра людское жыццё ў нялюдскіх умовах вайны.

Жорсткая праўда і бясспрэчны талент — вось што адразу ж вызначыла беларускага пісьменніка сярод соцень творцаў. У першых сваіх аповесцях «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Альпійская балада» ён быў рамантычна ўзнёслы, нават паэтычны, але (і хай гэта не здасца таму-сяму парадаксальным) сурова-праўдзівым і бязлітасна шчырым. Потым прыйшла проза больш стрыманая, «заземленая» і горкая: «Праклятая вышыня», «Яго батальён», «Мёртвым не баліць», «Сотнікаў»…

Васіля Быкава сустрэлі і прынялі з радасцю і захапленнем не толькі мільёны чытачоў, а і прызнаныя майстры мастацкага слова, правафланговыя «ваеннай тэмы» — Аляксандр Твардоўскі і Канстанцін Сіманаў, Алесь Ганчар і Віктар Някрасаў, Рыгор Бакланаў і Віктар Астаф'еў, Юрый Бондараў і Вячаслаў Кандрацьеў… Яго слова шырока пайшло па свеце — аповесці Быкава пераклалі на дзесяткі моў, аб ім пачалі пісаць у самых папулярных газетах Францыі і Германіі, Італіі і Польшчы, Югаславіі і Швецыі… Відавочны, бясспрэчны трыумф, «яшчэ адна бліскучая перамога савецкай літаратуры», як павінны былі б засведчыць афіцыйныя крытыкі. Але… З незразумелай апантанасцю і ярасцю на творы Быкава накінуліся маршалы і генералы, партработнікі і журналісты, зайздроснікі і падпявалы. «Акопная праўда», «недаацэнка вялікай Перамогі», «непатрэбная акцэнтацыя на трагічным», «дэгераізацыя» — Божа мой, колькі подлага і абразлівага давялося прачытаць і выслухаць Васілю Уладзіміравічу ў не такія і далёкія 60–80-я гады! Выстаяў. Не зламаўся. Не адступіў ні на крок. І ўпарта і мэтанакіравана ішоў наперад, да новых сваіх вышынь.

«Знак бяды» я і сёння лічу залатой класікай роднай літаратуры, творам, дзе надзіва натуральна, псіхалагічна шматгранна і дакладна выпісаны нацыянальны характар беларуса. Вобразы Сцепаніды і Петрака — гэта, па-мойму, дасканалы мастацкі помнік нашым вясковым жанчынам і мужыкам, не плакатным, не выдуманым, а вельмі жывым і зямным, з усімі іх вартасцямі і слабасцямі, працавітым, добрым, хітраватым, і наіўным, палахлівым і нязломным. Як яны не падобны адзін да аднаго і якія ж яны адзіныя, свае, родныя!..

У гэтым выдатным творы, можа быць, упершыню Быкаў усур'ёз выйшаў за межы звыклай для яго тэмы, закрануўшы

адну з самых балючых і слаба даследаваных старонак нашай передваеннай гісторыі — калектывізацыю і рэпрэсіі. На шчасце, часы ў краіне былі ўжо такія, што, хоць і злосна зморшчыўшыся, ахоўнікі палітычнай цнатлівасці праглынулі горкую «пілюлю» і зрабілі выгляд, што і яны за аб'ектыўны паказ мінулага. «Знак бяды» быў ушанаваны Ленінскай прэміяй.

Сёння неўгамонныя адстаўныя генералы, якім усё яшчэ сняцца пракураныя сталінскія вусы і запацелыя суслаўскія акуляры, у сваім праведным парыве бальшавіцкага гневу і лютай нянавісці да «здраднікаў» сацыялізму на поўным сур'ёзе, у перадачах дзяржаўнага радыё патрабуюць забраць у Быкава і медаль лаўрэата галоўнай савецкай літаратурнай прэміі, і залатую зорку Героя Сацыялістычнай Працы, і званне народнага пісьменніка Беларусі. Выхаваныя на статуце гарнізоннай службы і на бяздумнай падначаленасці Галоўнакамандуючаму, яны чамусьці лічаць, што іхні «трыбунал» быццам бы мае хоць нейкае значэнне для выдатнага таленту і ягоных прыхільнікаў. Дзіўныя, наіўныя здані мінулага, яны ўсё не могуць зразумець,што не медалі і значкі ўзнімаюць аўтарытэт Быкава, а якраз імя Быкава ўзнімае і захоўвае аўтарытэт гэтых узнагарод. Парадны мундзір, без якога яны імгненна становяцца непрыкметнымі і слабымі, не патрэбен пісьменніку, якога назвалі сумленнем народа…

Васіль Быкаў з гадамі сталеў і мудрэў не толькі як пісьменнік, але і як грамадзянін. У радасныя і сумятлівыя дні ўстанаўлення суверэннай, незалежнай Беларусі ён стаў адным з самых тэмпераментных і актыўных публіцыстаў, не зважаючы на старыя раны і новыя хваробы, разам з маладымі патрыётамі рашуча ступіў у шэрагі шматтысячных дэманстрацый за волю і справядлівасць. Для многіх гэта быў нязвыклы Быкаў — і на самых верхніх прыступках улады залямантавалі: «Не трэба дапускаць яго ў палітыку! Хай піша свае аповесці! Яго месца — за пісьмовым сталом!» Як быццам для дзяржаўнага лёсу народа творца, шчодра адораны Богам, не здольны зрабіць куды больш і лепш, чым нядаўнія шараговыя лектары таварыства «Веды» ці крыклівыя загадчыкі жывёлагадоўчых комплексаў. Не асабістыя амбіцыі, не прыхамаць стамлёнага славай чалавека, а святы абавязак перад Радзімаю, трывога за яе заўтрашні дзень паклікалі Васіля Быкава ў авангард змагання за дэмакратыю і нацыянальнае адраджэнне.

Маланка, як правіла, б'е ў самыя высокія дрэвы — і на сівую галаву Быкава абрынуліся неверагодныя абвінавачанні

замшэлых кансерватараў, непрыстойныя паклёпы і знявагі бессмяротных ідэалагічных камісараў. Прыблудныя чыноўнікі нават адмовілі яму ў выданні новых кніг — і зборнік «Сцяна» (не часты для ўсяго свету выпадак!) выйшаў на сабраныя людзьмі грошы… Але і зноў Васіль Быкаў не зламаўся, не пахіснуўся ў сваёй веры, не кінуў камень у свой народ. Ён напісаў цэлы том выдатных, мудрых прыпавесцяў, у якіх — і згадкі даўняй гісторыі, і горкі роздум над трудным днём сённяшнім, і трывожнае папярэджанне наступнікам. Сумна толькі, што большасць з іх стварыў ён не ў Мінску, а ў далёкім паўночным Хельсінкі, куды запрасілі яго ўдзячныя фінскія сябры, дзе забяспечылі яму цывілізаваныя ўмовы для спакойнай працы і куды толькі зрэдку і са спазненнем далятае базарнае скавытанне раз’юшаных «сабораў» і «набатаў». Калі б бацькі нашай дзяржавы замест бясконцых інтэграцыйных праектаў часцей чыталі быкаўскія прытчы, можа б, меней глупстваў гаварылі і рабілі яны, можа б, сорамна стала ім за бессаромны гандаль суверэнітэтам і людскім даверам. Але, як пісаў В. Быкаў пятнаццаць год назад, «так ужо заведзена на белым свеце, што да сапраўдных апосталаў дабра і справядлівасці лёс заўсёды ставіцца няўдзячна: перш іх распінае, каб потым узвысіць…» І трошкі пазней ён самотна зазначыў: «Часы наступаюць далёка не райскія — горкія і цяжкія часы. Барацьба будзе зацятай. За хлеб, за гонар і праўду — для сябе і нашага цярпліўца-народа…»

Так, дарагі Васіль Уладзіміравіч, і часы ў нас цяжкія, і апосталаў сваіх мы не надта цэнім і ведаем. Можа, такі наш лёс, а можа, Боскае пакаранне за нацыянальны нігілізм, за абразліва кволае пачуццё годнасці, за залішнюю цярплівасць і паслухмянасць… Дык жывіце ж доўга, працуйце нястомна, каб мільёнам суайчыннікаў адкрылася нарэшце тое, што добра відно Вам з вышыні Вашага генію, дзеля чаго Вы годна прайшлі і крывавыя салдацкія шляхі, і бязлітасную грамадзянскую Галгофу! Вы вельмі патрэбны нам. За зробленае і адваяванае Вамі гісторыя і нашчадкі, магчыма, даруюць усе тыя трагічныя памылкі і глупствы, якія нарабілі мы ў апошнія гады.

Здароўя і плёну Вам, вялікі пісьменнік, вялікі беларус, вялікі грамадзянін — слаўны наш Васіль Быкаў!

*1999*

# СЫН І ПЯСНЯР ПРЫПЯЦІ

Як маланкай, ударыла чорная вестка: памёр Уладзімір Верамейчык. Высокі, плячысты, дужы, як у народзе кажуць, мажны — здавалася, жыць яму сто гадоў і не пахісне яго ніякая нягода. А вось жа бязлітасная смерць збіла з ног і яго, упэўненага і аптымістычнага.

Я памятаю Валодзю Верамейчыка яшчэ танклявага і сарамлівага. Больш за сорак гадоў таму назад мы разам былі на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў. З’ехаліся на яе тады яшчэ пачынаючыя Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Юрась Свірка, Уладзімір Паўлаў — усе хударлявыя, рамантычныя, яснавокія. І быў у гэтым гаманкім гурце маўклівы, засяроджаны паляшук з першымі лірычнымі вершамі. Ён не надта актыўнічаў у дыскусіях, вызначаўся сялянскай грунтоўнасцю і сяброўскай адкрытасцю.

Пасля ён пісаў мне з арміі лісты, заўсёды кароткія і ўсмешлівыя. Пасля закончыў філфак універсітэта і паехаў настаўнічаць на радзіму, на сваё Палессе.

Ён ужо часта друкаваўся, меў прызнанне як здольны вершатворац і — па прыкладу многіх аднагодкаў — мог бы знайсці сабе месца ў Мінску, дзе-небудзь у рэдакцыі ці ў выдавецтве. Але па складу душы сваёй, па сваім характары ён быў настаўнікам — і на многія гады звязаў свой лёс, свае самыя смелыя планы і самыя галоўныя турботы з Ведрыцкай школай. Там, непадалёк ад знакамітых Васілевічаў, ён вывучыў кожную сцежку, там уведаў і разгадаў, можна сказаць, кожнага чалавека.

Я памятаю, як ён дабіваўся ўзвядзення новага будынка школы, якой радасцю свяціўся ўвесь, калі мара збылася. Памятаю, з якім замілаваннем глядзелі на яго на ўроках дзеці і з якой павагай гаварылі з ім у ягоным дырэктарскім кабінеце і вясковыя дзядзькі і цёткі, і прыезджыя раённыя і абласныя начальнікі. Безумоўна, ён мог бы перабрацца ў Гомель ці Мінск. Але ён адчуваў, ведаў, што ягоны прытулак, як кажуць, галоўная прыстань — Ведрыч.

Я часта думаю, як нам не хапае ў так званай глыбінцы, асабліва ў школах, яркіх асоб, сапраўдных інтэлігентаў. Ці не таму ў нас дасюль і нацыянальная годнасць прыніжана, і адукаванасці ды выхаванасці нестае?.. Ведрыцкім вучням, як і іхнім бацькам, пашанцавала: з імі доўгі час быў Уладзімір Міхайлавіч Верамейчык, паэт, педагог, асоба. Ён даваў ім не толькі веды, ён яшчэ ўласным прыкладам вучыў іх быць

разумнымі, сумленнымі і прынцыповымі. Увесь час ён разам з імі шукаў сэнс жыцця і клікаў іх служыць усімі сіламі вольнай Беларусі. Колькі разоў мне пра гэта казаў адзін з ягоных вучняў — Юрый Захаранка! Ужо сталы чалавек, былы міністр, успамінаў ён Валодзю, Уладзіміра Міхайлавіча з глыбокай пашанай, а то і з захапленнем. І вось таямніча знік вучань, заўчасна памёр настаўнік…

Валодзя вельмі любіў Прыпяць, быў заядлым рыбаловам. Даведаўшыся, што я збіраюся ў замежную камандзіроўку, ён абавязкова званіў і даваў «заказ» — на кручкі, блешні, лескі, дасканала тлумачачы, што яму патрэбна. І калі мне ўдавалася знайсці як раз неабходнае, ён цешыўся, як дзіця. Дарэчы, назвы двух сваіх зборнікаў ён невыпадкова звязаў з любімай ракой: «Прыпяць» (1973) і «Клянуся Прыпяццю» (1988). Прырода была для яго храмам, у якім да яго прыходзіла натхненне і дзе ён супакойваўся душою пасля будзённых згрызот і няўдач.

Жыццё не раз выпрабоўвала У. Верамейчыка на трываласць: трагічная смерць сына, расчараванне ў некаторых сябрах, бясконцае бюракратычнае «пілаванне», цяжкая хвароба, незадаволенасць напісаным. Відаць, у такія моманты сумненняў і адчаю прыходзілі яму на ўспамін вясковыя анекдоты і смешныя гісторыі, ачышчальнымі сполахамі вясновай зараніцы разрывала душэўны прыцемак самаіронія. Апошнія гады ён шмат працаваў у жанры сатыры і гумару, стаў адным з самых актыўных і любімых аўтараў «Вожыка». Ягоныя апавяданні і гумарэскі звычайна былі падказаны канкрэтнымі жыццёвымі выпадкамі і іскрыліся палескімі моўнымі залацінкамі. І ва ўсім, заўсёды адчуваліся вялікая любоў да людзей і непагасны аптымізм. Яшчэ месяц назад у тэлефоннай трубцы пракатаў знаёмы верамейчыкаў голас: «Гена! Ну як там у вас, у сталіцы?..» Ён жыў нашымі агульнымі турботамі, ён быў надзейным салдатам маладой нашай дэмакратыі, ён заставаўся неспакойным беларускім інтэлігентам. Ва ўсім, да апошніх сваіх дзён.

І вось — развітваемся з Уладзімірам Верамейчыкам. Цяпер на нас, ягоных сяброў, прыпадае яшчэ дадатковая адказнасць за лёс роднай Бацькаўшчыны. А на ягоных вучняў, нашых нашчадкаў кладзецца яшчэ болей працы ў імя ідэалаў, якім свядома і нястомна служыў аддадзены сын і таленавіты пясняр Прыпяці — Уладзімір Міхайлавіч Верамейчык.

***1999***

# ЖЫВЕ І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

*Выступленне на ўрачыстым пасяджэнні Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны, прысвечаным 10-годдзю прыняцця Закона «Аб мовах у Беларускай ССР»*

Калі я ішоў сюды, на нашу сяброўскую сустрэчу, я зусім па-старэчы падумаў: як жа нястрымна і хутка бяжыць час! Вось ужо і першая юбілейная вяха пастаўлена пасля сапраўды знамянальнай, гістарычнай даты прыняцця закона ў абарону найсвяцейшага нашага скарбу — роднай мовы. Як удзельнік той, чатырнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання, як сябра рабочай групы, што рыхтавала праекты дакументаў да яе, успамінаю, наколькі пакутна нараджаўся гэты закон, якія апантаныя спрэчкі віравалі на пасяджэннях, якое зацятае супраціўленне бессмяротнай наменклатуры даводзілася пераадольваць, якія гранічна дыпламатычныя фармулёўкі шукаць, якія асцярожныя рашэнні прапаноўваць. Было. Урэшце перамог-такі цвярозы розум і вострае адчуванне неабходнасці і Беларусі рабіцца цывілізаванай і годнай.

І што ж?

Як і тады, дзесяць гадоў таму, зноў свядомыя беларусы амаль крыкам крычаць аб бядотным стане ў грамадстве сваёй — ужо дзяржаўнай — мовы, аб нахабным выцісканні яе з парламента і судоў, з міністэрскіх цыркуляраў і універсітэцкіх праграм, з тэлевізійных перадач і дзіцячых садкоў. І зноў невынішчальнае племя зманкуртаваных, а то і прыблудных чыноўнікаў талдычыць сакраментальнае: «А хто вам не дае карыстацца вашай мовай?» Дык вось, на гэтае подлае пытанне вопытам апошніх гадоў з усёй адназначнасцю і ўпэўненасцю можна адказаць: «Дзяржава». Дзяржава, якая перад беларускамоўнымі сваімі грамадзянамі зачыняе дзверы большасці афіцыйных устаноў. Дзяржава, якая вуснамі сваіх вышэйшых кіраўнікоў гучна зневажае слова Багушэвіча і Купалы, Коласа і Багдановіча. Дзяржава, якая не адкрыла ніводнай нацыянальнай вышэйшай навучальнай установы. Дзяржава, якая арганізуе і фінансуе ганебныя рэферэндумы, галоўнай, стратэгічнай мэтай якіх з'яўляецца ліквідацыя суверэнітэту і самабытнасці Бацькаўшчыны.

Апошнім часам усяму здзіўленаму свету бессаромна дэманструецца антыбеларуская палітыка, якая, як гэта ні трагічна, паслядоўна і груба праводзіцца беларускімі ўладнымі структурамі. І невыпадкова, відаць, якраз сёння, у дзеся-

тую гадавіну Закона аб мовах, у Маскве рукамі амбіцыйных палітыкаў забіты яшчэ адзін крывы цвік у яшчэ неадгабляваную труну, падрыхтаваную для незалежнасці матулі нашай Беларусі. Стук іржавых імперскіх малаткоў чуцен нам і праз грукат ракетных бамбардзіровак на Каўказе.

Нядоўгі, на жаль, зусім нядоўгі, перыяд абуджэння нацыянальнай свядомасці, пошуку шляхоў дэмакратычнага развіцця краіны, калі і мова наша загучала даволі шырока і вольна, скончыўся практычна з абраннем першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і прыходам у ягонае бліжэйшае атачэнне заезджай кагорты адстаўных палкоўнікаў самых розных родаў войск. Яны не толькі і не збіраліся вывучаць гісторыю і мову народа, які з-за сваёй даверлівасці і дабрыні дазволіў ім заняць важныя крэслы, а пачалі наваксаванымі шавіністычнай дэмагогіяй ботамі вытоптваць ягоную душу, аплёўваць і дратаваць ягоных лепшых сыноў, перапісваць ягоныя законы.

Паглядзіце, што зрабілі гэтыя прафесійныя майстры правакацый і фальсіфікацый з Законам аб мовах. Параўнайце, толькі не павярхоўна, не фармальна, а ўважліва і ўнікліва, тэкст 1990 года і тэкст, зацверджаны прэзідэнтам 13 ліпеня 1998 года, — і вам усё стане зразумелым.

Знікла так званая прэамбула. Чаму б гэта? А я вам прачытаю пару сказаў з яе — і, спадзяюся, пытанняў у вас не будзе. Дык вось: «Мова — не толькі сродак зносін, а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жыве мова — жыве народ». І далей: «…У апошнія гады сфера ўжывання мовы карэннага насельніцтва Беларусі, якое дало ёй імя і гістарычна складае асноўную частку жыхароў рэспублікі, значна звузілася, пад пагрозай апынулася само яе існаванне…»

Ну а далей пайшла хітрая, як на людзей нявопытных, маладасведчаных, дык амаль непрыкметная «палітапрацоўка». Там, дзе ў ранейшым тэксце было «беларуская мова», паўсюдна ўстаўлялася «і руская», а найчасцей нават звышдэмакратычнае «і (або)». Такі, бачыце, элегантны філалагічны піруэт. І калі, напрыклад, у 1990 годзе было запісана: «Акты вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларускай ССР прымаюцца на беларускай мове і публікуюцца на беларускай і рускай мовах», дык у 1998 годзе гэты запіс гучыць ужо так: «Акты дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь прымаюцца і публікуюцца на беларускай і (або) рускай мовах». Кароценькае, нязначнае, амаль непрыкметнае «або» — нават не назоўнік ці прыметнік, а сціплы злучнік, а як усё мяняе! Бо ясней яснага, якую мову выберуць

у тых цёплых кабінетах, дзе ўсё вызначаецца і вырашаецца. І атрымліваецца на практыцы не «раўнаванне» рускай і беларускай моў, аб чым так расчулена ўвесь час клапоцяцца нашы «бацькі» нацыі, а руйнаванне роднай нашай, матчынай мовы. І ўсё, так бы мовіць, у адпаведнасці з законам… Несправядліва, сумна, горка, але тым не менш — рэальна і штодзённа.

Дык што ж — бяссільна грымнуцца вобзем і прыняць сённяшнюю сітуацыю як наканаванасць ці як Боскае пакаранне за празмерную, бяздумную талерантнасць, за ганебны нацыянальны нігілізм, за абыякавую пакорлівасць і халопскае чынашанаванне? Вядома ж, не, ні ў якім разе! Як паказвае час, і ў самыя непарушныя законы ўносяцца папраўкі. І я веру — будуць выкінуты з тэксту Закона аб мовах усе гэтыя подленькія «або» і вернуцца ў яго словы пра душу народа. Надзею на гэта далі нечаканыя для многіх і проста ашаламляльныя для нашых жорсткіх «інтэграстаў» вынікі мінулагодняга перапісу насельніцтва, дзе сухою моваю статыстыкі беларусы шматмільённа заявілі, што гаспадары ў сваёй краіне — яны і што мова іхняя — спрадвечная, родная, — беларуская. Як пісаў класік, «мы — сіла». Толькі трэба не мірыцца з несправядлівасцю, не маўчаць. Ідзе ўжо ў нашу гісторыю новае пакаленне беларусаў, больш дасведчанае, больш смелае, больш сумленнае. З глыбінным шанаваннем айчыннай гісторыі, з трапяткім пачуццём замілаванасці і адданасці да матчынай мовы. Яны не раз яшчэ падзякуюць беларускаму слову, што ў горкі і смутны наш час абмінула яно вусны дзяржаўных невукаў і не служыла іхняй хлусні і здрадзе.

Многія вякі душылі нашу мову, а яна жыве. Многія цары і царанята забаранялі яе, а яна гучыць. І мы не дамо ёй сканаць, збяднець, асірацець. Мы ж — нармальныя людзі, а значыць, уратуем і зберажом усё, што дадзена нам Богам — зямлю, свой род, нашу мову.

Як казаў незабыўны і светлы Пімен Панчанка:

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю —
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

*2000*

# …НАШЧАДКІ НЕ ДАРУЮЦЬ НАМ, КАЛІ МЫ НЕ ЗАХАВАЕМ НЕРАСКІДАНАЙ НАШУ МІЛУЮ РАДЗІМУ

*Слова пры адкрыцці З'езда за незалежнасць*

Паважаныя сябры!

Шаноўныя дэлегаты і госці Усебеларускага з'езда за незалежнасць!

Я думаю, што ў асабістым лёсе кожнага з нас сённяшні дзень абавязкова стане адным з самых важных і дарагіх. І вельмі хачу, каб такім ён застаўся ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, у памяці ўсіх беларусаў, што ўпарта і пакутліва, праз страты і расчараванні, нястомна і нязломна ішлі, узнімаліся да вяршынь нацыянальнай дзяржаўнасці…

Мы розныя — узростам, месцам нараджэння, адукацыяй, прафесійным заняткам, поспехамі і няўдачамі, але ўсе мы адзіныя ў імкненні мець асобную, Богам дадзеную, беларускую хату і быць у ёй паўнапраўнымі, заможнымі гаспадарамі. У гэтай хаце з-пад белых ручнікоў са сцен разам са святымі абразамі пільна глядзяць на нас бессмяротныя аблічы Еўфрасінні Полацкай і Францішка Скарыны, Канстанціна Астрожскага і Льва Сапегі, Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча… І ранішнімі зоркамі заўтрашняга высокага неба свецяць незамглёныя смуткам і адчаем вачаняты ўнукаў і праўнукаў, маленькіх беларусаў, што панясуць у трэцяе тысячагоддзе нашы надзеі і паходні, летуценні і песні. Сплывуць, мінуцца, а можа, нават і забудуцца трывога і нішчымнасць пераходных, пераломных нашых дзён, сканаюць хлусня і хцівасць, нахабства і самадурства, што лезуць, шкрабуцца ўверх па ўсіх драбінах улады. І велікадушна даруюць нам мудрыя і добрыя нашчадкі і няўцямную абачлівасць, і страхі, і няўмельства, і пакорлівасць. Але здарыцца гэта толькі пры адной умове — калі мы захаваем нераскіданай нашу мілую Радзіму, незалежную, вольную Рэспубліку Беларусь. Бог даў нам гэтую зямлю, гісторыя вызначыла на ёй межы нашай дзяржавы, а час адмераў на крутых віражах грамадскага развіцця суровую нашу адказнасць за яе дэмакратычнасць і дабрабыт…

Практычна кожны народ, кожная краіна аднойчы рашуча і востра ставяць перад сабой пытанні: як жыць далей, куды ісці, чаго чакаць ад будучыні? Па глыбокім перакананні тых, хто падпісаў заклік на Усебеларускі з'езд за незалежнасць, такі час прыйшоў да нас.

У густым тумане хітрых дыпламатычных фармулёвак, пад грукат салютаў і парадаў у гонар славянскай еднасці і моднай інтэграцыі пагрозліва заносіцца цяжкі бязлітасны меч над маладою галавой яшчэ не ўзмужнелай беларускай дзяржаўнасці. Падпісаны вышэйшымі кіраўнікамі Расіі і Беларусі Дагавор аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы вымагае сумленнага і адназначнага адказу на галоўнае пытанне: што ж рэальна прапануецца для двух братніх народаў, для дзвюх суседніх краін? Калі падысці строга лінгвістычна і юрыдычна да настойліва прапагандуемай фармулёўкі новага ўтварэння, дык яна выклікае як мінімум недаўменне. Калі гэта саюз, то дзяржаў у ім павінна быць не меней як дзве. А калі гэта адна дзяржава, дык пры чым тут нейкі саюз?..

Праўда, нас з самых высокіх афіцыйных трыбун, з прыкладаннем рукі да сэрца сіляцца пераканаць, што ў адзінай дзяржаве будзе захоўвацца прынцып «суверэннай роўнасці дзяржаў-удзельніц». Хацелася б паверыць. Але я, напрыклад, ну ніяк не магу ўцяміць, як гэта ў адной дзяржавы будзе па два паўнамоцныя паслы ў Вашынгтоне і Пекіне, Лондане і Парыжы. Ніяк не магу ўявіць, што дзеля арыгінальнага новаўтварэння будзе адкінуты непарушны прынцып міжнародных арганізацый «адна краіна — адзін голас». Вядома, тут мне могуць кіўнуць на гістарычны прэцэдэнт: мелі ж у ААН голас, акрамя СССР, Украіна ды Беларусь. Так. Але тады для іх аднадушна і свядома міжнародная супольнасць зрабіла выключэнне — за выдатныя заслугі ўкраінскага і беларускага народаў у вайне з гітлераўскім фашызмам… А за што рабіць для Беларусі выключэнне зараз? За тое, што не здолела як след распарадзіцца сваёю дзяржаўнасцю і гатова лёгка аддаць яе ў рукі больш вопытнай суседкі? За такое цывілізаваны свет звычайна павагай не надзяляе нікога, нават самых талерантных і памяркоўных…

Дзіцячая казачка пра дзяржаву з двайным суверэнітэтам, можа, таго-сяго і зацікавіць, толькі не беларусаў, якія добра і горка помняць, як былі ўжо не так даўно ў імперыі з двухгаловым гербам і лічыліся ў ёй забітымі, цёмнымі ды няздатнымі, без права на ўласную гісторыю і родную мову.

Давайце скажам шчыра і проста, як дыктуе здаровы сэнс і элементарная логіка: рыхтуецца ўваходжанне Беларусі ў Расію, паглынанне нашай лясной ды азёрнай старонкі неабдымнымі таежнымі і стэпавымі прасторамі вялікай суседкі. І робіцца гэта прадумана і планамерна не адзін год.

Многія ў нас наіўна верылі, што тыя, хто так імкнуўся і ўрэшце дарваўся да ўлады, будуць думаць і клапаціцца аб нашай

краіне. А яны ўжо тады тайна марылі аб зусім іншых каронах і тронах. Адна і тая ж рука ўпэўнена перагортвала напісаныя спрактыкаванымі памочнікамі старонкі гімнаў беларускай незалежнасці і міралюбнасці і без ваганняў падпісвала глянцавыя лісты аб стварэнні ўдарнай расійска-беларускай вайсковай групоўкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра ў Маскве. Тыя, хто на беларускай мове кляўся ў вернасці Канстытуцыі і вышэйшым інтарэсам народа, палец аб палец не ўдарыў, каб адну з самых старажытных і мілагучных славянскіх моў не выцяснялі з дзіцячых садкоў і школ, тэлеэкранаў і радыёстудый, з міністэрскіх кабінетаў і акадэмічных лабараторый, са старонак падручнікаў і нават з вясковых клубаў. Дзяржава, 81 працэнт грамадзян якой пры перапісе насельніцтва мінулага года назвалі сябе беларусамі і амаль 82 працэнты з іх запісалі роднай мовай беларускую, не мае ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе ўсё выкладанне вялося б на мове карэннай нацыі! І хіба не парадокс, што навукай і культурай смела бяруцца кіраваць у ёй прыблуды, якія дэманстратыўна ігнаруюць і зневажаюць яе гісторыю і яе геніяў?.. Гэта ў сённяшняй, суверэннай, самастойнай Беларусі. А што будзе, калі рэспубліка стане часткаю новай дзяржавы?

Дык што ж такое ў нашых умовах суверэнітэт і незалежнасць — гучны лозунг ці само жыццё? І колькі яго нам трэба, каб напоўніць жывым зместам азначэнне ў адным са слоўнікаў: «суверэнітэт — поўная незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яго ўнутраных справах і знешніх дачыненнях»?

Для мяне суверэнітэт — справа жыцця з яго мінулым і будучым, з правамі і абавязкамі, з павагай да чужой думкі і пазіцыі, з чалавечай і нацыянальнай годнасцю, з вяршэнствам розуму і справядлівасці. І патрэбен ён мне ўвесь, поўны і рэальны — з дзяржаўнай незалежнасцю, з даверам да законаў сучаснай эканомікі, з высокай духоўнасцю, з «пачэсным пасадам між народамі» і ўрэшце са спрадвечнымі нацыянальнымі сцягам і гербам і не нямым гімнам. Таму і прыйшоў я разам з вамі на гэты з'езд выгукнуць сваю трывогу і застарэлы боль, імкнучыся быць пачутым і зразуметым і дома, і ў далёкім замежжы, жадаючы атрымаць падтрымку адданых сяброў і блізкіх суседзяў, чакаючы міжнародных гарантый суверэннага жыцця роднай дзяржавы. Вельмі хачу спадзявацца, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем вольнай, абноўленай, самастойнай Беларусі. З гэтымі словамі, з гэтай марай, з гэтай верай я і аб'яўляю Усебеларускі з'езд за незалежнасць адкрытым.

*2000*

# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

### ВЕРШЫ

Вершы, датаваныя гадамі 1955–1994, друкуюцца паводле выд.: Бураўкін Г. Выбранае: вершы, паэмы, казкі, песні. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1998.

Вершы, датаваныя гадамі 1995–1997, друкуюцца паводле выд.: Бураўкін Г. Паміж зоркай і свечкай: вершы. — Мінск: ВЦ «Бацькаўшчына», 2000.

Вершы, датаваныя гадамі 1998–2000, друкуюцца паводле выд.: Бураўкін Г. Жураўліная пара: вершы канца стагоддзя. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2004.

### ПАЭМЫ

*Хатынскі снег (с. 369)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1970, № 5.

Друкуецца паводле выд.: Бураўкін Г. Выбранае. Мінск, 1998.

*Паэма расстання (с. 375)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1971, № 7.

Друкуецца паводле выд.: Бураўкін Г. Выбранае. Мінск, 1998.

### ПЕСНІ

*Непагаснае сонца маё (с. 385)*

Музыка Ігара Лучанка. Першы выканаўца — заслужаны артыст Беларусі Юрый Смірноў.

*Песня пра маці (с. 386)*

Музыка Ігара Лучанка. Першы выканаўца — заслужаная артыстка Беларусі Тамара Раеўская.

*Песня пра Мінск (с. 386)*

Музыка Ігара Лучанка. Першы выканаўца — заслужаны артыст Беларусі Юрый Смірноў.

*Матылі (с. 388)*

Музыка Ігара Лучанка. Першы выканаўца — заслужаная артыстка Беларусі Тамара Раеўская.

*Каханне першае помніцца (с. 389)*

Музыка Аляксандра Санько. Першыя выканаўцы — заслужаныя артысты Беларусі Тамара Раеўская і Валерый Кучынскі.

*Калыханка (с. 390)*

Музыка Васіля Раінчыка. Першы выканаўца — ансамбль «Верасы».

*Спатканне з даўняю вясной (с. 391)*

Музыка Валерыя Іванова. Першыя выканаўцы — народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка і ансамбль «Сябры».

*Песенька пра сонечнага зайчыка (с. 392)*

Музыка Валерыя Іванова. Першыя выканаўцы — народныя артысты Беларусі Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч.

*Балада памяці (с. 394)*

Музыка Яўгена Глебава. Першы выканаўца — народная артыстка СССР Святлана Данілюк.

*Белыя крылы (с. 395)*

Музыка Эдуарда Зарыцкага. Першы выканаўца — народны артыст Беларусі Яраслаў Еўдакімаў.

*Слава твая, Беларусь (с. 396)*

Музыка Эдуарда Ханка. Першы выканаўца — дзяржаўны хор Беларусі імя Г. Цітовіча.

*Першае спатканне (с. 396)*

Музыка Васіля Раінчыка. Першы выканаўца — ансамбль «Верасы».

*Конь незацугляны (с. 398)*

Музыка Эдуарда Ханка. Першыя выканаўцы — народны артыст СССР Уладзімір Мулявін і ансамбль «Песняры».

*Завушніца вечнасці (с. 399)*

Музыка Эдуарда Зарыцкага. Першы выканаўца — народны артыст Беларусі Яраслаў Еўдакімаў.

*Шумі, мой лес! (с. 399)*

Музыка Уладзіміра Будніка. Першы выканаўца — народны артыст Беларусі Віктар Вуячыч.

*Маці-зямля (с. 401)*

Музыка Уладзіміра Будніка. Першыя выканаўцы — народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка і ансамбль «Сябры».

*Вяртанне (с. 402)*

Музыка Васіля Раінчыка. Першы выканаўца — Вікторыя Алешка.

*Ты пачуў маіх вясновых журавоў (с. 403)*

Музыка Леаніда Захлеўнага. Першы выканаўца — ансамбль «Верасы».

*Мой! (с. 404)*

Музыка Эдуарда Зарыцкага. Першы выканаўца — Ларыса Грыбалёва.

*Саперніца (с. 405)*

Музыка Мікалая Сацуры. Першыя выканаўцы — Алеся і ансамбль «Сябры».

## ЭСЭ, ПУБЛІЦЫСТЫКА

*Хатынь (с. 409)*

Прадмова да фотаальбома Міхаіла Ананьіна. Мінск, 1975.

*Невычэрпнасць (с. 411)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 8 лют. 1974 г.

*Мой Полацк (с. 412)*

Упершыню — час. «Маладосць», 1977, № 2.

*Тры дні развітання з Крымам (с. 418)*

Друкуецца паводле выд.: Успаміны пра Івана Мележа. Мінск, 1982.

*Быць суддзямі часу (с. 426)*

Друкуецца паводле рукапісу.

*Перазовы майстра (с. 429)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 2 кастр. 1981 г.

*Крынічка пад вечнымі зоркамі (с. 436)*

Друкуецца паводле выд.: Успаміны пра Петруся Броўку. Мінск, 1986.

*На шалях горкіх развag (с. 444)*

Друкуецца паводле рукапісу.

*Калі я ўсвядоміў сябе беларусам... (с. 448)*

Упершыню — час. «Беларусь», 1989, № 1.

*На службе дабрыні і справядлівасці (с. 451)*

Друкуецца паводле выд.: Матукоўскі М. Мудрамер: выбраныя п'есы. Мінск, 1989 (прадмова).

*Любімы сын нацыі (с. 454)*

Упершыню — газ. «ЛіМ», 6 снеж. 1991 г.

*У сузор'і Пушкіна, Шаўчэнкі, Міцкевіча, Уітмэна (с. 457)*

Друкуецца паводле рукапісу.

*Залежыць ад нас (с. 459)*

Упершыню — газ. «Звязда», 29 крас. 1995 г., пад загалоўкам «Давайце думаць!».

*Паэт (с. 464)*

Упершыню — газ. «Звязда», 24 лют. 1995 г.

*Знак бяды (с. 468)*

Друкуецца паводле рукапісу.

*Думайце! (с. 472)*

Упершыню — газ. «Народная воля», ліст. 1995 г., № 106.

*Спадарыня Наталля (с. 477)*

Друкуецца паводле выд.: Арсеннева Н. Выбраныя творы. Мінск, 2002.

*«Зернем веры, надзеі, любові» (с. 481)*

Упершыню — газ. «Рэспубліка», 17 верас. 1996 г.

*Навошта?! (с. 484)*

Упершыню — газ. «Звязда», 13 мая 1997 г.

*Абаронім нашу родную мову! (с. 490)*

Друкуецца паводле рукапісу.

*З жаўранкам у душы (с. 493)*

Упершыню — час. «Роднае слова», 1997, № 8.

*Каб пачулі!.. (с. 498)*

Упершыню — газ. «Звязда», 27 сак. 1998 г.

*Вялікі (с. 505)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 19 чэрв. 1999 г.

*Сын і пясняр Прыпяці (с. 509)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 31 снеж. 1999 г.

*Жыве і будзе жыць! (с. 511)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 1 лют. 2000 г.

*...Нашчадкі не даруюць нам, калі мы не захаваем нераскіданай нашу мілую Радзіму (с. 514)*

Упершыню — газ. «Народная воля», 2 жн. 2000 г.

## SUMMARY

Henadz Buraukin (born in 1936) is one of the most outstanding modern Belarusian poets. His works are well-known both in and outside Belarus. The poet's best verses are translated in Russian, Ukrainian, Polish, Bulgarian, English, German, French, Spanish and other languages. A number of them are set to music by Belarusian composers. Henadz Buraukin is the laureate of the State Prize of Belarus.

Henadz Buraukin is also known because of his fruitful public activity. He worked as a head of a department and then as the deputy editor-in-chief of the newspaper *Litaratura I Mastatstva,* a correspondent of *Pravda* in Belarus, the editor-in-chief of the journal *Maladosts*, the head of the State Committee on TV and Broadcasting of Belarus, the constant representative of Belarus at the United Nations Organization in a rank of ambassador extraordinary and plenipotentiary, the Deputy Minister of Culture and Information, the Main Adviser to the Deputy Prime Minister of the Republic of Belarus, the head of F.Skaryny Society of the Belarusian Language. In 1980–1990 he was a deputy to the Supreme Soviet of the BSCR. He is a member of the board of the Union of Writers of the USSR.

The present volume, compiled by the author himself, contains his best works from more than a fifty-year period of literary activity — verses, poems, essays and newspaper articles.

The preface is written by Uladzimir Niakliaeu, the famous Belarusian poet, the laureate of the State Prize.

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

**Бураўкін, Г.**

**Б91** Выбраныя творы / Генадзь Бураўкін; уклад., камент. Г. Бураўкіна; прадм. У. Някляева. — Мінск: Кнігазбор, 2009. — 536 с.: [8] с. іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-6930-47-1.

У кнігу выбраных твораў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Генадзя Бураўкіна (нар. 1936) увайшлі яго лепшыя вершы, паэмы і песні, а таксама эсэ і публіцыстычныя выступленні 1955–2000 гадоў.

Сорак дзевяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4 Беи)**

---

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя І. Мастацкая літаратура

**Бураўкін Генадзь Мікалаевіч**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шуст*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 10.08.2009.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 28,14 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. 25,02.
Наклад 1000 асобнікаў (1 з-д — 1–500). Зак. 845.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-6930-47-1

9 789856 930471

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
Ліцэнзія ЛП № 02330/0150482 ад 25.02.09.
220004, Мінск, вул. Вызвалення, 9.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы
ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы
ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік
ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы
ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы
КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы
ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы
ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы
ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы
ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы
ЦЁТКА. Выбраныя творы
НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы
ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы
АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы
АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы
ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы
ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы
РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы
ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы
ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы
УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы
ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы
СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)
СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы
ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы
АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы
КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы
РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік
АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы
*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ ТРЫШЧАН. Зборнік
НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

*Серыя ІІ.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік
КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць
МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае
ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы
ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы
ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае
ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае
ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе
АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае
ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае
АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае
АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

*Серыя ІІІ.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы
ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***
МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы
МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбраныя творы